АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР

Ордэна Дружбы народаў
Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы

# МІХАСЬ ЛЫНЬКОЎ

## ЗБОР ТВОРАЎ

У ВАСЬМІ ТАМАХ

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1985

АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР

Ордэна Дружбы народаў
Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы

# МІХАСЬ ЛЫНЬКОЎ

ТОМ ВОСЬМЫ

## ПІСЬМЫ
## 1935—1975
## ЛЕТАПІС ЖЫЦЦЯ І ТВОРЧАСЦІ

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1985

Бел 2
Л 88

Рэдакцыйная калегія:

В. В. БАРЫСЕНКА, Д. Я. БУГАЁУ, Ф. І. КУЛЯШОЎ,
С. З. ЛЫНЬКОВА-КУСПІЦ, М. І. МУШЫНСКІ,
І. Я. НАВУМЕНКА, І. П. ШАМЯКІН

Рэдактар тома
І. Я. НАВУМЕНКА

Падрыхтоўка пісем і каментарыі
А. Ф. ХАРКЕВІЧ

Летапіс жыцця і творчасці
М. П. КЕНЬКІ

Л $\frac{4702120200-090}{М 316-85}$ падпіснов 125—85

© Выдавецтва
«Навука і тэхніка», 1985.

# ЭПІСТАЛЯРНАЯ СПАДЧЫНА МІХАСЯ ЛЫНЬКОВА

Міхась Ціханавіч Лынькоў упісаў у гісторыю беларускай савецкай літаратуры надзвычай яскравую і змястоўную старонку. Абсягі творчай і грамадскай працы М. Лынькова вельмі шырокія: ён вядомы не толькі як выдатны майстар-навеліст, аўтар славутых аповесцей для дзяцей і юнацтва, стваральнік эпічнага палатна — рамана «Векапомныя дні», але і як публіцыст, літаратурны крытык, вучоны, арганізатар навукі, грамадскі і культурны дзеяч, адзін з аўтарытэтных кіраўнікоў рэспубліканскай пісьменніцкай арганізацыі. Аднак непараўнальна менш вядома шырокаму чытачу літаратурная, службовая, дзелавая перапіска М. Лынькова, якая складае важкую частку яго літаратурна-мастацкай спадчыны. Менш вядома таму, што ў адпаведнасці з традыцыяй эпісталярны жанр як адна з дзейсных форм міжасабовых кантактаў — пры жыцці ўдзельнікаў перапіскі — не абнародваецца. М. Лынькову на працягу ўсяго творчага жыцця, асабліва ў некаторыя перыяды, даводзілася весці інтэнсіўную перапіску. У лісце ад 27 красавіка 1974 г. ён зазначаў: «Я за последние три-четыре дня отправил более 130 писем». Гэта красамоўная лічба паказвае, з якой вялікай увагай ставіўся М. Лынькоў да перапіскі. І ў другім лісце М. Лынькоў прызнаваўся: «Своевременно ответить всем товарищам и адресатам иногда не представляется простой физической возможности» (ліст да П. М. Баранава ад 25 сакавіка 1952 г.).

У той жа час лісты чытачоў прыносілі пісьменніку вялікае задавальненне, асабліва тыя, у якіх гаворка ішла пра літаратуру: «Надо сказать, что я исключительно рад получению каждого читательского письма,— пісаў М. Лынькоў у лісце да М. П. Рака ад 21 мая 1954 г.— Читатель — самый надежный, обстоятельный и беспристрастный критик, стоящий в стороне от всяких групповых соображений».

Паколькі лісты М. Лынькова знаходзіліся ў адрасатаў, іх неабходна было сабраць і ўвесці ў актыўны літаратуразнаўчы ўжытак, пазнаёміць шырокую грамадскасць. Пэўная праца ў гэтым напрамку ўжо зроблена. Так, на сённяшні дзень дзякуючы нястомным клопатам Соф'і Захараўны, вернай спадарожніцы жыцця Міхася Ціханавіча, сабрана звыш тысячы лістоў. Найбольш цікавыя з іх — 454 лісты — увайшлі ў дадзены том.

Што ж, аднак, уяўляе сабой эпісталярый М. Лынькова як з'ява літаратурна-мастацкага жыцця і творчай біяграфіі пісьменніка? У чым трэба бачыць яго літаратурную і грамадскую каштоўнасць?

Лісты М. Лынькова, як і кожнага выдатнага пісьменніка, дзеяча мастацтва, культуры,— гэта перш за ўсё цікавы і каштоўны дакумент эпохі. Дакумент, які ўзбагачае нашы ўяўленні пра той ці іншы перыяд у гісторыі грамадства, пра творчасць пісьменніка і ўсю тагачасную літаратуру. Не толькі службовая, дзелавая, але і прыватная перапіска стварае абагульнены вобраз часу. Лісты ў своеасаблівым ракурсе — праз паведамленні, меркаванні, ацэнкі асобнага чалавека — узнаўляюць тыя грамадскія, бытавыя ўмовы, у якіх давodзілася працаваць пісьменніку. Яны перадаюць атмасферу літаратурна-творчага жыцця, тагачасны псіхалагічны клімат. Зразумела, што пазнавальная вартасць лістоў залежыць у першую чаргу ад духоўнага багацця іх аўтара, ад яго грамадскай пазіцыі.

Нельга забываць і пра тое, што лісты з'яўляюцца сведчаннямі відавочцаў. На падзеі свайго часу яны глядзелі зблізку, таму ацэнкі іх часта мелі суб'ектыўную афарбоўку, нярэдка нават былі прадузятымі. Але гэта не змяншае іх каштоўнасці.

Апрача ўсяго іншага, лісты — яшчэ і адна з самых надзейных крыніц звестак, якія датычаць літаратурнай працы — часу ўзнікнення задумы таго ці іншага твора, яго напісання, перапрацоўкі і друкавання і г. д. Каштоўнымі для даследчыкаў творчасці пісьменніка аказваюцца і аўтарскія звесткі пра рэальныя падзеі, якія леглі ў аснову твора, пра асоб, што з'явіліся прататыпамі мастацкіх вобразаў у творы, пра літаратурныя ўплывы і г. д.

Як вядома, у беларускай літаратуры небагата кніг мемуарнага жанру, прысвечаных творчай інтэліген-

цыі — пісьменнікам, майстрам культуры. Вельмі рэдка друкуюцца літаратурныя дзённікі. І таму публікацыя эпісталярыя набывае асаблівае значэнне. Знаёмства з лістамі, напісанымі вядомымі мастакамі слова, перакладчыкамі, крытыкамі, дае магчымасць глыбей разабрацца ў асаблівасцях літаратурнага працэсу на тым ці іншым этапе, адчуць яго адметнасць, спецыфічнасць. Літаратурны ж працэс — паняцце шматграннае. Яно ўключае не толькі канкрэтныя мастацкія творы, але і ўсю шматстайнасць літаратурна-грамадскага жыцця на пэўным гістарычным этапе — літаратурныя спрэчкі, дыскусіі, дзейнасць літаратурных часопісаў, творчых секцый, з'езды і пленумы, пасяджэнні «круглых сталоў», сустрэчы з чытачамі, літаратурныя вечары і г. д.

Разам з тым хацелася б падкрэсліць, што значэнне перапіскі, у тым ліку і літаратурнай, не вычэрпваецца яе дапаможнай, службовай роллю — як крыніцы пэўных звестак і інш. Пісьменніцкія лісты — гэта самастойная, вельмі адметная, своеасаблівая форма творчасці. Эпісталярны жанр нельга супрацьпастаўляць традыцыйным літаратурна-мастацкім жанравым формам, лічыць яго менш значным у грамадскім, літаратурным плане. Лісты — гэта раўнапраўны з іншымі літаратурнымі творамі жанр. Ён мае свой стыль, які вельмі наглядна адлюстроўвае ідэйна-творчую эвалюцыю іх аўтара. Уключаныя ў Збор твораў лісты М. Лынькова цалкам пацвярджаюць справядлівасць сказанага.

Так, перапіска М. Лынькова перыяду Вялікай Айчыннай вайны даносіць да нас суровы подых часу, напружанасць становішча ў краіне. Яна раскрывае нялёгкія ўмовы жыцця і працы пісьменнікаў, што сталі журналістамі, работнікамі франтавога і прыфрантавога друку. М. Лынькоў, як гэта вынікае з яго лістоў, на пачатку вайны працаваў у рэдакцыі газеты Заходняга фронту «Красноармейская правда», а з ліпеня 1941 г. ён — рэдактар газеты «За Савецкую Беларусь», якая распаўсюджвалася сярод партызан і насельніцтва на часова акупіраванай тэрыторыі. Выдавала газету Палітупраўленне Заходняга, потым Цэнтральнага, затым Бранскага, зноў Заходняга франтоў. У склад рэдакцыі ўваходзілі К. Крапіва, П. Броўка, А. Стаховіч, В. Барысенка.

У адказах на лісты Я. Коласа, П. Глебкі, М. І. Федчанкі, Л. М. Федчанка, Э. Агняцвет, І. Гурскага, І. Барашкі, Я. Садоўскага, А. Куляшова, Д. Кавалёва, К. Кірэенкі і многіх іншых раскрываецца не толькі асабісты настрой, думы, пачуцці, перажыванні М. Лынькова, але і душэўны стан тых, з кім пісьменнік разам працаваў. У лістах перш за ўсё выяўлялася глыбокая нянавісць савецкіх людзей да ворага, іх страснае жаданне наблізіць доўгачаканы дзень перамогі. Вось адно з характэрных прызнанняў: «Працуем мы з усіх сіл, стараемся як мага хоць нашым словам дапамагаць байцам, дапамагаць нашым партызанам біць карычневую нечысць. Бываем бязмежна рады, калі наша праца ўдаецца...»,— пісаў М. Лынькоў да Я. Коласа 17 жніўня 1941 г.

У лістах ваеннага часу багата трапных азначэнняў, дакладных дэталей, якія толькі на першы погляд здаюцца неістотнымі, але на самай справе шмат даюць для разумення канкрэтных умоў і абставін тагачаснага жыцця, для характарыстыкі светаўспрымання чалавека, выхаванага ва ўмовах савецкага ладу. «Жывём, працуем, стараемся хоць словам сваім наносіць паболей шкоды фашысцкай саранчы, каб яна здохла, праклятая, як мага хутчэй,— паведамляў М. Лынькоў у лісце да Я. Коласа ад 18 кастрычніка 1941 г.— Ляжым з Кандратам у палатцы і марым аб тым, калі зноў трапім на родную зямлю, калі зноў убачым родныя палі і лясы. Не зусім утульна ў нашым логаве пад надакучным восеньскім дажджом, але мы думаем: няхай бы яшчэ больш лінуў дождж, няхай бы ішлі нескончоныя ліўні, каб змяло нашчэнт з нашай зямлі паскудную нечысць фашызму».

Іменна так думалі, так марылі савецкія людзі ў час суровых выпрабаванняў для ўсёй нашай краіны.

А вось у якіх умовах і з якім творчым настроем працавалі беларускія пісьменнікі ў тыя гады: «Усе нашы хлопцы,— зазначае М. Лынькоў у лісце да П. Ф. Глебкі ад 18 кастрычніка 1941 г.,— жывы і здаровы, працуюць не пакладаючы рук. Заездзіў зусім Пімена (Панчанку.— *М. М.*), ён жа адзін цяпер паэт у нас. Трошкі назаляе нам восень. Але думаем як-небудзь яе перамагчы». Або: «Петрусь (Броўка.— *М. М.*) возится сейчас с либретто своей новой оперы («Алеся».— *М. М.*), работает вместе с Тикоцким». З ліста

да І. Барашкі ад 11 ліпеня 1942 г.: «Наши все хлопцы работают с полной нагрузкой, пишут новые пьесы, романы, поэмы и т. д. Думаем вернуться на родину не с пустыми руками».

Частыя пераезды рэдакцыі з месца на месца, бытавая неўладкаванасць, адсутнасць звестак пра сем'і, пра блізкіх і знаёмых, сумныя паведамленні з фронту пра страты і ахвяры, пра пакінутыя гарады і вёскі, пра цяжкія бai i адступленні Чырвонай Арміі — пра ўсё гэта мы даведваемся з лістоў М. Лынькова першых дзён вайны. З такіх паведамленняў якраз і складваецца абагульнены, але вельмі яскравы, праўдзівы вобраз часу, калі Савецкая краіна ў смяртэльнай схватцы з ворагам бараніла жыццё на планеце, будучыню чалавецтва.

Безумоўна, асаблівую каштоўнасць уяўляюць раскіданыя па многіх лістах лаканічныя заўвагі, выказванні М. Лынькова па літаратурных пытаннях, яго ацэнка канкрэтных твораў, паасобных літаратурных з'яў. Гэтыя выказванні, вядома, не могуць прэтэндаваць на строгую сістэмнасць, на завершанасць, але, узятыя ў сукупнасці, яны глыбей раскрываюць эстэтычныя густы М. Лынькова, яго творчыя схільнасці, сімпатыі. Яны ўдакладняюць ідэйна-эстэтычную праграму Лынькова-пісьменніка, канкрэтызуюць метадалагічныя прынцыпы Лынькова-крытыка. Важна, што гэта былі заўвагі пра творы, толькі што завершаныя і яшчэ не ацэненыя прафесійнай крытыкай. Істотна і тое, што М. Лынькоў, як правіла, не памыляўся ў сваіх меркаваннях: час пацвердзіў іх справядлівасць. Сапраўды! «Хорошую поэму написал М. Танк — «Янук Селиба». Она будет печататься в «Новом мире» или в «Октябре» в переводе поэта Семынина»,— паведамляе М. Лынькоў у 1943 г. Д. Кавалёву. Або: «Куляшоў напісаў вельмі ўдалую паэму «Сцяг брыгады». Проста выдатны твор, які робіць гонар і ўсесаюзнай паэзіі»,— зазначана ў лісце да Э. Агняцвет ад 20 снежня 1942 г. Як бачым, праніклівым крытыкам аказаўся М. Лынькоў. Ацэнка лаканічная, але дакладная, трапная.

«...Першая палова палескай аповесці мне спадабалася, другая палавіна не зусім, бо Вы не досыць добра ведаеце тую суровую сапраўднасць, якая мела месца на Беларусі ў часы вайны»,— так ацэньваў

М. Лынькоў у лісце да Б. Мікуліча ў 1947 г. рукапіс яго аповесці «Цяжкая гадзіна».

Заслугоўвае ўвагі і зробленая М. Лыньковым па гарачых слядах — у канцы 1945 г.— абагульненая ацэнка беларускага слоўнага мастацтва перыяду Вялікай Айчыннай вайны, ацэнка становішча беларускай пасляваеннай прозы: «Наша беларуская літаратура за вайну «выцыбалася», як і ўсе падлеткі, і зараз ужо ходзіць у доўгіх штанах славы і ўсеагульнага прызнання. Не пашанцавала толькі прозе: смерць Самуйлёнка, Кузьмы Чорнага, Рыгора Мурашкі (загінуў у фашысцкім засценку як партызан), Бядулі <...> палон Макара Паслядовіча (толькі зараз знайшлі ў Нямеччыне на становішчы раба).— усё гэта падрэзала крыллі прозы. Хаця на будучы год тры празаікі (Лынькоў, Стаховіч і Гурскі) абяцаюць па раману. Значыцца, і проза цягнецца ўгору. ...(Добрыя, цудоўныя вершы піша Панчанка! Мы выдаем зараз яго зборнік іранскіх вершаў)»,— паведамляў М. Лынькоў у лісце да Д. Кавалёва.

Гэта характарыстыка дапамагае сучаснаму чытачу лепш зразумець тыя аб'ектыўныя цяжкасці, з якімі сутыкнулася беларуская мастацкая проза ў першыя пасляваенныя гады. Каштоўныя і сведчанні пра Р. Мурашку, творчасць якога доўгі час незаслужана аказвалася па-за ўвагай даследчыкаў.

А вось старонкі з ліста ад 11 ліпеня 1942 г., дзе М. Лынькоў гаворыць пра смерць Я. Купалы, пра выдатную ролю і месца народнага песняра ў савецкай шматнацыянальнай літаратуры. «Это большая, невозвратимая утрата не только для белорусской литературы и нашего народа, но и для литературы всего Советского Союза: Купала был величайшим поэтом нашего народа, представляющим целую эпоху в жизни народа и его культуры. До конца дней своих оставался он лучшим сыном своей Родины, страстно ненавидевшим фашистскую нечисть, полонившую нашу землю. Можешь представить мое личное горе, когда буквально за несколько минут до своей смерти он сидел у меня, в моем 1036-м номере на десятом этаже гостиницы «Москва». Сидел веселый, бодрый, жизнерадостный, мечтающий о родимых просторах Белоруссии. А когда вышел, мне минуты через три-четыре позвонили, что Янки Купалы нет больше в живых, он умер. Это

было в одиннадцатом часу ночи 28 июня» (ліст да Л. М. Федчанка).

Для гісторыка беларускай літаратуры, гісторыка журналістыкі цікавымі будуць звесткі, напрыклад, пра тое, як пачыналася выданне часопіса «Беларусь» (1944), першы нумар якога быў гатовы да друку яшчэ ў кастрычніку 1943 г., як выдаваўся «Альманах», № 1 (выйшаў у снежні 1943 г.), як ствараўся Дзяржаўны гімн БССР, у якіх умовах ішла падрыхтоўка і як праходзіў пленум Праўлення СП БССР (7—8 жніўня 1942 г. Даклады М. Лынькова, К. Чорнага, В. Барысенкі).

Падобнага роду звестак у лістах М. Лынькова чытач знойдзе даволі многа. І кожная з іх дабаўляе штосьці новае ў агульную панараму літаратурна-творчага жыцця Беларусі ў 40—70-я гады. Асабліва багатыя на канкрэтныя звесткі лісты, у якіх М. Лынькоў паведамляе аб паездках у складзе пісьменніцкіх дэлегацый рэспублікі на ўсесаюзныя з'езды, на пленумы, аб выступленнях на літаратурных вечарах, сходах, чытацкіх канферэнцыях, аб удзеле ў рознага роду камісіях усесаюзнага, рэспубліканскага, абласнога маштабу, у юбілейных урачыстасцях. Актыўна ўдзельнічаў М. Лынькоў, як і многія іншыя пісьменнікі, у падрыхтоўцы да правядзення выбараў у вярхоўныя органы ўлады краіны і рэспублікі.

Ёсць у лістах М. Лынькова нямала звестак, якія датычаць жыцця і творчасці К. Крапівы, П. Глебкі, К. Чорнага, М. Танка і іншых беларускіх майстроў слова. М. Лынькоў апавядае пра таварышаў па літаратурнаму цэху з пазіцыі пісьменніка, г. зн. чалавека назіральнага, здольнага бачыць тое, што часта застаецца незаўважаным пры поглядзе збоку.

Выклічуць у чытача цікавасць і тыя лісты, у якіх М. Лынькоў расказвае аб працы над раманам «Векапомныя дні», як бы прыадчыняе сваю творчую лабараторыю — раскрывае гісторыю напісання рамана. Каштоўнасць гэтых сведчанняў у тым, што яны дапамагаюць лепш разабрацца ў асаблівасцях твора, у прычынах тых цяжкасцей, з якімі сутыкнуўся М. Лынькоў пры ўвасабленні грандыёзнай мастацкай задумы. У лісце да Я. Мазалькова ад 25 лістапада 1948 г. М. Лынькоў паведамляў: «...задумал я ведь довольно-таки огромную эпопею, для осуществления

которой нужно много времени, материалов и, разумеется, труда. Надеюсь как-нибудь все-таки вытянуть это дело».

Аднак вольнага часу для сістэматычнай, планамернай працы над раманам у пісьменніка было вельмі мала. А гэта адмоўна адбівалася на яго псіхалагічным стане, вяло да перанапружвання творчых сіл.

А вось не менш цікавыя сведчанні аб тых крыніцах, з якіх аўтар у працэсе працы над раманам чэрпаў неабходныя яму звесткі: «Мне пришлось и приходится изучать огромнейший материал, касающийся славных партизанских дел: и соответствующие документы, и рассказы самих участников и организаторов партизанского движения и т. д.» (ліст ад 16 мая 1953 г. да В. Ф. Такаева).

З іншых лістоў таксама бачна, як напружана і інтэнсіўна працаваў М. Лынькоў над «Векапомнымі днямі»: «Работа гудзіць — мінімум чатыры старонкі кожны дзень, як лёду»,— чытаем мы ў лісце да Соф'і Захараўны ад 23 верасня 1949 г. «Работал на полную мощь своих сил — гнал роман. Не знаю, я его одолею или он меня»,— паведамляе М. Лынькоў 1 кастрычніка 1949 г. К. П. Корсакасу.

А гэта ўжо сведчанні той пары, калі завяршылася першая кніга рамана: «Несколько лет подряд я совершенно не отдыхал. Отпуска были, но они занимались усиленной работой над романом. Одним словом, страшно устал, чувствую себя на каком-то пределе истощения и чертовского утомления. Последние страницы первой книги романа даются с трудом. А это нехорошо. Писать надо более легко, с бо́льшим чувством удовлетворения»,— зазначаў М. Лынькоў у лісце да Я. С. Мазалькова ад 5 красавіка 1950 г.

Перапіска М. Лынькова паказвае, што ён патрабавальна ставіўся да творчай працы, быў вельмі самакрытычны ў дачыненні да ўласных твораў. Пісьменнік ніколі не займаўся самарэкламай. Небяспека самазахвальвання не пагражала яму. Наадварот, М. Лынькоў часта недаацэньваў тое, што ім было зроблена. У лісце да Я. Мазалькова ад 23 сакавіка 1959 г. чытаем: «Рассказов и повестей (которые я считаю «удобоваримыми») не только на 30, но и на 20 листов не наберется. [...]. Брать из «Векопомных» листов 20 и неудобно и нехорошо (и для меня и тем более для чи-

тателей) — это совсем несолидно». Ці трэба казаць, што гісторыя літаратуры ведае нямала прыкладаў супрацьлеглых адносін пісьменнікаў да ўласных твораў. М. Лынькоў даў сапраўдны ўзор пісьменніцкай самапатрабавальнасці.

Прыгадаем не менш характэрныя сведчанні, узятыя з ліста да П. Кабзарэўскага, пазначанага 1949 г.: «Все говорят мне, что написано вроде неплохо. Но автору ведь ближе и виднее его пороки и недостатки, а потому особого удовлетворения своим детищем он пока не видит» (ліст ад 25 студзеня). Або: «Работаю, как черт. Иногда бываю доволен этой работой, но в большинстве случаев грызут сомнения: выйдет ли толк из этой работы...» (ліст ад 25 лістапада 1949 г. да Я. Мазалькова).

Размова тут ішла зноў жа пра раман «Векапомныя дні», перагляд вобразнай сістэмы якога, удасканальванне кампазіцыі, шліфоўка стылю працягваліся і пасля таго, як твор быў завершаны і апублікаваны ў часопісе. У асноўным скарачаліся эпізоды, якія неапраўдана замаруджвалі дзеянне. Былі перагледжаны біяграфіі выведзеных у рамане здраднікаў. Аўтар апусціў многія сцэны натуралістычнага характару. Твор пазбаўляўся ўласцівага першапачатковаму варыянту «камікавання», якое зніжала суровы пафас твора аб нялёгкіх гадах вайны, аб мужнай барацьбе народа супраць фашысцкіх акупантаў. Рашуча касаваліся мясціны, дзе героі рабілі псіхалагічна нематываваныя ўчынкі.

І нават калі «Векапомныя дні» выйшлі асобным выданнем, М. Лынькоў яшчэ раз вярнуўся да тэксту твора, зноў паказваючы прыклад высокай патрабавальнасці да самага сябе: «Я пребываю в трудах — дневных и ночных. Не знаю, кто кого доконает, я ли роман или роман меня. Режу, пилю, сокращаю, оставляю резервы для дальнейшей пилки»,— паведамляў ён у лісце да жонкі, напісаным пасля 12 лютага 1957 г.

Варта звярнуць увагу на тое, што некаторыя праўкі, зробленыя пры перакладзе рамана на рускую мову, пісьменнік перанёс адпаведна ў беларускі тэкст. Аўтар «Векапомных дзён», як сведчыць яго перапіска з Я. Мазальковым, уважліва прыслухоўваўся да парад і меркаванняў перакладчыка. У лісце ад 18 жніўня 1963 г. М. Лынькоў пісаў: «С твоими предложениями

и замечаниями целиком согласен. Принимаю твой «встречный» план по сокращениям». І далей: «Со стороны иногда видней все лишнее и ненужное. Порой автору жалко расстаться с той или иной страницей или целым разделом, а читатель сразу видит «излишества».

Для даследчыкаў «Векапомных дзён» уяўляюць таксама цікавасць аўтарскія сведчанні аб тым, што «...в романе ни один из выведенных героев не действует под своей фамилией. Все имена и фамилии вымышленные (за исключением единственного имени — Заслонова)» (ліст да В. Ф. Такаева ад 16 мая 1953 г.).

З лістоў да Лапіцкай мы даведваемся, што, напрыклад, апавяданне «Дзіцячы башмачок» — «не зусім аўтабіяграфічнае» (ліст ад 26 лютага 1967 г.), а вобраз Астапа з аднайменнага апавядання выпісан на аснове рэальных падзей, якія мелі месца на Палессі (ліст ад 22 жніўня 1968 г.).

Нельга абмінуць увагай і прызнанне М. Лынькова адносна яго чытацкіх захапленняў у дзяцінстве і юнацтве. У лісце да К. Я. Данілкі ад 28 лістапада 1958 г. пісьменнік гаворыць пра сваю любоў і прыхільнасць да апавяданняў Гогаля і ранніх твораў Горкага. «Зачытваўся і Тургеневым, Л. М. Талстым, Ганчаровым, Чэхавым. З украінскіх пісьменнікаў ведаў — і даволі рана — славутага Тараса Рыгоравіча. Чытаў у юнацтве Франко і Кацюбінскага». Што ж датычыць «штуршка для пачатку пісьменніцкай дзейнасці», дык ім аказаліся «багатыя ўражанні з часоў грамадзянскай вайны», удзельнікам якой М. Лынькову давялося быць (ліст да В. П. Клешчанкі ад 27 студзеня 1974 г.).

Змест лістоў сведчыць аб тым, што напружаная творчая праца, службовая і грамадская дзейнасць не пакідалі пісьменніку вольнай хвіліны. «За час маёй хваробы ў мяне на маёй службе ў акадэміі сабралася тэрміновых рукапісаў (па падручніках па літаратуры для сярэдняй школы) старонак на 800. Іх трэба было безадкладна адрэдагаваць...»,— піша М. Лынькоў у лісце ад 18 красавіка 1948 г. І ўсё ж, нягледзячы на занятасць, Міхась Ціханавіч лічыў сваім грамадзянскім і чалавечым абавязкам дапамагаць пісьменнікам, у тым ліку пачаткоўцам. Можна толькі здзіўляцца, як багата часу і творчай энергіі выдаткоўваў ён на разгляд дасланых яму твораў. Нярэдка гэта былі не больш

чым бездапаможныя практыкаванні малапісьменных людзей. Але народны пісьменнік, акадэмік АН БССР, дэпутат Вярхоўнага Савета рэспублікі цярпліва, радок за радком разбіраў напісанае пачаткоўцамі, адзначаў хібы і пралікі, моўныя агрэхі, тлумачыў, як і што трэба выправіць у творы. Гэтыя разгорнутыя лісты-рэцэнзіі, лісты-разгляды памерам у 10—12 машынапісных старонак — сапраўдная лынькоўская школа творчай вучобы. Прозвішчы многіх пачаткоўцаў устанавіць не ўдалося, вядомы толькі іх імёны і імёны па бацьку або ініцыялы. Найбольш цікавыя лісты да Арэхава (сакавік 1952 г.), да А. С. (ад 3 чэрвеня 1953 г.), да П. А. (ад 10 мая 1958 г.), да А. І. (ад 24 сакавіка 1959 г.), да Я. М. (ад 20 кастрычніка 1973 г.). Гэта ж трэба сказаць і пра лісты да А. С. Васілевіч ад 18 красавіка і 4 мая 1948 г.

Хаця ўзровень майстэрства пачынаючых, як правіла, быў невысокі, М. Лынькоў ніколі не дазваляў сабе паіранізаваць з няўмельства маладога аўтара. Строгасць не перашкаджала Лынькову-крытыку быць справядлівым, чулым, добразычлівым, аб'ектыўным. Вось як М. Лынькоў фармуляваў прынцып падыходу да мастацкага твора: «В разборе произведений квалифицированных и неквалифицированных авторов, опытных и малоопытных и только-только начинающих я всегда придерживаюсь самой суровой правды» (ліст да пачаткоўца П. А. ад 10 мая 1958 г.). І гэтага прынцыпу Лынькоў-крытык прытрымліваўся паслядоўна.

Парады М. Лынькова былі ўзважанымі, слушнымі, бо грунтаваліся яны на вялікім жыццёвым і творчым вопыце. На вопыце майстра, які адчуваў змястоўнасць формы ў мастацкім творы, моц згарманізаванай па законах прыгажосці кампазіцыі, сілу і мілагучнасць трапнага народнага слова. «Існуе ў мастацкай творчасці,— зазначаў М. Лынькоў у лісце да А. Васілевіч,— пэўнае пачуццё меры, такту. Калі выйсці за межы гэтай меры, можна ўпасць у назойлівасць, калі аўтар, калі так можна сказаць, ломіцца ў адчыненыя дзверы». А яшчэ грунтаваліся парады на глыбокай і шчырай павазе М. Лынькова да чалавека, да людзей творчай працы, на жаданні дапамагчы ім у высакародным імкненні служыць мастацкім словам народу.

Лісты даюць безліч сведчанняў у пацвярджэнне справядлівасці сказанага М. Лыньковым у лісце ад 7

сакавіка 1949 г.: «Я никогда не кривил душой». Праз дваццаць два гады гэтыя словы будуць паўтораны ім зноў у лісце да В. Быкава: «Я ніколі ў жыцці не крывіў душой» (ліст ад 16 студзеня 1971 г.).

М. Лынькоў падтрымліваў добрым словам спагады кожнага, хто трапляў у цяжкае становішча, хто страчваў душэўную раўнавагу. Лісты да Б. Мікуліча, Х. Шынклера, многіх іншых пісьменнікаў, увогуле да людзей самых розных прафесій яскрава пацвярджаюць сказанае. «Атрымаў тваё апошняе пасланне і мне хочацца крыху пажурыць цябе за некаторыя думкі з гэтага паслання,— звяртаецца М. Лынькоў да Х. Шынклера летам 1942 г.— ...А наогул, пане-браце, сустрэнемся мы яшчэ на родным папялішчы ды вып'ем добрую чару за наш будучы Мінск». Вера ў непазбежнасць перамогі над фашысцкімі захопнікамі ніколі не пакідала пісьменніка.

Пра гэта сведчыць і яго перапіска з Я. Коласам, які ў гады Вялікай Айчыннай вайны жыў у Ташкенце, сумаваў там па Беларусі, па яе лясах і палетках, сумаваў па салдаце-сыне, лёс якога заставаўся невядомым. У адным з лістоў (датуецца канцом жніўня — першай палавінай верасня 1943 г.) М. Лынькоў ад імя таварышаў па працы ў жартаўлівай форме выносіць Я. Коласу «суровую вымову з папярэджаннем» «за яўна ўпадніцкія ноткі настрою і наогул за паніжаны тонус у маральным стане васпана».

Каб адчуць веліч, душэўную прыгажосць М. Лынькова, глыбіню яго чалавечнасці, трэба прыгадаць той псіхалагічны стан, у якім пісаў ён Я. Коласу ліст з «суровай вымовай». Сёмага ліпеня 1943 г. М. Лынькоў даведаўся пра трагічны лёс сваёй сям'і — жонкі Х. А. Аранковай і дзевяцігадовага сына Марыка, знішчаных фашысцкімі вылюдкамі ў Бабруйскім канцлагеры ў верасні 1942 г. Разам загінула і сям'я роднага брата Міхася Ціханавіча Рыгора — жонка і двухгадовае дзіця. З глыбокім болем, адчаем і мужнасцю пісаў М. Лынькоў пра трагедыю свайго асабістага жыцця Я. Коласу (ліст ад 10 ліпеня 1943 г.): «Пішу вось нейкія словы, а думкі лятуць, мітусяцца. Апынуўся я ў становішчы чалавека, які неяк жыў, нешта рабіў, хацеў рабіць заўсёды нешта добрае для ўсіх людзей, будаваў сваё жыццё і нядрэнна будаваў, як добры чалавек, і раптам усё гэта знікла, правалілася,

і ў выніку перад табой страшэнная пустэча, правал [...] Жыў я апошні год цьмянымі спадзяванкамі, па ўсяму бачыў, што яны ператвараюцца ў ілюзіі. Цяпер няма і ілюзіі... Астаюцца цуды. Але ж практыка немцаў-дзетазабойцаў гаворыць аб тым, што цудаў не бывае.

Цяжка, завельмі цяжка, дарагі Канстанцін Міхайлавіч. Адно неяк прытрымлівае на паверхні: багата людзей цяпер нясуць цяжар велічэзнага гора і пакутаў. Значыць, трэба неяк жыць і жыць так, каб дапамагчы ўсім нашым людзям увагнаць у магілу забойцаў і катаў, душагубаў, якія апіліся нашай крыві».

Сапраўдная мужнасць, высакародства, чалавечая дабрыня, душэўная шчодрасць, партыйная прынцыповасць, глыбокае пачуццё доўгу, вернасць слову — вось тыя маральныя пастулаты, на якіх грунтавалася жыццёвая і творчая пазіцыя М. Лынькова. Яго сэрца заўсёды было адкрыта людзям, усяму свету. Ён умеў шчыра радавацца чужому поспеху і ўдачам: «...расцениваем присуждение тебе Государственной премии как самый справедливый акт в нашей литературной жизни»,— піша ён да Я. Мазалькова ў лісце ад 5 красавіка 1950 г.

М. Лынькоў ніколі не навязваў субяседніку ці адрасату сваіх поглядаў і меркаванняў. Ён арганічна не прымаў людзей расхлістаных, нецярпіма ставіўся да кар'ерыстаў, featureрознага роду прыстасаванцаў. Да лёгкай славы, высокіх званняў і ўзнагарод адносіўся з іранічнай усмешкай: «Что касается всяческих «присвоений», то это сущие пустяки, о которых я никогда не думаю [...]. Прожить можно и без званий и не плохо. С меня достаточно сознания того, что твоя работа все же не бесполезна для народа» (ліст да П. М. Баранава ад 17 лістапада 1957 г.).

Разам з тым М. Лынькоў умеў бараніць свой гонар. У яго было высокае пачуццё чалавечай годнасці. І гэту годнасць ён пранёс праз усё жыццё.

Як і сведчанні многіх людзей, якія блізка ведалі М. Лынькова, лісты пісьменніка таксама гавораць аб тым, што адной з найбольш прывабных рыс яго характару была сціпласць. Калі мастак-аматар П. М. Баранаў збіраўся маляваць партрэт аўтара «Векапомных дзён» і звярнуўся да яго з просьбай прыслаць фотаздымак, пісьменнік адказаў так: «...ей-право есть бо-

лее подходящие и более стоящие люди, чем моя грешная персона, достойные кисти художника» (ліст ад 11 студзеня 1951 г.). І ў гэтым адказе не было ні кроплі знарочыстасці. Была натуральнасць паводзін інтэлігентнага, далікатнага, выхаванага чалавека.

Рашуча пярэчыў М. Лынькоў і супраць рознага роду «мемарыяльных мерапрыемстваў», скіраваных на ўслаўленне яго асобы. «Все это делается после смерти человека и, конечно, только в том случае, если он того заслуживает»,— вымушаны быў растлумачыць пісьменнік тое, што, як яму здавалася, само па сабе зразумелае і тлумачэння не вымагала. Жаданне «еще при жизни своей предпринять попытки к увековечению памяти о себе среди своих славных земляков» выклікала ў М. Лынькова ўнутраны пратэст і нязгоду: «...каждый человек имел бы неоспоримое моральное право упрекнуть меня в нескромности» (ліст да Р. С. Агеевай ад 18 студзеня 1973 г.). А гэтага дапусціць пісьменнік не мог.

Нязменна і паслядоўна адхіляў М. Лынькоў і просьбы асобных перакладчыкаў паўплываць на работнікаў выдавецтва, каб яны хутчэй уключылі ў план выданняў той ці іншы яго твор. «В общем, юноша, оставим мы это сомнительное предприятие, в противном случае это будет походить на навязчивость. А я таких вещей не терплю» (ліст да Я. С. Мазалькова ад 23 ліпеня 1948 г.). І праз многа гадоў тое ж самае: «Вядома, што я асабіста не магу прапаноўваць выдавецтву маю кнігу (для перакладу.— *М. М.*), бо гэта было б нетактоўна з майго боку і трошкі падобна было б на звычайную назойлівасць» (ліст да К. Я. Данілкі ад 30 жніўня 1957 г.).

У лістах, напісаных нават у цяжкія гады вайны, М. Лынькоў шчасліва пазбягаў штучнай драматызацыі, згушчэння фарбаў. Ён не імкнуўся да таннай белетрызацыі, да сенсацыйнасці, не казаў пра тое, чаго асабіста не ведаў ці не бачыў на ўласныя вочы. А калі ж вымушаны быў гаварыць пра свой непасрэдны ўдзел у тых ці іншых падзеях, дык ніколі не выстаўляў сябе на першы план, не гераізаваў сваю асобу. Наадварот, там, дзе Лынькоў гаворыць пра самога сябе, заўсёды чуецца лёгкі гумар, іранічная інтанацыя, усмешка. І ў гэтым трэба бачыць вялікую вартасць лістоў М. Лынькова. Яго вопыт у галіне эпісталярнага

жанру павучальны для многіх сучасных маладых пісьменнікаў, якія ў сваіх успамінах часта парушаюць рэальныя прапорцыі, перабольшваючы ўласную ролю ў жыцці выдатных людзей і ў літаратурным руху.

Сярод уключаных у том лістоў даволі шмат напісаных Лыньковым у ЗША, калі ён у якасці члена дэлегацыі Беларускай ССР удзельнічаў у рабоце сесіі Генеральнай Асамблеі ААН (1945, 1952, 1953, 1954, 1955). «Амерыканскія» лісты трэба разглядаць у сукупнасці з артыкуламі, нарысамі і нават апавяданнямі, што з'явіліся з-пад пяра М. Лынькова пасля вяртання на Радзіму і былі прысвечаны тэме Захаду. У лістах мала разгорнутых апісанняў, пераважае інфармацыя. Гэта як бы агульная канва будучых артыкулаў. Што ж да ўражанняў, дык іх у М. Лынькова, паводле яго ўласных прызнанняў, было багата: «Впечатлений много, наблюдений — масса, о них расскажем когда-нибудь при встрече»,— паведамляе М. Лынькоў у лісце да К. П. Корсакаса ад 6 студзеня 1953 г. Аднак галоўнае, што ўбачыў прадстаўнік Краіны Саветаў у капіталістычным свеце, знайшло ў лістах свой адбітак. Перш за ўсё — гэта сацыяльныя кантрасты, уласцівыя «гораду жоўтага д'ябла», яго глыбокая варожасць чалавеку, адсутнасць у ім жывога, адухоўленага пачатку. «Город этот действует угнетающе, ничто в нем не радует глаза: ни улицы, ни дома, ни пестрота рекламных огней [...]. Кстати, на улицах, даже днем, очень много мусора»,— так перадае пісьменнік свае ўражанні ад Н'ю-Йорка ў 1952 г. І яшчэ: «Нью-Йорк надоел нам, как горькая редька. Я не знаю другого такого города, который бы так быстро прискучил, как этот каменный мешок. Ничего в нем не привлекает: ни реки, ни обширные заливы, ни суматошная жизнь на его улицах, где видишь смесь племен и наречий» (ліст ад 19 лістапада 1952 г.).

А вось запіс, зроблены ў 1954 г.: «Дороговизна тут все растет, и это заметно даже по сравнению с прошлым годом» (ліст ад 25 верасня). Пры чарговым наведванні ЗША, у 1955 г., М. Лынькоў робіць аналагічную занатоўку: «...дороговизна явно приметна даже по сравнению с прошлым (г. зн. 1954 г.— *М. М.*) годом» (ліст ад 6 кастрычніка).

Зусім інакш успрымаў М. Лынькоў Індыю ў час знаходжання на канферэнцыі ЮНЕСКА (Дэлі, 1956):

«Впечатлений за это время накопилось много, больше чем за пять моих поездок за океан». Вядома, пісьменнік перш за ўсё меў больш часу, каб пазнаёміцца з краінай. Вось што піша М. Лынькоў пра індыйскі народ: «Народ в Индии замечательный, к нам относится дружески. Правда, живет он еще бедно, изживая постепенно тяжелые последствия английского колониализма» (ліст ад 5 студзеня 1957 г.).

«Замежныя» лісты М. Лынькова сведчаць аб тым, што беларускі пісьменнік з гонарам прадстаўляў Савецкую дзяржаву, аб'ектыўна, з партыйных, класавых пазіцый ацэньваў убачанае там.

Ужо адзначалася, што М. Лынькоў вёў вялікую навукова-арганізацыйную працу. Як дырэктар Інстытута літаратуры, мовы і мастацтва АН БССР (1943—1946; 1949—1952) ён актыўна ўдзельнічаў у абмеркаванні наспелых праблем гісторыі беларускай літаратуры, гісторыі навуковай, грамадскай, філасофскай думкі, рэдагаваў падручнікі для Вышэйшай і сярэдняй школ, манаграфіі, кнігі, выступаў на абароне дысертацый, пісаў на іх водзывы. Зусім натуральна, што да акадэміка М. Ц. Лынькова часта звярталіся навуковыя работнікі, аспіранты з просьбай адказаць на пытанні рознага характару, у тым ліку і звязаныя з яго ўласнай творчасцю. Па меры магчымасці пісьменнік імкнуўся дапамагчы навукоўцам, аўтарам лістоў. Характэрны ў гэтых адносінах адказ на анкету літаратуразнаўцы М. Грынчыка аб ролі рэгіянальных фактараў у мастацкай творчасці. «Чыгунка, яе «атмасфера», яе асяроддзе пакінулі значны след на маім эмацыянальна-псіхалагічным складзе і на творчасці»,— сказаў М. Лынькоў. Трэба прызнаць слушнай і заўвагу пісьменніка аб тым, што «хутчэй за ўсё поўнай залежнасці паміж рэгіянальнай спецыфікай і жанравымі асаблівасцямі мастацкага твора не існуе. Па крайняй меры прыклады такой залежнасці ў беларускай літаратуры цяжка знайсці, за выключэннем хіба твораў, арганічна звязаных з фальклорам» (ліст ад 8 лютага 1972 г.).

Каштоўны і ліст М. Лынькова да Д. Бугаёва ад 23 сакавіка 1959 г., у якім даецца ацэнка ролі М. Горкага ў развіцці савецкай літаратуры, ролі Я. Купалы і Я. Коласа ў фарміраванні творчага почырку Лынькова. Багата цікавых звестак біяграфічнага характару ў лісце да Ф. І. Куляшова ад 17 лістапада 1959 г.

Тут Міхась Ціханавіч гаворыць пра сваю маці, бацьку, сясцёр і братоў, пра час паступлення ў Старасельскую школу, прыгадвае імёны некаторых настаўнікаў і выкладчыкаў семінарыі. У лісце раскрыта гісторыя напісання ранняга твора — апавядання «З пражытых год», якое ў першадруку мела дату «1922 г.» і паметку «Паволжа». Хоць у аснове сюжэта ляжыць рэальны факт з часоў голаду на Паволжы, але дата і паметка не адпавядаюць сапраўднасці, яны пастаўлены адвольна: апавяданне напісана ў сярэдзіне 20-х гадоў. Міхась Ціханавіч вельмі крытычна паставіўся да першай спробы ў галіне «малой прозы», назаўсёды выкінуўшы яе з уласнага «творчага багажу» як рэч недасканалую, напісаную ў натуралістычным плане. Разам з тым Лынькоў не імкнуўся навесці глянец на свой творчы шлях: якім бы няўдалым у мастацкіх адносінах ні быў той ці іншы твор, аўтар не мае права забараніць даследчыку разглядаць гэты твор.

З цікавасцю будуць прачытаны таксама лісты і паштоўкі Міхася Ціханавіча да П. Тычыны, М. Танка, К. Корсакаса, Я. Брыля, Я. Казекі, А. Куляшова, І. Мележа, Д. Кавалёва, В. Бурносава, В. Быкава, Яна Судрабкална, К. Буйло, В. Гарбука, І. Грамовіча і іншых савецкіх пісьменнікаў, літаратурных крытыкаў. Нават калі ў жанравых адносінах тут пераважаюць традыцыйныя святочныя віншаванні, і ў іх мы не знойдзем разгорнутых ацэнак тых ці іншых з'яў літаратурна-творчага жыцця, яны тым не менш даюць магчымасць уявіць літаратурны побыт пісьменніка, кола яго блізкіх сяброў, таварышаў.

Працяглая па часе, змястоўная і даволі значная ў колькасных адносінах перапіска Міхася Ціханавіча з жонкай Соф'яй Захараўнай, з братам, з сябрамі дзяцінства і юнацтва, з землякамі, шматлікімі знаёмымі раскрывае перад намі новыя грані, новыя рысы яго характару — як чалавека, сем'яніна, таварыша. Клопаты пра родных і блізкіх, чуласць, уважлівасць, гатоўнасць прыйсці на дапамогу, сум па родным доме ў час доўгіх замежных паездак — усё гэта даносяць да нас так званыя бытавыя лісты М. Лынькова. Чытач знойдзе і тут багата разнастайных звестак пра ўклад жыцця пісьменніка, пра ўзаемаадносіны ў сям'і, пра атмасферу, якая там панавала, пра шматлікія паездкі, сустрэчы, святочныя ўрачыстасці, пра здарэнні ў жыц-

ці членаў сям'і пісьменніка ці яго знаёмых. А здарэнні гэтыя былі часам драматычныя.

Калі хварэла Соф'я Захараўна ці блізкія, дык Міхасю Ціханавічу даводзілася непасрэдна займацца паўсядзённымі гаспадарчымі справамі. Вось тут і праяўляўся сапраўдны клопат пісьменніка пра родных і блізкіх людзей. «О нас не думай — сыты, обуты, пригреты,— звяртаецца ён з нязменным мяккім гумарам і лагоднасцю да Соф'і Захараўны.— Единственное, чего нам не хватает — это твоего руководства, наставления и попечения. В общем, лечись, поправляйся, ставь себя на ноги» (ліст ад 19 ліпеня 1968 г.).

З глыбокай душэўнай цеплынёй і сталай бацькоўскай увагай адносіўся Міхась Ціханавіч да свайго малодшага брата Мікалая. Мудрым, удумлівым педагогам паказаў сябе пісьменнік у адным з лістоў, закранаючы пытанне аб выхаванні пляменніка: «Нажимай на Николая, чтобы брался за художественную книгу и привыкал к ней, иначе будет ограниченным человеком. Скажи ему, чтобы он написал мне, какие книги прочел в первом полугодии».

Аб тым, як М. Лынькоў ставіўся да дзяцей і як дзеці любілі аўтара «Міколкі-паравоза», напісана нямала. Лісты дапаўняюць, канкрэтызуюць узаемаадносіны пісьменніка і яго ўдзячных юных чытачоў. «В детях главное счастье людей»,— пісаў М. Лынькоў у лісце да Ф. Л. Бычынскага 20 сакавіка 1971 г.

Заслугоўвае самай пільнай увагі стыль пісем М. Лынькова, эвалюцыя стылю, бо ў розныя перыяды жыцця, на розных этапах творчасці пісьменніка ён не заставаўся нязменным. Вядома, галоўным, вызначальным заўсёды быў змест ліста, яго вядучая «тэма» і тое, каму ён адрасаваны, з якой нагоды напісаны. Так, даволі адметная стылявая танальнасць лістоў да Я. Коласа, кожны радок іх прасякнуты пачуццём сыноўняй пашаны, пачцівасці да народнага пісьменніка. Ведаючы, што Я. Колас як клапатлівы гаспадар зямлі, руплівы сейбіт заўсёды цікавіцца надвор'ем, бо спрыяльнае надвор'е — гэта шчодры ўраджай, Міхась Ціханавіч у сваіх лістах абавязкова задавальняў маўклівае жаданне старэйшага таварыша і настаўніка. Прычым М. Лынькоў не абмяжоўваўся сухой інфармацыяй, а імкнуўся да яскравага, паэтычнага, вобразнага выказвання: «Зіма неяк намаглася аднаго разу

заглянуць да нас, але некуды знікла, пакінуўшы адно макрэддзе» (ліст ад 6 снежня 1950 г.). Або: «Чакаем усё добрага лета, не пабачыўшы як след вясны. А лета пачынаецца нешта не па-людску. З другога чэрвеня пастаяла некалькі добрых дзён, а потым хлябі нябесныя разверзліся ізноў і дождж лупіць каторы ўжо дзень бесперастанку» (ліст ад 12 чэрвеня 1955 г.).

Сустрэўшы трапныя народныя выразы накшталт «і чаканкі даўно паелі», «што яму прыспічыла там так доўга адлежвацца», «нешта падобнае на зіму нясмела падбіваецца к Мінску», «розных спраў набіраецца поўнае бярэмя» і інш., можна беспамылкова сказаць, што адрасат ліста — Я. Колас. І сапраўды, прыгаданыя прыклады ўзяты з першых сказаў ліста да Канстанціна Міхайлавіча ад 28 лістапада 1950 г.

У лістах да блізкіх, сяброў, таварышаў па працы М. Лынькоў ахвотна выкарыстоўваў стылявыя прыёмы ўсходняга паслання, паспяхова імітаваў высокі, урачысты стыль мовы помнікаў старажытнай пісьменнасці («Рыданіем возрыдах і скорбію воскорбех, прачытаўшы Ваша пасланіе...,— так пачынаецца ліст да Я. Коласа ад 16 чэрвеня 1955 г.— ...Да нізрыне алах гнеў свой на главы несумленных рабоў сваіх, оныя не можаху ўразумець святыя ісціны, што ні адзіным барыем жыў чалавек...»).

Якасна новы характар набылі лісты М. Лынькова ў апошнія гады жыцця. У іх больш эмацыянальнасці, філасафічнасці, часцей закранаюцца пытанні духоўнага парадку, вечныя праблемы чалавечага быцця. Больш шчодрым стаў пісьменнік на ўспаміны пра дзяцінства, пра юнацкія гады. Больш ахвотна перапісваўся з тымі, з кім разам вучыўся ў школе, у Рагачоўскай семінарыі. Нясцерпнае жаданне пісьменніка яшчэ раз убачыць здымак ранніх гадоў — вельмі натуральнае, псіхалагічна апраўданае. У лісце да П. Л. Камісарава ад 2 сакавіка 1970 г. М. Лынькоў піша: «Хочу я спросить тебя вот о чем. Некогда были мы с тобой и в двухклассном училище при семинарии. Как мне помнится, однажды мы снимались всем коллективом школы. Может быть, случайно сохранился у тебя такой снимок, может быть, знаешь, у кого он есть?»

А паглядзіце, з якой пранікнёнасцю гаворыць М. Лынькоў пра заўчасную смерць А. Малышкі. Колькі тут шчырага спачування, сапраўднага, непадробна-

га пачуцця, жыццялюбства! І разам з тым — як шырока глядзіць пісьменнік на свет, на нацыянальную культуру, гэту праяву народнай душы, адбітак гістарычнай памяці народа!

У лісце да Д. Кавалёва ад 20 лютага 1970 года: «Вот сегодня опечалили меня вести из Украины о преждевременной смерти Андрея Малышко — хороший был человек, славный поэт и верный друг Белоруссии. Такие потери чувствительны для нашей культуры. И рано бы Андрею навсегда прощаться с нами, был он еще молодой, в самом расцвете сил и таланта. То ли дело у нас, стариков, перешагнувши седьмой десяток — в самый раз «сушить весла...» И то неохота...» І ў лісце да А. Я. Данілкі ад 22 лютага 1970 г.: «Вельмі сумую з прычыны заўчаснай смерці майго даўняга маладзейшага па гадах друга Андрэя Малышкі. Гэта ж так нечакана і недарэчна: паэт быў у самым росквіце сваіх сіл і таленту. Два месяцы таму назад мы страцілі добрага паэта Пятра Глебку і літаратуразнаўцу Яўгена Мазалькова.

Усё гэта сумна, усё гэта значныя, беззваротныя страты для нашай культуры».

Уключаныя ў Збор твораў лісты, як можна меркаваць, зыходзячы з іх зместу, будуць з цікавасцю прачытаны тымі, хто любіць беларускую літаратуру, вывучае гісторыю літаратурна-творчага жыцця і перш за ўсё — творчасць Міхася Лынькова, выдатнага мастака слова, пісьменніка-камуніста, вернага сына сваёй Айчыны.

*МІХАСЬ МУШЫНСКІ*

## 1935

### 1. М. Ц. ЛЫНЬКОВУ

*1 лістапада 1935, Мінск*

Уважаемый Николай Тихонович!

Поздравляем тебя нашим коллективом с Октябрьскими праздниками. Хотя пишу 1 ноября, но думаю, что письмо зайдет к тебе после праздников.

Письмо твое последнее получил. Рад, что более или менее сносно устроился.

У нас тут осень в самом разгаре, льют во всю дожди, и мы с Марком Михайловичем мечтаем о наступлении зимы, когда можно будет погулять в саду. А сад у нас теперь больший, чем раньше при старом доме.

Живем мы по-старому, квартира просторная, широкая, с верандой, с балконом. Живем мы с Марком Михайловичем в полное свое удовольствие, есть ему где поскакать и побегать.

Получил письмо от Аньки, она теперь работает на новом месте в Стародорожском районе, в Горковском сельсовете.

Пиши, какая у вас теперь погода: тепло ли, холодно ли?

Привет тебе от Ханы Абрамовны и Марки Михайловича.

Пока всего! С приветом
твой брат *Міхась Лынькоў.*

1/XI 1935 г. Минск, ул. Горького, д. № 4/б, кв. № 3.

## 1936

### 2. М. Ц. ЛЫНЬКОВУ

*18 студзеня 1936, Мінск*

Прекрасный юноша!

Довольно-таки опоздал я с ответом на твое последнее письмо, за что и приносим соответствующее извинение.

Живы мы и здоровы, пребываем, что называется, в полнейшем благополучии, годуем кадру, понемногу пишем и т. д. Таковы вот наши семейные и несемейные дела. Маркуша вздумал был по своему обыкновению поболеть немного. Болел парнишка недели две, болел не особенно тяжело и сейчас усиленно поправляется, вспоминая сталинабадского дядю, который уже не кушает винограду, потому что «винограду нет уже на полочках в магазине». Телеграмму твою поздравительную получили своевременно и, конечно, были благодарны.

Недавно дня четыре гостила у нас Анька со своим благоверным. Писала Поля, что собирается приехать к нам на днях в гости с дочкой. Ожидаем.

Теперь у вас, наверное, тепло, весна таджикистанская. А у нас после сильной оттепели стоят теперь морозы, завывает вьюга. Однако и мы надеемся, что скоро наступит более теплое время. Пиши, как устроился теперь с квартирой, с питанием и т. д.

Ну, пока бывай. Пиши о своих новостях.

Привет от Ханы Абрамовны и Марка Михайловича.

С приветом

твой брат *Міхась Лынькоў.*

18/I 1936 г.
г. Минск

## 1940

### 3. П. С. КАБЗАРЭЎСКАМУ

*23 кастрычніка 1940, Мінск*

Уважаемый тов[арищ] Кобзаревский!

Извините за поздний ответ на Ваше письмо: был в поездках, в командировках, не сумел своевременно ответить.

Теперь по существу Вашего письма. Что касается сборника переводов белорусских прозаиков для «Советского писателя», то, признаться, я очень сомневаюсь в реальности такого дела — ведь теперь такие затруднения с бумагой.

Чтобы Вам иметь более или менее верное представ-

ление о современной белорусской литературе, я бы советовал Вам написать каждому из наших прозаиков — Коласу, Чорному, Бядуле, Последовичу, Мурашко, и они выслали бы Вам свои последние книги. По-моему, это самый лучший путь. Бядуле я сам скажу, чтобы он послал Вам свои последние вещи.

Что касается новеллы «Дай звездочку», то я не рекомендовал бы Вам переводить ее — считаю ее слабоватой. Одновременно с письмом посылаю Вам мой последний сборник, вышедший в этом году. Найдете в нем что-нибудь полезное — используйте.

С товарищ[еским] приветом

*Міхась Лынькоў.*

23/X 1940

## 4. П. С. КАБЗАРЭЎСКАМУ

*13 снежня 1940, Мінск*

Уважаемый тов[арищ] Кобзаревский!

Извините за обычное в моем стиле опоздание с ответом на Ваше письмо — умучили окончательно юбилеи.

Говорил я на днях с Бядулей, <...>, Чорным и Мурашкой, чтобы выслали Вам лучшие свои вещи. Скажу еще Коласу и Последовичу.

А Вы используйте, что найдете лучшим.

С товарищ[еским] приветом

*Міхась Лынькоў.*

13/XII 1940 г.

# 1941

## 5. ЯКУБУ КОЛАСУ

*17 жніўня 1941, дзеючая армія*

Дарагі Канстанцін Міхайлавіч!

Учора атрымаў Ваш ліст, напісаны Вамі па старому адрасу, ад якога мы цяпер кіламетраў каля сямісот

далей. Мы блізка тых месц, адкуль прыехаў да Вас у Маскву Пятрусь. Ваш ліст ішоў шаснаццаць дзён, са старога адраса яго прывёз мне Латышаў, мой супрацоўнік. Са мной Кандрат, Глебка (сёння адаслаў яго ў госпіталь — адолелі хлопца скулянкі), Гурскі, Панчанка, Барысёнак і Стаховіч.

За ліст вялікая падзяка. Кожнае роднае слова ўлівае ў нас свежыя сілы. Шмат перажылі мы — і раней, яшчэ разам з Вамі ў родным горадзе — і ў гэтыя дні. Але ўсё перажытае мы пастараемся забыць, калі зноў давядзецца нам апынуцца з Вамі ў родных мясцінах пасля разгрому праклятых гітлераўскіх гадаў. Як хочацца пабыць там, на родных папялішчах. Адно, што турбуе мяне да сённяшняга дня,— не ведаю, ці жывы мой сынок і жонка. Дзе яны, ці выбраліся яны адтуль — не ведаю. Былі чуткі, што яны ішлі пешкі, што іх бачылі ля Дукораў. Вось гэта самае цяжкае, што ціснe маё сэрца, не дае супакою. У працы стараюся не то што забыцца, але проста адганяць гэтыя думкі.

Кандратава сям'я і сям'я Барысенкі ў Саратаўскай вобласці. Стаховіч ведае шлях сям'і да Мсціслаўля. Дзе сям'я цяпер — не ведае.

Але я надакучыў ужо Вам з нашымі сямейнымі справамі. Працуем мы з усіх сіл, стараемся як мага хоць нашым словам дапамагаць байцам, дапамагаць нашым партызанам біць карычневую нечысць. Бываем бязмежна рады, калі наша праца ўдаецца, калі не бывае тых ці іншых перашкод на нашым шляху. Мы надрукавалі і Вашых некалькі рэчаў — работ і перадрукі з цэнтральнай прэсы, каб данесці Ваша слова далёка-далёка, у тыя мясціны, аб якіх Вы шточасна думаеце і марыце.

Жывём і працуем дружным калектывам — разам яно неяк весялей. Думалі мы сустрэць тут Петруся, але ён не звярнуўся яшчэ сюды. Сустракаліся з Кузьмой Чорным, ён працуе там, дзе працаваў і Пятрусь. Праўда, цяпер ужо ён не там, дзе былі раней,— маю на ўвазе месца.

Як хочацца нам сустрэцца з Вамі, з усімі нашымі роднымі людзьмі. Колькі можна было б пагаварыць, параcказаць. І верым мы — прыйдзе недалёкі час, і вернемся мы зноў на родныя мясціны, каб шчасліва жыць і шчасліва працаваць, сустракацца разам у нашай добрай, радаснай сям'і. Прыйдзе гэты час, бо не

хопіць пораху ў гэтай гнуснай фашысцкай погані разбурыць наш малады савецкі сад. Веру ў нашу перамогу, веру так, як толькі можна верыць у самаго сябе, у сваіх блізкіх друзей.

Горача абнімаю Вас і цалую. Будзьце бадзёрымі і шчаслівымі.

Ваш *Міхась*.

P. S. Янкаў верш мы атрымалі яшчэ на старым месцы і надрукавалі яго.

Прывітанне яму ад мяне і ад усіх хлопцаў.

Прывітанне Вам і Янку ад усіх нашых хлопцаў.

Перадайце мае гарачыя прывітанні Мар'і Дзмітрыеўне, Даніле і Міхаську.

*М. Л.*

Адрас: Действующая армия, полевая почтовая станция 865, почт[овый] ящик № 18, М. Т. Лыньков.

## 6. ЯКУБУ КОЛАСУ

*1 верасня 1941, дзеючая армія*

1/IX 1941 г.

Дарагі і родны Канстанцін Міхайлавіч!

Пішу Вам другое пісьмо, не ведаючы, ці атрымалі Вы маё першае пасланіе. Пішу ўжо з новага месца, на якім, відаць, прабудзем больш, чымся на ранейшым. Гольцаў, які паехаў на Маскву, павінен ці асабіста, ці паштоўкай паведаміць Вам аб нашым жыцці і месцапрабыванні.

Петруся Глебкі няма цяпер сярод нас. Ён захварэў быў, мы накіравалі яго ў госпіталь, а госпіталь, як мы даведаліся, эвакуіраваў яго недзе ў тыл з санітарным поездам — не ведаю, ці знойдзе ён нас пасля выздараўлення, ці не.

Што чуваць пра Броўку? Шкада, што ён не сярод нас, хлопец ён жвавы і вясёлы. Як пажывае Янка? Дакладнага адраса яго мы так і не ведаем.

Я крыху хварэў — падводзяць мае лёгкія. Цяпер ачуняў, выкачаўся на грузавіку, дыхаю. Кандрат здароў.

К Вам просьба: калі пачуеце дзе што-небудзь пра

маю сям'ю, паведаміце. Прозвішча жонкі — Аранкова Хана Абрамаўна, сын — Марк Міхайлавіч.

Што яшчэ Вам напісаць? Хацелася б пабачыць Вас і абняць як роднага бацьку. Спадзяюся, што неўзабаве мы зможам гэта зрабіць, бо не гадзіне Гітлеру справіцца з намі, знойдзем урэшце на яго ўправу.

Гарачае маё прывітанне Мар'і Дзмітрыеўне і Міхасіку. Прывітанне Янку і Уладзіславе Францаўне.

Дачуліся мы з газет, што знайшоўся Максім Танк, чыталі яго верш у газеце. Калі ведаеце яго адрас, паведаміце, альбо скажыце яму, каб надаслаў нам ліст.

Шлеце нам лісты і вершы.

Моцна абнімаю Вас і цалую.

*Міхась Лынькоў.*

Прывітанне ад Кандрата, ад Стаховіча, Гурскага, Панчанкі і Барысёнка.

*М. Л.*

Адрас: Действующая армия, полевая почтовая станция 127, почт[овый] ящик № 12, белорусской, для М. Т. Лынькова.

## 7. М. І. ФЕДЧАНКУ

*18 верасня 1941, дзеючая армія*

Дорогой Николай Иванович!

Фронтовые встречи бывают всегда неожиданными. Вот чисто случайно встретился с Вашим учеником Короленко Иваном. Он указал мне Ваш предполагаемый адрес. Не знаю, дойдет ли это письмо или не дойдет — пишу. С начала войны я на фронте. Был в различных местах, многое видел, многое пережил. Главное — не знаю, живы ли мои жена и сын. Ни единой весточки не имею о их судьбе: выбрались ли они из-под бомб проклятой фашистской сволочи, где они, что с ними? Третий месяц жду вестей, живу надеждой.

Одно, что поддерживает меня, это горячая уверенность, что разобьем мы, уничтожим кровавых насильников, одно имя которых зажигает в каждом сердце чувства великой человеческой ненависти и беспощад-

ной мести. Зверь остается зверем, зверей только уничтожают.

Черкните пару слов о Вашей жизни. Горячий привет Ядвиге Александровне и Ларисе.

Крепко жму руку.

*Міхась Лынькоў.*

18/IX 1941 г.

Адрес: Действ[ующая] армия, полевая почтовая станция 127, редакция газеты «За Советскую Белоруссию», М. Т. Лынькову.

## 8. ЯКУБУ КОЛАСУ

*18 кастрычніка 1941, дзеючая армія*

18/X 1941

Дарагі Канстанцін Міхайлавіч!

Шлю Вам чарговае прывітанне з далёкіх франтавых прастораў. Жывём, працуем, стараемся хоць словам сваім наносіць паболей шкоды фашысцкай саранчы, каб яна здохла, праклятая, як мага хутчэй. Ляжым з Кандратам у палатцы і марым аб тым, калі зноў трапім на родную зямлю, калі зноў убачым родныя палі і лясы. Не зусім утульна ў нашым логаве пад надакучным восеньскім дажджом, але мы думаем: няхай бы яшчэ больш лінуў дождж, няхай бы ішлі нескончоныя ліўні, каб змяло нашчэнт з нашай зямлі паскудную нечысць фашызму. Як ведаеце з газет, б'юць нашы немцаў цяпер не на жарты, латашаць як капусту. Спадзяемся, што з кожным днём мы будзем біць іх яшчэ болей, яшчэ бязлітасней.

Канстанцін Міхайлавіч! Дарагі, родненькі! Напішыце пісьмо, прышліце свае ўсе апошнія вершы, выступленні, артыкулы, заметкі. Усяму дамо вялікі ход.

Можа ведаеце адрас Танка? Дзе падзеўся Пятрусь? Ці не ў Маскве ён, бо адзін верш («Палявая пошта») чыталі ў «Праўдзе». Чаму ж ён, сукін сын (кажу гэта любячы), не адгукнецца ніводным словам? А нам жа вершы патрэбны да зарэзу. Урэшце, ён мог бы падацца і да нас, з радасцю ўзялі бы ў сваю сям'ю. Аб нашым месцы ён змог бы даведацца ў Галоўн[ым] Паліт[ычным] Упраў-

л[енні] нашай Арміі. Можа на гарызонце дзе з'явіцца Глебка, яго эвакуіравалі з госпіталя санітарным поездам. Няхай дабіраецца да нас. Скажыце Івану Дамінікавічу наконт вершаў. Прывітанне ўсім знаёмым. Прывітанне Мар'і Дзмітрыеўне і Міхаську.

Моцна цісну руку і цалую.

Ваш *Міхась Лынькоў.*

Адрас: Действ[ующая] армия, Полевая почтов[ая] станция 127, редакция газеты «За Савецкую Беларусь», М. Т. Лынькову.

## 9. ЯКУБУ КОЛАСУ

*Пасля 18 кастрычніка 1941, дзеючая армія*

Дарагі Канстанцін Міхайлавіч!

Нешта доўга не чуваць ад Вас лістоў. Мы ўжо крыху занепакоіліся тут, ці не пераехалі Вы куды-небудзь у другі горад? Чакаем ад Вас водгуку. Шкада, што Вы не блізка каля нас: мы з Кандратам вырасцілі каля сваёй палаткі некалькі баравікоў, вот бы пачастунак да сустрэчы! Але і баравікі нешта гінуць, а ліста ад Вас няма і няма. Атрымалі ліст ад Глебкі, ён у шпіталі ў Саратаўскай вобласці, ачуньвае.

Прывітанне Мар'і Дзмітрыеўне, Міхаську, Янку Купале і Улад[зіславе] Франц[аўне]. Дзе Броўка, Танк? Няхай шлюць нам вершы.

Моцна цісну руку і цалую.

*Міхась Лынькоў.*

Адрас: Действ[ующая] Красн[ая] Армия, полевая почта № 127, редакция газеты «За Савецкую Беларусь», М. Т. Лынькову.

## 10. П. Ф. ГЛЕБКУ

*Пасля 18 кастрычніка 1941, дзеючая армія*

Дарагі Пятрок!

Урэшце атрымалі твой ліст і даведаліся аб стане твайго здароўя. Шкада, што першага твайго ліста мы

не атрымалі. А трэба сказаць, што мы дужа непакоіліся аб табе і думалі рабіць ужо розыскі праз адпаведныя ўстановы.

Ну, добра, што ты знайшоўся. Яшчэ будзе лепш, калі ты канчаткова ачуняеш і зноў вернешся да нашага роднага калектыву. Мы ўжо на зусім новым месцы, на другім фронце. Стаім мы недалёка ад аднаго даволі вялікага горада, пра[з] які мы калісьці ноччу праязджалі, шукаючы потым прытулку ў адной з вёсак, дзе і спалі пад капяжом. Арыентыровачна мы дамо табе тэлеграму з другога горада, дзе мы друкуем нашу газету і дзе бываем два разы на тыдні — па аўторках і пятніцах.

Усе нашы хлопцы жывы і здаровы, працуюць не пакладаючы рук. Заездзіў зусім Пімена, ён жа адзін цяпер паэт у нас. Трошкі назаляе нам восень. Але думаем як-небудзь яе перамагчы.

Носаўская рэдакцыя далёка ад нас, мы разышліся з імі, як у моры караблі.

Пакуль бывай!
Вітаем і цалуем.

*Міхась Лынькоў, К. Крапіва.*

Хоць бы ты хутчэй прыехаў на грыбы: мы з Кандратам каля палаткі вырасцілі добрыя баравікі.

Прывітанне ад усіх хлопцаў.

Адрас: Действ[ующая] армия, 127 полевая почт[овая] станция, ред[акция] газеты «За Советскую Белоруссию», нам.

## 11. М. І. ФЕДЧАНКУ

*1 снежня 1941, дзеючая армія*

Дорогой Николай Иванович!

Давным-давно, еще в начале октября месяца, получил я Ваше письмо. Ответить долгое время не мог. Теперь вот пишу, прося извинения за длительное молчание, в котором я, правда, не совсем виноват.

Жив и здоров, работаю по-прежнему. О семье никаких вестей не имею. Есть пословица: время залечивает раны. Не хочу признавать эту пословицу.

Напишите подробнее о своей жизни, о своей работе. Как здоровье Ядвиги Александровны и Ларисы?

Желаю Вам всего, что может пожелать искренне уважающий и любящий Вас человек.

Крепко жму Вашу руку.

Привет Ядвиге Алекс[андровне] и Ларисе.

*Міхась Лынькоў.*

1/XII 1941 г.

Действ[ующая] армия, 127 полевая почта, ред[акция] газ[еты] «За Советскую Белоруссию», М. Т. Лынькову.

## 1942

### 12. Л. М. ФЕДЧАНКА

*4 лютага 1942, Масква*

Дорогая моя артистка-любительница!

Получил оба твоих письма — и не в 1941 году, а вчера, 3 февраля 1942 года. Долго они догоняли меня по фронтовым дорогам и все же догнали. Около месяца я не писал, потому что был на колесах. Теперь вот временно живу в Москве, до нового назначения.

За твои письма огромное, какое только можно представить, спасибо. Жаль, что не получил их раньше. Новый год я встречал во фронтовом госпитале. Было немножко грустно, чуточку тоскливо: нехорошо лежать под Новый год прикованным к постели. Для нас зажигали елку, играла музыка, раздавали подарки. А мы думали о своих семьях, о своих детях, о родных и знакомых. Находили в подарках письма от совершенно незнакомых нам людей, и на сердце становилось теплее: все же мы не одиноки, вся страна посылала нам свои лучшие пожелания. После госпиталя я оставил свой старый фронт, на котором пробыл несколько месяцев, и поехал в Москву.

Из госпиталя я посылал Вам новогоднюю поздравительную открытку. Не знаю, получили Вы ее или нет.

Таковы мои дела. Теперь вот сидим небольшим коллективом в Москве, ждем новых дорог и маршрутов.

А дороги у нас одни — на запад. И мы надеемся, что недалек тот день, когда вступим мы на землю родной Белоруссии. Ну, а дальше? Дальше посмотрим. Нужно будет — пойдем и дальше. Дороги дальше на запад нам не заказаны.

С Короленко мы расстались. Он остался на старом фронте. Вообще-то белорусов у нас в армии много, куда ни повернешься, обязательно встретишь земляка.

На этом кончаю свое послание. Горячий привет папе и маме. Будешь писать письмо тете Яне, передай и ей привет от старого сверженского друга.

Горячо тисну руку артистке-любительнице и желаю ей самых, что ни на есть, радужных успехов и радостей.

С искренним приветом

*Міхась Лынькоў.*

4/II 1942 г.

До установления нового адреса можно писать на Союз писателей: гор. Москва, ул. Воровского, 52, Союз советских писателей СССР, для М. Т. Лынькова.

## 13. М. І. ФЕДЧАНКУ

*17 лютага 1942, Масква*

г. Москва 17/II 1942 г.

Дорогой Николай Иванович!

Получил Ваше письмо от 30/I этого года. Оно малость погуляло по полевым станциям, пока нагнало меня в Москве, где я временно обитаю и откуда этими днями выеду. Но связь с Москвой у меня будет пока неплохая, так что письма можно писать в адрес Союза советских писателей (Москва, улица Воровского, 52, Союз советских писателей СССР, для меня), отсюда я всегда выцарапаю свои письма.

Работаю я все в той же газете, в которой работал и раньше. Думаем, надеемся — и не без оснований,— что недалек уже час нашего возвращения на нашу родную, свободную белорусскую землю. Не только завшивели, но и засопливели фрицы — это уже не армии прошлого года. Огрызаются, конечно, сопротивляются. Но это со-

противление равносильно последним вздохам утопающего. Гитлер понимает свою обреченность. Все надеемся, что этот год сломает ему хребет, сломает окончательно. Никуда не уйти ему, поганцу.

Живу я по-старому. О семье никаких вестей. Странно и страшно чувствовать себя одиноким, но ведь скоро уже девять месяцев, как идет война, пора, что называется, привыкать. Правда, подобные привычки никак и никогда не влезут в мою жизнь. Подал мне весточку мой младший братишка, он в армии в Средней Азии. Услышал мой голос по радио, наладил розыски, прислал телеграмму. Одним словом, знаю, что Николай жив, здоров и бодрствует. О брате втором — Григории, он тоже был в действующей армии, ничего не слышно. Не знаю, что с ним.

Написал я письмо Ларисе — не знаю, получила ли она его. Писал из Москвы в ответ на ее милые послания. Как здоровье Ядвиги Александровны и Ларисы Николаевны? Пишите. Страшно рад каждому Вашему письму как слову от родных и близких людей.

Впервые узнаю, что Вы уже больше года в кандидатах партии. Искренне рад, от души поздравляю и крепко жму руку. Знал, что этой дороги Вы не минете. Нет в мире партии солнечнее, правдивее и человечнее нашей великой Коммунистической партии. Только в ней нашла свое завершенное выражение подлинная и чудесная человеческая правда, с которой мы живем и за которую готовы и умереть, если это необходимо. В этой правде величайшая наша сила, сила нашего народа. Не гитлеровским сутенерам и растлителям бороться и побеждать нас.

Бывайте. Горячий привет всем.

Ваш друг *Міхась Лынькоў.*

## 14. М. Ц. ЛЫНЬКОВУ

*17 сакавіка 1942, Масква*

Дорогой братец!

Что-то не слышно от тебя ответа на посланное мной письмо. Мне в союзе показывали телеграмму — твой запрос о моем местопребывании. Я послал тогда письмо

по адресу, указанному в телеграмме. А ответа нет и нет.

Ты ведь остался у меня один из всей нашей семьи. Где Гриша — не знаю. Что с Аней и семьей Поли — неизвестно. Где Хана и наш родной Марик — ничего не слышно. Таковы наши дела. Одна надежда — разобьем фашистскую сволочь, тогда и найдем, может быть, наши семьи, если останутся они живы и здоровы. Если сохранилась у тебя хоть одна карточка Марика, пришли мне ее заказным письмом — у меня ничего нет, ни одного его снимка. Пиши пока по моему гражданскому адресу. Военный сообщу дополнительно.

Целую и обнимаю. Твой брат *Міхась.*

17/III 1942 г.

## 15. Х. С. ШЫНКЛЕРУ

*18 сакавіка 1942, каля Масквы*

Дарагі Хвядосе!

Даведаўся ў Кузьмы Чорнага пра твой адрас. Ён жа паказаў мне і твой апошні ліст, дзе ты пішаш, што нібыта Вольскі напісаў Маўру, што знайшлася мая сям'я. Што гэта за містыфікацыя? Калі б гэта было не містыфікацыяй, я б на сённяшні дзень адчуваў бы сябе найшчаслівейшым чалавекам на свеце. Напішы мне, браце, дакладна аб гэтым.

Я жыў, здароў. Са мной Крапіва, Броўка, Стаховіч і Барысенка. Былі яшчэ і Гурскі, Глебка і Панчанка. Яны аддзяліліся ў самастойную газету і працуюць на другім фронце.

Багата перажыта, багата пройдзена, багата бачана. Калі-небудзь раскажам.

Паколькі мы каля Масквы, то можна пісаць у адрас Саюза сав[ецкіх] пісьм[еннікаў] СССР, для мяне.

Прывітанне ўсёй тваёй камуне.

Цісну руку.

*Міхась Лынькоў.*

18/III 1942 г.

Адрас Вольскага: г. Уральск Зап[адно]-Казахстанской обл[асти], Белорус[ский] Госуд[арственный] театр.

## 16. М. Ц. ЛЫНЬКОВУ

*27 сакавіка 1942, Масква*

Дорогой Николай!

Очень рад, получив от тебя письмо с фотокарточкой. Я послал тебе несколько раньше открытку по твоему старому адресу, не знаю, дойдет ли. Пиши почаще, и я буду посылать побольше писем. Если сохранился у тебя какой-нибудь снимок Марика — может быть, есть у тебя маленький снимок, сделанный мной «лиллипутом» — помнишь, был такой у Марика фотоаппарат-игрушка, то пришли мне заказным письмом — буду страшно рад. У меня ведь нет даже снимка Марика. Живу по-старому. Надеюсь, что будем скоро в родных местах. Пиши. Крепко обнимаю тебя и целую.

Твой брат *Міхась Лынькоў.*

Москва 27/III 1942 г.

## 17. ЭДЗІ АГНЯЦВЕТ

*27 сакавіка 1942, Масква*

Дорогая Эди!

Спасибо за письмо и книжку. Письма, о которых говоришь, мы не получили. Очевидно, затерялись где-нибудь на необозримых дорогах, пройденных нами. А пройдено немало, когда-нибудь подсчитаем. Сейчас у нас проездом из отпуска Кулешов. Вообще-то он на Северо-Западном фронте. Гурский, Глебко и Панченко отделились от меня и находятся сейчас на Калининском фронте. Со мной Крапива, Бровка, Стахович и Борисенко. Живем и смотрим на запад, на дорогу Москва — Минск. Надеемся, что недалек час, когда вступим мы на родную белорусскую землю.

Приехал из Казани Колас. В апреле месяце он уедет в Ташкент.

Писем здесь в союзе тебе нет. В случае — обнаружатся — перешлем.

Вот и все наши новости. Поскольку мы живем в Москве и под Москвой, письма можно присылать по нашему гражданскому адресу, на Союз писателей. Если мы и уедем, то письма нам перешлют. Привет от товарищей.

*Міхась Лынькоў.*

27/III 1942 г.

## 18. КАЛЕКТЫВУ ГАЗЕТЫ «ЗА СВАБОДНУЮ БЕЛАРУСЬ»

*6 красавіка 1942, Масква*

6/IV 1942 г.

Дорогие друзья!

Заждался я от вас письма, но так и не получил. Видимо, забыли вы мой адрес. Ну, что же, забывчивость — дело житейское, случается с каждым... Спасибо Рабиновичу — хоть тот во время своего приезда порассказал о вашем житье-бытье. Да ведь и то было уже давно. А как теперь живете — не знаю.

Мы живем по-старому. Выпустили всего один номерок газеты, ждем, когда подвинемся поближе к нашей белорусской земле. Максима откомандировали в Саратовский округ. Возможно, ЦК КП(б) Б вызовет его на работу. Узнав сегодня ваш адрес, послал его и Максиму, пусть парень свяжется со своими хлопцами.

Сегодня мы проводили на вокзал Якуба Коласа — после славянского митинга он уехал в Ташкент. Пишите, как живете, как можете, как идет работа?

Сообщаю мой адрес: Москва, улица Воровского, 52, Союз советских писателей СССР, для М. Лынькова.

С дружеским приветом

*Міхась Лынькоў.*

P. S. Борисенко, Латышев, Фейгинзон перечислены в резерв, прикомандированы на работу к нам.

Привет от Крапивы К.

## 19. КАЛЕКТЫВУ ГАЗЕТЫ «ЗА СВАБОДНУЮ БЕЛАРУСЬ»

*16 красавіка 1942, Масква*

Москва 16/IV 1942

Привет славным соратникам!

Получил вашу газету — первых два номера и «дубинку». Прочли, малость покритиковали, сказали «добре». Хорошо, что у вас развернулась уже настоящая практическая работа, в которой и желаем вам всяческих успехов. Мы сидим пока что на мели, ждем настоящей работы. Танк, как известно вам, откомандирован в Саратов. А теперь его послали на строевые курсы в Ульяновск. Через ЦК принимаем некоторые меры, чтобы вернуть его в первобытное состояние, т. е. в печать. В Москву приехали Александровская, Муромцев, Млодэк, Алексеева и др. В начале мая предполагается в Москве митинг нашей молодежи. Почему Петрок и Пимен не присылают в центральные газеты своих стихотворений? Это нужно теперь, как воздух.

Крепко жму ваши руки.

*Міхась Лынькоў.*

## 20. І. Д. ГУРСКАМУ

*30 красавіка 1942, Масква*

Первомайский привет, Илья!

Пересылаю тебе полученную на твое имя открытку-справку из Свердловска. Такая же справка получена на днях мной из Бугуруслана. В общем, как видишь, дела по-старому <...>.

У нас все по-старому. Приехал назад Танк, его вернули в распоряжение ЦК. Гостит у нас теперь Пимен, встречаем неплохо Первомайские праздники, вспоминаем «калининцев». Рад, что вы по-человечески обосновались и работаете. Привет всей усатой гвардии.

Желаю всяческих успехов.

С приветом

*Міхась Лынькоў.*

30/IV 1942 г.

## 21. Х. С. ШЫНКЛЕРУ

*Канец красавіка 1942, Масква*

Дарагі Хвядосе!

Атрымаў твой ліст з Кыштыма. Шкада, што гэтак бязглузда атрымалася з табой. Што-небудзь паспрабуем зрабіць, але каб сказаць тут што-небудзь пэўнае, дык не бяруся. У мяне ўсё па-старому. Аб Рыгору ніякай чуткі. Тое ж самае і аб сям'і. Канешне, усё гэта вельмі цяжка і прымірыцца з гэтым проста немагчыма... Цешу сябе, аднак, нейкімі надзеямі.

Такія, браце, справы.

Прывітанне ад нашых хлопцаў.

Віншую з Першым маем.

*Міхась Лынькоў.*

## 22. І. Д. ГУРСКАМУ

*13 мая 1942, Масква*

Свинтухи окаянные!

Пишу вам последнее письмо и больше тревожить не буду, дабы не беспокоить напрасно. Где это видано — человек послал несколько писем, а ему ни ответа, ни привета. А впрочем, как знаете...

А теперь о деле. В Ташкенте Модель издает сборник антифашистской белорусской литературы. Так вот соберите все свои стихи и рассказы и отошлите ему непосредственно в Ташкент по адресу: Ташкент, Союз советских писателей Узбекистана, Моделю.

Об этом я говорил уже Пимену. Он завтра выезжает к вам.

А пока всего.
Даже привета не хочу передавать вам, иродам.

*Міхась Лынькоў.*

13/V 1942

## 23. ЭДЗІ АГНЯЦВЕТ

*13 мая 1942, Масква*

Даражэнькая Эдзі!

Атрымаў тваё пасланіе, але вершаў яшчэ не атрымліваў. Жывём па-стараму, асабліва не сумуем, бо думаем усё ж дабрацца да нашых радзімых прастораў. Цяпер па сутнасці ўсіх закранутых у пісьме пытанняў. Модэлю я на днях пасылаю ўсе матэрыялы: мае і нашых хлопцаў. Крый божа, каб ён скарыстоўваў мае пару навел, надрукаваных у «Известиях»,— яны сапсуты. З «Правды» можна. Але я сам прышлю арыгіналы.

Навін асаблівых у нас нямашака. Як часам мы жывём, аб усім гэтым табе расказаў, напэўна, наш Якубе — аб нашым вясновым небе, аб нашай вясне і ўсякіх іншых такіх прыгажосцях. Адным словам, жывём і працуем. Прывітанне ад усіх хлопцаў — ад Кандрата, Кузьмы, Петруся, Максіма, Пімена, Стаха і Барысёнка.

З прывітаннем

*Міхась Лынькоў.*

13/V 1942 г.

Адрес старый. Можно писать и по такому адресу: Полевая почтов[ая] станция № 736, п/я 206, редакция газеты «За Советскую Белоруссию».

## 24. ЯКУБУ КОЛАСУ

*Прыблізна май 1942, Масква*

Дорогой Константин Михайлович!

Пересылаю Вам в этом письме несколько писем, полученных на Ваше имя в Москве. Посылаю письмо и Степана Нортмана, видевшего и разговаривавшего с Юркой. Я посылал туда телеграфный запрос, но ответа толкового не получил, потому что полк запасной, в нем ребята долго не задерживаются и уходят с маршевыми ротами в действующие части. Во всяком случае, мы будем продолжать поиски через наших знакомых ребят. И ругал же я Нортмана, что он и нашего адреса Юрке не дал, не связал его и с Вами. Нортман оправдывается мимолетностью встречи.

Живем мы по-старому. На днях двинемся в новые места, поближе к нашей родной земле. Кондрат все потеет над пьесой. Петрусь возится сейчас с либретто своей новой оперы, работает вместе с Тикоцким. В Москве были организованы неплохие концерты белорусского искусства. Лариса Помпеевна, как всегда, пользовалась прекрасным успехом. Были мы с Кондрашей у нее в гостях, и она была у нас. Сейчас у Кондрата живет Вольский, приехал на несколько дней из Уральска. Он работает над пьесой и над оперой. В общем, все наши люди трудятся.

На днях был я у бригадного комиссара. «Доложил» я ему подробно, как доставили вы его семье посылку. Читал ему Ваше письмо — посмеялись мы от души. Павел Борисович просил передать Вам самый сердечный привет. Чудесный он человек, Белоруссию любит и так же грустит о Минске, как мы.

Видел я Аршаруна. Он сказал мне, что книга Ваша еще не вышла, а как только выйдет, он сделает все, что необходимо: и в отношении авторских и оплаты.

Одно письмо посылаю Вам без конверта — он был порван и такой большой, что не влез бы в это письмо. Адрес с конверта я переписал на письмо. Оригинальный адрес был на конверте: «Москва, отдел писателей, Якубу Колосу».

Горячий привет Марье Дмитриевне, Даниле и Михаську.

Обнимаю и целую Вас.

*Міхась Лынькоў.*

Адрес: Полевая почтовая станция № 736, почтов[ый] ящик 206, редакция газеты «За Советскую Белоруссию», М. Т. Лыньков.

## 25. Л. М. ФЕДЧАНКА

*1 чэрвеня 1942, Масква*

1/VI 1942 г.

Дорогая Лариса!

Получил оба твои письма, написанные накануне Первого мая — большое, сердечное за них спасибо.

У нас теперь кончается весна, вступаем по-настоящему в лето. Фашисты много надеялись на весну и трезвонили об этом по всему свету. Весна ничего не дала им. Ничего не даст им и лето, кроме сотен тысяч новых могил. Все туже и туже завинчивается гайка в огненном кольце, в котором очутились проклятые гитлеровцы. От смерти, от окончательного разгрома им не уйти.

Мы живем и работаем по-прежнему. Живем и твердо уверены, что скоро очутимся на родной своей белорусской земле, так много потерпевшей от этой коричневой, кровавой чумы.

У вас там, очевидно, весна тоже подходит к концу. Наверное, Николай Иванович переключился теперь на сельскохозяйственный фронт, ведь он же изучил тракторное дело, как ты писала мне.

Пиши подробно обо всем. Посылаю тебе на память довольно туманное отображение твоего бывшего чем-то вроде «крестного папаши». Как-никак я принимал довольно активное участие в твоем первом купанье на этом свете. Помню, Ядвига Александровна порядком волновалась при этой операции, я же, если память не изменяет, проводил все это дело, явно священнодействуя. И вот прошло с той поры более восемнадцати лет, и маленькая, курносая стала настоящей девушкой. Чудеса, Лариса, да и только! Что ты на это скажешь?

Передай горячий привет Николаю Ивановичу и Ядвиге Александровне. Исправился ли твой братишка Юрка?

С искренним приветом

*Міхась Лынькоў.*

П. П. С. 736, почт. ящ. 206, редакция газеты «За Советскую Белоруссию», мне.

## 26. Х. С. ШЫНКЛЕРУ

*8 чэрвеня 1942, Масква*

Хвядосе!

Атрымаў тваё апошняе пасланне і мне хочацца крыху пажурыць цябе за некаторыя думкі з гэтага па-

слання. Што ты, вуюнаш, засумаваў трохі? Хоць гэта і зразумела, але ўсё ж не варта аб гэтым думаць. Асабліва не варта думаць аб загінуўшых кніжках. Наўрад ці знойдзем мы іх, дружа, у нашым спаленым Мінску. Багата і ў мяне кніжак засталося там, але што ж ты паробіш, засталося сёе-тое, што даражай мільёнаў кніг. А наогул, пане-браце, сустрэнемся мы яшчэ на родным папялішчы ды вып'ем добрую чару за наш будучы Мінск. А што ён будзе не кепскім, у гэтым сумнявацца не прыходзіцца. Англічане і цяпер ужо добра адплачваюць немцам і за нашы беларускія гарады. Я думаю і ўпэўнены ў гэтым, што мы адплацім немцам таксама старыцай.

Дык вось якія справы. А мы цяпер пасунуліся на захад, бліжэй да нашай зямлі. Калі выйдзеш з курсаў, прасіся на наш фронт.

Прывітанне ад нашых хлопцаў.

Моцна цісну руку.

Твой

*Міхась Лынькоў.*

Адрас: П. П. С. 736, п/я 206, редакция газеты «За Советскую Белоруссию», М. Т. Лыньков.

8/VI 1942 г.

## 27. П. Е. ПАНЧАНКУ

*19 чэрвеня 1942, Масква*

Дарагі Пімен!

Атрымаў тваё пасланіе, за якое вялікае і шчырае дзякуй. Вельмі рад, што ведаеш урэшце, дзе твая маці і ўся сям'я. Шкада, што не мог ты з імі сустрэцца, калі даводзілася нам быць у Тамбове. Такая ўжо сутнасць вайны, што ўсякія выпадковасці перастаюць здзіўляць кожнага з нас.

Цяпер аб нашых справах. Мы ўжо сабраліся выехаць з горада і пагрузіліся на машыны, каб ехаць у адным з заходніх кірункаў, як раптам атрымалі распараджэнне «адставіць». Прыехаў наш мілы гаспадар і загадаў з'явіцца да яго ўсёй камунай вечарам. Там ён і заявіў нам — даволі вам брадзяжнічаць па савец-

кай зямлі, пара брацца па-сапраўднаму за справу. Адным словам, у жыцці нашага «падраздзялення» сякія-такія перамены, і мы пачынаем жыць па-новаму. Сёмага ліпеня праводзім пленум нашага саюза, на які запрашаем цябе і Петрука. Хацелі выклікаць усіх, Ілью і Айзіка, але нам сказалі, што не варта спыняць выхад газеты. Дык вось, вуюнаш, сёмага з'яўляйся на галянішчах да нас. Жывём мы з Кандраткай у старых, табе вядомых, нумарах, так што адразу знойдзеш.

Учора прыехаў у Маскву адзін з нашых старыкоў — Янка. Жыве ў гасцініцы «Масква». З гэтай прычыны мы, зразумела, узялі пэўную чару і памянулі добрым словам усіх беларусаў. Шле ён прывітанне і ўсім вам.

Зайздрошчу вашым салаўям. Я тут спрабаваў выязджаць з горада бліжэй да захаду і спыняцца на начлег па-ранейшаму, мінулагодняму звычаю. Але ж такая процьма была камароў, ды і пад нагамі было такое балота, што я не вытрымаў і аднае начы і збег назад у Маскву.

Тваё паведамленне аб Віцьбічу нас не здзівіла і не ўразіла — гэта лагічнае завяршэнне пэўнага кірунку жыцця. Чорт з ім. Вы там бліжэй да яго — зламіце яму паганы карак.

Вось і ўсё. Прывітанне ўсім хлопцам, асабліва табе і напалову Петруку, бо ён усё ж такі вялікая свінка, не напісаў ніводнага слова. Вось трапіце да нас у Маскву, намну карак. (Дарэчы, па распарадку пленума ён павінен чытаць даклад аб паэзіі — перадай яму! Няхай рыхтуецца.)

Моцна цісну лапу.

*Міхась Лынькоў.*

## 28. І. Д. ГУРСКАМУ

*20 чэрвеня 1942, Масква*

Даражэнькі Іллец!

Атрымаў тваё пісьмо ад 9-га гэтага месяца, першае тваё, між іншым, пісьмо. Дзякую, што напісаў. А то паслаў я раней некалькі лістоў, а ад тваёй брыгады ні-

воднага слова. Аж узлаваў я тым часам — ну, што ж, не пішуць, і ліха з імі.

Што ў нас новага? Дванаццатага сабраліся мы выязджаць на захад, пагрузіліся на машыны і тут жа нам перадалі загад нашага гаспадара: не рыпацца нікуды, коней разнуздаць. Вечарам былі мы ў яго на прыёме і ён сказаў нам: даволі вы пабрадзяжылі, хопіць пакуль што, бярыцеся за літаратуру. Адсюль пачынаецца новы перыяд нашага жыцця. Магчыма, перайдзём у распараджэнне ЦК КП(б)Б. Аднаўляем саюз, арганізуем пры саюзе невялічкае выдавецтва. Чысла сёмага-дзесятага ліпеня праводзім наш першы пленум. На пленум запрашаем ад вас Глебку і Панчанку. Мы хацелі б усіх запрасіць, але нам сказалі, што не варта прыпыняць выхад газеты. Калі б вы змаглі наладзіць выпуск газеты без вас, загадзя падрыхтаваўшы пару нумароў, то думаю, што вы б усе змаглі б наведаць пленум.

Рад, што наладжана ў вас праца газеты, і, галоўнае, гэтая праца не ідзе ўпустую, а звязана з тымі, каму яна прысвечана. Гэта надзвычай добра. Я прасіўся тут, каб далі магчымасць наведацца роднай зямлі — той жа край мая сапраўдная радзіма, я радзіўся там,— але да пленума мне гэтай магчымасці не даюць.

Што робяць нашы хлопцы? Кандрат закончыў чарговы варыянт п'есы. Пятрусь пацее над лібрэта оперы. Максім пацее над паэмай. Вася складае розныя зборнікі для Дзетгіза. Тут жа цяпер Вольскі, заканчвае п'есу. Кузьма Чорны працуе над раманам. Адным словам, «трудятся в поте лица». Васемнаццатага прыехаў Янка. <...>. Такія вось, браце, справы.

Дагаворы з Англіяй і Амерыкай, бамбардзіроўкі Кёльна і Эсена вельмі нас усцешылі. Няхай пазнаюць нямецкія сабакі, як лёгка жывецца пад бомбамі, яны прызвычаіліся толькі кідаць бомбы, але няхай вось паспрабуюць падставіць хрыбта пад іх.

Аб сям'і ведаю столькі, сколькі і ты. Цяжка аб гэтым пісаць. Мне мой брацішка лейтэнант Мікола прыслаў Першага мая здымак майго Марыка, зазняты вясной мінулага года. Зачыніў я дзверы сваёй хаты і ўвесь дзень пускаў паціху слязу, хоць у гэтым і сорамна прызнацца. Потым напіўся да страты прытомнасці, але ўсё гэта не можа загасіць смяротнай тугі.

Цяжка. Добра, што тлее на дне душы малюсенькая прасветлінка-надзея: а можа, можа... Каб жа так выйшла!

На гэтым бывай! Прывітанне ад Кандрата.

Моцна цісну лапу.

*Міхась Лынькоў.*

20/VI 1942 г.

## 29. ЯКУБУ КОЛАСУ

*Паміж 19 і 28 чэрвеня 1942, Масква*

Даражэнькі Канстанцін Міхайлавіч!

Сабіраўся Вам напісаць крыху раней, але мы думалі мяняць адрас і пускацца зноў у мінулагоднія вандраванні па беламу свету, таму крыху і затрымаўся з лістом, каб паведаміць у ім сталы адрас. Але ж прыехаў у Маскву наш мілы гаспадар, сабраў нас, адмяніў ад'езд і сказаў нам: даволі вам быць брадзягамі на гэтым свеце, займецеся лепш больш сталай працай. Так і засталіся мы ў Маскве і нават думаем у пачатку ліпеня праводзіць пленум нашага саюза. Можа б і Вы як пераехалі б бліжэй да нас з усёй сваёй камунай? Мы тут гаварылі з начальствам аб гэтым, але ж справа застаецца ўрэшце за Вамі, за Вашай воляй.

Што новага тут у нас? 18 чэрвеня прыехаў у Маскву Янка, гасцюе цяпер у нашай гасцініцы. <...>. Гэта ўжо добра. Пакрысе злуе на Вас. А чаго, дык гэта нам не так ужо і зразумела, ды і не варта нам умешвацца ў адносіны двух дзяржаў, гэта, так сказаць, «старинный спор славян между собою».

Горава я гэтымі днямі бачыў у Маскве, ён прыехаў з Горкага. Здаецца — па чутках,— ён не будзе больш прэзідэнтам Акадэміі, нашым акадэмічным начальнікам будзе хтось другі.

Як Вам падабаюцца нашы дагаворы з Англіяй і з Амерыкай? У нас дык аж душа радуецца, асабліва з прычыны рэальнай магчымасці ўзнікнавення другога фронту. Можа, тады хутчэй разаб'ём мы крывавую сабаку і зноў убачым сваю родную Бярозу і Свіслач і

станем на родныя папялішчы. Ах, каб гэта здарылася як мага хутчэй, бо цяжка жыць, не ведаючы, калі ж урэшце прынясём свае косці на нашу беларускую зямлю. Каб Вы ведалі толькі, колькі беларусаў сумуе па сваёй радзіме. Нават тыя, якія раней не заўважалі прыгажосці свае зямлі, цяпер сумуюць па Беларусі і гатовы жыць дзе заўгодна, хоць бы ў зямлянцы ці ў шалашы, абы толькі шалясцелі над галавой нашы беларускія бярозы. Колькі такіх людзей сустракаў я на розных франтах вайны.

Крыху аб нашых літаратурных справах. Кандрат закончыў чарнавыя накіды п'есы. Пятрусь пацее над лібрэта. Я пацею над чарговымі апавяданнямі.

Прывітанне Вам ад усіх нашых хлопцаў. Шчыра зычу Мар'і Дзмітрыеўне добрай папраўкі здароўя, а таксама здароўя Вам, Данілу і Міхаську.

Абнімаю Вас і цалую.

*Міхась Лынькоў.*

P. S. Мазалькоў, відаць, паслаў на Ваш адрас мастацкія матэрыялы для зборніка, які Модэль рыхтуецца выдаць у Ташкенце. Ён тут падабраў матэрыялы ўсіх хлопцаў. Дарэчы, мы наважыліся тут арганізаваць невялічкае выдавецтва для выдання кніжак на беларускай мове.

## 30. ЭДЗІ АГНЯЦВЕТ

*21 чэрвеня 1942, Масква*

Дорогая Эди!

Получил твое послание и сборник твоих стихов на белорусском языке. Был в Москве и носил сборник к Аршаруни в Воениздат. К нашему общему и твоему огорчению, Воениздат не издает сейчас художественной литературы на белорусском языке. Да и в переводах не вышло еще ни одной книжки. Должны были появиться книжки Коласа, Бровки и еще несколько, но и они пока не вышли. Таковы издательские дела.

Что же я сделал с твоим сборником? Оставил я его пока нашему общему переводчику Мозолькову. Может быть, ему удастся организовать те или другие перево-

ды. Адрес Мозолькова: Москва, 1-й Басманный переулок, д. № 12, кв. 23, Евгений Семенович Мозольков.

В дальнейшем — возможно — наладится издание отдельных книжек при газете «Советская Белоруссия» — при ЦК КП(б)Б. Некоторых ребят из этой газеты я предупредил о твоем сборнике и его адресе.

Письмо пишу в два приема. Пока писал, положение у нас изменилось. Теперь мы опять в Москве и пробудем здесь немало. В начале июля, числа 10-го, проводим первый пленум нашего союза. Организуем на днях при своем союзе небольшое издательство, будем выпускать художественную литературу, так что и твой сборник попадет в наш план.

Горбунову говорил о твоей просьбе. Он сказал, что сделает все возможное в этом деле.

Привет всем ташкентцам. Привет от всех наших хлопцев.

Крепко жму руку.

*Міхась Лынькоў.*

21/VI 1942 г.

## 31. Л. М. ФЕДЧАНКА

*24 чэрвеня 1942, Масква*

Дорогая Лариса!

Получил твое письмо, в котором ты прислала записанную тобой песню, пропетую украинскими артистами. Вот об этой песне я могу тебе рассказать подробнее. Это — стихотворение поэта Евгения Долматовского, положенное на музыку. Этот молодой поэт пробыл несколько месяцев в плену у немцев, познакомился со всеми ужасами лагерей для военнопленных. Ему удалось бежать из плена. В первый день его прихода оттуда я встретился с ним на юго-западном фронте под одним из больших городов. Молодого парня трудно было узнать, до того исхудал он и оброс бородой. Теперь он опять в армии и опять пишет свои хорошие стихи. Когда встречусь с ним опять, расскажу, как плакали девушки, слушая песню про Днепр. Такова вот история песни, понравившейся тебе.

Сегодня впервые получил письмо от твоей мамы, пишу ей ответ.

Пиши. Каждое твое письмо напоминает мне о многих местах, с которыми у меня связана масса воспоминаний. Свержень и Рогачев — это почти четвертая часть моей жизни. Привет Николаю Ивановичу и Ядвиге Александровне.

С самыми лучшими тебе пожеланиями.

*Міхась Лынькоў.*

24/VI 1942

## 32. І. М. БАРАШКУ

*11 ліпеня 1942, Масква*

Дорогой Иларий!

Давно получил твое письмо, да не успел вовремя ответить. У нас тут случилось большое несчастье — приехал к нам на несколько дней Янка Купала, у нас же и умер. Был он у меня в комнате за три минуты до своей смерти. Было у нас много горя, много хлопот. Огрубели мы немного от этой проклятой войны, так что толком еще и не осмыслили всей глубины нашей невозвратимой потери, как-никак лишились мы старейшины нашей белорусской литературы. Уходит постепенно старая гвардия. Осенью прошлого года где-то в поезде под Уральском умер Змитрок Бядуля. Да и молодых потеряли не мало. О некоторых же нет ни слуху, ни духу. Не известно, вышел ли из фашистского пекла Мурашка, вышли ли Последович, <...>, Климкович и многие другие товарищи. Целы ли они, живы ли — не знаем. Нашлись и паскудные души: в Витебске лижет немцам ж..., очевидно, известный и тебе Витьбич. Надеемся, что партизанская пуля достойно вознаградит этого мерзавца, помогающего гитлеровским бандитам убивать наши родные семьи, наших детей.

Янку Купалу похоронили 1 июля. Числа 3-го приехала его жена Владислава Францевна. Она не успела приехать к похоронам. Пришлось много повозиться нам, утешая ее в постигшем горе.

Вот почему не успел я своевременно ответить на твое письмо.

Сейчас я со своей группой опять нахожусь в Москве. Приехали к нам погостить с Калининского фронта Глебка и Кучар. Кучар ездил в партизанский белорусский край. Был под самым Витебском, привез много интересных материалов.

Наши все хлопцы работают с полной нагрузкой, пишут новые пьесы, романы, поэмы и т. д. Думаем вернуться на родину не с пустыми руками.

Впервые, из твоего письма, узнали о твоем большом семейном горе. Что же поделаешь: будем надеяться, что, может быть, найдем мы своих родных живыми и здоровыми. Передай мой привет жене.

Приветы посылают тебе все наши ребята — Крапива, Бровка, Глебка, Кучар и Чорный.

Крепко жму твою лапу.

*Міхась Лынькоў.*

11/VII 1942 г.

г. Москва, ул. Воровского, 52, Союз советских писателей СССР, для М. Т. Лынькова.

## 33. Л. М. ФЕДЧАНКА

*11 ліпеня 1942, Масква*

Дорогая Лариса!

Получил твое письмо, писанное карандашом. Над одной из строчек твоего письма — где ты писала о «граче — птице весенней» — мы весело и искренне посмеялись целым нашим маленьким коллективом: я, Кондрат Крапива и поэт Максим Танк. До чего это чудесно звучит «грач — птица весенняя». Ты даже представить не можешь, как хорошо это у тебя написано. А Юрке я все же не завидую. Не знаю я его, не видел, не встречался, а известную долю порицания передай ему и от моего имени. Как-никак, алгебра — наука почтенная и заслуживающая всяческого уважения. Хотя, если признаться по совести, и я в известные годы относился к ней более чем скептически, а по сему случаю и терпел всяческие неприятности — в смысле соответствующих отметок в школьных журналах. Об этом ты, конечно, Юрке не говори.

А теперь вот я должен написать тебе о страшно грустных вещах, о которых ты, очевидно, знаешь уже из газет. 28 июня умер в Москве, в гостинице «Москва», наш народный поэт Янка Купала. Приехал он погостить к нам на несколько дней из Казани. Пробыл в Москве всего десять дней. Это большая, невозвратимая утрата не только для белорусской литературы и нашего народа, но и для литературы всего Советского Союза: Купала был величайшим поэтом нашего народа, представляющим целую эпоху в жизни народа и его культуры. До конца дней своих оставался он лучшим сыном своей Родины, страстно ненавидевшим фашистскую нечисть, полонившую нашу землю. Можешь представить мое личное горе, когда буквально за несколько минут до своей смерти он сидел у меня, в моем 1036-м номере на десятом этаже гостиницы «Москва». Сидел веселый, бодрый, жизнерадостный, мечтающий о родимых просторах Белоруссии. А когда вышел, мне минуты через три-четыре позвонили, что Янки Купалы нет больше в живых, он умер. Это было в одиннадцатом часу ночи 28 июня. 1 июля его тело мы предали кремации. Урну с его прахом увезем после войны в родной Минск, где будет сооружен памятник поэту. Таковы вот наши грустные новости.

Передай мой горячий привет Николаю Ивановичу и Ядвиге Александровне. И Юрке, конечно.

С искренним приветом

*Міхась Лынькоў.*

11/VII 1942

## 34. Я. І. САДОЎСКАМУ

*23 ліпеня 1942, Масква*

Дружище Садовский!

Получил твое послание. В одной своей части оно остается очень наивным. Это относительно просьбы твоей о переводе в нашу газету. Ведь она пока вообще не работает, и стоит вопрос о реорганизации всего моего «подразделения», так что мы толком еще не знаем, что же и где мы будем еще работать. Одним словом, держись пока на старой работе.

Из твоего письма я так и не узнал, известно ли тебе, что мы похоронили Янку Купалу. Как видишь, понесли очень большую и ничем невозвратимую утрату.

Спрашиваешь ты у меня о Рудько, Крысько, Аркаше и других хлопцах. Рудько в одной из газет. Мы иногда его видим. Аркаша сейчас в командировке в Москве, завтра едет назад к себе в газету. Крысько в Москве в газете «Советская Белоруссия». Бровка у меня, Глебка в газете у Гурского.

В начале августа думаем провести первый пленум нашего Белорусского союза. Вот, если хочешь, отпросись в командировку на пленум.

Новостей особых у нас нет. Все по-старому. Привет от всех хлопцев.

С товарищ[еским] приветом

*Міхась Лынькоў.*

23/VII 1942 г.

## 35. І. Д. ГУРСКАМУ

*Ліпень 1942, Масква*

Даражэнькі Ілья!

Атрымаў адразу два тваіх пісьмы — ад 8/V і ад 8/VII. Як бачыш, першае пісьмо ішло даволі-такі, мякка кажучы, павольнымі тэмпамі. Не ведаю, чаго яно доўга праблытала ў дарозе.

Што ў нас новага? Асаблівых навін нямашака. Відаць, як і вы там, так і мы пільна сочым за падзеямі на нашым поўдні. Думаю, што зламаюць там нарэшце сабе зубы праклятыя нямецкія сабакі. У нашым становішчы покуль што не чуваць ніякіх змен, праходзім усё стадыю рэарганізацыі, а што з яе выйдзе, толкам ні сам і ніхто не ведае. Думалі мы дзесятага праводзіць пленум, але з-за няшчасця з Янкам адклалі мы гэты пленум і думаем праводзіць яго чысла 1 або 3 жніўня. Ва ўсякім разе, камандыруй на пленум з пару хлопцаў, можа, і сам зможаш пад'ехаць, перадыхнуць на які тыдзень у Маскву.

Вельмі ўразілі мяне ўсякія чуткі пра Віцьбічаў і іншых сабак. Чытаў нават віцьбічаўскую прадукцыю. Чытаў і думаў, чаму мы ў свой час не прыдушы-

лі яго сваімі ўласнымі рукамі. Спрабавалі біць падлюгу, але ж білі мала, ліберальнічалі. Аказваецца яшчэ раз правільнай руская прыказка: як ваўка ні кармі, а ён усё ў лес глядзіць. Але ж на ваўка заўсёды знойдзецца калі не куля, дык звычайная дубіна. Шкада, што нічога не чуваць пра некаторых нашых хлопцаў, якія засталіся там.

Жывем мы па-ранейшаму, хто ў казарме, хто ў гасцініцы. Памалу працуем. Кандрат закончыў п'есу, Броўка закончыў першы акт свайго лібрэта. Цяпер у Маскве Уладзіслава Францаўна. Пакрысе лаемся з ёй.

Вось і ўсе нашы навіны. Аб сям'і, зразумела, не пішу, бо ні я, ні ты нічога новага тут пакуль што не скажам...

Прывітанне ўсім гвардзейцам.

Моцна цісну лапу.

*Міхась Лынькоў.*

P. S. Не забудзьце паслаць на пленум хлопцаў.

## 36. Л. М. ФЕДЧАНКА

*Канец ліпеня або пачатак жніўня 1942, Масква*

Дорогая Лариса!

Большое спасибо за письмо. Я очень рад каждому твоему милому посланию. Прочтешь его — и вспомнишь такой далекий теперь и такой все же близкий Сверженъ. Хорошее местечко — ведь ты там родилась, а мы — и папа твой и мама — были тогда значительно моложе и на жизнь смотрели несколько иными глазами, были более веселыми людьми, чем теперь. Ничего не поделаешь — годы подгоняют. Вот я тоже вспоминаю родной тебе Рогачев. В этом славном городке я прожил когда-то лет семь, от десятого до семнадцатого года моей жизни. Хороший был город, зеленый, уютный. Может быть, хороший потому, что и годы были хорошие, такие зеленые годы, как у тебя. Вот видишь, как мы — старики — любим при случае и в дешевую философию удариться.

Живу я по-старому, работаю на прежнем месте и

каждый день собираюсь со своим коллективом двинуть подальше на запад. Ведь и птицы все скоро полетят к родным местам. Мы тоже теперь уподобились птицам, перелетным пичугам. И нам еще больше, чем им, хочется поскорее быть у родимых гнезд. Беда только, что многие гнезда наши разорены проклятым врагом.

Горячий привет Николаю Ивановичу и Ядвиге Александровне. Как подвигаются вперед тракторные успехи Николая Ивановича? Сумела ли ты воздействовать на «строптивого» Юрку?

Если будешь писать тете Яне, передай ей и мой привет.

Привет полынным степям Урала и затерявшейся среди них маленькой девчурке, предпочитающей печь топить дровами, а не какими-нибудь там кизяками.

*Міхась Лынькоў.*

## 37. ЯКУБУ КОЛАСУ

*2 жніўня 1942, Масква*

Дорогой Константин Михайлович!

Уже неделя почти, как поехал к Вам наш Петрусь. Ничего нового, ничего особенного за это время у нас не случилось, живем по-старому. Единственное событие в моей жизни — из № 1036 «переехал» в № 1063; тут малость спокойнее от трамваев, да к тому же имеется душ, а это неплохо в летние дни.

Из Гослитиздата мне звонили вчера, что они подготовили Вам немного деньжат, что-то около четырех тысяч, которые они и собираются выслать Вам на днях. Из нашего фонда помощи писателям, организованного нами недавно, мы недели через три также вышлем Вам тысячи полторы.

Привет Вам от Ивана Онуфриевича, от Кузьмы, Кондрата и всех наших белорусов. Желаем Вам всего, чего желаем и себе: поскорее сломить шею проклятым немцам, до чего они нам надоели.

Привет Марье Дмитриевне, Данилу и Михаську.

Обнимаю и целую.

*Міхась Лынькоў.*

2/VIII 1942

## 38. І. Д. ГУРСКАМУ

*17 жнiўня 1942, Масква*

Дарагі Ілья!

Даўненька не атрымоўваў ад цябе пісем. Мы вось і пленум правялі. Здаецца, што і не кепска. Сабралася нас ад сілы 12 чалавек, частка хлопцаў не прыехалі — Аркаша Куляшоў, Ларчанка і др[угія]. Ларчанка, між іншым, паранены — разможжана косць галёнкі левай нагі. Ляжыць цяпер у Туле (п/я 356), сабіраецца эвакуіравацца ў глыбокі тыл.

На пленуме мы ставілі толькі творчыя пытанні — аб нашай паэзіі, прозе, драматургіі. Гвардзейцы твае — Пятро і Пімен — здаецца, не дрэнна правялі пленумскія дні. Праўда, творчым пытанням аддаваліся не так ужо задужа, але ж на дзяўчат заглядаліся даволі спрытна. Шкада, што ты не маеш часу вырвацца на які тыдзень да нас, тут трохі б аддыхаўся ад газетнай мітусні. Мы ўсе жывём па-старому, чакаем змен, перамен, рэарганізацыі і, галоўнае, ходу на захад. Ужо ўсе сучаканкі прачакалі, а родная Беларусь усё ж не дае супакою, падтачвае сэрца.

Трохі хварэў я гэты месяц, даволі цяжкавата перад пленумам, і праз гэта баяўся сарваць пленум. Дакладваў на пленуме з тэмпературай. Хвароба яшчэ не кончылася, але ідзе на паляпшэнне. Хварэў цынгой, якая дала розныя ўскладненні, дала інфекцыю ніжняй чэлюсці і пачала было ўжо распаўзацца. Ад заражэння крыві мяне выбавіў наш старэнькі прафесар Мардзон. Інакш, відаць, акачурыўся б. Цяпер акрыяў, і зноў, як кажуць, думаю пра жывое.

Пра ўсё, што засталося ў Беларусі, не кажу, каб не вярэдзіць раны ні табе, ні сабе. Будзем жыць, будзем бачыць, будзем разам несці гора, калі яно суджана нам.

Пра немцаў не кажу — абрыдлі да агіднасці, да чорт ведае чаго.

Пра другі фронт таксама нічога не кажу — сволачы.

Вось і ўсё, аб чым хацелася табе напісаць. Прывітанне тваім слаўным гвардзейцам. Нешта не досыць акуратна атрымліваю тваю газету. Перасылаю паштоўку

Алеся Кучара. Броўка цяпер у Алма-Аце, пусціў яго на месяц у водпуск. Прыслаў ён тэлеграму, што быў у Коласа.

Бывай.

Абнімаю і цалую.

Твой *Міхась*.

17/VIII 1942 г.

## 39. Л. М. ФЕДЧАНКА

*20 жніўня 1942, Масква*

Дорогая Лариса!

Получил твои письма от 21/VII и 4/VIII. Большое за них спасибо. Поздравляю тебя, хотя и поздно, с такой славной годовщиной, как девятнадцать лет со дня рождения. Ты становишься уж такой «страшной старухой», что мне просто совестно делается писать тебе на «ты», как той прежней маленькой девчушке, которую видел я в Рогачеве, потом в Минске, а раньше всего в Свержени. Ну, в Свержени ты и девчушкой не была, а просто днепровским писклявым комариком. Так-то идут годы, идут и убегают, а нам, старикам, за ними уже и не угнаться. Одной мечтой и живем — как-нибудь затащить свои кости на родимую землю...

В связи с твоей годовщиной шлю тебе сердечное пожелание: расти, цвести, радовать всех и в первую очередь своих милых стариков. Стариками их называю нарочно: пусть осерчают. Это я за то, что не удосужатся хоть бы одним посланием побаловать московского жителя.

О чем тебе еще написать? Вот был у меня вчера замечательный гость из родной Белоруссии, сам Бацька Мінай — гроза всем немецким бандитам. Долго мы с ним беседовали. Им истреблены десятки тысяч немцев <...>. Прекрасный это человек, подлинный народный герой, герой-мститель. Прочитал я ему стихотворение Аркадия Кулешова «Баллада о четырех заложниках». Это о детях Миная. Читал я, а суровый человек, спрятав лицо в платок, глухо покашливал и плакал. Я не видел еще в мире таких суровых и мужественных слез. Не буду греха таить — плакал я вместе с ним, о

загубленных его детях, о моей семье. У меня нет лишней вырезки из газеты. Вместе с письмом посылаю тебе несколько вырезок из газет с отдельными стихотворениями.

Привет Николаю Ивановичу и Ядвиге Александровне.

С дружеским приветом

*Міхась Лынькоў.*

20/VIII 1942

## БАЛЛАДА О ЧЕТЫРЕХ ЗАЛОЖНИКАХ

От большой дороги в сторонке
Их ведут четырех из дому.
Лет четырнадцать старшей девчонке,
Третий год пареньку меньшому.
Вместе с ними в подвал холодный
Гонят тетку, сестру Миная.
А Минай — это батька их родный,
Батька родный,
Мститель народный.

Пишут немцы о нем в газетах,
О его отряде,
Бригаде,
И приказы в былых сельсоветах
Порасклеили, страха ради.

Со столбов, со стен на светлицах
Угрожают Минаю напасти:
Должен он покориться,
Явиться,
Сдаться в руки немецкой власти.
И висят те приказы всюду —
На Минаевой хате и клети:
Коль не сдастся — расстреляны будут
На рассвете заложники дети.

И в подвале дети Миная
Ожидают смертного часа.
С ними вместе — тетка родная,—
Скорбной лаской глаза лучатся.

Мальчик спрашивает у тетки,
Все он хочет узнать, проверить:
Почему на окнах решетки?
Почему часовые у двери?

Скоро ль батька придет за ними?
— Скоро,— тетка в ответ ему,— скоро...

Поведет нас полями родными,
Поведет на волю
По полю...

Что же нет его, ночь коротка,
Часовые у двери стучатся.
— Спи, усни,— утешает тетка
В ожиданьи смертного часа.

А когда задремал он, детям
Тетка правду сказала — не скрыла.
Лишь малыш не узнал, что с рассветом
Ожидает их всех могила.

— Вы смотрите, ему не скажите,—
Наставляет детей Миная...
Снится мальчику тропка в жите,
Тропка к дому,
К селу родному.

Ночь проходит,
Солнце восходит,
Жаворонки запели в поле.
Вот солдаты
Ведут куда-то,
Мальчик рад и солнцу, и воле.

У глухой стены остановка.
Взял на мушку солдат ребенка.
Выстрел.
Сникла льняная головка,
И прижалась к груди ручонка.

Вновь солдат пистолет поднимает,
На стене заложников тени.
Вот и все.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Перед Батькой Минаем
Встаньте все отцы на колени.
Не явился,
Не покорился,
Не повел он детей из плена
На свободу.
Немцам в угоду.

Поседел,— говорят о нем люди,
Сыновья партизанского края.
Долго мстить палачам мы будем
За убитых детей Миная.

Наши танки вытиснут дату
На немецких спинах и касках,

Наши сабли допишут балладу
Про убитых детей партизанских.

*АРКАДИЙ КУЛЕШОВ*

Напечат[ано] в «Известиях» от 2/VII 42 г.

## 40. Я. І. САДОЎСКАМУ

*3 верасня 1942, Масква*

Дорогой Ефим!

Дошли до нас слухи, что ты ранен на фронте. Подробностей мы не знаем. Напиши обо всем, как и где случилось все это, в каком сейчас положении, каково твое состояние и т. д. Пленум мы провели в прошлом месяце. Прошел он неплохо, хотя людей у нас собралось немного. Тебя приглашал — ты, оказывается, ранен. Приглашал Ларченко, он тоже ранен тяжело в ногу. Таковы вот наши новости. А в остальном все идет по-старому, ребята работают, пописывают. Шлют тебе все хлопцы самые лучшие пожелания, а самое главное — хорошего здоровья и скорой поправки.

С искрен[ним] приветом

*Міхась Лынькоў.*

## 41. А. А. КУЛЯШОВУ

*8 верасня 1942, Масква*

Даражэнькі Аркаша!

Атрымаў тваю паштоўку. Гаварыў аб тваім лёсе і Цімохам Сазонавічам. Ён абяцаў мне ўсё зрабіць, што трэба. Буду надакучаць яму яшчэ. Пагавару і з другімі.

Перасылаю табе ліст, пасланы табе ў Ташкент. Адтуль гэты ліст пераслаў мне Якуб Колас з прывітаннем табе і з просьбай перадаць гэты ліст, што я зараз жа і раблю.

Мы жывём пакуль што па-старому, гэта значыць без усякага руху. Жывём ды й годзе. Хлопцы, як звычайна, працуюць. З нашых хлопцаў паранены Ларчанка і Садоўскі. Апошні знаходзіцца зараз у шпіталі ў

Горкім. Дзе Ларчанка — сувязь з ім крыху спынілася, відаць, з Тулы перавезлі хлопца куды-небудзь далей.

Прывітанне ад усёй нашай братвы.

Абнімаю і цалую.

Твой *Міхась Лынькоў.*

8/IX 1942 г.

## 42. Л. М. ФЕДЧАНКА

*9 верасня 1942, Масква*

Москва 9/IX 1942 г.

Дорогая Лариса!

Получил твое письмо — спасибо. Посылаю вместе с письмом парочку белорусских газет, пускай белорусы почитывают. Рад, что ты устроилась в институт. Думаю, что после войны всегда сможешь отдать должное своим инженерным киноувлечениям или склонностям. Это всегда успеется. Сейчас самое важное — учиться.

Сочувствую всем вам в связи с чкаловскими ранними заморозками. У нас в Москве стоит еще прекрасная, по-настоящему белорусская осень. Подлинное бабье лето, с ласковым солнцем, с блуждающей паутиной. На паутинку-то мы посматриваем, а пуговицы к зимним гимнастеркам пришиваем покрепче — не помешает.

Привет Николаю Ивановичу и Ядвиге Александровне.

С дружеским приветом

*Міхась Лынькоў.*

## 43. ЯКУБУ КОЛАСУ

*10 верасня 1942, Масква*

Даражэнькі Канстанцін Міхайлавіч!

Учора атрымаў Ваш ліст з дадаткам Кузьме Чорнаму. Пісульку Кузьме я аддаў. У нас усё па-старому. Вялікага ліста не пішу, бо ведаю, што Вас выклікаюць

да нас для ўдзелу ў другім мітынгу і, такім чынам, мы спадзяемся ў хуткім часе з Вамі сустрэцца.

Прывітанне Мар'і Дзмітрыеўне, Данілу і Міхасіку.

Моцна абнімаю Вас і цалую.

*Міхась Лынькоў.*

10/IX 1942

## 44. І. Д. ГУРСКАМУ

*10 верасня 1942, Масква*

10/IX 1942, Масква

Даражэнькі Ілья!

Атрымаў я тваё пасланіе ад 27/VIII і шчыра за яго дзякую. Мы тут седзімо, ды ўрэшце і надакучыла нам гэта, як ліха ведае што. Насіліся мы тут з аднымі планамі, але яны пакуль што не вышлі і мы жывем цяпер у ролі «рэзерву». Дарэчы, такі жа ўдзел пагражаў і табе і ўсёй тваёй гвардыі, але вышэйшае начальства рашыла не кансерваваць газету, якая непасрэдна звязана цяпер са сваім чытачом.

Спадзяюся, што магчыма ў бліжэйшыя дні скрануся і я з аседлага месца і куды-небудзь пасуну бліжэй да родных мясцін. Апрыкрыла ўсё, надакучыла да чорцікаў. Проста дзіву даешся, як мае лейб-уланы адвыклі ўжо ад паходнага жыцця. Што ж яны будуць рабіць, калі прыйдзецца ізноў, як у добрыя старыя часы, бадзяжыць па беламу свету ў мокрыя восеньскія дні па дарогах, падобных да касторных.

У канцы верасня павінен быць праведзены другі наш беларускі мітынг. Паслана запрашэнне Якубу Коласу, так што магчыма ў хуткім часе ўбачым яго сярод нас. Броўка яшчэ не прыехаў з Алма-Аты, відаць, знаходзіцца цяпер у дарозе, бо павінен быў выехаць адтуль 7 верасня.

Аб сямейных справах, пане браце, як і ў цябе,— нічога не чуваць. Гэтымі днямі атрымаў чарговую паштоўку з Цэнтральнага справачнага бюро з звычайным штампам «в списках эвакуированных не состоят». Як ні круці мазгамі, але відаць па ўсяму, што сапраўды «не состоят» і разам з табой баюся, што не будуць «состоять»

і ў далейшым. Што ж мы будзем рабіць з табой — не ведаю... Калі і жывы нашы сыны, дык без нас яны павырастаюць, гэта ж не жарты: хутка будзе паўтара года, як мы не бачым і нічога аб іх не чуем. Але як бы добра было, каб яны раслі ўсё ж хоць бы і без нас. Аб другім думаць не хочацца. Кажуць — час залечвае ўсе раны. Нашых ран час не загойвае і наўрад ці загоіць.

Дык вось якія, пане браце, справы. Але гэта не значыць, што я канчаткова здаўся, канчаткова павесіў нос на квінту. Такой каманды не было. Паміраць сабірайся, а жыта сей — такая прыказка нашага народа. А раз так, дык трымайся, Саўка, як кажуць у другой прыказцы. Дык будзем жа трымацца.

Прывітанне табе ад маіх лейб-уланаў. Прывітанне і добрыя таварыскія абнімкі ўсёй тваёй гвардыі.

Цалую.

Твой *Міхась.*

P. S. Пасылаю здымкі пленумскія для Піменкі і Петруся.

## 45. ЭДЗІ АГНЯЦВЕТ

*10 верасня 1942, Масква*

Дарагая Эдзі!

Атрымаў тваё пасланіе. Аказваецца, у далёкім Ташкенце ты робіш спробы зрабіцца цыркавой актрысай па зацяжных прыжках з трамвая без парашута. Не раю паўтараць гэтыя рызыкоўныя практыкаванні, тым больш што ніякага вопыту ў цябе ў даўнейшыя мінскія часы ў гэтай галіне спорту не назіралася.

Мы тут жывём па-старэйшаму, усё «в той же позиции». Магчыма, што ў бліжэйшым часе як-небудзь скранемся з месца, бо, прызнацца, наскучыла ўжо нам быць у разрадзе аседлых плямён. Другая справа — мінулы год, калі аб'ездзілі мы паўсвета, ледзь ногі свае прыцягнуўшы да Масквы. Адным словам, можа хутка зноў пусцімся ў вандраванне ў нязведаныя далі.

Выдавецтва яшчэ да гэтага часу не арганізавана, так што нашы «многатомныя труды» покуль што ля-

жаць без руху. Саюз мы арганізавалі, нават маем штатную адзінку аргсакратара і гэтую слаўную пасаду паважна нясе наш гвардзеец Вася Барысенка. Трэба аддаць яму, аднак, справядлівасць — лянуецца ён на гэтай высокай пасадзе яшчэ больш чым па-гвардзейску.

Пленум мы правялі важнецкі. Насцягваў я з вялікімі трудамі каля дванаццаці чалавек, ну, і засядалі дні два. Актыўнасць была стопрацэнтная, выказаліся ў спрэчках усе да адзінага, так што трэба было шукаць аратараў яшчэ збоку. Адным словам, усё было ў парадку. Адно, чым розніўся наш пленум ад мінскіх, гэта хіба тое, што некаторыя дэлегаты не змаглі патрапіць на пленум па прычынах, якія ў Мінску не назіраліся. Так, Садоўскі і Ларчанка, якія былі на розных участках франтоў, заместа пленума трапілі ў госпіталі як цяжка параненыя.

Дык вось, як мы тут жывём: працуем, часам сумуем, але вешаць насы каманда ў нас не падавалася. Думаю, што і ў далейшым насы будуць на месцы, а мо падымуцца яшчэ і вышэй.

На гэтым заканчваю сваё пасланіе. Наконт беларускіх газет скажу, каб высылалі. Прывітанне Вітаўтаву, Модэлю, Кацовічу і ўсім беларускім каланістам.

Прывітанне ад нашых гвардзейцаў.

Моцна пацiскаю руку.

*Міхась Лынькоў.*

10/IX 1942 г.

## 46. Д. М. КАВАЛЁВУ

*30 верасня 1942, Масква*

Дарагі тав[арыш] Кавалёў!

Атрымаў я праз тав[арыша] Гільярдзі Ваша пісьмо, за якое шчыра дзякую. Я таксама рад кожнаму пісьму, як і Вы. Праўда, я атрымліваю багата пісем, але не атрымліваю тых, якіх безнадзейна чакаю з самага пачатку вайны, гэта пісем ад свае сям'і, ад жонкі, ад свайго малога сына. Сям'я мая ў фашысцкім палоне, не ведаю, ці жывы яны, ці здаровы. Тое ж самае з сям'ёй Ільі Гурскага.

З першага дня вайны я ў арміі. Быў на некалькіх франтах. У гэтым годзе разам з некаторымі нашымі хлопцамі — Крапівой, Броўкам, Стаховічам і Барысенкам — жывём часова ў Маскве ў рэзервным, так сказаць, становішчы. Чакаем ходу на захад. Я з'яўляюся рэдактарам адной франтавой газеты для беларусаў. У гэтым годзе газету мы часова не выдаем. Праўда, з маёй групы выдзелілася частка таварышаў: Гурскі, Глебка, Панчанка і Кучар. Яны працуюць на Калінінскім фронце, выдаюць газету «За свабодную Беларусь» (іх адрас: ППС 1485, рэд[акцыя] газ[еты] «За сваб[одную] Бел[арусь]»).

У Маскве жывуць яшчэ Кузьма Чорны, Максім Танк, Машара і Астрэйка. Некаторыя хлопцы нядаўна паранены на франтах — Садоўскі, Ларчанка <...>. Якуб Колас, Эдзі Агняцвет і Модэль жывуць у Ташкенце (ім можна пісаць у адрас узбекскага Саюза пісьменнікаў на гор[ад] Ташкент). У Алма-Аце жыве Маўр. А ўсе іншыя хлопцы на розных франтах. Бядуля Змітрок памёр у мінулым годзе па дарозе ў гор[ад] Уральск, дзе і пахаваны. Аб некаторых хлопцах з самага пачатку вайны нічога не чуваць і мы не ведаем, жывы яны ці загінулі ў фашысцкім палоне (Клімковіч, Мурашка, Паслядовіч <...> Пестрак і другія).

Знайшоўся ў нас і адзін здраднік-іуда. Гэта паганы шчанюк Віцьбіч, які вылізвае зады немцам і піша на нас усякую пахабную непатрэбшчыну. Думаю, што доўга пісаць яму не прыйдзецца, нашы слаўныя партызаны супакояць гэтую сволач.

Такія вось нашы справы. Як бачыце, беларуская літаратура панесла цяжкія страты. Няма Янкі Купалы, няма Бядулі, няма багата каго з маладых.

Думаем і спадзяемся мы, што прыйдзе грозны час бязлітаснай і канчатковай расправы з праклятай фашысцкай сволаччу. Поўнай мерай варожай крыві расплацімся мы з фашыстамі за ўсё гора, за ўсе няшчасці, за ўсе слёзы і кроў, пралітыя нашым народам у фашысцкай няволі. Вораг не ўбяжыць ад расплаты.

З гарачым прывітаннем

*Міхась Лынькоў.*

30/IX 1942 г.

## 47. ЯКУБУ КОЛАСУ

*9 кастрычніка 1942, Масква*

Дарагі Канстанцін Міхайлавіч!

Атрымаў аж тры Вашы лісты: два па пошце і адзін праз Уралаву. За ўсе гэтыя пасланія шчыра дзякую. А я крыху ўжо завінаваціўся перад Вамі: пасля паштоўкі не пісаў лістоў, усё спадзяваўся сустрэць у маім 1063-м нумары самаго старэйшыну сінедрыёна нашага паважанага і любага бацьку Якуба. Выязджаў я тут колькі разоў на захад, а калі прыехаў да мітынгу, дык аказалася, што мае чаканкі на Вас дарэмныя, і мы крыху, а мо і больш, чым крыху, расчараваліся з гэтае прычыны. А пасля мітынгу дзён з дзесяць зусім не мог пісаць аніякіх лістоў і вось з якой прычыны. Прыляцелі да нас на мітынг нашы слаўныя лясныя сокалы і адзін з іх — Герой Савецкага Саюза тав[арыш] Казлоў Васіль Іванавіч — перадаў мне такую вестку: «Жыва твая сям'я, не сумуй, мы пастараемся як-небудзь даставіць яе табе». Можаце сабе ўявіць, чым я цяпер жыву і чым дыхаю. Хаджу літаральна як вар'ят, страціўшы ўсякі розум ад радасці. І разам з тым апанаваў мяне страшэнны непакой: сям'я жыве ў акружэнні ворагаў, у пастаяннай небяспецы за жыццё, бо, як сказалі мне, яна хаваецца, відаць, пад чужымі прозвішчамі. У вёсцы, у якой яна жыве, стаіць фашысцкі гарнізон. Частыя вобыскі, арышты, рэпрэсіі і г. д. і да т. п. Гэта раз. Па-другое, калі я падумаю, чым жа яны жывуць там і як жывуць, дык мае сівыя валасы гатовы пазелянець ад тугі і адчаю. Па-трэцяе, каб выбавіць іх адтуль, з таго пекла, патрэбна даволі складаная аперацыя. Па-чацвёртае, яны ж, відаць, там голыя і босыя, а ўжо восень позняя. Вось як набярэцца гэтых «папершае» ды «па-шостае», дык проста месца сабе не знаходзіш, нягледзячы на ўсю маю спакойнасць і ўраўнаважанасць... А ўсё ж самае галоўнае — яны жывыя. І калі мне ўдасца ў бліжэйшыя часы на свае ўласныя вочы ўбачыць сваю сям'ю, дык я не ведаю, ці знойдзецца тады чалавек, шчаслівейшы ад мяне на свеце. Вось і хаджу ў нейкім тумане, ніяк не дабяру да парадку думкі. Часам закрадзецца чорнае сумненне, а што, калі гэта ўсё няпраўда? Мяне ж ужо два разы дзіка падводзілі. Але ж тут маю справу з надзейнымі людзь-

мі, з мужнымі людзьмі, з людзьмі, якія не ведаюць слова «цяжкасці», не прызнаюць ніякіх перашкод і не ў іх звычаях займацца хлуснёй. Асаблівых падрабязнасцей яны мне не перадавалі. Сказалі толькі, што сям'я жыва і што партызаны заўсёды акажуць патрэбную дапамогу, калі будзе якая небяспека. Назвалі і вёску, дзе знаходзіцца сям'я. Тую вёску я ведаю — гэта кіламетраў з сотню ад нашага Мінска.

Такія вось справы, Канстанцін Міхайлавіч. Жыву, спадзяюся на сваю долю, а можа не падвядзе.

Асабістымі справамі так і заняў вось цэлага ліста. Хлопцы нашы жывуць па-старому, працуюць, пацеюць. Калектыў наш яшчэ паменшыўся: Барысенку адазвалі ад нас разам з Латышавым і яшчэ адным хлопцам у палітупраўленне фронту. Мы ўсё чакаем змен, рэарганізацый.

Іван Напрэевіч цяпер не ў Маскве, ён падаўся бліжэй да Беларусі. Ул[адзіслава] Фр[анцаўна] прыязджала гэтымі днямі ў Маскву, цяпер паехала за рэчамі ў Казань, думае адтуль перабрацца сюды.

Вашу тэлеграму аб дапамозе Модэлю не змаглі яшчэ выпаўніць, бо пакуль што не маем грошай. Як толькі будуць, зараз жа падашлём сякую-такую толіку.

Абодва Вашы вершы пусціў у ход у тры інстанцыі: «Разд[авім] фаш[ысцкую] гадзіну», радыё і «Сав[ецкую] Беларусь». Вось і ўсе нашы навіны. Толькі што прыехаў дзён на дзесяць Іван Напрэіч, шле Вам прывітанне. Вітаюць Вас Сазоныч і ўсе нашы хлопцы.

Прывітанне Мар'і Дзмітрыеўне, Данілу і Міхаську.

Абнімаю Вас і цалую.

*Міхась Лынькоў.*

9/X 1942 г.

## 48. Я. І. САДОЎСКАМУ

*10 кастрычніка 1942, Масква*

Дорогой Ефим!

Получил твое второе письмо с заметкой «Дед отомстил». Эту вещь и «В плену у смерти» передал сегодня «Савецкай Беларусі». У нас особых новостей нет. Борисенко, Латышева и Фейгинзона, как находившихся вне

штата редакции, на днях откомандировали от меня в распоряжение политуправления. Осталось в моем коллективе всего пять человек вместе со мной. В общем, помаленьку сокращаемся.

Не знаю, где теперь Ларченко. Как получил от него открытку из Тулы, так с тех пор ничего о нем и не слышу. <...>

27-го у нас был второй белорусский антифашистский митинг. Были на нем и представители наших белорусских славных партизан и партизанок. Боевые ребята! Не дают они немцам покоя ни днем, ни ночью, дают ему и в хвост и в гриву.

Ну, что же тебе пожелать? Поскорее выздороветь основательно и снова браться за работу. <...>

Привет от всех ребят.

С дружеским приветом

*Міхась Лынькоў.*

10/X 1942 г.

## 49. ЯКУБУ КОЛАСУ

*21 кастрычніка 1942, Масква*

Дарагі Канстанцін Міхайлавіч!

Перш за ўсё вітаю Вас з слаўнай гадавінай і жадаю багата, багата: жыцця, здароўя, нянавісці і любві. А яшчэ жадаю: каб у будучым годзе сустрэцца нам на нашай роднай зямлі, на родных папялішчах, каб зноў заснаваць нашы красёнцы, каб зноў жыць разам з нашым любым народам.

Як хацелася мне быць з Вамі разам у гэтыя дні. І вось не змог. Як бацька, Вы зразумееце мяне: з часу на час усё чакаю прылёту сваёй сям'і і ўсё не магу прычакацца. Я пісаў Вам аб маіх сямейных справах у маім апошнім пісьме. І вось усё чакаю і чакаю маіх палоннікаў. Ці прычакаю толькі... Заўчора мы дачуліся аб лёсе некаторых другіх нашых сямей. Ёсць чуткі аб сям'і Ільі Гурскага, аб сям'і Любана. Жонка Клімковіча спадзяецца, што Клімковіч тут, у нас. А яго ж нямашака... Крывавы лёс спасцігнуў сям'ю Гурскага з акадэміі. Аб усім Вам падрабязна раскажа Кандрат.

Яшчэ раз жадаю Вам у шчасці і ў радасці сустрэць

свае новыя леты на радасць нам, на славу нашай Радзімы, на славу нашага народа.

Перадайце гарачае прывітанне Мар'і Дзмітрыеўне, Данілу і Міхаську.

Моцна абнімаю Вас і цалую.

*Міхась Лынькоў.*

21/X 1942 г.

## 50. І. Д. ГУРСКАМУ

*24 кастрычніка 1942, Масква*

24/X 1942

Даражэнькі Ілья!

У маіх руках апынулася сёння пісьмо, адрасаванае не мне. Пісьмо з радзімы. У гэтым пісьме ёсць такі, літаральна, радок: «Семья Гурского (драматурга) в деревне, ее видели в Минске».

Вось аб гэтым радку і спяшаюся паведаміць цябе. Дай божа, каб хаця гэты радок — гэтая першая вестка аб сям'і — давёў бы цябе да любай сям'і, да жонкі, да сына. Гэта першая вестка. Спадзяюся, што можа ўдасца атрымаць больш дакладныя і больш падрабязныя весткі. У пісьме напішу больш падрабязна. Выпраўляем сёння Кандрата ў Ташкент на юбілей Коласа (3/XI 42). Па ўсяму відаць, што хутка нашы рэдакцыйныя калектывы ізноў сальюцца ў адно. Пакуль бывай.

Абнімаю і цалую — *Міхась.*

P. S. Прывітанне ўсім гвардзейцам.

## 51. І. Д. ГУРСКАМУ

*27 кастрычніка 1942, Масква*

27/X 1942 г.

Даражэнькі Ілья!

На днях я паслаў табе паштоўку, дзе пісаў аб некаторых важных для цябе навінах. Справа ідзе пра пісьмо з нашага краю, прысланае Асяй Пруслінай — Глеб-

ка яе ведае, бо яна называе яго сваім вучнем. Дык вось гэта пісьмо і адрасавана на імя Любана і Глебкі. Асноўная просьба — каб пісалі партызанскія песні. У гэтым лісце і паведамляецца, што сям'я Любана жыве ў самым горадзе. Аб Петруковай сям'і сказана так: «Пятро! Бачыла тваю жонку (таксама, калі памятаеш, мая вучаніца), здарова і сумуе па табе». Аб тваёй сям'і: «Сям'я Гурскага (драматурга) ў вёсцы, яе бачылі ў Мінску». Ёсць пару слоў аб Клімковічысе: «Абодва перадайце Клімковічу, што яго жонку я сустрэла на вуліцы». Значыцца, Клімковіча няма і там... У пісьме ёсць яшчэ некалькі слоў аб сям'і Гурскага-мовазнаўцы з акадэміі — яго жонка загінула. Ёсць яшчэ весткі ў пісьме аб гібелі Сітормана, Дворжаца, Чарняка, Іргера, Пескіна, нашай мілай любіміцы старухі Гурэвіч і інш. Такія вось, пане-браце, справы. Кузьма Чорны казаў мне, што ён таксама пісаў табе аб гэтым пісьме. Як бы там ні было, але ж першую вестку аб сям'і ты маеш. Дай божа, каб мы зноў убачылі свае сем'і ды разам бы адсвяткавалі і нашу перамогу і нашу сустрэчу з роднымі. Бывай.

Абнімаю і цалую. Твой *Міхась.*

P. S. Прывітанне ўсім гвардзейцам.

## 52. А. А. КУЛЯШОВУ

*3 лістапада 1942, Масква*

3/XI 1942 г.

Даражэнькі Аркадзь ці «непакойны вуюнаш», як ты кажаш!

Выбач, што да гэтага часу не адгукаўся на твае пасланія. Рабіў гэта знарок, бо ўсё чакаў вынікаў твае справы. Цяпер гэтая справа ўрэшце вырашана, і ты хутка будзеш у Маскве. У Маскве будзе і калектыў Гурскага, так што наша пісьменніцкая «падраздзяленія» адразу падвоіцца. Такія вось, пане-браце, справы. Числа 20-га была ў нас нарада ў тав[арыша] Панамарэнкі, і тады ж гаспадар рашуча загадаў выцарапаць цябе адтуль пабліжэй да свайго крыла. А цяпер, наколькі мне вядома, ёсць на гэта і адпаведны загад. Та-

му вось і пішу табе зараз. Наконт паэмы не турбуйся: абы вышла б яна ў цябе добрай, то месца ёй заўсёды знойдзецца.

Аб чым табе яшчэ напісаць? Ёсць некаторыя цьмяныя чуткі аб маёй сям'і і сям'і Ільі Гурскага. Чуткі такога зместу, што яны быццам бы — нашы сем'і — яшчэ існуюць на гэтым свеце. Адным словам, я знаходжуся цяпер нібы на сёмым небе. Але ж страшэнна баюся ўпасці з гэтага неба...

Прывітанне ад усіх хлопцаў.

Твой *Міхась Лынькоў*.

P. S. Кандрат паехаў у Ташкент вітаць Якуба з шасцідзесяцігоддзем.

## 53. Я. І. САДОЎСКАМУ

*4 лістапада 1942, Масква*

Дорогой Ефим!

Письмо твое получил, вот только малость запоздал с ответом на него. Следы моей семьи действительно нашлись, но пока только следы. Конечно, надеюсь какнибудь добиться чего-нибудь более существенного, чтобы по следам найти и самую семью.

Пишешь ты мне о Горьком и Белоруссии. Статью Адама Богдановича о Горьком я читал еще до войны. Была издана о Горьком книга с воспоминаниями об Алексее Максимовиче Горьком. Эта книга имелась в моей минской библиотеке, так что факты, о которых ты сообщаешь, уже были известны нашей белорусской общественности.

Группа Гурского вскоре приезжает к нам, опять сливаемся в один коллектив. <...>. Привет от всей нашей братии. Поздравляю с наступающей годовщиной Октября и желаю скорого выздоровления.

С дружеским приветом

*Міхась Лынькоў*.

4/XI 1942

## 54. ЯКУБУ КОЛАСУ

*17 лістапада 1942, Масква*

Даражэнькі Канстанцін Міхайлавіч!

Атрымаў Вашу паштоўку, пісаную яшчэ 27/X 42, гэта значыць, яшчэ да Вашага юбілею. А хацелася б ужо ад Вас саміх даведацца, як прайшоў юбілей, ці здаволены Вы ім і г. д. і г. д. Заўчора я бачыў Наталевіча, ён мне трохі расказваў, як правёў у Вас час, як прайшло святкаванне, расказаў аб некаторых арганізацыйных няўвязках падрыхтоўчага часу і ўсё такое іншае. Мы, грэшным чынам, тут таксама не зявалі і ў дзень Вашае гадавіны саматугам узялі ў губу сяго-таго за Ваша здароўе. Я ўжо шкадую цяпер і каюся, што не паспеў да Вас на юбілей. Сям'і я так і не дачакаўся і да гэтага часу, а што тычыцца службовых спраў, дык яны плылі б добрым ладам і без мяне. Аб сям'і чуткі нешта заглохлі. То не лётнае надвор'е, то «відаць, не звязаліся», то «магчыма, яна перабралася на другое месца». Адным словам, сяджу пакуль што і гадаю. Добра было б, каб выгадалася што людскае.

Чакаем цяпер прыезду нашай калінінскай групы. Ізноў злучаем свае баявыя калектывы да купы. Пры гэтым частка хлопцаў, у тым ліку я, Кандрат, Пятрусь і Пятро, і Ілья, на некаторы час трапляем у лік цывільных асоб, гэта значыцца, у запас. Будзем працаваць у новай, ці правільней — пашыранай некалькі газеце «Савецкая Беларусь». Арганізуецца таксама — цяпер ужо напэўна — наша Дзяржаўнае беларускае выдавецтва. Гэта будзе някепска. Цімох Сазонавіч паказваў мне Вашу паэму, абяцаў даць пазнаёміцца.

Вот і ўсе, прыблізна, нашы навіны. Думаем убачыць Вас тут, у нас, чысла дваццатага снежня — мяркуецца мітынг беларускай інтэлігенцыі.

Гарачае Вам прывітанне ад усёй нашай капэлі. Прывітанне Мар'і Дзмітрыеўне, Данілу і Міхаську.

Абнімаю і цалую.

*Міхась Лынькоў.*

17/XI 1942

## 55. КАНДРАТУ КРАПІВЕ

*22 лістапада 1942, Масква*

Даражэнькі Кандрат!

Як ты там адпачываеш сярод сваіх чадаў і дамачадцаў? З газет ведаў, што ты рабіў даклад аб Коласе. Уяўляю, колькі перуноў і маланак сыпалася ад цябе па адрасу маёй грэшнай персоны. Ну, але гэта справа ўжо мінулая.

Што новага ў нас? На сённяшні дзень мы з табой зусім цывільныя людзі, ты не маёр, я не старбат. Мы цяпер дэмабілізаваны, перададзены ў запас. У такім жа стане Пятрусь, Пятро і Ілья. Астатнія хлопцы — Стаховіч, Панчанка, Кучар, Пінхасік і Рабіновіч — павінны гэтымі днямі атрымоўваць новыя назначэнні на газетныя пасады ў арміі. Учора прыязджалі нашы калінінцы. Вынікамі ліквідацыі нашых газет, зразумела, не задаволены. З гэтае прычыны ўзялі па добраму каліву ў губу. Пятрусь — па стараму «добраму» звычаю — учыніў рашучы дэмарш супраць грэшнага старшыні, якога ўсё яшчэ не скідаюць, і г. д. і да г. п. Адным словам, настрой — пасмурны. А тут яшчэ сягоння гасцініца прад'явіла зусім ужо нечаканы ультыматум — ачысціць заўтра «памяшканію». Сядзяць мальцы «яко на рэках вавілонскіх» і патрохі клянуць бога, стварыўшага на свет божы такія храміны, як гасцініцы.

Пятрусь атрымаў прызначэнне на пасаду загадчыка літаратурным аддзелам Тэатра оперы і балета. Думае перабірацца туды і перацягваць туды і сям'ю. Ілья і Пятро будуць працаваць, відаць, у «Савецкай Беларусі». Справа аб тваёй працы яшчэ не вырашана. Гарбуноў гаварыў аб выдавецкай працы (скажам, галоўным рэдактарам), але канчаткова справа вырашыцца пасля твайго прыезду.

У сямейных маіх справах покуль што ніякіх змен — ніякіх новых чутак аб сям'і нямашака.

У мінулы выхадны дзень (15/XI) заходзіў да мяне Барыс. Казаў, што яго часць нібы сабіраецца адпраўляцца на Ленінградскі фронт. Сім-тым пачаставаў я яго, даў у губу, на дарогу даў хлеба, масла, селядцоў, трошкі папярос, цукру (курава мы не паспелі атрымаць за другую дзесяцідзёнку, бо там, дзе атрымоў-

валі, праявілі даволі паспешную асвядомленасць аб нашай ліквідацыі).

Прыехаў у камандзіроўку Аркаша Куляшоў. Прывёз добрую паэму, «Известия» мяркуюць надрукаваць яе. Заўтра Аркаша ідзе да Баёва. Магчыма, што хлопца пакінуць на працу ў Маскве.

Вася Барысенка сядзіць таксама ў Маскве, у рэзерве. Ёсць такія-сякія перспектывы вызваліць і яго. ЦК думае паслаць яго ў Ташкент на працу ў Акадэмію навук на яго былую пасаду.

Ну вось, прыблізна і ўсе нашы навіны. Прывітанне ад усіх нашых хлопцаў — армейцаў і неармейцаў.

Прывітанне Алене Канстанцінаўне і чадам.

Жадаю ўсяго найлепшага.

Моцна цісну лапу.

Твой *Міхась Лынькоў.*

22/XI 1942 г.
Масква

P. S. Зарплаты па рэдакцыі мы ўжо не атрымліваем, бо ліквідаваны з 28/X 42 г. Нашу зарплату па акадэміі адміністрацыя ўмудрылася паслаць у Ташкент. Адным словам, зарплаты не высылаю. З Наркамфіна пасылаем тваёй сям'і тысячу рубл[ёў] як адзінаразовую дапамогу.

*Міхась Лынькоў.*

## 56. ЯКУБУ КОЛАСУ

*28 лістапада 1942, Масква*

Даражэнькі Канстанцін Міхайлавіч!

Атрымаў Ваш ліст ад 10/XI і кніжкі «Избранные стихотворения» і «Голос земли». Кніжкі раздам. Івану Напрэічу ўжо аддаў. Бедавалі мы з ім, што Вы не паведамілі нам нумар акуляраў, мы ж бы тут дасталі гэтую прыладу і пераслалі б Вам папутным чалавекам.

Што новага ў нас? З'ехаліся нашы хлопцы з усіх канцоў. Прыехала калінінская група: Ілья, Пятро, ён жа Нонік, Пімен і Кучар. Прыехаў Аркаша з свайго паўночна-заходняга. Адным словам, гасцініца аж дрыжыць, як толькі не перакуляць яе дагары нагамі нашы

браты беларусы. Аркаша напісаў вельмі трапную паэму. Вашу паэму я чытаў толькі ў урыўках у кніжцы, бо Гарбуноў аддаў арыгінал Дабрыніну (той працуе ў «Известиях»). Пятрусь Броўка (а таксама я, Кандрат, Нонік і Ілья) дэмабілізаваны і хутка паедзе ў Горкі на працу ў тэатр. Думае перавезці туды і сям'ю.

Што яшчэ новага ў нас? Ёсць і вельмі кепскія навіны. Выбыў покуль што са строю наш слаўны Кузьмец. Ляжыць ужо колькі дзён (пашлі пятыя суткі) у вельмі цяжкім і небяспечным стане. Нечакана здарылася ў яго кровазліянне мозгу і левабаковы паралюш. Пакутуем тут разам з ім, шукаючы дактароў, прафесароў, наладжваючы кансіліумы. Намагаемся перавезці ў Крамлёўскую бальніцу. Як бачыце, вязе беларусам як тапельцам. Ходзім усе ў вельмі сумным настроі, хаця варта было б падняць насы вышэй угару, бо прыйшла ж такі часіна, калі лупяць нашы праклятых гітлераўцаў, даюць ім дыхту патрохі і нашы гора-саюзнікі.

Вы, відаць, правялі там ужо сесію, напакутваліся з ёй. Трэба было і мне хоць на гэты раз даведацца Ташкента, але ж сноўдаюся як Марка па пекле. Усё чакаю сваіх сямейных навін, але ніякіх змен тут не наступае. Ізноў жыву цьмянымі надзеямі на нейкую ілюзорную ўдачу.

Вось і ўсе нашы — добрыя і кепскія — навіны. Шлю Вам самае шчырае прывітанне ад усёй нашай гвардыі і ад Івана Напрэіча, а таксама і найлепшыя пажаданні — адчуваць сябе як добраму дубу ў нашым беларускім лесе.

Прывітанне Мар'і Дзмітрыеўне, Данілу і Міхасіку.

Абнімаю і цалую Вас.

*Міхась Лынькоў.*

28/XI 1942
Масква

## 57. М. І. ФЕДЧАНКУ

*5 снежня 1942, Масква*

Дорогой Николай Иванович!

Получил Ваше письмо от 11 ноября этого года. Спешу ответить на все интересующие Вас вопросы. Гово-

рил я с Ураловой в отношении Ваших писем. Она обещала все проверить. Что касается учета, то на учете, конечно, Вы состоите. Что касается комиссии по оказанию материальной помощи, то такой при Наркомпросе не существует. Практикуется это в следующем порядке: напишите заявление в Наркомпрос, а последний будет ходатайствовать перед Совнаркомом об оказании соответствующей помощи. Так советует сделать тов[арищ] Уралова.

Очень рад узнать, что Ядвига Александровна собирается вступить в партию. Для каждого из нас это вполне логический вывод из всего пройденного и пережитого. Если у нее будут затруднения с рекомендациями, она всегда может рассчитывать на мою рекомендацию. Мне только необходимо будет знать некоторые детали — какую фамилию сейчас носит Ядвига Александровна и пару-другую фактических данных за последние годы работы.

Привет Ларисе, получил и ее последнее письмо. Большой привет Ядвиге Александровне.

С дружеским приветом

*Міхась Лынькоў.*

5/XII 1942
Москва

## 58. ЭДЗІ АГНЯЦВЕТ

*20 снежня 1942, Масква*

Даражэнькая Эдзі!

Вітаю цябе з Новым, сорак трэцім годам. Праўда, пісьмо гэта пішу за які дзесятак дзён да яго наступлення, але пакуль яно будзе вандраваць да Ташкента, то і Новы год тут як тут. Ну, што ж табе пажадаць у Новым годзе? Адзінае, што жадаю я ўсім сваім дружбакам і знаёмым, гэта хуткае перамогі над немцам. Бо перамога — гэта і радасць, і шчасце, і ўсё, да чаго мы прывыклі на сваёй радзімай зямлі. А немцаў жа мы тым часам лупім і здаецца, што і не дрэнна. Вось гэтага і жадаю табе ў Новым годзе — перамогі.

Што ж новага ў нас? Як, відаць, вядома табе, Кузь-

ма Чорны вельмі хворы, ляжыць цяпер у бальніцы. У яго было кровазліянне ў мозг і паралюш. Цяпер крыху палепшаў, ужо варушыць пальцамі на руцэ і назе, спрабуе сядзець на ложку. Думаем, што як-небудзь хлопец ачуняе, стане на ногі, хоць на гэта і патрэбны будзе вялікі час. Іначай жа і быць не можа, не вельмі багатыя мы цяпер на пісьменнікаў. Адных страцілі, другія ў палоне, а ёсць некаторыя і такія, на якіх спадзявацца ўжо не прыходзіцца як на нашых людзей.

Якія навіны ў нас? Выдавецтва такі арганізуецца не на жарты, нават планы складае, штатам абзаводзіцца і ўсякімі іншымі такімі штуковінамі. Спадзяемся, што ў Новым годзе пачнем выпускаць і кніжкі, выпусцім і тваю кніжку. Такія вось справы. Аб сям'і маёй ізноў нічога не чуваць. Усё чакаю і чакаю якіх-небудзь новых вестак. А іх і нямашака.

Хлопцы нашы ўсе працуюць, аж пот з іх цурчыць. Куляшоў напісаў вельмі ўдалую паэму «Сцяг брыгады». Проста выдатны твор, які робіць гонар і ўсесаюзнай паэзіі. Прывітанне ад усіх нашых хлопцаў.

З найлепшымі пажаданнямі

*Міхась Лынькоў.*

20/XII 1942 г.

## 59. К. Ц. КІРЭЕНКУ

*25 снежня 1942, Масква*

Дарагі тав[арыш] Кірэенка!

Атрымаў абодва пісьмы — з вершамі і характарыстыкай. Да канца года, альбо ў пачатку яго разгледзім на праўленні Вашу заяву аб прыёме ў саюз. Выклікаць тэлеграмай няма патрэбы, бо, здаецца мне, тэлеграмы на паштовыя станцыі не прымаюць. Вам варта будзе прыехаць у Маскву чысла 7 студзеня. 8 студзеня будзе сход белар[ускай] інтэлігенцыі, 9 літаратурны вечар, 10 белар[ускі] канцэрт. Вось на гэтыя дні варта і прыехаць. На выдаткі па паездцы мы таксама адпусцім сякую-такую капейчыну. У нас навін асаблівых нямашака. Газеты ліквідаваны, частка таварышаў раз'ехалася па другіх газетах — карпусных і армейскіх. Част-

ка таварышаў — 5 чалавек — часова дэмабілізаваны і працуюць у Маскве. Такія вось нашы справы.

Прывітанне Лешчынеру.

З тавар[ыскім] прывітаннем

*Міхась Лынькоў.*

25/XII 1942

## 1943

### 60. ЯКУБУ КОЛАСУ

*16 студзеня 1943, Масква*

Дарагі Канстанцін Міхайлавіч!

Трохі запазніўся я з адказам на апошні ліст, бо чакаў Вашага прыезду ў Маскву на сход беларускай інтэлігенцыі. Але Вы і не прыехалі, а мы крыху пасумавалі з гэтай прычыны, а пасумаваўшы — узялі з гэтай прычыны па невялікаму каліву ў губу (далася ж «гэтая прычына» — аж два разы напісаў яе).

Сход інтэлігенцыі прайшоў, на маю думку, крыху вяла. Перад сходам — напярэдадні — правялі мы літаратурны вечар. Сказаць, каб дужа кінуўся народ на наш вечар, было б маной. Але, як кажуць, з большага — правялі. У пацверджанне гэтага факта дасылаю Вам і запрашальны білет. Дні два шоў канцэрт беларускага мастацтва. Не зусім ён нам падабаўся. Але мы, грэшным дзелам, і народ жа такі, якому мала што падабаецца.

Больш за ўсё падабаюцца нам нашы франтавыя падзеі. Калі яны будуць разгортвацца такімі тэмпамі і надалей, то мы, чаго добрага, і да нашай роднай Беларусі бліжэй станем. Дай то божа!

Аб сям'і маёй пакуль што ніякіх новых чутак не маю. Узрадаваўся раз, як ашалелы, ну і хопіць...

Цяпер падрабязна інфармую Вас аб усім. Кузьма пакрысе ачуньвае, нават спрабуе рабіць пагулянкі — крокі па чатыры — па сваім уласным нумары. Дні праз два выпісваецца з бальніцы Уладыслава Францаўна — хварэла на крупознае запаленне лёгкіх. Гасцявалі ў нас колькі дзён супружніцы Куляшова і Кучара. Ста-

ховіч, Кучар і Панчанка прызначаны ў армейскія газеты. Мы яшчэ тупаем штацкімі (ужо больш месяца), але гэта крыху апрыкрыла. Кандрат, Нонік і Гурскі штодня тупаюць у наша новастворанае выдавецтва і па меры сіл там мёрзнуць. Я ўзначальваю саюз і штомесячна прызначаю новых сакратароў (імі пабылі ўжо Барысенка, Пятрусь, Кучар, цяпер гэтую пасаду займае Вольскі). Аднаўляем — у зародышы — беларускі літфонд. Як бачыце, справа аж кіпіць: праўда, за дымам дык і агню не відаць. Праездам у Горкі затрымаўся ў Маскве Пятрусь з усёй фаміліяй, жыве ў «Эўропе». Паступова авалодваюць ім думкі змяніць маршрут і атайбавацца ў Маскве. Магчыма, што і застанецца.

Цяпер інфармую аб усіх Вашых справах і пытаннях. «Голас зямлі» яшчэ не выйшаў. Не выйшаў у ГИХЛе і наш зборнік «Беларуская літаратура». Зборнік Янкі Купалы набіраецца. «Суд у лесе» ў белар[ускім] выдавецтве набіраецца. Згодна Вашага пісьма, перадаў я «Суд у лесе» Чагіну і Дабрыніну (пераклады Гарадзецкага). Нонік піша анатацыю і разам з ёй перадамо «Суд у лесе» ў камітэт. Згодна просьбы ў апошнім Вашым пісьме, вазьму адзін рускі экземпляр «Суда» і перадрукуем яго для адсылкі ў той жа камітэт.

Вельмі рады мы Вашым намерам перабрацца бліжэй да нас вясной і ад усёй душы іх вітаем.

Што яшчэ новага ў нас: дайшлі гэтымі днямі чуткі, што ў канцы кастрычніка загінуў на фронце пад Сталінградам Хвядос Шынклер. Вязе нам, як тапельцам — дзе коратка, там і рвецца.

Вось, коратка, дакладная інфармацыя аб усім нашым жыцці, аб усіх нашых падзеях.

Прывітанне Мар'і Дзмітрыеўне, Даніку і Міхаську.

Абнімаю Вас і цалую.

*Міхась Лынькоў.*

16/І 1943 г.

P. S. Аб грошах у «Л[итерату]ре и иск[усст]ве», «Выдавецтве» і «Славянах» патэлефоню ў рэдакцыі.

Прывітанне ад усёй нашай брацii.

*М. Л.*

## 61. Е. К. АТРАХОВІЧ

*16 студзеня 1943, Масква*

Уважаемая Елена Константиновна!

Получил Ваше письмо от 24/XII, за которое сердечное спасибо. Пишу эту открытку, а Кондрат в это время спит. В прошлую ночь он умаялся, запаковывая посылку Вам. Вчера он отправил ее с женами Кучера и Кулешова. Новостей у нас особых нет. Опять у нас утрата: на фронте убит Шинклер Хведос. Мы с Кондратом ходим пока штатскими людьми, хоть это нам и непривычно. Живем мы с ним теперь в одном номере, как жили и в начале прошлого года.

О семье своей никаких новых вестей не имею.

Привет Игорю и Людочке.

С дружеским приветом

*Міхась Лынькоў.*

16/I 1943 г.

## 62. Л. М. ФЕДЧАНКА

*16 студзеня 1943, Масква*

Дорогая Лариса!

Большое спасибо за твою новогоднюю поздравительную телеграмму и письмо от 4/I. И письмо и телеграмму получил вчера.

Новостей у меня особых нет. Постепенно делаюсь москвичом-охотнорядцем (ведь наша гостиница «Москва» находится на улице, сохранившей старое название «Охотный ряд»). Живу по-прежнему на десятом этаже. Правда, это не самый высший этаж, надо мной еще пять этажей. Как видишь, занимаю довольно-таки высокое положение. Но несмотря на все это, хотелось бы побродить вблизи наших невысоких белорусских хаток и подышать нашим белорусским воздухом. Но все это впереди, а с каждым днем Белоруссия делается более близкой нам — в буквальном и в переносном смысле. Думаю, что за эту зиму проклятые фрицы изрядно вымотают свои силы и не раз еще будут смазывать свои пятки. Новый год провел в смешанной — белорусско-

литовской компании: были наши и литовские писатели — Петрас Цвирка, Антанас Венцлова, Корсакас и другие. Общими усилиями погрустили о Литве и Белоруссии, общими усилиями осушили скромные чаши и довольно дружно ликвидировали новогоднюю трапезу.

Вот так живем и понемногу «дерзаем». О семье моей пока ничего не слышно. Все же не оставляю надежд на лучшее.

Привет Николаю Ивановичу и Ядвиге Александровне.

С дружеским приветом

*Міхась Лынькоў.*

16/I 1943 г.

## 63. ЯКУБУ КОЛАСУ

*24 студзеня 1943, Масква*

Дорогой Константин Михайлович!

Информирую Вас о наших последних новостях. Гурский и Глебко награждены орденами «Красной Звезды». Панченко и Кучар — медалями «За боевые заслуги». Это за фронтовую работу. Можете поздравить наших хлопцев. Гурский и Глебка теперь в Москве, они демобилизованы. Панченко и Кучар на фронте. Бровка сидит еще с семьей в Москве, гадает: ехать или не ехать в Горький. Кузьма постепенно выздоравливает, может уже делать маленькие прогулки у кровати. Владислава Францевна с месяц лежала в больнице, болела крупозным воспалением легких. Теперь она выздоровела, живет в нашей гостинице.

Вот все наши новости.

А главные новости — на фронте. Вот там идут дела! Дай боже так и дальше.

Привет Марье Дмитриевне, Данилу и Михаську.

Крепко обнимаю и целую.

*Міхась Лынькоў.*

24/I 1943 г.

## 64. Л. А. КАЦОВІЧУ

*24 студзеня 1943, Масква*

Дорогой Лазарь!

Письмо твое получил с большим запозданием, а когда мое дойдет до тебя — будет еще позднée.

Теперь по существу твоей просьбы: пожалуй, ничем не могу я тебя утешить. Дело в том что часть наших товарищей демобилизована и их трудно приткнуть куданибудь. Мы стараемся разгрузить Москву от нашей братии — Бровка направляется на работу в Горький, а ты вот хочешь сюда. ЦК категорически против вызовов в Москву. Подожди еще малость. События разворачиваются прекрасными темпами, и когда предоставится возможность двинуть всех в большую работу, тогда найдешь свое место и ты поближе к Белоруссии.

Привет жене.

С дружеским приветом

*Міхась Лынькоў.*

24/I 1943

P. S. Можешь поздравить Гурского, Глебко с награждением орденами «Красной Звезды», Панченко и Кучара — с медалями «За боевые заслуги». Это за работу на Калининском фронте.

## 65. М. І. ФЕДЧАНКУ

*23 лютага 1943, Масква*

Дорогой Николай Иванович!

Маленько запоздал с ответом на Ваше письмо, а за это время так много событий произошло на наших фронтах, что мы просто чумеем от радости. До Днепропетровска рукой подать. А ведь это Днепром пахнет. А Днепр течет и в нашей родной Белоруссии. И хотя до нашего Днепра куда дальше, чем до днепропетровского, все же звучит вся эта музыка глубоко символически и многообещающе. Пришлось проклятым фрицам и на собственных спинах пережить все красоты войны. А время идет, и придется переживать им еще больше, и

им и их проклятым берлогам. Полною чашей изопьют все, что готовили нам. Не уйдут, мерзавцы, от расплаты. И что ни день — тем ближе это неумолимое и грозное возмездие.

Поздравляю Вас и всю коммуну с 25-й годовщиной нашей армии.

С дружеским приветом

*Міхась Лынькоў.*

23/II 1943

## 66. ЯКУБУ КОЛАСУ

*29 сакавіка 1943, Масква*

Дарагі Канстанцін Міхайлавіч!

Даўно як паехалі Вы ад нас, а нам ужо хочацца ізноў пабачыць Вас, пагаварыць, пасумаваць крыху і г. д. Навін асаблівых у нас не чуваць, усё ідзе па-старому. Сёння слухаў па радыё, як перадавалі Вашы вершы. Хлопцы працуюць у выдавецтве, Пятрусь Браўкец ізноў сакратарствуе ў нашым саюзе, наогул справы ідуць як ішлі. Панцеляймона Кандратавіча ў Маскве яшчэ не чуваць, дзесьці на фронце. Чаму не напісалі, як ехалася да хаты, ці добрыя былі спадарожнікі, ці хапіла «каліва» і ўсё такое іншае? Разам з гэтым лістом дасылаю Вам атрыманы на Ваша імя ліст.

Прывітанне Мар'і Дзмітрыеўне, Данілу і Міхаську.

Абнімаю і цалую.

Ваш *Міхась Лынькоў.*

29/III 43 г.

P. S. Прывітанне ад усіх нашых гвардзейцаў.

## 67. Я. І. САДОЎСКАМУ

*29 сакавіка 1943, Масква*

Дорогой Ефим!

Получил твое письмо и телеграмму, что деньги наши ты получил. Теперь по существу письма. Насчет

плана издательского я поговорю с директором издательства тов[арищем] Ивановым, чтобы они имели тебя в виду. В издательстве работают Кондрат, Петро Глебка и Гурский. Глебка — редактор худож[ественной] литературы, Кондрат — главным редактором. Скажу им о твоей просьбе. Раньше присылавшиеся тобой рассказы я передавал газете «Савецкая Беларусь», но они вообще-то не напечатали ни одного рассказа, газета у них небольшая.

Насчет вызова в Москву в апреле — посмотрим, если будет возможность. Вообще-то не обещаю, потому что с вызовами да и поездками теперь пока трудновато. Одним словом, посмотрим потом, дальше будет видней.

Новостей у нас особых нет. Все по-старому. Не слышно писем от Борисенко и Кучара. С Панченко и Стаховичем связь держится. Ты, наверное, знаешь о некоторых наших новых потерях — под Сталинградом погиб Шинклер, убит наш Жаврук <...>. В общем, воюют ребятки и воюют неплохо.

Привет от всех наших товарищей.

С дружеским приветом

*Міхась Лынькоў.*

29/III 1943 г.

## 68. ЯКУБУ КОЛАСУ

*17 красавіка 1943, Масква*

Дарагі Канстанцін Міхайлавіч!

Атрымалі мы з Кандратам Ваша чарговае пасланіе, за якое і прыносім нашу сардэчную падзяку. Чакаем цяпер часу, калі сустрэнемся зноў, і мо будуць лепшыя часы, каб правесці сустрэчу ў больш бадзёрым настроі і спрыснуць яе добрым келіхам. Што тычыцца апошняга, дык мы з Кандратам, прызнацца, за гэты час парадкам і адвыклі ад гэтага зелля, а калі надоечы і ўхапілі па маламу каліву ў губу, то адчувалі сябе не досыць добра — падводзіць, як відаць, «арганізьма» — старэе. Але ж як бы там ні было, калі падыдзе свята Першага мая, мы ўсё ж ткі возьмем па добрай

чары ў руку і пастараемся спрытна перакуліць яе за Ваша шаноўнае здароўе і за ўсё наша агульнае жыццё, якое павінна ж урэшце пайсці ўгору.

Пісалі Вы нам аб нашым Іове многапакутным, аб Маўры. Мы таксама атрымалі ад яго тэлеграму з тым жа тэкстам, які пасылаў ён і Вам. Адразу ж паслалі патрэбную тэлеграму ў Казахстан ад імя прэзідыума саюза. Спадзяюся, што там палепшаць умовы яго жыцця.

У нас асаблівых навін покуль што нямашака. Кандрат атрымаў дадаткова яшчэ адну пасаду — рэдагуе «Раздавім фашысцкую гадзіну». Мяне хацелі былі зрабіць начальнікам Упраўлення па справах мастацтва. Ледзь выбавіўся з гэтай бяды і цяпер адчуваю сябе проста пераможцам, перасігнуўшым небяспечныя рубяжы. Кузьма наш адчувае сябе добра, гуляе па калідору, нават спрабуе пісаць — нагрымзаў цэлае апавяданне. Праўда, мы яму раім покуль што дужа не захапляцца натхненнем і больш увагі аддаваць грубай прыродзе чалавечай, здароўю. Добра, што з ім абышлося ўсё да лепшага і хлопец выкараскаўся з вялікай бяды.

Нонік наш узнамерыўся пісаць п'есу і для гэтага думае нават паехаць да тэатра ва Уральск. Справа, зразумела, не кепская. Пятрусь з чадамі і дамачадцамі адчувае сябе не кепска. Мы зноў узвялі яго ў сан «адказнага сакратара» нашай паважанай арганізацыі, і ён ходзіць бадзёра і слаўна змагаецца за талоны на абед для свае сямейнае камуны.

Ёсць у нас і навіна. Прыйшлі весткі, што жыў Пестрак Філіп з жонкай і дзецьмі. Нядаўна прыйшло паведамленне, што ён далучыўся да аднаго атрада і знаходзіцца цяпер там з усёй сваёй сям'ёй. Спадзяемся нават спаткацца з ім. Аб сваёй сям'і ніякае новае чуткі не меў.

Ваш подпіс з ліста «з камуністычным прывітаннем» быў шырока прадэманстрыраван і папулярызаван мной сярод шырокіх мас нашай беларускай калоніі.

Усе хлопцы — Петрусі, Кандрат, Кузьма — шлюць Вам шчырае прывітанне. Кланяюся Мар'і Дзмітрыеўне, прывітанні Данілу і Міхаську.

Цалую і абнімаю.

Ваш *Міхась Лынькоў.*

17/IV 1943 г.

P. S. Перасылаю ў гэтым лісце атрыманы на Ваша імя ліст.

*М. Л.*

P. S. М. Приветствуем Вас, М[арию] Д[митриевну], Данилу и Михаську с праздником 1 Мая.

## 69. Л. М. ФЕДЧАНКА

*25 красавіка 1943, Масква*

Дорогая Лариса!

Получил твое письмо от 6/IV. Пишешь ты о весне, а у нас она самая настоящая, четвертый день, как некоторые ходят уже без пальто. Солнце пригревает, как в июне. Правда, дней пять тому назад пробовал даже снег кружиться над нашими московскими улицами, но весна одолевает и вступает в свои права.

Весна весной, а каковы твои планы с учебой? Возможно — и даже более, чем возможно — у нас осенью откроется Белорусский государственный университет, а также медицинский институт. Надо и тебе подумать серьезно об учебе. Очевидно, что и условия учебы, быта и пр. будут здесь легче, чем в других учебн[ых] заведениях, потому что этому делу будет уделено исключительное внимание. Привет и первомайские поздравления Николаю Ивановичу и Ядвиге Александровне.

С дружеским приветом

*Міхась Лынькоў.*

25/IV 43 г.

## 70. М. Ц. ЛЫНЬКОВУ

*11 мая 1943, Масква*

Дорогой Николай!

Получил твои письма — с дороги и последнее (открытку) от 26 апреля.

Я жив и здоров. Живу теперь с Кондратом по Пушкинской улице в гостинице «Октябрьская», в восемнад-

цатом номере. Телефон у нас в коридоре, так что созваниваться — дело довольно затруднительное.

О семье ничего нового пока что не слышно, надеюсь все же как-нибудь узнать о их судьбе.

Пересылаю тебе пересланные на твое имя Чувилко письма.

Привет от всех наших товарищей и от Якуба Коласа — он сейчас в Москве.

Желаю тебе всего наилучшего.

Обнимаю и целую.

Твой брат *Міхась Лынькоў.*

11/V 43 г.

## 71. ЯКУБУ КОЛАСУ

*4 чэрвеня 1943, Масква*

Дарагі Канстанцін Міхайлавіч!

Перасылаю адзін ліст, атрыманы на Ваша імя ў ЦК КП(б)Б.

Навін асаблівых у нас нямашака. Чакаем Вашага прыезду. Прыехала з Казані Уладыслава Францаўна, жыве цяпер у гасцініцы «Масква». Кандрат яшчэ не звярнуўся з Уральска. У канцы чэрвеня будзем праводзіць купалаўскую гадавіну.

Вось і ўсе нашы навіны.

Прывітанне Мар'і Дзмітрыеўне, Данілу і Міхасю.

З сардэчным прывітаннем

*Міхась Лынькоў.*

4/VI 1943 г.

## 72. М. І. ФЕДЧАНКУ

*4 чэрвеня 1943, Масква*

Дорогой Николай Иванович!

Получил и Ваше письмо и письмо Ларисы. Заходил по Вашим вопросам к Ураловой. Начну по пунктам. Что касается отпускных, то она не смогла дать мне точного ответа, не было у нее под рукой нужного ра-

ботника и работника наркомфиновского, через которого проходят эти дела. Во всяком случае — такие отпускные они выплачивают.

По второму пункту, о пособии: помощь одеждой и обувью они, к сожалению, не могут оказать, не имея на это никаких возможностей. Что касается материальной помощи, то она бывает незначительной и проводится ими через Совнарком.

По третьему пункту: пришлите в Наркомпрос две-три справки — свидетельские показания о пенсионной выслуге, и они оформят Вам это дело, потому что это предоставлено им по закону.

Таковы все сугубо официальные дела и вопросы.

Теперь даю справки Ларисе:

Факультеты в университете будут следующие: филологический, исторический, географический, физико-математический, химический и биологический. Условия приема — как и во все высшие учебн[ые] заведения. Ясно, что все преимущества за детьми белорусских работников. Студенты будут обеспечены общежитием, столовкой и соотв[етствующими] стипендиями. Я говорил с ректором, и он записал имя и адрес Ларисы.

В общем, штурмуйте теперь Уралову, ссылайтесь в некоторых пунктах на меня и пр.

Живу я по-прежнему в гор[оде] Москве, потеряв всякие надежды не только встретиться, но и узнать что-нибудь о судьбе семьи.

Привет Ядвиге Александровне и Ларисе.

С сердечным приветом

*Міхась Лынькоў.*

4/VI 1943

## 73. Л. М. ФЕДЧАНКА

*29 чэрвеня 1943, Масква*

Дорогая Лариса!

Получил твое письмо с очередными вопросами. Даю исчерпывающие ответы, а каковы они, о том, как говаривали в старину, следуют пункты:

1. Испытания в университете начнутся с 10 сентября и продолжатся до 25 сентября.

2. Для представления в университет необходимы следующие документы: а) заявление о поступлении, б) аттестат, в) автобиография и г) справка о состоянии здоровья.

Все это необходимо выслать сейчас же в Москву (можно в мой адрес, я передам ректору университета).

Университет пришлет вызов на учебу в начале августа (это предположительно, возможно раньше, возможно немного позднее). Во всяком случае, я тут прослежу за своевременным вызовом. Итак, на все вопросы отвечено. А теперь передай привет Николаю Ивановичу и Ядвиге Александровне и пожелай им всего хорошего. Тебе советую использовать лето вовсю, поднакопить загара, здоровья, бодрости, чтобы учебную зиму встретить во всеоружии.

С дружеским приветом

*Міхась Лынькоў.*

29/VI 1943 г.

## 74. ЯКУБУ КОЛАСУ

*10 ліпеня 1943, Масква*

10/VII 43

Дарагі Канстанцін Міхайлавіч!

Атрымаў Вашу паштоўку ад 29/VI. Хлопцы нашы не пісалі таму, што ўсё чакалі Вашага прыезду і толькі нядаўна даведаліся аб адкладзе пераезду. Навін у нас асаблівых нямашака. Кузьма знаходзіцца яшчэ ў санаторыі, папраўляецца. Кандрат прывёз сям'ю, а цяпер захварэў на почкі, ляжыць, лечыцца. Петрусі адчуваюць сябе някепска. Як бачыце, усё ў парадку. Нядрэнна правялі гадавіну Янкі Купалы. Літаратурны вечар з канцэртам правялі ў зале Чайкоўскага. На афішах і ў білетах значылася і Ваша ўступнае слова. Старшынёй быў Фадзееў. Рабіў даклад я. Хлопцы дэкламавалі вершы. Выступалі Александроўская і Млодэк. Такія вось нашы навіны. А галоўныя навіны, як ведаеце, на фронце. Там вырашаецца лёс нашай Беларусі. Па ўсяму відаць, Гітлер кідаецца з апошніх сіл, з адчаю, са страху. Мне так здаецца, а можа мне хочацца, каб так здавалася... Час ужо рашаць гэтага забойцу, даволі ён напіўся нашай крывёю.

Такія вось справы, Канстанцін Міхайлавіч. Пару слоў аб сабе. Пішу вось нейкія словы, а думкі лятуць, мітусяцца. Апынуўся я ў становішчы чалавека, які неяк жыў, нешта рабіў, хацеў рабіць заўсёды нешта добрае для ўсіх людзей, будаваў сваё жыццё і нядрэнна будаваў, як добры чалавек, і раптам усё гэта знікла, праваліласся, і ў выніку перад табой страшэнная пустэча, правал. Сёмага гэтага ліпеня атрымаў я ліст з нашай радзімы. Напісала мне родная сястра, настаўніца. Яна цяпер з мужам у адным з партызанскіх атрадаў. З пісьма я даведаўся, што жонка мая з Марыкам жылі ў яе больш года, а потым іх забралі забойцы, якіх парадзіў нямецкі народ, і адвезлі ў бабруйскі лагер. Разам з маёй сям'ёй забралі сям'ю брата Рыгора. Мяркуючы па пісьму, сястра думае, што Рыгор тут, я ж нічога не ведаю аб яго лёсе, ён, відаць, загінуў у першыя дні вайны. У пісьме прыпіска, што я атрымаю падрабязнасці, калі сястра даведаецца, што пісьмо трапіла мне ў рукі. Навошта ж мне цяпер гэтыя падрабязнасці... Жыў я апошні год цьмянымі спадзяванкамі, па ўсяму бачыў, што яны ператвараюцца ў ілюзіі. Цяпер няма і ілюзіі... Астаюцца цуды. Але ж практыка немцаў-дзетазабойцаў гаворыць аб тым, што цудаў не бывае.

Цяжка, завельмі цяжка, дарагі Канстанцін Міхайлавіч. Адно неяк прытрымлівае на паверхні: багата людзей цяпер нясуць цяжар велічэзнага гора і пакутаў. Значыць, трэба неяк жыць і жыць так, каб дапамагчы ўсім нашым людзям увагнаць у магілу забойцаў і катаў, душагубаў, якія апіліся нашай крыві.

Бывайце ж, любы і родны! Прывітанне Мар'і Дзмітрыеўне, Данілу і Міхаську. Абнімаю і цалую.

Ваш *Міхась Лынькоў.*

Масква

## 75. ЯКУБУ КОЛАСУ

*20 ліпеня 1943, Масква*

Дарагі Канстанцін Міхайлавіч!

Атрымаў Ваша пасланіе «з аказіяй». Надакучыла нам, урэшце, чакаць Вас. Адно, што суцяшае, лета па-

дыходзіць да свайго канца, значыцца і Вы павінны будзеце паляцець у вырай да нас.

Як бачыце, і на франтах за гэты час адбыліся змены. Прыкрае зацішша адышло, падзьмула свежымі вятрамі. Свежыя ветры патыхаюць і на поўдні Еўропы. Хоць тыя ветры яшчэ заслабыя, але ўсё ж нашы саюзнікі пакрысе пасуваюцца бліжэй да логава звера. Па ўсяму відаць, што будуць Гітлеру рачанцы, нідзе не дзенецца. Хопіць, напіўся нашай крыві, лопне, здохне. І каб хутчэй гэта зрабілася, тым бы лепей для нас, бо занадта багата гіне нашага беларускага народа.

Што новага ў нас? Хварэе Кандрат, сёння ўстаў з ложка, перасуваецца з месца на месца, як восеньская муха. Учора з дома адпачынку прыехаў Кузьма. Хлопец акрыяў, пасвяжэў, спрабаваў нават рабіць на месцы адпачынку прагулянкі кіламетры па чатыры. Пакрысе піша. Адным словам, атрымалась вельмі ўдала з яго лячэннем, хлопец стаў на ногі.

Петрусі бадзёрыя. Максім і Аркаша напісалі добры сцэнарый. <...>.

Уладыслава Францаўна жыве ў Маскве, перабралася цяпер у гасцініцу «Якар», у якой, дарэчы, жывуць цяпер толькі адны нашы беларусы. Магчыма, што і я з Кандратам перацягнем туды свае недалужныя косці.

Вось коратка і ўсё аб нашым жыцці-быцці. Прывітанне Мар'і Дзмітрыеўне, Даніку, Міхаську.

Прывітанне ад усіх хлопцаў.

Абнімаю і цалую.

Ваш *Міхась Лынькоў.*

20/VII 43

## 76. Д. М. КАВАЛЁВУ

*21 ліпеня 1943, Масква*

Дорогой тов[арищ] Ковалев!

Получил Ваше письмо и стихотворения. И то и другое понравились, и за то и за другое сердечное спасибо. Показывал стихи ребятам: Танку, Глебку, Пестраку.

просто развлечься — тогда другое дело: и мы с тобой, вернее, ты, сможем пыль пустить, что называется... Но все это такие мелочи и пустяки, которым и ты, насколько я тебя знаю, не придаешь особого значения.

Что нового у нас? Погода всю неделю стояла исключительно жаркая, думаю, такая же, как и у вас в Евпатории. Сегодня суббота, ночью прошел дождь и день сегодня холодноватый, пасмурный. Если и завтра, и воскресенье, будет такая же погода, то сорвется наша поездка в Ждановичи. А хотелось бы искупаться — ванную с твоего отъезда я ни разу не затапливал, затопим ее вместе с тобою. На этом заканчиваю очередной свой рапорт. Привет тебе от Константина Михайловича и всех наших хороших знакомых.

Крепко обнимаю тебя, мою путешественницу, и также крепко целую.

Твой *Міхась.*

P. S. В случае, если тебе придется ехать поездом, подбирай хороших попутчиков — и ехать веселей и удобней.

*М. Л.*

## 111. С. З. ЛЫНЬКОВАЙ-КУСПІЦ

*23 ліпеня 1946, Мінск*

23/VII 46

**Софуник!**

Вот уже несколько дней, как от тебя не слышно писем. В письме от 14 июля ты и писала мне, что не будешь «докучать» моей персоне письмами. А напрасно. Я с таким нетерпением ожидаю каждое твое письмо, что ты и представить не можешь мое разочарование к концу дня, когда почтальон приносит только Максимовы газеты, а мне — ни одного конверта.

Вчера уехали мои гости, так что на квартире у меня теперь тишина и спокойствие. Вчера Константин Михайлович пригласил нас пожинать плоды Михасевой охоты. Тот настрелял с десяток уток, жаркое из них получилось на славу. Понятно, мы — Кондрат, Максим, Пимен, Данила и Константин Михайлович — во-

здали должное «утям» как представителям водоплавающей дичи. Даже песню спели про некоих летящих уток и два гуся. Константин Михайлович передал по сему поводу горячий привет Софье Захаровне.

В письмо это не вкладываю тебе, как делал это всегда, запасного конверта и бумаги. Пока это письмо дойдет до тебя, ты уже будешь собираться в отъезд до хаты. Жду тебя, мою повелительницу, с нетерпением.

Привет от всех наших знакомых. Заходила Вера, я пожурил ее за то, что не написала тебе ни одного письма. Заходила Маруся, дал ей снимки — помнишь, что снимал ее, тебя и Ларису на дворе.

Обнимаю тебя и целую крепко-крепко.

Твой *Міхась.*

## 112. С. З. ЛЫНЬКОВАЙ-КУСПІЦ

*24 ліпеня 1946, Мінск*

24/VII 1946

Софуня!

Вчера вечером получил твое письмо от 16/VII, а сегодня утром другое твое письмо от 15/VII. Как видишь, вчерашнее твое письмо шло семь дней, а сегодняшнее девять дней. Очень рад за твое письмо от 15/VII, в нем много радости, бодрости, а вот 16/VII ты уже малость скисла и говоришь обо всем в минорном тоне. Не знаю, получишь ли ты это письмо. В лучшем случае, если оно будет идти дней шесть, то оно еще застанет тебя в санатории. А ведь оно может идти и девять и десять дней, тогда придется ему застрять в Крыму. Во всяком случае, на этом письме прекращаю свою переписку с тобой, потому что письма тебя уже не застанут в Евпатории. Жаль, что ты ни разу не сообщила мне, получала ли ты мои фотоснимки. Вчера послал тебе телеграмму, письма ведь идут так страшно долго. Сегодня уже двадцать четвертое июля, тешу себя мыслью о том, что скоро мы опять будем вместе, и ни ты, ни я скучать особенно не будем.

На этом и заканчиваю нашу переписку. Пришлю еще одну-другую телеграмму.

Привет от Константина Михайловича и от всех наших знакомых.

Крепко тебя целую.

Твой *Міхась.*

P. S. Посылаю еще один из фотоснимков.

*М. Л.*

## 113. Б. М. МІКУЛІЧУ

*10 верасня 1946, Мінск*

Тов[арищ] Микулич!

Никто не против Вашего возвращения на родину. Само собой разумеется, что Вы всегда найдете работу у нас, любую, в том числе и литературную. Правда, я не знаю, будете ли Вы иметь право на проживание в Минске. Во всяком случае — напишите нам об этом. В случае необходимости окажем Вам необходимую поддержку перед правительством. Должен также сообщить Вам, что квартирные условия у нас чрезвычайно тяжелые в результате огромных разрушений, причиненных войной и фашистской оккупацией.

*Міхась Лынькоў.*

10/IX 1946 г.

## 1947

## 114. Б. М. МІКУЛІЧУ

*23 студзеня 1947, Мінск*

Тав[арыш] Мікуліч!

Выбачце за некаторае спазненне з адказам на Ваш ліст. Справа ў тым, што я ўсё чакаў аднаго чалавека, з якім я павінен вырашыць усе справы, звязаныя з Вамі. Але ён яшчэ не прыехаў з Масквы, дзе знаходзіцца па дзяржаўных справах рэспублікі. Прыедзе ён, відаць, дзён праз пяць. Я на тыдзень выязджаю ў Пін-

шчыну на выбарчую кампанію. Па прыездзе адтуль вырашу ўсе Вашы пытанні. Аповесці Вашы атрымаў, гаварыць аб іх буду пасля вырашэння ўсіх спраў. Адно, што магу сказаць: першая палова палескай аповесці мне спадабалася, другая палавіна не зусім, бо Вы не досыць добра ведаеце тую суровую сапраўднасць, якая мела месца на Беларусі ў часы вайны. На гэтым бывайце.

З таварыскім прывітаннем

*Міхась Лынькоў.*

23/I 1947 г.

## 115. Б. М. МІКУЛІЧУ

*28 сакавіка 1947, Мінск*

Тав[арыш] Мікуліч!

Прашу выбачэння за даволі значнае спазненне з адказам на Вашы лісты. Праўда, у гэтым спазненні я не зусім вінаваты. Як я Вам пісаў, мне трэба было перагаварыць, параіцца з пэўнымі людзьмі перад тым, як напісаць Вам пэўны адказ. Што я магу сказаць Вам сёння? Гэта адно, што шлях да літаратурнай дзейнасці Вам нікім не закрыты і — у гэтым няма ніякага сумнення — Вы будзеце займацца сваёй любімай справай. Аднак ёсць і некаторыя «але». Вы хочаце звярнуцца на Беларусь, у прыватнасці ў Лагойск. Гэта ўпаўне зразумелае жаданне. Але да гэтага часу мне і нашай пісьменніцкай грамадскасці невядомы некаторыя, я б сказаў, «юрыдычныя» акалічнасці Вашай справы. <...>.

Далей: варта пачынаць новае жыццё з якой-небудзь службовай працы — маю на ўвазе Беларусь — ці з настаўніцкай ці з якой іншай, якая Вам па сілах. Зразумела, што разам з гэтым Вы зможаце распачаць і сваю літаратурную працу, уключыцца ў літаратурнае жыццё рэспублікі.

Такія мае парады Вам.

Адносна аповесці аб Багдановічу магу сказаць толькі адно: яна патрабуе яшчэ пэўнай працы над ёй. Аповесць выглядае задужа, я б сказаў, песімістычнай,

змрочнай. Ні патрабаванні нашага часу, ні ўся сонечная, жыццесцвярджаючая творчасць паэта не апраўдваюць даволі сумнага каларыту твора. Але ж гэта заўсёды можна перамагчы, тым больш што ў Вас ёсць на гэта ўсе магчымасці, усе творчыя, як гэта гаворыцца, даныя. Адным словам, калі ў Вас захавалася страсная любоў да літаратуры, то Вы здолееце перамагчы пэўныя цяжкасці для таго, каб аддацца потым любімай дзейнасці.

З прывітаннем

*Міхась Лынькоў.*

28/III 1947 г.

## 116. М. М. МІКУЛІЧ

*29 сакавіка 1947, Мінск*

Товарищ Микулич!

Я послал Вашему брату пару писем за последнее время — одно письмо одновременно с письмом к Вам. Ответил ему и относительно присланных им трех рассказов.

Думаю, что он сумеет заняться своим любимым литературным делом. Но перед этим ему придется, очевидно, разрешить ряд некоторых формальностей, которые неизбежны в таких случаях.

С приветом

*Міхась Лынькоў.*

29/III 1947

## 117. Б. М. МІКУЛІЧУ

*1 красавіка 1947, Мінск*

Тав[арыш] Мікуліч!

Толькі што прачытаў усе лісты і рукапісы, атрыманыя ад Вас за час майго водпуску. Што я магу сказаць у адказ на іх? Яшчэ перад выездам маім з Мінска, прыблізна за месяц да выезду, я перадаў Вашы рука-

пісы ў праўленне саюза некаторым таварышам для чыткі і скарыстання ў часопісе «Полымя». Перадаў я Броўку Петрусю (рэдактар «Полымя») і рукапіс, атрыманы на маё імя ў часе водпуску. Пастараюся прасачыць, каб яны хутчэй прачыталі і далі б Вам належны адказ. Як Вы ведаеце, на тыя рукапісы, якія я сам прачытаў, я даў Вам адказ. Наогул, як ведаеце, справа абстаіць так, што Вам не закрыты шляхі ў літаратуру: твор, які будзе задавальняць рэдакцыю, будзе скарыстаны ёй. У папярэднім пісьме Вы пісалі, што хочаце пагаварыць асабіста са мной. Будзе ў Вас выпадак пабываць у Мінску, калі ласка, можна будзе пагаварыць. Цяпер прашу звязвацца з рэдактарам часопіса Броўкам (у адрас Саюза пісьменнікаў на Дом урада, альбо непасрэдна ў адрас часопіса на Дом друку, выдавецтва). Я яшчэ раз скажу Броўку аб Вашых рукапісах.

З прывітаннем

*Міхась Лынькоў.*

1/IV 1947 г.

## 118. ЯКУБУ КОЛАСУ

*10 красавіка 1947, Мінск*

Даражэнькі Канстанцін Міхайлавіч!

Падпішыце прывітанне Грыгонісу і захапіце [redacted] сабой на вечар у партшколу для перадачы мне. На вечары ў партшколе я таксама буду.

З прывіт[аннем]

*Міхась Лынькоў.*

10/IV 47

## 119. П. Н. КАВАЛЁВУ

*1 ліпеня 1947, Мінск*

Паўле!

Да Масквы едзе Левін, з ім перадаю гэтую пісульку. Што новага ў нас? Купалаўскі вечар правялі-такі

28-га, было мне запаркі, бо вырашылі вечар праводзіць іменна 28-га, напярэдадні суботы, трэба было ўсё арганізоўваць спачатку, а білеты размяркоўваць у дзень вечара. Але ўсё адбылося добра. На вечары былі Гусараў, Ігнацьеў, Іаўчук, Панамарэнка і другія таварышы з кіраўніцтва. Справаздача наша ізноў адкладзена, прызначана на 8-е, цяпер зноў ідзе падрыхтоўка. Сёння правялі паэтычн[ую] секцыю — слухалі Масэнку аб анталогіі беларуск[ай] паэзіі на ўкр[аінскай] мове. Сёння вечарам я і Александроўская пазнаёмімся ў Эльмана з праектам адбудовы нашай каробкі на Падгорнай, рашэнне яшчэ не прынята. У мінулую пятніцу на Савеце Міністраў прайшлі купалаўскія пытанні і пастанова аб сям'і Таўлая.

Пятага я выпраўляю ў Маскву чалавек пяць нашых пісьменнікаў, членаў Таварыства па распаўсюджванню палітычн[ых] і культурн[ых] ведаў — відаць, будзе вялікі з'езд. Калі надумаецеся застацца ў Маскве з Клімковічам і Танкам на гэтым з'ездзе, дык адразу ж тэлеграфіруй, і я вышлю вам з хлопцамі камандзіровачныя пасведчанні, хаця ў дачыненні цябе мне б гэтага і не хацелася рабіць, паколькі на чарзе дня наша справаздача, ды і я сабіраюся пакрысе ў ад'езд, калі справаздача не адкладзецца яшчэ раз.

Вось і ўсё, што думаў напісаць табе на хуткую, што называецца, руку ў часе паседжання.

Максіма Танка папрасі, каб ён купіў дзе ў фотамагазінах дзве плёнкі, якія ўжываюцца пры праяўленні фэдаўскіх фотаплёнак. Ён ведае, якія гэтыя плёнкі — калі будзе час у яго, няхай пашукае.

На гэтым прывітанне ад мяне і ад маёй паважанай палавіны ўсёй шаноўнай дэлегацыі.

*Міхась Лынькоў.*

1/VII 1947 г.

## 120. ЯКУБУ КОЛАСУ

*19 кастрычніка 1947, Мінск*

Даражэнькі Канстанцін Міхайлавіч!

Атрымалі Ваша пасланіе і прывітанне ад гор каўказскіх, а сёння Даніла перадаў па тэлефону Ваша пры-

вітанне з пісьма, перасланага Вамі падарожным чалавекам. За ўсё гэта наша сардэчная падзяка і самыя найлепшыя нашы пажаданні: добрага здароўя, добрага лячэння, слаўнага адпачынку і бадзёрага настрою.

Цяпер дакладваю аб усім нашым жыцці-быцці. Я з Кандратам націскаем на ўсе сцэнарныя педалі, абрыдлі яны нам да немагчымасці. Займаюся таксама аднатомнікам гісторыі беларускай літаратуры — гэты аднатомнік выгрызе мне ўсе печані. Акрамя ж яго ў мяне на руках яшчэ справа з падручнікам па літаратуры для сярэдняй школы. Мне здаецца, што калі мы пярэйдзем праз гэты рубікон, то на свеце жыць стане куды прыемней, весялей, а галоўнае — вальней. Цяпер жа проста не прадыхаць.

А тут яшчэ ліха паднесла артыкул Васілёнка ў «Литературной газете». Артыкул хаця і мае некаторыя прыватныя заўвагі, але вельмі ўжо развязны ў дачыненні да нашай літаратуры і наогул «злопыхательский». Нельга ж усіх людзей, якія працуюць над падручнікамі, агульна ахайваць фальсіфікатарамі і невукамі. Мне здаецца, што ў гэтым артыкуле аўтар зводзіць нейкія свае асабістыя рахункі з нашымі аўтарамі. Не ведаю, ці чыталі Вы гэты артыкул?

Заўчора адбыўся прэзідыум Акадэміі навук, на якім вызвалілі ад пасады Жэбрака. На прэзідыуме я асабіста не быў. Шкада чалавека — усё ж, як-ніяк, сапраўдны вучоны. Але ж такую дурасць адкалоў з гэтай сваёй пісанінай, міма якой прайсці, зразумела, нельга. Тым больш калі прыняць пад увагу стаўленне да нас былых нашых заакіянскіх «саюзнічкаў». Да таго апастылелі яны, што нават чытаць справаздачы аб Генеральнай Асамблеі няма ніякай ахвоты.

Таму я адразу і пераходжу да нашай пагоды. У нас захаладала. Учора днём было градусы два цяпла, ды і сягоння, відаць, не болей. Сёння раніцой быў моцны замаразак, лісце з дрэў амаль што поўнасцю асыпалася. Адразу запахла зімой, хаця снег яшчэ не паказваўся. З прычыны халадоў я сёння практыкаваўся ў новай прафесіі — шкліў фортку ў вакне, якая да гэтага часу была заткнута кардонам. Спецыяльна для гэтага купіў сёння алмаз. Практыкаванні мае нагадвалі не досыць удалыя спробы крылоўскага мядзведзя гнуць дугі. Пабітага шкла наваліў я цэлыя горы. Але ў рэшце рэшт усё ж адолеў я фортку і сяму-таму навучыўся.

Вылазак у грыбы пасля Вашага ад'езду мы не рабілі. Не зрабілі яшчэ і рэкагнасцыроўкі дачных мясцовасцей, усё неяк не выстарчала часу. Панцеляймон Кандратавіч раіў нам нейкае месца па дарозе на Астрашыцкі Гарадок — лес, гара, возера і іншыя «красоты». Не глядзелі яшчэ. Падгавару Петруся і сюдытуды праедземся.

На гэтым і заканчваю наша пасланіе. Прывітанне ад усіх нашых хлопцаў. Пішыце, як лечыцеся, як праводзіце час, ці сустракалі якіх знаёмых?

Застаемся з найлепшымі пажаданнямі, цалуем.

Ваш *Міхась, Зося.*

19/X 1947 Мінск

## 121. Б. М. МІКУЛІЧУ

*25 снежня 1947, Мінск*

Тов[арищ] Микулич!

Вы, наверное, изрядно ругаете меня за некоторое запаздывание с ответом на Ваши письма. Поверьте, что и запаздываю я иногда с единственной целью: все жду, чтобы дать Вам окончательное положительное решение Вашего вопроса. Я говорил в Центральном Комитете по всему этому делу, да и Ваше письмо там имеется. Должен сказать, что принципиально вопрос решается здраво: а почему же и не печатать Вас, если напишете подходящую вещь. Дело теперь за редакторами. Я им уже говорил неоднократно о необходимости так или иначе решить вопрос с отдельными Вашими вещами. Они ждут еще случая лишний раз согласовать все эти вопросы. Нажимайте еще на них. Думаю, что в ближайшее время все это разрешится в Вашу пользу. Повторяю: дело теперь только в редакторах.

С приветом

*Міхась Лынькоў.*

25/XII 1947 г.

## 1948

### 122. А. С. ВАСІЛЕВІЧ

*18 красавіка 1948, Мінск*

Паважаная тав[арыш] Васілевіч!

Вы ўжо, відаць, «усе чаканкі паелі», спадзеючыся з дня на дзень атрымаць мой ліст. І напэўна «і руганіем мя паругах» і ўсякім «злым речением мя поносих». Каюсь. Грэшан. Заслужыў. І Вам, як маладому аўтару, спачуваю: некалі быў у Вашай, груба кажучы, скуры. Але Вы можаце сказаць, што гэта кракадзілава спачуванне.

Але пярэйдзем бліжэй да справы. А справа ў тым, што я не зусім вінаваты ў гэтым спазненні з адказам на Ваш рукапіс. Мне перадалі яго літаральна за два дні перад нашым рэспубліканскім сходам. Не меў ніякай фізічнай магчымасці пазнаёміцца з ім, бо трэба было экстранна канчаць падрыхтоўку даклада, прынамсі — сам даклад. А пасля сходу я пралежаў некалькі тыдняў хворы. Я нават прасіў Піліпа Пестрака, каб ён паведаміў Вам аб прычынах майго спазнення. За час маёй хваробы ў мяне на маёй службе ў акадэміі сабралася тэрміновых рукапісаў (па падручніках па літаратуры для сярэдняй школы) старонак на 800. Іх трэба было безадкладна адрэдагаваць, бо ўсякія тэрміны, вызначаныя ЦК нашай партыі, былі прапушчаны. А тут яшчэ абарона дысертацый супрацоўнікамі нашага інстытута. А я ж, грэшным дзелам, кіраўнік, альбо часам афіцыйны апанент. А дысертацыі — гэта пухлыя рукапісы. А ўсё гэта адбірае вялізныя кавалкі часу. А тут ізноў грып.

Адным словам, як Марка па пекле.

Але мы ізноў-ткі далёка ад справы, якая Вас непасрэдна закранае і цікавіць. Мне хацелася ўсё ж сур'ёзна пасядзець над Вашай аповесцю, каб даць Вам і сур'ёзны адказ. І вось Ваша аповесць у мяне праканспектавана, «хірургічна ўскрыта», выпісаны дыягназ.

Агульнае маё ўражанне? Аповесць я прачытаў з задавальненнем, зжыўся з некаторымі героямі, трымаю ў памяці паасобныя карціны, трапныя зарысоўкі, удалыя параўнанні. Усё добрае, удачнае ў мастацтве заўсёды застаецца ў памяці.

Што ж добрага, харошага ў Вашай аповесці?

Сур'ёзная ідэйная задума. Паказ таго штодзённага і не заўсёды прыкметнага гераізму нашых жанчын-калгасніц, якія вынеслі на сваіх плячах увесь цяжар вайны (я маю на ўвазе іх намаганні падтрымаць, не запусціць сельскую гаспадарку).

Гэта паказана Вамі не дрэнна, а ў асобных раздзелах добра, нават бліскуча.

У гэтым, па-мойму, асноўная ўдача аповесці. Не ў «шляхах-дарогах», як пішаце Вы ў загалоўку, а іменна ў паказе гераічнага жыцця і змагання савецкай жанчыны.

Аб загалоўку скажу ніжэй.

Вамі любоўна выпісаны паасобныя жаночыя вобразы: асноўнай гераіні Любы, Волькі і некаторыя другія.

Волька — арыгінальны вобраз, хаця яму можа і не стае яшчэ дакладнасці. Не зусім ясны ўзаемадачыненні яе з былым мужам, якія б больш апраўдвалі яе паводзіны. Моцны біялагічны пачатак у ёй не шкодзіць, на маю думку, трактоўцы гэтага вобраза як станоўчага.

Цікава расказана Вамі аб сямейным жыцці — даваенным — Хадкевіча.

Да чытача даходзіць увесь своеасаблівы каларыт ваеннай вёскі. Відаць, што аўтар ведае сялянскае жыццё, яго асаблівасці, увесь вясковы побыт, праявы, перажыткі ідыятызму вясковага жыцця і г. д. Забыў сказаць: у Вас цудоўна выпісана летняя граза — багата свежага, новага ў гэтым апісанні. Надзвычай удалыя фразы: «Жыта, як перац схапілі», «Прападзе жыта ў бабках, як бачыш бараной парасце» і інш.

Гэта ўсё добрае, дадатнае, станоўчае ў аповесці. Але, як гэта гаворыцца, мы не можам прайсці і міма істотных недахопаў. Самы асноўны з іх — пэўная кампазіцыйная рыхласць аповесці, аднастайнасць яе сюжэтнай пабудовы. Вы яшчэ не навучыліся, як след, вязаць сюжэтныя вузлы, інтрыгаваць чытача. Вы будуеце твор, нанізваючы ў строгай храналагічнай паслядоўнасці асобныя эпізоды. Тут варта Вам сёе-тое запазычыць, пераняць у лепшых майстроў рускай і сусветнай літаратуры. Можна ж ужываць і пераносы ў часе падзей і ўсякія іншыя спосабы, якіх тысячы, каб трымаць чытача ў напружанні — а што будзе далей? Ёсць «длинноты», паўтарэнні. Аповесць яшчэ трэба

падчысціць, падскарацiць — ад гэтага яна толькі выйграе.

Цяпер аб асобных недахопах, недакладнасцях, недапрацаванасцях. У трактоўцы ўзаемадачыненняў Любы і Хадкевіча ёсць непатрэбныя, залішнія моманты, якія гучаць пэўнай абразай памяці загінуўшага Юзіка. Не трэба аўтару залішне акцэнтаваць на перажываннях сваіх герояў такога роду, як, скажам, «праблема», устаўшая перад Любай: «Юзік і Хадкевіч». Зусім дрэнна гучыць аўтарская сентэнцыя: «як расходзяцца і хутка знікаюць кругі ад кінутага на ваду камня, так разыходзіўся і знікаў у думках Любы вобраз Юзіка». Ці так гэта бывае ў жыцці? Не зусім так, тым больш што Юзік быў, ці правільней, іх дачыненні былі ідэальна шчаслівымі. Тут аўтар страціў да пэўнай ступені пачуццё мастацкага такту ў дачыненні да некаторых адвечных ісцін. Аўтар як бы знарок імкнецца апраўдаць любоў гераіні да Хадкевіча. Гэта любоў абсалютна законная, натуральная, і няма ніякай патрэбы яе апраўдваць, а тым больш выжываць гвалтоўна з памяці чалавека вобраз Юзіка. А Вы некалькі разоў акцэнтуеце на гэтым. Атрымоўваецца прыкра, фальшыва, без належнай павагі да вялікай годнасці чалавека і проста да светлай памяці добрага чалавека.

Яўна занізілі Вы вобраз Міхала Корбута — маю на ўвазе канец аповесці. Ці нельга было даць яму больш адпаведнае месца ў жыцці? А Вы яго проста кінулі ў брыгадзіры, абы толькі развітацца з героем.

Лічу няўдалым вобраз настаўніцы Марыны Паўлаўны. Калі спачатку яна абяцала нешта цікавае ў творы, то потым яе роля выклікае яўнае расчараванне. І няўдалы іменна таму, што Вы спрабуеце не то што перакрыжаваць дзве дарогі — Любы і яе,— а правесці нейкія паралелі: шляхі-дарогі двух гераінь. Адсюль нават робіце назву аповесці, гэтыя дарогі кладзіцё ў аснову ідэйнай задумы твора. Павінен сказаць, што гэта ніяк не апраўдваецца і выклікае ў чытача недаўменне. Тут маем мы не дзве дарогі, а па сутнасці адну, дарогу Любы, шлях чалавека, занятага вялікімі справамі, шлях гераічны, мужны, ад якога патыхае веліччу эпохі, і побач сцежка, я б нават сказаў — сцяжыначка непрыкметнага чалавека, якім з'яўляецца Марына Паўлаўна, чалавека з не зусім яснай біяграфіяй, носьбіта сваёй маленькай, уласнай драмы, занятага сваімі

вузкімі, не зусім цікавымі перажываннямі. Гэта хутчэй тып звычайнага няўдакі ў жыцці, прычым няўдакі шэранькага, нецікавага. Зразумела, што і гэты вобраз мае права на існаванне, але ніякага права не мае ён на супастаўленне з вобразам Любы, на прэтэнзіі на нейкую вялікую «дарогу», што зрабіла Марына Паўлаўна, каб адводзіць ёй такое месца ў аповесці. Што вучылася ў цяжкіх умовах? Гэта быў удзел усіх у часы вайны. Што дапамагла Любе падвучыцца? Справа не з выдатных. Адным словам, гэтую сцяжыначку не варта ператвараць у «шлях-дарогу». Сцяжынка застаецца сцяжынкай. Пішу Вам аб гэтым, маючы на ўвазе недакладнасць, неапраўданасць загалоўка.

З недахопаў аповесці, якія патрабуюць выпраўлення,— мова твора.

Што ж цяпер будзем рабіць з Вашай аповесцю? Празаічная секцыя сабіраецца абмеркаваць твор з Вашым выклікам у Мінск. На жаль, саюз не мае цяпер лішніх сродкаў, каб размножыць аповесць, кожны будзе чытаць рукапіс. Гэта адзавецца крыху на часе. Але нічога не паробіш, іншага не выдумаем. Калі Вы папрацуеце яшчэ над аповесцю, яна стане паўнакроўным мастацкім творам, бо ўсе дадзеныя на гэта ў яе ёсць. Гэта я і падкрэсліваю яшчэ раз.

Прашу яшчэ раз прабачэння за спазненне з адказам. Шчыра зычу Вам далейшых поспехаў у літаратуры. Цікава выслухаць Вашы думкі на мае заўвагі.

З павагай да Вас

*Міхась Лынькоў.*

18/IV 1948 г.

## 123. Я. С. МАЗАЛЬКОВУ

*18 красавіка 1948, Мінск*

Дорогой Евгений!

Прошу извинить за опаздывание с ответом на твое послание — малость болел, одолевал проклятый грипп, одолевает и работа в академии, сижу, как мученик, над работами Института литературы по двум учебникам по белорусской литературе.

Одно, чем доволен,— избавился, в конце концов, от руководства Союзом писателей. Это была моя могила. Почти. Теперь хотя время у меня появилось для творческой работы, своей собственной. В результате — второй месяц корпею над своим романом, начатым в кои века, а потом из-за союза совершенно заброшенным. В общем, думаю к концу года написать если не весь роман, то его большую половину. Во всяком разе первая книжка будет завершена.

Послал тебе на днях свою книжицу прошлогоднего издания. Спартачили мне издатели эту книжицу, а все из-за их спешки. И худосочна, и оформление аховое.

В издательстве «Советский писатель» как-будто запланирована на следующий год моя книжица. Если не поленишься — позондируй почву. Найдется у тебя время — займись составлением. Была у меня книжка на русском языке «На большой волне», не помню, какого года издания. Можешь использовать переводы. Используй и книжку «Рассказы». Но это, понятно, если у тебя будет время и желание.

С товарищеским приветом

*Міхась Лынькоў.*

18/IV 1948 г.

## 124. Б. М. МІКУЛІЧУ

*18 красавіка 1948, Мінск*

Паважаны тав[арыш] Мікуліч!

Прашу прабачэння за хранічнае спазненне з адказам на Ваш ліст (з рукапісам аповесці). На жаль, сам я не змог прачытаць аповесць з прычыны тэрміновай работы над двума падручнікамі ў інстытуце. Перадаў рукапіс рэдактару «Полымя» Максіму Танку з просьбай, каб ён паскорыў, урэшце, лёс Вашых твораў, якія знаходзяцца ў рэдакцыі.

Прашу Вас непасрэдна звязвацца з ім. «Полымя» змяшчаецца цяпер у Доме друку, у выдавецтве.

З прывітаннем

*Міхась Лынькоў.*

18/IV 48

P. S. Рукапіс я аддаў Танку адразу пасля атрымання ад Вас.

*М. Л.*

## 125. А. С. ВАСІЛЕВІЧ

*4 мая 1948, Мінск*

4/V 1948 г.

Паважаная тав[арыш] Васілевіч!

Атрымаў Ваша пасланне і вось адказваю. Добра, што Вы з сім-тым згаджаецеся з маіх довадаў. Добра, што адстайваеце і некаторыя свае пазіцыі. Той, хто адразу згаджаецца, не заўсёды сур'ёзна ставіцца да свае творчасці. Гэта не значыць, аднак, што Вы да канца, як гэта гаворыцца, правы...

Вось і пачнем ізноў па парадку, паводле пунктаў Вашага ліста. Аб кампазіцыйнай рыхласці аповесці: Вы спасылаецеся на некаторыя свае адступленні ад храналагічнай паслядоўнасці. Справа не ў гэтым. Справа ў тым, што самі гэтыя адступленні робяцца ў аднастайнай форме. А хацелася б большай разнастайнасці, большай выдумкі ў мастацкіх прыёмах.

Цяпер адносна вобраза Юзіка, яго памяці. Справа не ў тым, што «нельга гераіню абвіняць (вярней, аўтара) за яе парывы, якія міжвольна, паміма яе волі і жадання на некаторы час выцяснялі з сэрца ранейшы дарагі вобраз». І далей Вы пішаце: «Людзям прысутна гэта слабасць, як сабе хочаце». Правільна, людзям уласціва гэта слабасць. Але залішне акцэнтаваць гэтую слабасць, некалькі раз спыняцца на ёй не трэба. Чытач і так ведае пра яе. Інакш атрымаецца ўражанне, што аўтар самасілам хоча пераканаць чытача ў законнасці гэтай слабасці. А ў выніку ў чытача з'яўляецца ўражанне, што аўтар нібы хоча апраўдаць паводзіны свайго героя, што ён нібы проста навязваецца на прабачэнне за паводзіны сваіх герояў. А наогул ёсць рэчы, аб якіх не варта падрабязна спыняцца ў творы, асабліва тыя рэчы, якія чытач уведае з самага падтэксту твора. Існуе ў мастацкай творчасці пэўнае пачуццё меры, такту. Калі выйсці за межы гэтай ме-

ры, можна ўпасць у назойлівасць, калі аўтар, калі так можна сказаць, ломіцца ў адчыненыя дзверы. А пры гэтым падобныя эпізоды, перажыванні пачынаюць прыядацца чытачу, ён пазяхае, а то і проста ставіцца да такіх месц як да залішніх, а часам і штучных. Вось у чым справа. Тут патрэбны выключны такт, выключная асцярожнасць.

Некалькі заўваг наконт Вашых думак аб адносінах паміж Любай і Хадкевічам. Тут Вы не зусім яшчэ добры псіхолаг. Ёсць бясспрэчная ісціна і яна спрадвечна, як свет: першае каханне заўсёды самае моцнае і яно пакідае след на ўсё жыццё чалавека, бытуючы ў яго ўспамінах да апошніх дзён жыцця. Калі так Вы ставіцеся да вобраза Юзіка, тут Вы абсалютна правы. Але калі Вы кажаце, што «Люба знайшла ў Хадкевічу нешта агульнае з нябожчыкам мужам — і гэта цягнула яе да яго»,— то тут, здаецца мне, Вы крыху памыляецеся. А ці не проста яна захапілася цікавым чалавекам, які ёй падабаецца, да якога яна цягнецца, быць з якім ёй прыемна і г. д. І калі і шукае яна часам нейкага падабенства з Юзікам, дык гэта проста ад непазбежных успамінаў, асацыяцый і г. д. А ўвогуле каханне — гэта такія нетры, у якіх любы псіхолаг можа зламаць ногі. Схематызаваць такія рэчы, вядома, нельга...

Яшчэ раз аб Вашай Марыне Паўлаўне. Дарэмна Вы крыўдуеце на мяне за мае нападкі на гэтую гераіню. Я не супраць «вінцікаў», не супраць людзей без гучных біяграфій. Я лічу адным з выдатнейшых фільмаў апошніх год фільм аб настаўніцы. Там таксама чалавек без гучнай біяграфіі, але як любім мы гэты вобраз, як спачуваем яму, як гатовы вучыцца ў гэтага скромнага чалавека. Чаму гэта так здарылася? Настаўніца ў фільме — носьбіт высокіх грамадскіх пачаткаў. Яе сэрца шырока адкрыта людзям, усяму добраму свету. Можа, і Вы думалі падаць Мар[ыну] Паўл[аўну] ў такім жа свеце. Але гэтага, на жаль, не атрымалася. Перад намі чалавек, які, па сутнасці, замкнуўся ў сваім асабістым горы, асабістай няўдачы ў сямейн[ым] жыцці. Канешне, ён, гэты чалавек, працуе, прыносіць грамадскую карысць, але няма ў ім таго вялікага абаяння, якое маюць людзі высокай ідэі (як тая настаўніца з фільма). Нельга ж ставіць ёй у вялікую заслугу тое, што яна не пабаялася кінуць

горад і паехаць у разбураную вайной вёску, як пішаце Вы ў пісьме. Калі б Вы змаглі пераставіць яе з звычайнай сцяжынкі на шырокую дарогу, тады б Вы мелі поўнае права перакрыжаваць гэтыя дзве дарогі — Любы і Мар[ыны] Паўл[аўны]. Я не супраць настаўніцы, я за больш трапную трактоўку яе вобраза.

У гэтым уся справа.

Цяпер аб далейшым. Я гаварыў з нашымі хлопцамі аб магчымасці Вашага прыезду. Калі зможаце па сямейных і службовых умовах прыехаць, было б добра. А калі не, то наша празаічная секцыя зможа абмеркаваць Вашу аповесць і ў Вашу адсутнасць і выслаць Вам падрабязны разбор аповесці і ўсе патрэбныя пажаданні. На гэтым бывайце.

З тавар[ыскім] прывіт[аннем]

*Міхась Лынькоў.*

## 126. С. І. ВАСІЛЁНКУ

*20 мая 1948, Мінск*

20/V 1948

Уважаемый Сергей Иванович!

Прошу извинить за неаккуратность с ответом на письма. Это, во-первых.

А во-вторых, я, по всей видимости, в своем письме-предложении Вам забыл уточнить тематику намеченного нами сборника по истории белорусской литературы для высших учебных заведений. Дело идет, главным образом, о советской литературе. На этом вполне справедливо настаивает и тов[арищ] Иовчук.

Таким образом, из предлагаемых Вами материалов тематически подходит статья «Москва в белорусской литературе». Пришлите ее. Жаль, что такая работа, как «Горький и белорусская литература», касается дореволюционного периода. Это чрезвычайно интересная работа. Полагаю, что ее можно использовать и в нашем сборнике, потому что роль и значение Горького в формировании белорусской советской литературы исключительны. Возможно, что в работе нужно сделать какие-нибудь дополнения, чтобы эту тему связать с

советским периодом белорусской литературы. Вам это видней, потому что работы Вашей я не читал. Во всяком случае я думаю, что эту работу можно использовать в сборнике. Прошу поделиться Вашими соображениями по этому поводу и выслать статьи.

С товарищеским приветом

*Міхась Лынькоў.*

## 127. Я. С. МАЗАЛЬКОВУ

*14 чэрвеня 1948, Мінск*

Евгений Семенович!

Посылал я тебе недавно письмо, в котором, между прочим, писал, что в издательстве «Советский писатель» предполагается к изданию в следующем году сборник моих рассказов, и предлагал тебе, в случае твоего согласия, включиться в это дело.

От издательства, в частности от тов[арища] Кирьянова, я получил на днях письмо с предложением выслать ему оригиналы моих вещей.

У меня такое предложение: если ты согласен, то вместе с Кобзаревским возьмитесь за составление моего сборника. Одновременно составили бы сборник рассказов на русском языке (на десять листов) и для Белорусского Государственного издательства — по плану этого года.

В случае твоего принципиального согласия сообщи, сэр.

Посылаю всяческие приветствия и самые лучшие пожелания от меня и от моей половины.

С дружеским приветом

*Міхась Лынькоў.*

14/VI 1948 г.

## 128. Я. С. МАЗАЛЬКОВУ

*23 ліпеня 1948, Мінск*

Евгений Семенович!

Получил твое последнее послание, приношу за него соответствующее «дзякуй».

Как видно из твоего письма, «Советский писатель» ставится к моей книжке с явной прохладцей. Ну и леший с ними! Ты ведь знаешь, я не из тех, которые набиваются своими вещами или добиваются изданий и прочее, тому подобное. Раз предлагают тебе включиться в это дело без договора, то ясное дело: уважаемые издатели опасаются за судьбу «предприятия». Это их законное дело: и предложение для видимости сделать и обставить это предложение унизительными условиями.

В общем, юноша, оставим мы это сомнительное предприятие, в противном случае это будет походить на навязчивость. А я таких вещей не терплю. При случае сообщи об этом и Кобзаревскому. Я не хочу тебя, в данном случае, ставить также в неудобное положение.

Я трезво смотрю на вещи: издатели могут и отказаться от книжки по чисто формальным соображениям: в ней не будет послевоенных рассказов, а писать я их не собираюсь, да и не имею пока возможности. Надо гнать роман.

Что касается минской книжки, то я просил главн[ого] редактора Шараховского, чтобы он позаботился о высылке тебе договора.

Теперь относительно некоторых отрывков из романа. Работа у меня в самом разгаре, хотя этот месяц и перегружен у меня работой в академии. Но с половины августа, с сентября я пойду в двухмесячный отпуск, тогда натисну на все педали. Тогда и подготовлю тебе несколько приличных отрывков, которые и можно будет использовать при случае на радио и в «Огоньке».

На этом заканчиваю, достопочтенный мистер, мою эпистолию и остаюсь, как говорилось, преисполненный всяческих высоких чувств и пожеланий в адрес твоей, зело уважаемой мной особы. Дружеский привет семье.

С товарищеским приветом

*Міхась Лынькоў.*

23/VII 1948 г.

## 129. З. У. ПІВУШКОВАЙ

*7 верасня 1948, Мінск*

7/IX 1948 г.

Дорогие друзья наши, Зоя Владимировна и Михаил Иванович!

Огромное и сердечное Вам спасибо за Ваше письмо, за Ваши дружеские, человеческие чувства, за все Ваши пожелания Софье.

Прошло уже три недели, как доставил я Софью в Минск, как лежит она в хирургической клинике. За это время было много у нас волнений и переживаний за здоровье Сони, за ее жизнь. Но теперь можно смело сказать, что самое тяжелое осталось уже позади. Прошли дни страшных мучений для Софьи, дни высокой температуры. Особенно радостным было для нас последнее воскресенье. Софью брали под рентген. Снимки показали, что операция по вытяжению ноги проходит успешно. Ведь у нее бедренная кость, отломав часть тазовой кости, отошла сантиметра на три от нормы, а острый отломок все время угрожал брюшине. Теперь этот отломок оттянут почти в нормальное положение, бедренную кость осталось оттянуть на сантиметр. Хирург уверяет, что весь этот процесс он завершит в ближайшие десять дней, и тогда можно будет наложить гипс на таз. А это значит, что Софья сможет хотя бы повернуться на постели. Ее так измучила эта операция на вытяжение, что она мечтает, как о высшем благе, освободить свою ногу от ненавистного груза и лечь нормально в постели (теперь кровать у нее поставлена так, что голова лежит значительно ниже, чем ноги).

Что касается ключицы, лопатки, ребер, то процесс сращения идет нормально. В общем, все мы надеемся, что Софья не через месяц, так через два, пусть себе даже три, вернется домой и будет, что называется, настоящим человеком.

Теперь она не переживает уже бывших мучительных болей, может подолгу говорить и даже смеяться и веселиться (говорю это, конечно, условно, какое уж там веселье, но все мы рады, когда видим ее улыбку).

Мы вот разговорились о наших болезнях и забыли

поздравить Зою Владимировну с тридцатилетием ее педагогической деятельности. От души, от всего сердца поздравляем Вас, Зоя Владимировна, вместе с Соней с Вашим славным тридцатилетием и искренне желаем Вам не один раз повторить свои юбилейные даты.

Горячий привет Вам, Зоя Владимировна и Михаил Иванович, от Марьи Петровны, Маруси и Надюши. Надюшка теперь уже полноправный «студент» 1-го класса, обременена множеством своих школьных трудов и забот.

Крепко жму Ваши руки.

Уважающий Вас *Міхась Лынькоў.*

P. S. Прошу передать привет Вове и Борису.

## 130. М. Ц. ЛЫНЬКОВУ

*6 кастрычніка 1948, Мінск*

Привет, Николай!

Как видишь, опоздал я с ответом на твое письмо больше чем на месяц — до того завертелся с работой, службой, с клиникой.

Каковы дела у нас?

Дела с Софьей значительно поправились. Почти все переломы срослись, врачи теперь возятся с ногой. Все время нога находилась под грузом (четыре кирпича), на вытяжении. Постепенно этот груз уменьшали, осталась одна кирпичина, да и ту послезавтра снимут. А это значит, что Софья сможет уже и поворачиваться и менять положение в постели. Рентгеновские снимки свидетельствуют о благополучном ходе всего лечения. В общем, на днях Софью будут учить становиться на ноги, в первое время с помощью костылей. Дней через десять думаю взять ее из клиники домой, потому что непосредственной врачебной помощи уже не нужно будет, необходима только будет в течение месяца помощь лечебной массажистки-физкультурницы и медицинских сестер.

Одним словом, теперь мы можем уже вздохнуть с облегчением: все это уже позади. А стоило все это и нервов, и здоровья, и сумасшедших расходов. Но все хорошо, что хорошо кончается. Может быть и не со-

всем хорошо, но могло быть значительно хуже — в первое время врачи сомневались, что Софья выживет. Главное, что спасло ее, это молодость и то, что она никогда не болела ни одной серьезной болезнью.

Таковы наши дела.

На этом заканчиваю свое послание.

Сердечный привет Ольге и малышам.

С приветом твой брат *Міхась Лынькоў*.

6/X 1948 г.

## 131. В. М. ЗОРЫНАЙ

*23 кастрычніка 1948, Мінск*

Паважаная тав[арыш] Зорына!

Прашу выбачэння за некаторае спазненне з адказам на Ваша пісьмо. А спазніўся таму, што да гэтага часу ў мяне не было больш-менш людскага фотаздымка. Урэшце фатограф «увекавечыў» маю скромную персону і я маю магчымасць паслаць Вам фотаздымак. Гэтымі днямі паслаў Вам бандэроллю і маю апошнюю кніжку, якой я, дарэчы, вельмі і вельмі нездаволены: паважаныя выдаўцы парадкам спаганілі яе (маю на ўвазе і памер кніжкі і яе афармленне). Тым часам абяцаю, калі выдам што лепшае, абавязкова прышлю экземпляр Вашай бібліятэцы.

З тварыскім прывітаннем

*Міхась Лынькоў*.

23/X 1948 Мінск

## 132. М. Ц. ЛЫНЬКОВУ

*23 кастрычніка 1948, Мінск*

23/X 1948 г.

Дорогой Николай!

Как видишь, запаздываю с ответом и на твое последнее письмо. А виной всему проклятая перегруженность работой по академии — у нас горячее время в институте, сдаем в печать два учебника по белорус-

ской литературе. Через пару дней вздохну свободней — пойду в конце концов в двухмесячный отпуск.

За это время значительно поправились дела с Софьей Захаровной. Еще 15-го этого месяца я выписал ее из хирургической клиники и теперь она дома. Поломы все срослись, и в эти дни под руководством физкультурницы-массажистки она делает первые пробы садиться и ходить по комнате. От пятидесяти минут в день эта ходьба доведена сейчас часов до трех, четырех в сутки. Ходит пока на костылях, но пробует обходиться и без них. Хирург и физкультурница — преподавательница Института физкультуры заверяют нас, что дней через десять костыли можно бросить в печь. Софья будет ходить и без них. Есть все основания этому верить, потому что процесс восстановления пошел очень быстро.

В общем, как видишь, дела наши поправляются и можно только повторить, что все хорошо, что хорошо кончается. Правда, это «хорошее» обошлось нам чрезвычайно дорого.

На этом заканчиваю свое послание. С братским приветом тебе и Ольге

*Міхась.*

P. S. Привет от Софьи Захаровны. Привет малышам.

## 133. Я. С. МАЗАЛЬКОВУ

*28 кастрычніка 1948, Мінск*

Дорогой Евгений Семенович!

Я так запарился со своей срочной работой в Академии наук (готовил два учебника — и как редактор и как автор — по белорусской литературе для средней школы), что, как видишь, даже запаздываю с ответом на твое послание.

Теперь же положение у меня значительно улучшается, с 25-го иду в двухмесячный отпуск и смогу наконец полностью отдаться моему роману, роды которого так затянулись. Думаю к концу этого года закончить первую книгу моей «эпопеи», начатой еще давно, но по ряду причин до сего времени незавершенной: мешали союз и академия. Теперь же дышать мне стало

значительно легче, так как скинул со своих плеч основную обузу — союз. В ноябрьской книжке «Полымя» будут опубликованы первые шесть печатных листов моего детища, после чего буду печатать его регулярно.

Пару слов о моих семейных делах. На днях выписал жену из клиники. Поломы у нее все срослись, теперь под руководством массажистки-физкультурницы она осваивает первые шаги по комнате и двору. «Учеба» эта идет пока с костылями, но делаются уже первые попытки избавиться от них. Обещают мне врачи, что дней через десять костыли будут «изъяты из обращения». В общем молодость и общее состояние здоровья жены помогли ей выкарабкаться буквально из могилы. Вся эта печальная история стоила мне и нервов, и средств, и времени. Теперь я страшно доволен всем исходом этого дела, ведь могло все это кончиться трагически. Врачи только теперь признаются мне, что в первые дни лечения они серьезно сомневались в том, что жена выживет — ведь доставил я на самолете буквально мешок костей. И если до сего времени я довольно скептически относился к нашим медикам, то теперь вижу, что порой они делают форменные чудеса. Одним словом, урок я получил достаточно наглядный и убедительный, хотя и обошелся он мне чрезвычайно дорого.

Но все хорошо, что хорошо кончается.

Теперь о делах: требуемую тобой книжицу я выслал тебе на днях бандеролью. Буду посылать тебе и книжки «Полымя» с моим злосчастным романом.

На этом заканчиваю свое послание. Сердечный привет твоей семье.

С дружеским приветом

*Міхась Лынькоў.*

28/Х 1948 г.

## 134. П. С. КАБЗАРЭЎСКАМУ

*23 лістапада 1948, Мінск*

Уважаемый Павел Семенович!

Запаздываю малость с ответом на твое послание. Рад, что закончил ты свою часть переводов, Мозольков мне тоже пишет, что у него работа закончена.

Теперь относительно сборника Янки Купалы. Советую не включать в однотомник такие стихотворения из юбилейного издания 1948 года: «Паэзія», «Паэтам», «З людзьмі», «Бываюць хвілі...», «Разлад», «Эпіграмы», «Каб», «Гутарка аб кепскім гаспадару», «Гутарка аб кепскай гаспадыні». Все эти стихотворения не так уже характерны для Янки Купалы, некоторые носят характер случайных экспромтов, дружеских шуток и пр. Место им в академических полных собраниях.

К дальнейшей работе над романом только что приступаю. В 11-м и 12-м номерах «Полымя» идут первые части. Вышлю книжки журнала, как только они выйдут из печати, так что сам возьмешь из них то, что понравится.

Здоровье Софьи Захаровны постепенно улучшается, ходит теперь без костылей, обходится с помощью трости. Будет ходить и без нее. Передает она тебе дружеский привет.

Привет ленинградцам, в первую очередь Саше.

С товарищ[еским] приветом

*Міхась Лынькоў.*

23/XI 1948 г.

## 135. Я. С. МАЗАЛЬКОВУ

*25 лістапада 1948, Мінск*

Дорогой Евгений Семенович!

Получил твое очередное послание, за которое и посылаю тебе сердечное спасибо.

Что нового у нас? Кажется, наступила зима, дня два стоят легкие морозы. Порядком надоела грязь и наши гнилые туманы. У вас, под Москвой, наверное, холоднее, чем у нас в Минске?

Прошел уже месяц, как я нахожусь в своем «отпуске» — порядком надоели всякие непредвиденные работы в связи с надвигающейся годовщиной республики, много времени отняла у меня большая статья о тридцатилетии белорусской литературы. Теперь вплотную займусь своим романом. Две первые части публикуются в одиннадцатом и двенадцатом номерах «По-

лымя». Продолжение первой книги романа и вторая книга пойдут в следующем году. Не знаю, как удастся мне завершить мой «труд» — задумал я ведь довольно-таки огромную эпопею, для осуществления которой нужно много времени, материалов и, разумеется, труда. Надеюсь как-нибудь все-таки вытянуть это дело. Немного помешали мне в работе все «приключения» моей жинки. Теперь она становится по-настоящему на ноги, ходит по комнате без костылей, с палочкой, в общем поправляется и не плохо.

Был я вчера у Константина Михайловича, говорили о твоих квартирных делах. Решили: просить при случае товарища Иовчука, чтобы он написал соответствующее письмо Фадееву. Предполагается также письмо Фадееву от нашего Правления союза.

Получил письмо от Кобзаревского. Сообщает, что закончил свою часть переводов. Не мешало бы быстрей послать переводы в издательства.

На этом заканчиваю свое послание. Желаю тебе хорошей поправки в санатории. Привет всей твоей коммуне.

С дружеским приветом

*Міхась Лынькоў.*

25/XI 1948 г.

## 136. Я. С. МАЗАЛЬКОВУ

*14 снежня 1948, Мінск*

Дорогой Евгений!

С присущей мне привычкой запаздывать с ответом на письма малость запаздываю и сейчас.

Рад, что санатория подремонтировала твое здоровье. Это самое главное. «В здоровом теле здоровый дух» — истина хотя и старая, но неизменно верная.

Вместе с письмом посылаю тебе заказной бандеролью № 11 «Полымя» с началом моего злополучного романа (первая часть). Кусочек этой части (раздел четвертый) печатали еще в 1944 году в «Огоньке» под твоей достопочтенной подписью как переводчика. На днях должен выйти из печати и № 12 «Полымя», в нем

печатаю вторую часть. Третья часть у меня на руках в рукописи. Остается дописать две или три части и на этом первая книжка будет закончена. С № 12 сделаю небольшой перерыв, месяца на два, для дальнейшего разгона. <...>.

Привет семье и привет от моей половины.

Крепко жму руку.

*Міхась Лынькоў.*

14/XII 1948 г.

## 137. Я. С. МАЗАЛЬКОВУ

*24 снежня 1948, Мінск*

Достопочтенный сэр!

Одновременно с этим письмом посылаю тебе двенадцатый номер «Полымя». Одиннадцатую книжку журнала я послал тебе не так давно заказною бандеролью, не знаю, получил ты ее или нет.

Польщен твоими разговорами в Гослитиздате, но все же это дело еще некоторого будущего, книга ведь не закончена, она только начата. Я предполагаю закончить первую книгу романа в первые три-четыре месяца нового года. Правда, думаю ее сделать так, чтобы она имела, так сказать, самостоятельное хождение, не была бы зависимой от другой книги. Готов у меня кусок, по размерам равный второй части (№ 12). Нужно написать еще две-три части — минимум пятнадцать, двадцать листов. Как видишь, работы еще до черта и трудно пока судить о результатах. О первых двух опубликованных частях отзываются положительно, но это ведь еще начало.

Одним словом, все, что будет у меня готово, ты будешь иметь под руками — сможешь — при случае и при желании — дать по кусочку куда-нибудь: в «Огонек», на радио и т. п.

Что касается дальнейших судеб книги — смотри сам. Понятно, что никаких других переводчиков я не ищу и искать не буду.

Таковы мои соображения и планы. Хочется самому поскорее закончить все это довольно громоздкое сооружение, которое я задумал. Думаю сделать все, что-

бы его осуществить. Главное, что мне нужно: время, за него буду бороться, чтобы не слишком отвлекаться на всевозможные другие работы и задания.

На этом заканчиваю свое послание.

Привет твоей коммуне.

Дружески жму руку.

*Міхась Лынькоў.*

24/XII 1948 г.

## 1949

### 138. М. Ц. ЛЫНЬКОВУ

*10 студзеня 1949, Мінск*

Дорогой Николай!

Сердечное спасибо тебе и Оле за письмо и поздравительную телеграмму по случаю моего награждения. Праздники у нас прошли на славу. Кроме награждения группы работников промышленности, сельского хозяйства, науки и культуры награждена большая группа партизан, более двадцати тысяч человек. По этому можешь судить о размахе наших юбилейных торжеств.

Одним словом, отпраздновали, а теперь и за работу. Правда, всякие собрания и заседания изредка мешают спокойной работе. Сегодня у нас начинается юбилейная сессия Академии наук, продлится дней десять. В конце января в Москве будет проводиться Декада белорусской литературы, из Минска выедут на декаду человек двадцать писателей. Я не поеду, надо будет участвовать в областной партийной конференции. Работаю я теперь над большим романом о партизанском движении. Часть романа опубликована в двух номерах журнала «Полымя» прошлого года. Часть публикуется сейчас. Но работы предстоит еще очень много, чтобы роман завершить полностью.

Софья постепенно поправляется. Ходит теперь с палочкой. Пробует ходить по комнате и без палки. Очевидно, что последствия всей этой истории будут

еще чувствоваться долгое время. Но как бы то ни было, ей теперь значительно лучше, чем было раньше.

Вчера к нам приехала в гости Поля. Думает побыть у нас и наведать Веру, у которой родилась дочка. Поля посылает всем вам привет.

Таковы все наши дела. Как поправляются после болезней племянники? Желаем им стать крепышами в этом новом году и не признавать никаких болезней, никаких ленинградских простуд.

Привет всем вам от меня, от Софьи.

С братским приветом

*Міхась.*

10/I 1949

## 139. П. С. КАБЗАРЭЎСКАМУ

*25 студзеня 1949, Мінск*

Дорогой Павел Семенович!

Прошу извинить за не совсем уже приличное запоздание с ответом на твое письмо. Замотался я малость за эти дни: подготовка к нашему белорусскому празднику, юбилейные торжества, потом десять дней юбилейной сессии Академии наук,— просто измаялся.

Большое спасибо за теплое слово о моем романе, вернее — о начале его. Все говорят мне, что написано вроде неплохо. Но автору ведь ближе и виднее его пороки и недостатки, а потому особого удовлетворения своим детищем он пока не видит. Да начинаются для него и основные трудности: героев нужно пускать в жизнь и в работу, а это, как тебе известно, не совсем легкое дело. Кроме всего прочего, был у меня вынужденный прогул месяцев на пять. Надо наверстывать утраченное время, нажимать, как говорится, на все педали. При моей работе в академии все это довольно-таки трудно. Но ничего не попишешь — взялся за гуж, не говори, что не дуж.

Таковы мои дела.

На декаду я не поехал. Оставили меня, с моего согласия, присматривать за союзом. Это раз. А во-вторых, и самому не хотелось тратить на поездку дорогое время.

Что касается перевода, то, по-моему, об этом рано еще говорить. Надо закончить дело, тогда будет видней и для меня и для тебя: стоящее ли это дело.

С переводом моей книги в Белгизе я еще не знакомился, знаю только, что его читают редакторы.

Привет от Софьи Захаровны.

Дружески пожимаю руку.

*Міхась Лынькоў.*

25/I 1949

## 140. Я. А. ФЕДЧАНКА

*25 студзеня 1949, Мінск*

Дорогая Ядвига Александровна!

С большой радостью получил и прочитал Ваше письмо, письмо одного из моих лучших и старых друзей, которым есть что вспомнить и о прежней работе — а за нее они не краснели,— есть все основания чувствовать моральное удовлетворение и за свою сегодняшнюю работу. Когда я узнал, что будет награждена большая группа наших учителей, я был более чем уверен, что список награжденных будете возглавлять и Вы. Одним словом, примите еще раз самое искреннее поздравление с награждением и самые лучшие мои пожелания: жить и жить и радоваться жизнью и трудом.

Есть у меня, Ядвига Александровна, и некоторые претензии и даже обиды и к Вам и к Николаю Ивановичу. Уже несколько лет, как мои друзья не заглядывали в мою хату, а в Минске они, по всей видимости, бывают. Чем это объяснить? Может быть какой-нибудь случайной обидой, случайным недоразумением? Не знаю. Ни разу не заглянула и Лариса, хотя один раз обещала было зайти за книгами. Я даже не знаю, где она теперь, учится ли еще, работает ли? Недобре все это, тем паче со стороны моих друзей, о которых у меня самые лучшие воспоминания и к которым у меня сохранились и сохраняются самые лучшие чувства. Ведь без Вас осиротел бы для меня город Рогачев, с которым связаны у меня многие и многие воспоминания: и детства, и юности, и первого выхода на большую дорогу

ского горсовета. Пишите о них как о своих предложениях.

С дружеским приветом

*Міхась Лынькоў.*

Нарочь,
2/IX 1966 г.

## 356. В. А. ЛАПІЦКАЙ І ВУЧНЯМ РАДЗЕЕЎСКАЙ ШКОЛЫ

*3 верасня 1966, Нарач*

Паважаная Ольга Аляксееўна!

Шчырае дзякуй за Ваша пісьмо. На жаль, не магу я поўнасцю выканаць Вашы просьбы. Яшчэ раз вяртацца да сваёй аўтабіяграфіі не маю пакуль што ні сіл, ні часу, бо заняты цяпер некалькімі звыштэрміновымі і службовымі і сваімі асабістымі працамі. Вы пытаецеся, з якіх твораў лепш за ўсё пачынаць вывучэнне мае творчасці. Думаю, што можна пачынаць з такіх апавяданняў, як «Над Бугам», «Андрэй Лятун», «Гой». Я пасылаю Вам бандэроллю дзве кніжкі аб маёй творчасці тт. Куляшова Ф. і Бугаёва Д. Спадзяюся, што калі гэтых кніжак у Вас няма, то яны дадуць Вам патрэбныя матэрыялы.

З самым цёплым прывітаннем

*Міхась Лынькоў.*

3/IX 1966 г.
Нарач

## 357. І. Д. КАЗЕКУ

*28 верасня 1966, Нарач*

Паважаны Іван Дарафеевіч!

Я заканчваю артыкул «Аб часе і аб сабе» і прывязу яго ў выдавецтва ў першых чыслах лістапада.

З сардэчным прывітаннем

*Міхась Лынькоў.*

28/IX 1966 г.
Нарач

## 358. ВУЧНЯМ 7-га «А» КЛАСА РАДЗЕЕЎСКАЙ ШКОЛЫ

*15 кастрычніка 1966, Нарач*

Дарагія дзеці!

Даўно атрымана ваша пасылка з яблыкамі, а падзякаваць за ваш падарунак я маю магчымасць толькі цяпер, бо некаторы час быў у ад'ездзе. Сардэчнае дзякуй за ваш салодкі гасцінец, за вашу ўвагу і за вашы добрыя пачуцці да мяне.

Жадаю вам і вашым настаўнікам добрага здароўя і такіх жа добрых поспехаў у жыцці, працы і вучобе.

З нарачанскім прывітаннем

*Міхась Лынькоў.*

15/X 1966
Нарач

## 1967

## 359. Я. С. МАЗАЛЬКОВУ

*11 лютага 1967, Мінск*

Дорогой Евгений!

Рад, что твоя домашняя жизнь вошла в нормальную колею, что все пребывают в здравии и благополучии.

Мы живем по-старому, помаленьку, одним словом, скрипим, пока можем. Как-никак, старость не радость. Она основательно сковывает, ограничивает человека — не так уж легко ходить, ездить, передвигаться и прочее. Все это, конечно, законная дань старческому брюзжанию. А в общем жить еще можно. У нас сейчас проходит выдвижение в кандидаты в депутаты Верховного Совета республики. Только что получил телеграмму от Радошковичского избирательного округа — просят дать согласие баллотироваться по этому округу. Хотя депутат из меня не ахти какой, но согласие дать нужно. В последний созыв я был депутатом по Лиозненскому округу в Витебщине. А раньше на Пинщине. Это

далекие места — ездить на Пинщину было все равно, что в Москву (надо было ехать чуть ли не до Бреста, а потом поворачивать на юго-восток, на Пинск. Не близкая дорога и до Лиозно, с пересадкой в Витебске). Радошковичи близко, ты был в Вязынке, так что представляешь это расстояние. Ближе «переехал» и К. Крапива, с Могилевщины до Смилович под Минском. Все это облегчает, конечно, нам, «старикам-депутатам», выполнять наши депутатские обязанности, чаще встречаться со своими избирателями.

Таковы наши новости, хотя для тебя они и не представляют особого интереса.

Был вчера в издательстве. Передал Казеко все, о чем ты говорил мне в телефонном разговоре. Взял и посылаю тебе необходимую справку.

На этом заканчиваю очередное послание. Сердечный привет от меня и Софьи Захаровны тебе и Калерии Ивановне. Ждем лета и летнего тепла на Нарочи.

С наилучшими пожеланиями

*Міхась Лынькоў.*

11/II 1967 г.

## 360. П. С. КАБЗАРЭЎСКАМУ

*26 лютага 1967, Мінск*

Дорогой Павел Семенович!

Письмо Павлу Ивановичу я послал. Из моего старого сборника (1961 года) я исключаю десять рассказов: «Волчий лог», «Радо», «Кларнет», «Хомуты», «О человечьем сердце», «Про мальчика Яську», «Три злота», «Недопетые песни», «Свадьба» и «Кусок хлеба». Они занимают приблизительно пять печатных листов.

Вместо исключенных рекомендую из сборника «За акіянам» следующие рассказы: «Чорная пляма», «Джыавані», «Цана крыві» і «Падарунак маці».

Павлу Ивановичу я пісаў, каб ты быў переводчиком этих рассказов, а также перевел бы и «Встречи» <...>. Я писал также и о том, что если издательство и ты найдете что-либо стоящее в остальном материале «заокеанского» сборника, то я не был бы против исполь-

зования таких материалов. Я лично не могу быть объективным ценителем вещей этого сборника хотя бы уже потому, что сборник этот не сказать чтобы был мне по душе.

На сем заканчиваю послание с наилучшими пожеланиями и приветом твоей коммуне от меня и Софьи Захаровны.

*Міхась Лынькоў.*

26/II 1967 г.

## 361. В. А. ЛАПІЦКАЙ

*26 лютага 1967, Мінск*

Паважаная Ольга Аляксееўна!

Атрымаў Ваша пісьмо-запрашэнне. Вялікае за яго дзякуй. Калі не выйду са строю, то прыеду. Хацеў бы даведацца, дзе знаходзіцца раз'езд «Буслы» — да ст[анцыі] Буда-Кашалёўская ці пасля гэтай станцыі (калі ехаць з Мінска).

З падборам матэрыялаў для Вашага дыспута я згодны.

Апавяданне «Дзіцячы башмачок» не зусім аўтабіяграфічнае, але гэта, як гаворыцца, не мяняе справы.

На гэтым заканчваю сваё кароткае пасланне.

З павагай да Вас

*Міхась Лынькоў.*

26/II 1967 г.

## 362. А. П. УС

*25 чэрвеня 1967, Нарач*

Паважаная Аляксандра Паўлаўна!

Памятаю аб сваім абяцанні. Сёння закончыў работу над з'ездаўскімі матэрыяламі (для «Полымя») і саджуся за перадавіцу для «Работніцы і сялянкі». Спадзяюся дзён праз дзесяць паслаць яе ў Вашу рэдакцыю. Адным словам, не хвалюйцеся, перадавіца будзе, хаця ў нарачанскіх умовах без маёй хатняй бібліятэкі пісаць такі артыкул даволі цяжкавата. Але, як гаворыцца,

няма такіх крэпасцей, якія б былі не пад сілу нашаму брату-камуністу...

З нарачанскім прывітаннем

*Міхась Лынькоў.*

25/VI 67

## 363. Я. С. МАЗАЛЬКОВУ

*27 ліпеня 1967, Нарач*

Дорогой Евгений!

Кончается и июль месяц... Ты, очевидно, понимаешь суть многоточия?

Переслал я тебе рукопись твоего перевода в нескольких бандеролях. Там у меня некоторые пометки карандашом (их очень немного), прими их во внимание.

Как только переслал я рукописи, так и заболел. Проболел довольно серьезно. Проклятая стенокардия. Три дня, как разрешили мне эскулапы закончить постельный режим и прекратить уколы. Теперь жив и здоров, начал работать.

Жарища у нас стоит как никогда неимоверная. Уже второй месяц, как не было дождя.

Где пребываешь с Калерией Ивановной? Что думаешь о нарочских берегах?

Разом со мной болел и Максим Танк. Нам обоим повезло: ни разу еще не купались, ни разу не выезжали на рыбалку. Думаем осуществить эти «замыслы» в ближайшие дни.

На этом заканчиваю послание. С приветом от меня и С[офьи] З[ахаровны] Калерии Ивановне и твоей персоне!

*Міхась Лынькоў.*

27/VII 1967

## 364. В. А. ЛАПІЦКАЙ

*Ліпень 1967, Нарач*

Паважаная Ольга Аляксееўна!

Даўно атрымаў Ваша пісьмо, а адказаць змог вось толькі цяпер. Мне гэтым летам зусім не вязе. Жыву на

возеры, але ні разу яшчэ не выкупаўся, не злавіў ніводнага шчупака. Справа ў тым што ўвесь гэты час даволі цяжка хварэў (сардэчныя прыступы, стэнакардыя). Толькі пару дзён таму назад мне дазволілі вылезці з пасцелі і хадзіць па хаце, нават выбірацца на вуліцу (праўда, падалей ад сонца).

Адным словам, маю магчымасць адказаць на пісьмы, а іх сабралася за гэты час даволі многа.

Вы залішне дзякуеце нас за прыём Вашага вучнёўскага калектыву. Недарэчна атрымалася з пагодай. Вашы вучні не мелі нават магчымасці пакупацца ў возеры. А цяпер вось больш месяца стаіць такая жарышча, што наш бераг нагадвае Чарнаморскае ўзбярэжжа ў час найлепшага курортнага сезона: у вадзе сотні і сотні людзей — купаюцца. Жара такая, што ў агародзе ўсё пасохла — за апошнія дзесяткі год упершыню такая гарачыня. Чакаем дажджу, як манны нябеснай.

Адказваю на некаторыя Вашы пытанні. З выпускнікоў Ліпініцкай школы магу прыгадаць Вішнеўскага Мікалая Аляксеевіча (член Саюза пісьменнікаў, адрас Вішнеўскага: гор. Мінск-12, Тыпаграфскі праезд, д. 3, кв. 3). Вішнеўскі вучыўся ў мяне ў Ліпінічах, калі не памыляюся, усяго адзін год.

З выпускнікоў Свержанскай школы магу прыгадаць Іванюка Яўгенія Іванавіча (гор. Рагачоў Гомельскай вобласці, вул. Леніна, д. 45, кв. 7) і доктара філалагічных навук Пшыркова Юліяна Сяргеевіча (гор. Мінск, Акадэмія навук БССР, Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы). Магчыма, яны ўспомняць каго-небудзь з сваіх аднакашнікаў.

З калег па Свержанскай школе магу прыпомніць Дар'ю Васільеўну Сівакову (гор. Мсціслаў Магілёўскай вобласці, вуліца Юрчанкі, 25) і Ядвігу Аляксандраўну Федчанка (адраса дакладнага не ведаю, жыве, здаецца, у Бабруйску).

З аднакурснікаў па Рагачоўскай семінарыі магу прывесці адрасы Камісарава Паўла Лук'янавіча (Глыбокае Віцебскай вобл., вул. М. Горкага, 75) і Нікалаева Макара Аляксандравіча (вёска Кашалёва Буда-Кашал[ёўскага] р[аё]на). Магчыма, яны ведаюць і другіх аднакурснікаў з ліку жывых.

Коратка адказваю на апошнія пытанні: беларускія пісьменнікі ў часе вайны пісалі ва ўсе цэнтральныя газеты, частка пісьменнікаў працавала ў спецыяльных

франтавых газетах — «За Савецкую Беларусь» (рэдактарам быў я) і «За свабодную Беларусь» (рэдактарам быў І. Гурскі).

Працую цяпер над зборам сваіх твораў у чатырох тамах.

Вобраз Міколкі мае сёе-тое з маёй біяграфіі.

На гэтым заканчваю пісьмо. Пісаць мне даволі цяжкавата.

З шчырым прывітаннем

*Міхась Лынькоў.*

P. S. Мар'я Уладзіміраўна выехала з Нарачы яшчэ ў чэрвені месяцы. Ваша пісьмо, паколькі там былі звароты і да яе, мной пераслана ёй.

*М. Л.*

## 365. В. А. ЛАПІЦКАЙ

*22 верасня 1967, Нарач*

Паважаная Ольга Аляксееўна!

Зусім, як бачыце, я сапсуўся, не адказваю ў часе на пісьмы... Адным словам,варты ўсякага ганьбавання... Нічога не папішаш, факты ёсць факты, трапіў я ў вялікія грэшнікі перад Вамі, а таму вось і каюся: даруйце мае грахі — вольныя і нявольныя.

Аднак кожны вінаваты мае права і на некаторыя апраўданні. Вось я і апраўдваюся. Увесь час было, як гэта гаворыцца, работы па самае горла — рыхтую чатырохтомны збор сваіх твораў. Здаў тры тамы, засталася праца над апошнім томам. А тут адолелі дактары, загадалі месяцы на два весці пасцельны рэжым. А да гэтага ўколы і ўсякая іншая трасца. Вось чаму я і стаў неакуратным карэспандэнтам, зацягваю адказы на пісьмы. Наогул лета выдалася для мяне дрэннае. І хаця было яно цёплае і жаркае, але я, жывучы на возеры, усяго два разы выкупаўся — і купанне забаранілі дактары.

Цяпер адчуваю сябе крыху лепш. Жыву з Соф'яй Захараўнай на Нарачы. Яна ў мяне заўзяты купальшчык — купаецца і цяпер. А я карпею над паперамі, капаюся ў вольны час на агародзе.

У Мінск паедзем толькі перад Кастрычніцкімі святамі.

На гэтым заканчваю пісьмо. Сардэчнае прывітанне Вашым вучням і найлепшыя ім пажаданні.

З нарачанскім прывітаннем ад мяне і Соф'і Захараўны

*Міхась Лынькоў.*

22/IX 1967 г.
Нарач

## 366. Я. С. МАЗАЛЬКОВУ

*Кастрычнік 1967, Нарач*

Дорогой Евгений!

Жаль, что не приехал ты на нарочские берега, где мы тебя ждали, приведя в боевую готовность весь мой флот (как-никак, два судна — одно деревянное, другое металлическое). Мы уже подумали, что ты не получил моего письма с Нарочи, в котором я писал, как нам наилучшим образом связаться друг с другом и какой транспорт использовать для твоего приезда. Потом мы подумали, что ты вообще не приехал, и Софья поехала в Минск на «разведку».

Хорошо, что вы встретились и поговорили. Теперь у меня к тебе такая просьба. За последние года два моего отшельнического жития я утратил всякие издательские адреса и забыл, кто и руководит издательствами. Одним словом, сообщи мне адрес «Советского писателя» и имя, отчество и должность Лесючевского. Кроме этого, напиши, на какой год просить включить в издательский план мои «Векапомныя».

Такова моя просьба. Софья рассказала мне о разговоре с тобой, передала с твоих слов информацию о Пленуме (вернее, об атмосфере на Пленуме и всяких таких вещах).

На Нарочи я думаю пробыть с Софьей до ноября, а потом переберемся в Минск.

Пишу это послание в пять часов утра. Темно, на дворе первые заморозки. Озеро угомонилось, не шумит — безветренное утро. Часа через полтора выеду на

моторке на рыбалку, на щук. Ты, очевидно, не знаешь этой рыбацкой страсти и не понимаешь ее. А штука эта замечательная, не мешало бы и тебе приобщиться к немалоликой армии рыбаков-любителей, подлинных страстотерпцев. Но приобщаться надо в летние дни, на утренних зорях — до чего же они прекрасны! Рыбалка — это замечательное общение с природой, помогающее познать ее тайны, ее красоты, ее мудрость.

Однако отклонился я значительно в сторону рыбацких увлечений.

Заканчиваю сие послание. Нарочский привет Калерии Ивановне от меня и Софьи Захаровны. Тебе, конечно, тоже. И домочадцам и чадам.

Жму десницу.

*Міхась Лынькоў.*

## 367. І. П. МЕЛЕЖУ

*3 лістапада 1967, Мінск*

Дарагі Іван Паўлавіч!

Сардэчна віншую цябе і сям'ю з выдатнай гадавінай Вялікага Кастрычніка, а цябе яшчэ раз з высокай урадавай узнагародай.

Жадаю ўсім добрага здароўя, шчасця, радасці, вясёлага святочнага настрою і слаўных поспехаў у жыцці, у працы, у творчасці!

З сяброўскім прывітаннем

*Міхась Лынькоў.*

3/XI 1967 г.

## 368. А. А. КУЛЯШОВУ

*6 лістапада 1967, Мінск*

Дарагі Аркадзь Аляксандравіч!

Сардэчна віншую цябе, Ксану Фёдараўну, дзяцей і ўнукаў з наступаючым святам Вялікага Кастрычніка і жадаю ўсім добрага здароўя, слаўных поспехаў у жыцці і — галоўнае — шчасця і радасці жыць, пра-

цаваць і тварыць пад мірным сонечным небам нашай Радзімы!

Са святочным прывітаннем ад маёй камуны

*Міхась Лынькоў.*

6/XI 1967 г.

## 369. Я. С. МАЗАЛЬКОВУ

*30 лістапада 1967, Мінск*

Дорогой Евгений Семенович!

Все-таки фотографы меня подвели. Один заболел, а другой испортил пленки три и ничего у него толком не получилось. Причина, очевидно, в объекте съемки: такая образина получается, что и смотреть тошно.

Посылаю тебе три снимка — два десятилетней давности, один поновее (такой я послал в начале ноября Горбачевой). По твоему усмотрению используй их.

Новостей у меня особых не слышно. Сдал в печать три тома из моего четырехтомного собрания, теперь готовлю последний том. Первый том на днях вышел из печати.

Работаю мало, одолевают недуги. На личном опыте убеждаюсь, что старость не радость.

С сердечным приветом тебе и Калерии Ивановне — от меня и Софьи Захаровны

*Міхась Лынькоў.*

30/XI 1967 г.

## 370. І. П. МЕЛЕЖУ

*25 снежня 1967, Мінск*

Дарагі Іване!

Прымі з сям'ёй сардэчнае павіншаванне з наступаючым Новым годам і пажаданне ўсім добрага здароўя, шчасця, радасці і поспехаў і на 1968 год і на ўсе наступныя гады!

Няхай мірна свеціць сонца ў нашы хаты, над нашай зямлёй!

З навагоднім прывітаннем

*Міхась Лынькоў.*

25/XII 1967 г.

## 1968

### 371. Я. С. МАЗАЛЬКОВУ

*4 лютага 1968, Мінск*

Дорогой Евгений!

Каюсь в своих прегрешениях: запоздал с ответом на твое последнее письмо. Это, если хочешь, и «месть» тебе: ты тоже в переписке не можешь похвалиться аккуратностью, так что получается в некотором роде «око за око и зуб за зуб».

Но все это, конечно, шутки. Дело в том что я, верный прошлогодней традиции, малость прихварываю и в этом году пробавляюсь уколами «диафиллина нютеозума», порошками «эуфиллини» и всякими подобными специями. Прихварывает и Софья Захаровна и наша любимица внучка.

Но не болезнями едиными жив человек, но и трудами.

Вожусь я со своим четырехтомником. Сдал уже три тома, сдаю последний. Из печати уже вышел первый том.

Таковы наши дела. Как здоровье Калерии Ивановны? Как шевелишься сам? Как подвигается твоя работа во владениях Лесючевского?

У нас особых новостей нет. Имею в виду наши писательские дела. Максим Танк сейчас обретается в Москве на секретарском дежурстве.

Умер наш Председатель Президиума Верховного Совета республики Василий Иванович Козлов. На внеочередной сессии избрали президентом Сергея Осиповича Притыцкого. Хороший человек — ты его знаешь.

На этом заканчиваю свое короткое послание с

наилучшими — тебе и Калерии Ивановне — пожеланиями. Сердечный привет обоим от Софьи Захаровны.

Жму твою десницу.

*Міхась Лынькоў.*

4/II 1968 г.

## 372. Я. С. МАЗАЛЬКОВУ

*14 мая 1968, Мінск*

Дорогой Евгений Семенович!

Ты мне так и не ответил насчет читки корректуры, а посему я пока что и не читаю второй том.

Завтра мы выезжаем на нарочские берега. Думаю, что повторять тебе и Калерии Ивановне приглашение на Нарочь нет нужды — это приглашение, сделанное тебе в 1967 году, не отменяется и в этом году.

Что нового у нас?

Из печати вышли 1-й и 2-й тома моего четырехтомника. Скоро должен выйти и 3-й том, так что формальные возражения Лесючевского сами собой отпадут (2-й и 3-й тома четырехтомника полностью исчерпывают «Незабываемые»).

В этом году я основательно болел: более месяца дома и почти два месяца в больнице. Все это до чертиков надоело. Надеюсь, что больше болеть в этом году не буду. Врачи значительно ограничили мои «вольности» — не купаться, не загорать, даже в жару не расставаться с шерстяными одеяниями и т. д. и т. п. Возможно, что они малость и преувеличивают. Кое в чем их нужно, конечно, слушаться.

На этом заканчиваю свое послание.

Сердечный привет Калерии Ивановне и тебе от Софьи Захаровны.

Пожимаю твою десницу.

*Міхась Лынькоў.*

14/V 1968 г.

## 373. С. З. ЛЫНЬКОВАЙ-КУСПІЦ

*15 ліпеня 1968, Нарач*

Софуня!

Мы уже основательно соскучились по тебе. Живем по мере возможности. Сегодня приезжал секретарь Мядельского райкома Алексей Петрович Жданюк. Интересовался, какая нам нужна помощь во всех отношениях — в медицинской, продовольственной и т. д. Жаль, что тебя не было. Мы с Танком приняли его почеловечески — старались Юлия Захаровна и Любовь Андреевна. Соскучились по тебе все, в том числе я и Ирунька. Чувствует она себя неплохо. Купалась, вовремя пообедала, вовремя легла спать. Смотри, чтобы у тебя все было хорошо. Сразу же пиши нам письмо. Если нужно, я немедленно приеду. Пиши нам письма. Конвертов у меня и бумаги огромный запас (вторая или третья полка в стенном шкафу, первый от стены, а не от двери в моем кабинете). Есть и марки (в первом или втором отделении письменного стола). Ключи я забрал на Нарочь, но к письм[енному] столу подходит почтовый ключ.

В общем, пиши обо всем подробно и, если нужна помощь,— пиши и телеграфируй, не смотри, что, по твоему мнению, я человек малоподвижный и ни к чему непригодный. Я могу тоже проявить большую энергию.

Закругляюсь, забежал Саша, выезжают.

Письмо передаст Ксеня Федоровна.

Привет от всех нас — от меня, Юлии Захаровны, Нади и, главное, от Ируньки.

Целую.

Твой *Міхась.*

15/VII 1968

## 374. С. З. ЛЫНЬКОВАЙ-КУСПІЦ

*19 ліпеня 1968, Нарач*

Софунька!

Получили твое послание. Я несколько дней собирался тебе написать, но ждал оказии: со дня на день

ожидали приезда Кулешова, с их шофером я собирался послать тебе письмо. Но Кулешов пока не приехал, прибыло твое письмо. Мы все тут живы и здравы, каждый занят своим делом. Ира прекрасно себя чувствует, вспоминает бабу Соку и ждет возвращения ее на нарочские берега. Я слежу, чтобы ее не обижали.

Огорчает меня то, что ты уже заговариваешь о выписке. Не торопись с этим делом и подлечись, насколько это возможно в условиях лечкомиссии. О нас не думай — сыты, обуты, пригреты. Единственное, чего нам не хватает,— это твоего руководства, наставления и попечения. В общем, лечись, поправляйся, ставь себя на ноги. Рады, что у тебя добрые соседи, передай им наш сердечнейший привет.

Какие новости у нас? В понедельник навестил нас тов[арищ] Жданюк, первый секретарь Мядельского райкома. Зашел к нам. Мы соответствующим образом приняли его. Хозяйками были Юлия Захаровна и Любовь Андреевна. Результатом его визита был приезд целой бригады врачей во главе с Бажановой. Был и Владимир Евгеньевич Баслык. Осмотрел и меня. Он и Бажанова обещали достать кокарбоксилазу. Мое состояние Влад[имир] Евг[еньевич] признал лучше прошлогоднего. Я крепок и здрав, только ты вот должна основательно поправить свои дела. Издательство прислало корректуру четвертого тома и договор. Когда прочту корректуру, приеду в Минск и навещу мою болящую. Мне ведь просто совестно: ты лежишь в больнице, а я тут прохлаждаюсь на Нарочи. Это дело поправим. Напиши, в чем ты нуждаешься. Будут на днях Кулешовы, я дам Ксане денег, чтобы купила и передала тебе фруктов.

Ленька прислал тебе письмо. Сегодня я вскрыл его и пересылаю тебе.

Нас навещает Юлия Захаровна — тогда пользуемся драниками. Вчера Геля с Ирочкой были в лесу за грибами, поймали маленького ежика. Ира торжественно несла его в берете и еще более торжественно объявила мне, что она принесла самого Шушамона. Накормили его молоком и пустили под дом, где, как ты знаешь, обитает уже целая семья Шушамонов.

Таковы наши дела. Шлем тебе самые сердечные приветы и поцелуи. В знак особых чувств Ирочка приложила и свою подпись. Привет от Евг[ения] Иван[ови-

ча] и Любови Андреевны и от большой Иры. Конечно, и от Юлии Захаровны.

Целуем тебя и обнимаем — я, Надя, Геля, Ира.

Твой *Міхась Лынькоў*.

19/VII 68 г.

## 375. В. А. ЛАПІЦКАЙ

*22 жніўня 1968, Нарач*

Паважаная Ольга Аляксееўна!

Вялікае дзякуй за Ваша пісьмо.

Рад, што Вы жывы-здаровы, добра перанеслі аперацыю і цяпер адпачываеце, папраўляецеся. Праўда, праз які тыдзень Вы зноў возьмецеся за настаўніцкую працу.

Як нашы справы? Жыву на возеры, а ні разу не купаўся, не загараў — забаранілі мне ўсё гэта нашы дактары. Соф'я з 15 ліпеня знаходзілася ў Мінску ў бальніцы, нядаўна выпісалася і прыехала на Нарач. Здароўе ў яе зусім кепскае. Мне назначылі ўколы розныя і цэлы месяц будуць пужаць шпрыцам. Але я лічу сваё становішча здавальняючым і лепшым, чым у Соф'і. Галоўны наш лекар — унучка Ірка, яна нас пацяшае, развясельвае, танцуе, спявае. Так вось і жывём.

Цяпер адносна Вашых пытанняў аб героях маіх твораў. Я не дакументаліст, пішу не дакументальныя творы. Большасць вобразаў — гэта абагульненыя, у якіх можна знайсці рысы, характэрныя для многіх і многіх людзей. Некаторыя героі маюць сваіх прататыпаў. У некаторых паасобныя рысы нагадваюць да некаторай ступені канкрэтныя факты з жыцця канкрэтных людзей (Саколіч — Казлоў Васіль Іванавіч, Слышэня — Варвашэня, Бохан — Бондар, Марына — Марыя Восіпава і г. д.). Некаторыя — Надзя Канапелька, Сёмка-матрос, Дубок, Майка і інш. — вымышленыя. З найбольшай дакументальнай дакладнасцю выпісаны вобраз К. С. Заслонава. Гэта канкрэтны чалавек з канкрэтнай біяграфіяй. На вакзале ў Оршы стаіць помнік Заслонаву, там жа, у самім горадзе, існуе музей Заслонава. Аб гэтым чалавеку існуе бага-

тая літаратура. Астап (з апавяд[ання] «Астап») выпісаны мной на аснове канкрэтных падзей, меўшых месца на Палессі (фашысты расстралялі двух старых, братоў, калі не памыляюся, па фаміліі Цуба). Некалькі слоў аб паводзінах Астапа. Што рухала яго ўчынкамі? Лютая нянавісць да ворагаў падказвала яму патрэбнасць як мага хутчэй адпомсціць фашыстам, таму ён параўнальна хутка згадзіўся правесці незнаёмых людзей да партызан, але ўжо ў самым пачатку дарогі ён выкрыў сапраўдны твар гэтых людзей і дастойна расплаціўся з імі.

Вось, коратка, адказ на Вашы пытанні. Зразумела, што ў кароткім пісьме нельга раскрыць усёй кухні пісьменніцкай працы, тым больш што гэтая кухня ў кожнага мае свае асаблівасці. У прамысловасці вялікае значэнне мае стандарт. У мастацкай творчасці стандарт супрацьпаказан. Кожны твор павінен быць арыгінальным, унікальным, не падобным ні на якія іншыя. Толькі тады ён будзе падабацца чытачу і прынясе яму пэўную карысць.

На гэтым заканчваю сваё «пасланіе».

З сардэчным прывітаннем Вам і Вашай сям'і ад мяне і Соф'і Захараўны.

*Міхась Лынькоў.*

22/VIII 1968 г.

## 376. ЯНКУ БРЫЛЮ

*Лета 1968, Нарач*

Дарагі Янка!

Вялікае дзякуй за тваё «пасланіе» нарачлянам. Аднак і мясцінку ты абраў, адна назва настройвае на паэтычны лад. Сапраўды, той, хто даў такую назву дому адпачынку, належыць да паэтычнага племені.

У нас на Нарачы справы ў гэтым годзе не зусім добрыя. І Максім, і я аскудзелі зело целесамі: заместа добрых піцій глытаем розныя мікстуры і таблеціі. Максім разы са два акунуў свае целясы ў нарачанскія воды і на гэтым завяршыў сезон амавеній. А мне эскулапы рэкоша: хошчэшы прадліць леты свае, не суйся ў воды і пад промнем сонечным не заголяйся, ібо сіе табе на згубу. І яшчэ рэкоша мне: не пожэлай ні жаны

бліжняга свайго, ні асляці яго, ну і г. д. і г[этаму] падобнае. Наконт «жаны бліжняга» блюду заветы эскулапаў, бо ашчэ і васхацеў бы прэступіць іх запаведзі, нічэгожэ не сатварыў бы, поеліку замацерэх во днех сваіх. А на кожнага бліжняга взіраю яко на асляці, онае можа маторасе мае восцягнуць на брэг і вадрузіць на маю каравелу, дабы восседоша які капітану і адміралу дзерзаць на Гатавічы, на Наносы, Чараўкі і іншыя селішчы нарачанскія.

Мінулым днём спакусіў я едзіных з малых сіх — Сашку Куляшова і яго супружніцу Святлану (каму ж як не ім цягнуці на брэг маторые?) і даша кожнаму па спінінгу, адплыша ў мора. І пачашася веліе смяценіе на водах і на воздусех. Возгрымелі грамы веліі і някоша маланкі, а хлябі нябесныя разверзліся і амачыху нас, які цюцей. І бысць нам веліе пасрамленіе і ўсякае рыбіе насмеяхуся з нас — і шчупацы, і акуніе, і калючыя ершые. На прычале ўзрэў нас Максіме і яко схімен, обітаяй у тайных, ізрэк: «Ну што, налавіў?..» На сіе маўчаніем адказаша, ізышэд я пад кроў свой, дабы асушыці адзежды свае і мысліе да парадку прывесці.

Так вось і жывём. У Максіма са здароўем вельмі кепска — кравяны ціск 160 і 120. Занядужала і мая дружына, у нядзелю паехала ў Мінск, давядзецца, відаць, класціся ў бальніцу. Мяне даглядаюць Надзя і малая Ірынка, якая лепш ад усіх нас карыстаецца нарачскімі шчадротамі: купаецца, загарае і верхаводзіць сваімі «калегамі» — малым Максімкам і яго аднагодкам Кокам — унукам Аркадзія.

Яшчэ раз дзякую за тваё мілае пасланіе і жадаю добрага адпачынку на «Рэчаньцы».

Сардэчнае прывітанне Ніне Міхайлаўне і тваім слаўным нашчадкам.

У чаканні лепшага надвор'я

твой *Міхась Лынькоў.*

## 377. І. І. ГРАМОВІЧУ

*24 снежня 1968, Мінск*

Дарагі Іване!

Віншую цябе з Новым годам, з пяцідзесяцігоддзем Рэспублікі і КПБ і жадаю здароўя, шчасця, новых

творчых здабыткаў і добрага навагодняга настрою! За тваё здароўе асушу святочную чарку, дальбог!

З прывітаннем

*Міхась Лынькоў.*

24/XII 1968 г.

## 1969

### 378. Я. С. МАЗАЛЬКОВУ

*12 студзеня 1969, Мінск*

12/I 1969 г.

Дорогой Евгений!

Как живешь, можешь?

Шутя, шутя вступили вот в новый год и начинаем отсчитывать его быстролетящие дни. Еще пара-другая месяцев и опять потянет меня на нарочские берега. Как-то там веселей и удобней моей душе. В феврале думаем с Софьей закатиться на месяц в королищевские леса. Ты как будто бы говорил Софье, что и в ваших семейных планах учитывались Королищевичи на какой-нибудь зимний месяц? Что же, дерзайте! В лесу зимой неплохо, комары там только весной атакуют немилосердно.

Новостей у нас особых нет. Новый год и юбилей республики провели неплохо. К слову сказать, была замечательно организована и проведена демонстрация, оригинально и богато иллюминирован город. От юбилейных настроений пора переходить к очередным будням.

Одним словом, пиши. Привет Калерии Ивановне!

Пожимаю десницу.

Твой *Міхась Лынькоў.*

### 379. Г. А. КАРАВАЕВАЙ

*12 студзеня 1969, Мінск*

Дорогая Анна Александровна!

Не успел вовремя поздравить Вас телеграфно. А опоздав, посылать телеграмму как-то не с руки...

Пишу письмо. Искренне поздравляю Вас с замечательным юбилеем и с высокой правительственной наградой — орденом Ленина.

Прожили Вы три славные двадцатипятилетия — три четверти века. Живите, здравствуйте и творите еще многие и многие годы — чтобы была работа не только критикам и литературоведам, но и математикам — подсчитывать эти годы...

Желаю здоровья, счастья, радостей!

С сердечным приветом

*Міхась Лынькоў.*

12/I 1969 г.

## 380. ВУЧНЯМ 5-га «А» КЛАСА РАДЗЕЕЎСКАЙ ШКОЛЫ

*14 красавіка 1969, Мінск*

Дарагія рабяткі!

На жаль, не магу выканаць вашай просьбы. Я ніколі не пісаў вершаў аб нашым вялікім правадыры. А раз не пісаў, то і выслаць такія вершы не маю магчымасці.

З прывітаннем усім вам

*Міхась Лынькоў.*

14/IV 1969 г.

## 381. А. Я. ДАНІЛКУ

*22 красавіка 1969, Мінск*

Уважаемый Афанасий Ефимович!

Ваше письмо преисполнило меня большой скорби: почти уже девять месяцев, как ушел из жизни человек, с которым я долгое время находился в дружеской переписке. Я находился только в переписке, а Вы — самый близкий, самый родной ему человек. Как же неизмеримо глубока Ваша скорбь, как тяжела Ваша невозвратимая утрата. С огромнейшим, невольным в данном случае запозданием, высказываю Вам и всем

родным и близким Константина Ефимовича мое искреннее соболезнование в постигшем Вас и их горе. Конечно, никакие сочувствия и соболезнования не могут осязаемо облегчить горечь этой утраты, но люди есть люди — горе одного должно тяготить и другого.

Заканчивая это письмо, прошу передать мой сердечный первомайский привет всем родным и близким Константина Ефимовича.

С наилучшими Вам и Вашим близким пожеланиями.

*Міхась Лынькоў.*

22/IV 1969 г.

## 382. С. Н. ГУСЕВУ

*30 мая 1969, Нарач*

Дорогой Силантий!

Когда я уезжал на Нарочь, то в спешке забыл и расплатиться с тобой за кустики рябины. Одним словом, извини меня за эту забывчивость. 11—13 июня буду в Минске, расплачусь тогда с тобой.

За рябину спасибо — вся прижилась.

С нарочским приветом

*Міхась Лынькоў.*

30/V 1969 г.

## 383. В. А. ЛАПІЦКАЙ

*25 жніўня 1969, Нарач*

Паважаная Ольга Аляксееўна!

Вялікае дзякуй за пісьмо і добрыя пажаданні. Мы з Соф'яй Захараўнай жывём, як і раней, на Нарачы. Патроху рухаемся. Калі я яшчэ трымаюся і не маю асаблівых праў паскардзіцца на здароўе, то з Соф'яй крыху хужэй. Яна толькі што прыехала з Мінска, дзе тыдні са два праляжала ў бальніцы (почкі, камні), і адчувае сябе кепска. У мяне ж, акрамя старасці, ніякіх сур'ёзных хвароб не назіраецца. Ды і старасць —

гэта ж не хвароба, а завяршаючы перыяд жыцця, перыяд, праўда, не зусім прыемны, лепш бы абыходзіцца без яго. Але нічога не папішаш. Тут ужо, як гаворыцца ў прыказцы: што міру, то і бабінаму сыну. Гэта ўжо такая штука, ад якой ніхто не пазбаўлены. Шмат чаго мне забаронена: купацца, загараць. Яшчэ не забаранілі лавіць шчукапоў, і па меры сіл і магчымасцей змагаюся з імі ў зручную пагоду, калі возера бывае мірным, лагодным. Праўда, Соф'я не пускае мяне аднаго на возера, баіцца, каб у выпадку якога-небудзь сардэчнага прыпадку я не трапіў бы ў палон азёрнай хвалі. Я гавару ёй, што ў такіх выпадках чалавеку ўжо ўсё роўна, у які б палон ён ні патрапіў.

Вось так і жывём мы. З намі ўнучка Ірынка, адзіная наша радасць і ўцеха.

За летні час нічога новага не напісаў я, і гэта мяне турбуе. Трэба ж неяк пачынаць якую-небудзь новую работу.

На гэтым заканчваю сваю кароткую справаздачу.

З сардэчным прывітаннем Вам і Вашай сям'і ад мяне і Соф'і Захараўны

*Міхась Лынькоў.*

25/VIII 1969 г.

## 1970

### 384. Д. М. КАВАЛЁВУ

*20 лютага 1970, Мінск*

Дорогой Дмитрий Михайлович!

Наверное, зачислил ты меня в разряд самых неприкаянных невеж — до сих пор не ответил я на твои письма, поздравления и пожелания. Факт остается фактом — не ответил... Но есть у меня смягчающие мою вину обстоятельства. На другой день после юбилейного вечера отвезли меня, раба грешного, в больницу с воспалением легких. Там и «отпраздновал» я целых два месяца. Там и Новый год встречал вместе с Кондратом Крапивой, который попал туда еще раньше. Там и переживали мы вместе с ним печальные ве-

сти о наших друзьях — Петре Глебко и Евгении Мозолькове. Кондрат вышел из больницы раньше меня. Вторую неделю и я провожу дома, привыкаю, «акклиматизируюсь».

Большое тебе спасибо за письмо и телеграммы, за все доброе, что несли они в мою больничную палату (всю мою почту домашние доставляли в больницу).

Вот сегодня опечалили меня вести из Украины о преждевременной смерти Андрея Малышко — хороший был человек, славный поэт и верный друг Белоруссии. Такие потери чувствительны для нашей культуры. И рано бы Андрею навсегда прощаться с нами, был он еще молодой, в самом расцвете сил и таланта. То ли дело у нас, стариков, перешагнувши седьмой десяток — в самый раз «сушить весла...» И то неохота...

На этом заканчиваю свое покаянное послание с самыми сердечными пожеланиями тебе, жене и наследникам.

С сердечным приветом

*Міхась Лынькоў.*

20/II 1970 г.

## 385. Я. Я. КАРАТКЕВІЧУ

*20 лютага 1970, Мінск*

Дорогой Яков Ефремович!

Видишь, какой я неаккуратный корреспондент: ты пишешь, ты поздравляешь с юбилеем, с Новым годом, а твой адресат, как это говорится у нас, у белорусов, «і ў вус не дзьме...» Однако не такой уже я виноватый. Дело в том что сразу же после юбилея отвезли меня с воспалением легких в больницу, в которой и «отдежурил» я два месяца. Там же, в больнице, с микстурами и прочими эскулапскими специями встречал я и Новый год. Особого энтузиазма, а тем более веселья, не было, как и положено в подобных «богоугодных» заведениях.

Уже вторая неделя, как я акклиматизируюсь в домашней обстановке, даже два раза осмелился выходить на мороз, на улицу, но еще опасаюсь сходить в Верховный Совет республики, чтобы получить орден

Ленина, которым награжден в связи с семидесятилетием — хожу с трудом.

Сижу дома и разбираю накопившуюся за два месяца корреспонденцию.

Таковы мои дела.

Когда поправлюсь и как следует стану на ноги, исполню все твои просьбы — о годовщине освобождения Белоруссии от белополяков и о Лепешинском. Был у нас один из учеников Литвиновичской школы Лепешинского доктор филологических наук Иван Гуторов — умер в прошлом или позапрошлом году. Был членом-корреспондентом нашей Академии наук, в войну замечательным партизаном брянских лесов, веселым, жизнерадостным человеком, баянистом, удачливым охотником, крепким здоровяком. Проклятый рак за несколько месяцев свел его в могилу. Других учеников школы Лепешинского я не встречал.

На этом заканчиваю свое послание. Поздравляю тебя с Днем Советской Армии и Военно-Морского Флота!

С наилучшими пожеланиями тебе в этом Новом году

*Міхась Лынькоў.*

20/II 1970 г.

## 386. Ф. Л. БЫЧЫНСКАМУ

*22 лютага 1970, Мінск*

Дорогой Федор Лаврентьевич!

Большое, сердечное спасибо за юбилейное и новогоднее поздравление, полученное от тебя (разреши по старой школьной традиции обращаться с тобой на ты).

Мне приходится с большим запозданием поздравить тебя с давно наступившим Новым годом. Дело в том что после юбилея мне пришлось пролежать два месяца в больнице с воспалением легких и только теперь я получил возможность ответить на многочисленные письма и поздравления в связи с юбилеем и награждением орденом Ленина. Из учеников, твоих сверженских однокашников, мне прислали письма и телеграм-

мы Гинзбург Г. из Саратова, Шандалов Ш. из Челябинска, Шандалова Э. и Ривкин Г. из Ленинграда, Иванюк Е. из Рогачева. Каждому такому письму я рад — они хорошее напоминание о давно прошедших годах, о молодости.

Поздравляю тебя с давно наступившим Новым годом и с наступающим завтра Днем Советской Армии и Военно-Морского Флота и желаю тебе и семье доброго здоровья, счастья и всяческого благополучия!

Написал бы, как живешь, где трудишься, как живут твои родные в Свержене?

С дружеским приветом

*Міхась Лынькоў.*

22/II 1970 г.

## 387. А. Я. ДАНІЛКУ

*22 лютага 1970, Мінск*

Паважаны Панас Юхімавіч!

Сардэчная падзяка Вам і дружыне і дзецям Канстанціна Юхімавіча за юбілейнае павіншаванне і слаўныя пажаданні маёй сціплай персоне.

Прашу прабачыць мне такі позні адказ на Ваша пісьмо. Справа ў тым што пасля юбілею мне «пашчасціла» прабыць два месяцы ў бальніцы з запаленнем лёгкіх. Сяк-так выцарапаўся адтуль.

Вельмі сумую з прычыны заўчаснай смерці майго даўняга маладзейшага па гадах друга Андрэя Малышкі. Гэта ж так нечакана і недарэчна: паэт быў у самым росквіце сваіх сіл і таленту. Два месяцы таму назад мы страцілі добрага паэта Пятра Глебку і літаратуразнаўца Яўгена Мазалькова.

Усё гэта сумна, усё гэта значныя, беззваротныя страты для нашай культуры.

Дазвольце на гэтым завяршыць маё пасланіе і пажадаць усім Вам шчасця, поспеху і добрага спору ў працы!

З сяброўскім прывітаннем

*Міхась Лынькоў.*

22/II 1970 г.

## 388. М. Я. НОВІКАВУ

*23 лютага 1970, Мінск*

Дорогой Мефодий!

Твое письмо было огромнейшей неожиданностью за последние пятьдесят лет, когда разошлись наши пути-дороги из славного града Рогачева. Еще в довоенные годы приходилось переписываться с несколькими друзьями — с Мининым, Юльским (они из-под Чечерска) и Рябовым Яшкой (из Рогачева). Все трое работали в Ленинграде. Где-то в военной завирухе затерялись их следы. Навсегда... После войны заезжал ко мне Чернецов (он был учителем в Поболове). Жив ли он теперь — не знаю. Переписывается со мной Павел Комиссаров (учитель-пенсионер в г. п. Глубоком). Он же мне говорил, что где-то обретается в Белоруссии Масальский.

Вот и все... В нашей академии работает Роговой (из старших выпусков бурсы).

Сколько было ребят, а осталась ничтожная горстка. Да и мы уже кандидаты в «бессрочные отпуска», «идеже несть ни болезнь, ни воздыхание», ни глотка коньяку... Грустная, одним словом, история. Растили нас, «сеятелей вечного, разумного...», а войны по-своему рассчитались с этими сеятелями, рассеяв их кости по всему белому свету.

Как известно, весь наш выпуск был направлен в военные училища. Только трое из выпуска — я, Рябов и Бескишкин,— как не достигшие нужного возраста (нам было по семнадцать с небольшим) остались тогда в стороне от военной, изменчивой и коварной судьбы. Бескишкин вскоре умер от туберкулеза. Я учительствовал до 1919 года. Три года на гражданской войне. Опять три года учительства. Потом пять лет работы в газете, начало писательского пути, издательство, литературные организации, Академия наук — вот краткая анкета. Второй год пребываю в пенсионерах. Много ездил, путешествовал. Пять раз был за океаном. Один раз в далекой Азии (Индия, Пакистан и пр.), несколько раз в Европе.

Теперь уже не до путешествий, с трудом ноги носят и по своей земле. Когда получил твое письмо, то собирался сразу же и ответить. Да не вышло. На второй

день после юбилея отвезли меня в больницу с воспалением легких, где и пролежал я два месяца, только недавно вернулся домой.

Ты пишешь, что работал и на Беломорстрое. Когда канал был построен, я побывал там со специальной делегацией братьев-писателей.

Напиши ты подробнейшее письмо (первые годы после бурсы, кого и когда встречал из однокашников, может быть, знаешь кого-нибудь из них и посегодня здравствующих). Со мной переписывается один из после нашего выпуска — Короткевич. Живет в Киеве.

Пиши обо всем. Буду рад твоему письму.

Остаюсь с наилучшими тебе пожеланиями: здоровья, счастья, бодрости.

Твой *Міхась Лынькоў*.

23/II 1970 г.

## 389. П. Л. КАМІСАРАВУ

*2 сакавіка 1970, Мінск*

Дорогой Павел!

Приношу тебе сердечную благодарность за твои юбилейное и новогоднее поздравления. Как видишь, с большим запозданием отвечаю я на твои приветствия и пожелания и с таким же запозданием поздравляю тебя с давно наступившим Новым годом. Дело в том что после своего юбилея я «умудрился» попасть в больницу и пролежал в ней два месяца с воспалением легких. Только теперь, вернувшись домой, имею возможность ответить на многочисленные письма и телеграммы.

Между прочим, впервые за последние пятьдесят лет я узнал о наличии среди живущих нашего однокашника Мефодия Яковлевича Новикова. Он прислал мне письмо из города Горки (Могилевской области, ул. Тимирязева, 32, кв. 18). Теперь он пенсионер. Я написал ему: может быть, он знает и еще каких-нибудь наших однокашников.

Ты, очевидно, бываешь в Минске, почему не зайдешь?

Хочу я спросить тебя вот о чем. Некогда были мы с тобой и в двухклассном училище при семинарии. Как

мне помнится, однажды мы снимались всем коллективом школы. Может быть, случайно сохранился у тебя такой снимок, может быть, знаешь, у кого он есть? Было бы неплохо, если бы сохранились какие-нибудь следы этого снимка. У меня пропал весь довоенный архив, в том числе и единственная фотография времен семинарии (помнишь, что делали перед самым выпуском).

Пиши, как здоровье, как самочувствие?

С сердечным приветом

*Міхась Лынькоў.*

2/III 1970 г.

## 390. ВУЧНЯМ НАВАСЁЛКАЎСКАЙ СЯРЭДНЯЙ ШКОЛЫ

*7 сакавіка 1970, Мінск*

Дарагія, юныя таварышы!

Вялікае вам дзякуй за павіншаванне з юбілеем, за вашы прывітанні і пажаданні, за вершы, прысвечаныя мне, напісаныя ўдзельнікамі школьнага літаратурнага гуртка.

Даўно я адпісаў бы вам, але мне давялося прабыць два месяцы ў бальніцы, таму я і спазніўся.

Жадаю вам усім — вучням і вашым паважаным настаўнікам — добрага здароўя, шчасця, вясновай радасці і добрых поспехаў у жыцці, працы і вучобе!

З сардэчным прывітаннем

*Міхась Лынькоў.*

7/III 1970 г.

## 391. ВУЧНЯМ 9-га КЛАСА СУХАВІЦКАЙ ШКОЛЫ

*7 сакавіка 1970, Мінск*

Юныя мае таварышы!

Даўно я атрымаў Ваша пісьмо, але не паспеў своечасова адказаць на яго, бо з-за хваробы павінен быў два месяцы праляжаць у бальніцы.

Вялікае дзякуй вам за ваша павіншаванне з сямідзесяцігоддзем.

У сваім пісьме вы пытаецеся ў мяне: за што і калі ўзнагароджаны я трыма ордэнамі Леніна. Адказваю: першы раз узнагароджаны ў 1949 г., другі раз у 1955 г., трэці раз у 1969 годзе. Кожны раз узнагароджаны «За заслугі ў развіцці савецкай літаратуры».

Жадаю ўсім вучням і вашым паважаным настаўнікам добрага здароўя, шчасця і выдатных поспехаў у жыцці, працы і вучобе!

З сардэчным прывітаннем

*Міхась Лынькоў.*

7/III 1970 г.
гор. Мінск

## 392. ВУЧНЯМ 5-га «А» КЛАСА ПІНКАВІЦКАЙ ШКОЛЫ ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

*7 сакавіка 1970, Мінск*

Мае юныя таварышы!

Сардэчнае дзякуй вам за слаўнае павіншаванне з маім сямідзесяцігоддзем. Вельмі спазніўся я з адказам на ваша мілае пісьмо, бо два месяцы знаходзіўся ў бальніцы.

Дзякуй вам за запрашэнне наведаць Пінкавічы. Калісьці пасля вайны я быў у Пінкавічах, бачыў вашу школу.

З сардэчным прывітаннем вам, усім вучням школы і вашым паважаным настаўнікам, з найлепшымі пажаданнямі

*Міхась Лынькоў.*

7/III 1970 г.

## 393. ВУЧНЯМ ІЛЫЧОЎСКАЙ ШКОЛЫ

*10 сакавіка 1970, Мінск*

Ученикам Ильичевской школы.

Дорогие ребята!

Сердечно благодарю вас за ваше поздравление и

добрые пожелания. Отвечаю вам с большим опозданием из-за болезни — два месяца пролежал в больнице.

Желаю вам всем крепкого здоровья и отличных успехов в жизни, труде, учебе!

С дружеским приветом всем вам и вашим уважаемым учителям

*Міхась Лынькоў*

10/III 1970 г.

## 394. М. Я. НОВІКАВУ

*16 сакавіка 1970, Мінск*

Дорогой Мефодий!

Получил твое письмо. Спасибо. Ты говоришь, что воспаление легких нам не к лицу, что более логично знакомиться с такими приятными вещами, как инфаркт и проч. Для меня инфаркт уже не новость, года три тому назад познакомился и с ним, пережил. А воспаления легких у меня просто вошли в традицию — чуть зазеваешься... и готово. Правда, врачи предупреждают: не зевать — с моими легкими — прокуренными и с застарелой эмфиземой — это рискованно.

Но оставим этот «пенсионерский» разговор и последуем совету наших белорусских женщин: «на сухі бы лес усе гэтыя хваробы!»

Оказывается, и ты был в числе тех «малолеток», которых в 1917 году не отправили в военные училища. Но между нами, оказывается, разница. Ты пошел на дальнейшую учебу, а я с 1919-го три года провел на гражданской войне. После, по семейным обстоятельствам (умерли родители, у меня на руках остались малолетние братья и сестры), я не имел возможности учиться, получить высшее образование. Так и пошел в жизнь с «бурсацкой» наукой. Учительствовал, а с 1925 г. переключился на газетно-журналистскую работу, незаметно втянулся, вжился в литературу. Воевал в 1939 году и в первые годы Отечественной. Потерял семью — немцы казнили жену и единственного моего сынишку в возрасте девяти лет. Казнена была и семья брата — его жена и двухлетняя дочка. Брат без вести пропал на фронте.

Как видишь, если придерживаться твоей жизненной программы, то и мной не выполнен пункт первый: вырастить сына. Нет у меня и дочек. Правда, воспитал приемную. Есть от нее и внучка пяти лет, главная моя радость и утеха.

Что касается пунктов 2 и 3, то они выполнены и перевыполнены. Много посадил я деревьев за свою жизнь. И теперь у меня на даче на озере Нарочь имеются березы, ели, сосны, дубы, клены, липы, ясени, рябины, тополя, каштаны — несколько десятков деревьев, выращенных за 15 лет. Некоторые из них при посадке имели уже лет по 20. Одним словом, образовался настоящий дендрарий. Есть и более десятка яблонь.

Теперь о другом. Послал я тебе книжку рассказов на русском языке. Если сможешь одолеть книги на родном белорусском, то я вышлю тебе роман «Векапомныя дні». Если не можешь, то я пришлю эту вещь на русском языке.

На этом и заканчиваю свое послание. С дружеским приветом

*Міхась Лынькоў.*

16/III 1970 г.

## 395. М. Я. НОВІКАВУ

*29 красавіка 1970, Мінск*

Дорогой Мефодий!

Твое подробное письмо восстановило в памяти многие подробности, давно улетучившиеся. Так, я долго пытался несколько раз вспомнить фамилию математика и не смог. Речь идет о Шевандо. Ты, возможно, несколько переоцениваешь его преподавательские возможности и его демократизм. Он действительно держал себя с бурсаками запанибрата. Но мне помнится и другое — излишне часто он поклонялся Бахусу и пребывал в такие дни в угрюмо-мрачном настроении. Мне кажется, такие вещи не повышали нашего рвения к математическим наукам. Возможно, я ошибаюсь. Возможно, подводит память...

Из других преподавателей я помню историка Гришкова (невысокого, чернявого человека, нос с горбинкой,

с зеленым прозрачным козырьком над глазами). До Шевандо математиком был Путимцев. До Аркад[ия] Гавриловича Самохвалова литературу преподавал Купцевич (мы его окрестили, кажется, Купчиком...), преподавал неважно. Парийский всем нам нравился. Кстати, мне он оказал огромную помощь. Дело в том что на стипендии я прожил только первые две четверти первого года обучения. Перед рождественскими каникулами мне закатили три или четыре двойки (до сего времени не могу понять, почему это случилось, так как и в двухклассном училище при семинарии и в самой семинарии учился хорошо, а некоторые двойки были поставлены по предметам, в которых я вообще разбирался отлично). В результате меня «милостиво» избавили от стипендии. Это пахло для меня катастрофой — мой отец, рабочий железной дороги, получал в месяц 12 рублей. И это при большой семье. Содержать меня в городе он не мог. Вот тут Парийский и помог мне, порекомендовав мою особу в качестве репетитора в некоторые семьи купцов и чиновников. Так и жил я, мыкаясь по городу, репетируя великовозрастных балбесов, не всегда уверенный в аккуратное получение заработанных рублей. Летом обычно работал на железной дороге поденным рабочим.

Стипендия моя была передана Лапицкому, сыну начальника почты из Сморгони. Если помнишь, Лапицкий вскоре умер — на первом или втором курсе. Чем он заболел — не помню. Фамилию его помню, так как она косвенно была связана с некоторыми моими, не сказать чтобы приятными переживаниями из-за стипендии.

Был я некоторое время репетитором и у Арк[адия] Гаврил[овича] Самохвалова, «школил» двух его подшивальцев. Тут вспоминаются мне и некоторые комические эпизоды, когда Аркадий Гаврилович, желая помочь мне воздействовать на его отпрысков, пускал в ход такие средства — педагогические и методические,— как подтяжки. Средства действовали, маленькие сорванцы (так и называл их папаша) сдавали позиции и спокойно высиживали уроки. Я с удовольствием вспоминаю это репетиторство у Арк[адия] Гавриловича. Хорошая, интеллигентная семья, сочувственно относившаяся к моей особе, оказывавшая порой и ту или другую помощь.

Большинство «работодателей» были другими людьми. Помню, репетировал я у одного интендантского чиновника Квицинского (даже фамилию запомнил) девочку и мальчика. Один раз мне заплатили, а за другой месяц — мне следовала пятерка — задержали. Ходил я за этой несчастной пятеркой раз двадцать: хозяйка-мадам находила разные поводы, чтобы отказать: не получили жалованья, потратились на покупки и т. д. и т. п. Когда явился я последний раз и дернул звонок у дверей, появилась служанка. Она заявила: барин приказали, чтобы вы больше их не беспокоили, а если вы еще придете, они позовут городового...

В общем, заработки порой были довольно шаткие, но сяк-так четыре года выдюжил, семинарию закончил.

Судьбу наших преподавателей проследить не удалось. Самохвалов и первый директор семинарии Сцепуро работали — так говорили мне — одно время в Минске. Сцепуро несколько лет тому назад умер в Одессе (с ним даже переписывался наш бывший бурсак из первых выпусков академик Роговой). Ничего не знаю о судьбе второго директора Назарьина (которого мы почему-то прозвали пудретом). Законоучитель о. Владимир Ходкин в послереволюционные годы был где-то на селе священником, дальнейшей его судьбы не знаю.

Были у нас, если помнишь, два учителя (они сменили друг друга) пения и музыки. Фамилия одного была, кажется, Бережной. Один из них был чахоточный и при нас умер. Пел он неважно, но страстно любил музыку. Этим мы, оболтусы, порой злоупотребляли: попросим сыграть что-либо на скрипке, он не отказывал, увлекался — так и проходил учебный час. Если помнишь учителя рисования и черчения Константина Кирилловича (или Кирилла Конст[антинови]ча) Зюбко, большого к тому любителя-театрала. После революции он работал в кино, как артист выступал в нескольких фильмах.

Вот, коротко, несколько воспоминаний из далекого прошлого. Парийский как будто бы принимал участие в обществ[енной] жизни после революции, но подробностей я не знаю — жил в то время на Гомельщине (до лета 1919 года), а потом был в армии, на «гражданке» до осени 1922 г. У тебя память на лица. У ме-

## 429. ЗЕМЛЯКАМ-ВІЦЯБЛЯНАМ

*6 мая 1974, Мінск*

Дарагія мае землякі-віцябляне!

Ад усёй душы віншую вас і ўсіх працоўных Прыдзвінскага краю са слаўнай гадавінай вызвалення Беларусі ад фашысцкай нечысці! Вызваления ад звярыных вылюдкаў шалёнага Гітлера, якія імкнуліся пе ратварыць часова захопленыя імі землі ў краіны жахлівага нявольніцтва, крывавых здзекаў над людзьмі, жудасных катаванняў, нечуванага прыгнёту над народам.

Вы, дарагія мае землякі, як дастойныя, верныя сыны савецкага народа гераічна і самаадцана змагаліся з заклятымі ворагамі і сваёй мужнасцю, сваімі подзвігамі множылі дапамогу фронту, дапамагалі яму, яго слаўнай Чырвонай Арміі разграміць гітлераўскія полчышчы, дабіць фашысцкую гадзіну ў яе ўласнай бярлозе. Перамогай над ворагам мы абавязаны нашай слаўнай Камуністычнай партыі. Пад яе кіраўніцтвам савецкі народ, у тым ліку і віцябляне, здолелі за кароткі тэрмін аднавіць зруйнаваныя ворагам фабрыкі і заводы, гарады і сёлы і дабіцца новых выдатных перамог у далейшым росце гаспадаркі і культуры народа.

Жадаю сваім землякам-віцяблянам новых подзвігаў, новых дасягненняў, новых здабыткаў на славу нашай Радзімы, на славу і веліч Ленінскай справы, на ўмацаванне міру ва ўсім свеце.

З глыбокай павагай да землякоў

*Міхась Лынькоў.*

6/V 1974 г.

## 430. ЯНУ СУДРАБКАЛНУ

*17 мая 1974, Мінск*

Дорогой Арвид Карлович!

У замечательного художника природы, почтенного поэта в прозе Пришвина Михаила есть чудесное слово: сорадование. Разрешите же мне сорадоваться вместе с Вами Вашим счастьем, Вашей радостью по случаю

высокого признания Ваших больших заслуг в родной литературе и присвоения Вам почетного звания Героя Социалистического Труда. Желаю Вам всего, всего самого лучшего в жизни, что только можно пожелать славному человеку, коммунисту, поэту.

С искренним уважением всегда Ваш

*Міхась Лынькоў.*

17/V 1974 г.

## 431. В. П. КЛЕШЧАНКУ

*27 чэрвеня 1974, Мінск*

Паважаны Васіль Філіпавіч!

Успаміны Новікава М. я паслаў Вам заказным пісьмом 25 лютага. Новікаў надаслаў гэтыя ўспаміны мне, каб я праверыў іх адпаведнасць біяграфічным фактам.

Адказваю на два Вашых запытанні. Прататыпы пералічаных Вамі апавяданняў былі. За даўнасцю часу і з прычыны таго, што асабісты мой архіў у дні вайны загінуў, пералічыць імёны прататыпаў не маю магчымасці. Міколка-паравоз — абагульнены вобраз.

Другое пытанне не разумею. Магчыма таму, што ніяк не дабяруся сэнсу слова «прататыўным». Калі гэта з апіскамі напісана слова «прататыпам», то я павінен сказаць, што любы пісьменнік мае на ўвазе і пратыпаў, і сацыяльны паказ, і фантазію, ці правільней будзе сказаць — мастацкую выдумку (вымысел).

З прывітаннем

*Міхась Лынькоў.*

27/VI 1974 г.

## 432. У. К. АЛЕКСЯЁНКУ

*10 лістапада 1974, Мінск*

Паважаны Уладзімір Кузьміч!

Вялікае дзякуй за Ваша павіншаванне — яго перадалі мне ў бальніцу, дзе я цяпер знаходжуся. Узаемна віншую Вас і сям'ю з прайшоўшым ужо святам і ад

усёй душы жадаю Вам самага моцнага здароўя, шчасця, поспехаў і ўсяго, усяго самага найлепшага ў жыцці!

З сардэчным прывітаннем

*Міхась Лынькоў.*

10/XI 1974 г.

## 433. М. П. РАКУ

*24 лістапада 1974, Мінск*

Уважаемые Михаил Петрович и Фаина Наумовна!

Ваши письмо и телеграмму я получил, за что и благодарю. С 5 ноября я нахожусь в больнице, откуда и посылаю это письмо. Дата моего юбилея 1 декабря (по старому стилю 18 ноября). Не знаю, выйду я к этому дню из больницы, хотя все это не имеет особого значения, так как я договорился, чтобы официального юбилейного вечера не проводили, поскольку 75-летие не является круглой датой, да и утомительны такие мероприятия для самих юбиляров. Самое лучшее в данном случае — это провести свою годовщину дома, в кругу семьи, хотя и небольшой.

С наилучшими пожеланиями

*Міхась Лынькоў.*

24/XI 1974

## 434. ЯНКУ БРЫЛЮ

*27 снежня 1974, Мінск*

27/XII 1974 г.

Дарагія Брылі, Брыляты і Брылback!

З Новым Вас годам, з новым шчасцем, з усім найлепшым у жыцці! Жадаю здароўя, радасці, добрага святочнага настрою!

Ваш *Міхась Лынькоў.*

P. S. Пасля двух месяцаў бальнічных «асалод» захацелася мне як мага хутчэй трапіць да хаты. Дактары

абяцаюць развітацца са мной перад навагоднім вечарам. Чакаю гэтага развітання!

*М. Л.*

## 435. К. П. КОРСАКАСУ

*28 снежня 1974, Мінск*

Дорогой Костас Пранович!

Сердечно поздравляю тебя и твою семью с Новым годом и желаю всем здоровья, счастья, успехов!

Почти два месяца, как я нахожусь в больнице. Врачи обещают выпустить меня домой накануне Нового года.

Большое спасибо тебе за твои два письма.

С дружеским приветом

твой *Міхась Лынькоў.*

28/XII 1974

## 436. І. І. ГРАМОВІЧУ

*30 снежня 1974, Мінск*

30/XII 1974 г.

Дарагі Іване!

Мне перадалі з дому тваё павіншаванне з Новым годам, за што і прыношу табе сардэчную падзяку і ўзаемна віншую цябе са сваёй 408-й палаты на 4-м паверсе новага корпуса. Прабыў тут два месяцы, тут жа «сустрэў і правёў» свой юбілей. Такія вось справы. Залежвацца на такі тэрмін не рэкамендую і зычу добрага здароўя, шчасця і ўсяго, усяго найлепшага ў жыцці!

З навагоднім прывітаннем

*Міхась Лынькоў.*

P. S. Заўтра мяне выпусцяць да дому, да хаты.

*М. Л.*

# 1975

## 437. І. П. МЕЛЕЖУ

*1 студзеня 1975, Мінск*

Паважаныя Лідзія Якаўлеўна і [Іван] Паўлавіч!

Сардэчна віншую Вас і дзяцей з Новым годам і зычу ўсім самага надзейнага здароўя, такога ж шчасця, нязменных поспехаў і ўсяго найлепшага ў жыцці!

Я толькі ўчора вызваліўся з бальніцы, у якой прабыў два месяцы, дзе «правёў» і свой юбілей.

З навагоднім прывітаннем ад мяне і Соф'і

*Міхась Лынькоў.*

1/I 1975 г.

## 438. В. Е. БУРНОСАВУ

*3 студзеня 1975, Мінск*

3/I 1975

Дорогой Василий Емельянович!

Сердечно поздравляю Вас и семью с Новым годом и желаю всем здоровья, счастья, успехов, хорошего праздничного настроения!

Я только что выписался из больницы, вот почему новогодний привет посылаю с запозданием.

*Міхась Лынькоў.*

## 439. ВУЧНЯМ 6-га «Б» КЛАСА РАДЗЕЕЎСКАЙ ШКОЛЫ

*9 студзеня 1975, Мінск*

Кажамякіну Віктару, Саўціну Аляксандру, Лаўрыненку Мішу, Картавенка Жэні, Драбышэўскай Жэні, Туранкову Геню, Саўцінай Тамары, Карпенку Мішу, Якіменка Надзі, Лапіцкаму Сашу, Стэльмах Сашы, Зыблевай Галі, Савасцьянавай Галі, Паўлюкову Геню, Карпавай Свеце і Драбышэўскаму Валерыю.

Дарагія рабяткі!

Вялікае Вам дзякуй за вашы павіншаванні з днём

нараджэння і за вашы слаўныя пажаданні. Жадаю ўсім вам слаўнага здароўя, шчасця, поспехаў у вучобе і ўсяго найлепшага ў жыцці!

З сардэчным прывітаннем

*Міхась Лынькоў.*

9/I 1975 г.

## 440. ВУЧНЯМ 8-га КЛАСА РАДЗЕЕЎСКАЙ ШКОЛЫ

*9 студзеня 1975, Мінск*

На днях я вернулся из больницы, в которой пробыл два месяца. Увидел и ваш подарок. Он чудесный. Одно могу сказать: остаюсь я вашим неоплатным должником.

С наилучшими пожеланиями и дружеским приветом вам и всем ученикам школы и вашим уважаемым учителям

*Міхась Лынькоў.*

9/I 1975 г.

## 441. І. У. САЛАМЕВІЧУ

*31 студзеня 1975, Мінск*

Паважаны Іван Уладзіміравіч!

Сягоння мне перадалі ў бальніцу (дзе я знаходжуся каля трох месяцаў) Ваша пісьмо ад 23/XI 1974 г.

Адказваю на пытанні. Чаму падпісваўся «Васілёк»? Падабалася. А калі даведаўся, што такім псеўданімам ужо карыстаецца адзін заходнебеларускі паэт, то развітаўся з гэтым псеўданімам, тым больш што карыстаўся я ім усяго некалькі раз, падпісваючы свае некаторыя вершы. Іх было завельмі мала, і больш я наогул «паэзіяй» не займаўся.

Былі яшчэ некаторыя псеўданімы, якімі падпісваў фельетоны, раёшнікі ў газеце «Камуніст». Але за даўнасцю часу не памятаю іх. Магчыма, іх ведае часткова наш літаратуразнаўца Ф. Куляшоў, які вывучаў маю творчасць і напісаў аба мне кнігу.

Псеўданімамі ў газетах «Беларуская звязда» і «За Савецкую Беларусь» не карыстаўся.

Вось усё, што магу адказаць на Ваша пісьмо.

З прывітаннем

*Міхась Лынькоў.*

31/I 1975 г.

## 442. Я. І. КОХАНУ

*19 лютага 1975, Мінск*

Дарагі Кохан!

Не зусім гэта добры зварот — па фаміліі. А што рабіць: не такі ўжо надзейны сродак наша памяць — не заўсёды захавае яна імёны і па бацьку ўсіх тваіх сяброў і проста знаёмых за добрую паўсотню гадоў жыцця. Здаецца, звалі Вас у тыя далёкія часы Яўхімам... А можа, я памыляюся. Ва ўсякім разе не было б граха, калі б Вы расшыфравалі Ваша імя і па бацьку, ды пару-другую слоў сказалі аб пражытых гадах. Я толькі нядаўна выйшаў з бальніцы, дзе прабыў тры месяцы. На гэты раз удалося выцарапацца адтуль, хварэў сур'ёзна, не на жарты. Сказаліся і вынікі ранейшых захворванняў, як інфаркт і іншыя. У бальніцы мяне застала і мая юбілейная дата. Спецыяльнага літаратурнага вечара, прысвечанага такой «урачыстасці», у Мінску — па маёй просьбе — не праводзілася. Быў праведзены літаратурны вечар у Бабруйску, куды выязджалі нашы літаратары (былыя бабруйчане). Бабруйскі гарком і гарсавет прыслалі мне павіншаванне.

У бальніцу мне перадалі і Ваша пісьмо ад 28 лістапада. З гэтага пісьма я нічога не даведаўся: як Вы жылі, што Вы рабілі за гэтыя гады? Куцыя весткі аб Вас я атрымаў ад Сяргея Грахоўскага, якога ў канцы студзеня прывезлі ў бальніцу з інфарктам. Ён мне сказаў, што Вы даўно жывіцё ва Львове і працуеце на чыгунцы. І гэта ўсё, што я даведаўся пра Вас. Вельмі і вельмі мала. Адсюль просьба: напішыце аб усім больш-менш падрабязна.

За надасланае пісьмо вялікае Вам дзякуй.

З сардэчным прывітаннем і найлепшымі пажаданнямі

Ваш *Міхась Лынькоў.*

19/II 1975 г.

## 443. КАНСТАНЦЫІ БУЙЛО

*22 красавіка 1975, Мінск*

Дарагая Канстанцыя Антонаўна!

Горача віншуем Вас і сям'ю з Першамайскім святам і слаўнай гадавінай Дня Перамогі над гітлераўскай Германіяй!

Жадаем Вам добрага здароўя, шчасця і новых творчых здабыткаў!

З сардэчным прывітаннем ад мяне і Соф'і

*Міхась Лынькоў.*

22/IV 1975

## 444. ВУЧНЯМ 9-га «В» КЛАСА [ГОМЕЛЬСКАЙ] С[ЯРЭДНЯЙ] Ш[КОЛЫ] № 39

*22 красавіка 1975, Мінск*

Дарагія рабяты!

Горача віншую вас, усіх школьнікаў і вашых настаўнікаў з Першамайскім святам і з Днём Перамогі і жадаю ўсім добрага здароўя, шчасця, поспехаў у жыцці, працы і вучобе!

З сардэчным прывітаннем

*Міхась Лынькоў.*

22/IV 1975 г.

## 445. Д. М. КАВАЛЁВУ

*22 красавіка 1975, Мінск*

Дорогой Дмитрий Михайлович!

Поздравляю тебя и твою славную семью с праздником 1 Мая и чудесным Днем Победы над гитлеровской Германией!

Желаю всем крепкого здоровья, счастья, радости, весеннего настроения и всяческого благополучия!

Мне «малость» не повезло: ноябрь, декабрь и январь «продежурил» в больнице и вот уже третий месяц

пребываю в домашнем заключении. Всесоюзное совещание писателей в Минске слушал по телевизору. Прослушали с Софьей и твое выступление. Твое стихотворение — о матери — мы с Софьей оценили как лучшее из всего, что слышали с той трибуны. Жаль, что ты не позвонил нам по телефону.

С сердечным приветом от нас

*Міхась Лынькоў.*

22/IV 1975 г.

## 446. В. С. ГАРБУКУ

*22 красавіка 1975, Мінск*

Дарагі Вісарыён Сцяпанавіч!

Горача віншую Вас і Вашых блізкіх з Першамайскім святам і слаўным Днём Перамогі над гітлераўскай Германіяй!

Жадаю Вам моцнага здароўя, шчасця, светлых вясенніх радасцей і ўсяго, усяго, што ёсць лепшага і карыснага на Зямлі!

З сардэчным прывітаннем

*Міхась Лынькоў.*

22/IV 1975 г.

## 447. ЯНКУ БРЫЛЮ

*25 красавіка 1975, Мінск*

Дарагі Іван Антонавіч!

Прымі з сям'ёй сардэчнае павіншаванне з Першамайскім святам і з Днём нашай Вялікай Перамогі!

Ад усёй душы жадаем усім здароўя, шчасця, вясенніх радасцей і слаўных поспехаў у жыцці, працы і творчасці!

З прывітаннем

*Міхась Лынькоў.*

25/IV 1975 г.

## 448. А. А. КУЛЯШОВУ

*25 красавіка 1975, Мінск*

Дарагія Аркадзі Аляксандравіч і Ксана Фёдараўна!

Горача віншуем вас, дзяцей і ўнукаў з Першамайскім святам і з Днём Перамогі!

Ад усёй душы жадаем вам добрага здароўя, шчасця, цёплай Нарачы, слаўных поспехаў у жыцці, працы і творчасці!

З сардэчным прывітаннем ад нашай камуны

*Міхась Лынькоў.*

25/IV 1975 г.

## 449. І. І. ГРАМОВІЧУ

*26 красавіка 1975, Мінск*

Дарагі Іван Іванавіч!

Горача віншую цябе і сям'ю з Першамайскім святам і з Днём Перамогі над гітлераўскай Германіяй!

Жадаю табе і тваім блізкім добрага здароўя, шчасця, вясенніх радасцей, святочнага настрою і слаўных поспехаў у жыцці, працы і творчасці!

З сардэчным прывітаннем

*Міхась Лынькоў.*

26/IV 1975 г.

## 450. В. С. СЕРАФІМАВУ

*28 красавіка 1975, Мінск*

Дорогой Василий Степанович!

Горячо поздравляю тебя и твою семью с Первомайским праздником и с замечательным юбилеем нашей Победы над гитлеровской Германией!

Желаю всем здоровья, счастья, весенних радостей, теплых воспоминаний о днях давно прошедших и неу-

гасимой бодрости и свежести в наши обветшавшие порядком оболочки.

С сердечным приветом

*Міхась Лынькоў.*

28/IV 1975 г.

## 451. В. А. ЛАПІЦКАЙ

*27 мая 1975, Мінск*

Дарагая Ольга Аляксееўна!

Вялікае дзякуй за Ваша пісьмо. Хаця і позна выказваць Вам спачуванні ў перажытых Вамі няшчасцях, але дазвольце мне і Соф'і Захараўне выказаць наша шчырае спачуванне ў гэтым пісьме. Соф'я Захараўна ў канцы мінулага года пахавала дзвюх сясцёр: Юлію — былога ўрача і Веру — былую настаўніцу <...>. Ад усіх гэтых клопатаў Соф'я сама ледзь ходзіць і трымаецца толькі бясконцай хатняй працай, без якой, як кажа Соф'я, яна б даўно звалілася. Але больш за ўсё клопатаў я прыношу ёй сам. Тры месяцы я правёў у бальніцы (у самы цяжкі для мяне месяц і яе паклікалі ў бальніцу, каб знаходзілася пры мне). Пасля бальніцы я чатыры ўжо месяцы, як трымаюся паўпасцельнага рэжыму, нікуды не выходжу за межы кватэры. Вось вылучылі кандыдатам у дэпутаты, а я не маю магчымасці паехаць на сустрэчу з выбаршчыкамі.

Такія вось абставіны, у якіх знаходзімся мы з Соф'яй цяпер. Месяц май праходзіць, а мы яшчэ ў Мінску. Сядзім, як кажуць, у мора і чакаем пагоды. Пагоды прычакаем, а вось здароўя прычакаць, па ўсяму відаць, ужо не давядзецца. Ва ўсякім разе спадзявацца на штонебудзь лепшае не даводзіцца.

Зразумела, што запрашаць пры такіх абставінах нашых мілых і слаўных радзееўцаў да мяне ў Мінск я не адважваюся, бо мне гэта было б цяжкавата, а ім не дало б належнай карысці. Я вось не паспеў яшчэ аддзячыць іх за надасланы падарунак (ракету), бо, не маючы магчымасці хадзіць па гораду, не змог набыць для іх што-небудзь цікавае. Але маю ўсе магчымасці адказаць на іх ласку кнігамі, што і зраблю восенню.

Цяпер у адказ на некаторыя пытанні з Вашага пісьма. Архіваў, рукапісаў і іншых матэрыялаў, звязаных з маімі творамі для дзяцей («Міколка-паравоз», «Пра храбрага ваяку Мішку»), у мяне няма. Усё гэта загінула ў часе вайны. Але Вы можаце задаваць мне самыя разнастайныя пытанні па маёй творчасці, і я змагу адказаць на іх у нашай перапісцы. Ніводнага рукапісу па маіх пазнейшых творах у мяне няма — яны ўсе ў архівах і даследчых інстытутах. Што тычыцца ўласных рэчаў — можна даць аўтаручку, якой напісаны «Векапомныя дні», акуляры ці яшчэ што-небудзь з падобнай драбязы.

На гэтым заканчваю сваё пісьмо, якое, відаць, Вас не задаволіць. Але, як бачыце, інакш напісаць я не магу, пішу аб тым становішчы, у якім я знаходжуся на сённяшні дзень. Становішча не з зайздросных. Яно лішні раз сцвярджае старую прыказку — старасць не радасць.

З самым сардэчным прывітаннем ад мяне і Соф'і Захараўны

*Міхась Лынькоў.*

27/V 1975 г.

## 452. М. Ц. ЛЫНЬКОВУ

*8 чэрвеня 1975, Нарач*

Дорогой Николай!

Письмо твое получил — Надя переслала его на Нарочь, куда мы уехали 1 июня. На встречи с избирателями я не поехал — было бы все это для меня рискованным предприятием. Избирательная комиссия, секретарь которой навестил меня в Минске, решила освободить меня от этой обязанности из-за болезни кандидата. Спасибо за планку к ленинской медали.

Что касается грейпфрутного сока, то покупать и пересылать его не нужно. Если ты заготовил уже и запаковал посылку, то ничего не попишешь — посылай. Только в адресе напишешь не меня, а Надежду Ивановну Ратникову. Иначе я долго не получу посылку,

нужно будет посылать в Минск доверенность Наде и там заверять подлинность моей подписи и т. д. и т. п.

А больше не покупай эту водицу и не посылай — совершенно лишние для тебя и ненужные заботы.

Живем мы на Нарочи втроем: я, Софья и Ира. Погода пока холодная, иногда к тому же и дождливая. Одним словом, в апреле было лето, а теперь что-то вроде поздней осени.

На этом заканчиваю свое послание. Ира ждет, чтобы отнести письмо на почту и заработать на этом мороженое.

Сердечный привет тебе, Ольге Ивановне, Лене, Коле и Гале. Наилучшие пожелания внучке.

Твой нарочанский братец

*Міхась Лынькоў.*

8/VI 1975 г.

## 453. П. М. БАРАНАВУ

*18 ліпеня 1975, Нарач*

Дорогой Павел Николаевич!

Я долгое время на Нарочи отсутствовал — была избирательная кампания. Когда приехал на Нарочь, мне сразу же передали Ваше заказное письмо со снимком картины, за что и приношу благодарность. Вовремя не ответил из-за болезни. Болел и теперь болею — ежедневно «угощают» двумя уколами. От шприцев освободят на днях.

Таковы мои вот дела. Хотелось бы, чтобы они были лучшими. Но приходится с ними мириться: от старости никуда не уйдешь. Старость хуже любой болезни — она неизлечима.

Примите от меня самые наилучшие мои пожелания — Вам, Марии Николаевне и всем Вашим близким!

С сердечным приветом

*Міхась Лынькоў.*

18/VII 1975 г.

## 454. М. Ц. ЛЫНЬКОВУ

*19 ліпеня 1975, Нарач*

Дорогой Николай!

Приветствуем тебя, Ольгу Ивановну и все молодое поколение!

Письмо твое получил, за которое и приносим соответствующую благодарность. Мы тоже живы и здравы и по мере возможности отдыхаем и развлекаемся, как кто хочет и может. Коллектив наш — я, Софья, Надя и Иринка. Месяц целый мне делали по два укола в день, вчера это «удовольствие» прекратили, и я чувствую себя вольнее от уважаемых эскулапов и сестер со шприцами.

Мой коллектив использует во всю солнечные и водные процедуры, о которых я только могу вспоминать. «Бригантина» стоит на приколе в гараже, и щупаки благодарят судьбу за бездействие моего флота.

Твои нарочанские планы оставляй без никаких изменений: как договорились, так и действуй.

Теперь о посылках. Банку грейпфрута израсходовали — неплохо. Но посылать больше не нужно — ни соков, ни фруктов, ни консервов. Продукты основной необходимости здесь имеются, фруктов и ягод в изобилии, так что и загружать почту и укорачивать свое свободное время беготней по магазинам и почтам не нужно. Говорю это самым решительным образом в порядке «приказа старшего брата».

Погода у нас теперь довольно жаркая, не мешало бы подбавить дождей — для яровых и садов.

Спасибо за ленточки для медали.

Самый сердечный привет Ольге Ивановне, тебе и молодежи от всей моей коммуны.

С наилучшими пожеланиями

*Міхась Лынькоў.*

19/VII 1975 г.

У дадзены том уключаны пісьмы, найбольш значныя ў гісторыка-літаратурным плане, найбольш цікавыя ў сэнсе вывучэння асабістага жыцця пісьменніка, бытавога асяроддзя. Усяго ў том увайшло 454 пісьмы. Частка пісем знаходзіцца ў адрасатаў, якія па розных прычынах устрымаліся ад іх публікацыі.

Пісьмы пададзены ў храналагічнай паслядоўнасці. Друкуюцца па арыгіналах і фотакопіях, пераважная большасць якіх захоўваецца ў сямейным архіве пісьменніка. Спасылка на гэту крыніцу ў каментарыях не даецца. Іншыя крыніцы захавання агавораны. Даведкі пра адрасатаў і асоб, якія ўпамінаюцца ў пісьмах, даюцца пераважна пры першым іх упамінанні. У канцы тома змешчан паказальнік адрасатаў.

1

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР.

*Лынькоў* Мікалай Ціханавіч (н. 1915) — брат М. Лынькова.

*Марк Міхайлавіч* — сын М. Лынькова.

*Анька* — Анна Ціханаўна, сястра М. Лынькова.

*Хана Абрамаўна* — жонка М. Лынькова.

На адвароце ліста дзіцячай рукой накрэслены чатыры ламаныя лініі, пад якімі аўтарам напісана: «А это тебе приписка и собственноручный привет от Марика».

2

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР.

*Поля* — Пелагея Ціханаўна, сястра М. Лынькова.

3

Друкуецца па фотакопіі. Арыгінал — у Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР.

*Кабзарэўскі* Павел Сямёнавіч (Гардон Фавій Залманавіч; 1909—1970) — рускі савецкі пісьменнік-перакладчык.

*Колас* Якуб (Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч; 1882—1956)— класік беларускай літаратуры, народны паэт БССР, акадэмік АН БССР.

*Чорны* Кузьма (Раманоўскі Мікалай Карлавіч; 1900—1944) — беларускі савецкі пісьменнік.

*Бядуля* Змітрок (Плаўнік Самуіл Яфімавіч; 1886—1941) — беларускі савецкі пісьменнік.

*Паслядовіч* Макар Трафімавіч (1906—1984) — беларускі савецкі пісьменнік.

*Мурашка* Рыгор Данілавіч (1902—1944) — беларускі савецкі пісьменнік.

**4**

Друкуецца па фотакопіі.

**5**

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

Упершыню — «Полымя», 1982, № 11.

Дата пісьма ўстаноўлена ў адпаведнасці з пісьмом Я. Коласа да М. Лынькова ад 1/VIII 1941 г.

*Пятрусь* — Броўка Пятрусь (Пётр Усцінавіч; 1905—1980) — народны паэт БССР, акадэмік АН БССР.

*Латышаў* — супрацоўнік газ. «За Савецкую Беларусь».

*Крапіва* Кандрат (Атраховіч Кандрат Кандратавіч; н. 1896)— народны пісьменнік БССР, акадэмік АН БССР.

*Глебка* Пятро (Пётр Фёдаравіч; 1905—1969) — беларускі савецкі паэт, акадэмік АН БССР.

*Гурскі* Ілья Данілавіч (1899—1972) — беларускі савецкі пісьменнік.

*Панчанка* Пімен Емяльянавіч (н. 1917) — народны паэт БССР.

*Барысёнак* — Барысенка Васіль Васільевіч (1904—1984) — беларускі савецкі літаратуразнаўца, акадэмік АН БССР.

*Стаховіч* Алесь (Аляксандр Іосіфавіч; 1907—1956) — беларускі савецкі пісьменнік.

*Янка* — Янка Купала (Луцэвіч Іван Дамінікавіч, 1882—1942) — класік беларускай літаратуры, народны паэт БССР, акадэмік АН БССР і АН УССР.

*Мар'я Дзмітрыеўна* — жонка Я. Коласа.

*Даніла і Міхаська* — сыны Я. Коласа.

**6**

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

*Гольцаў* — знаёмы М. Лынькова.

*Янка* — Я. Купала.

*Кандрат* — К. Крапіва.

*Луцэвіч* Уладзіслава Францаўна (1891—1960) — жонка Я. Купалы. Пасля смерці паэта — дырэктар Музея Я. Купалы.

*Танк* Максім (Скурко Яўгеній Іванавіч; н. 1912) — народны паэт БССР.

**7**

Друкуецца па фотакопіі.

Арыгінал — у Рагачоўскім музеі народнай славы.

*Федчанка* Мікалай Іванавіч (1900—1954) — сябар М. Лынькова, настаўнік Свержанскай школы.

*Ядвіга Аляксандраўна* — жонка М. І. Федчанкі.
*Ларыса* — дачка М. І. Федчанкі.

**8**

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.
Упершыню — «Полымя», 1982, № 11.
*Кандрат* — К. Крапіва.
*Пятрусь* — П. Броўка.
*Іван Дамінікавіч* — Я. Купала.

**9**

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.
Дата пісьма ўстаноўлена ў адпаведнасці з пісьмом П. Ф. Глебку.
*Кандрат* — К. Крапіва.

**10**

Друкуецца па арыгінале.
Дата пісьма ўстаноўлена па зместу і ў адпаведнасці з пісьмамі Я. Коласу, напісанымі ў гэты час.
...Сталі мы недалёка ад аднаго даволі вялікага горада... дамо табе тэлеграму з другога горада, дзе мы друкуем нашу газету...— «Жылі і рыхтавалі газету [«За Савецкую Беларусь».— *А. Х.*], рабілі яе набор пад Бранскам, а друкаваць вазілі ў Арол, да якога было сто кіламетраў па шасе. Там жа здавалі гатовы тыраж на ваенны аэрадром. Адтуль газета знаходзіла паветраныя шляхі на Беларусь» (Лынькоў М. Літаратура і жыццё.— Мн., 1978, с. 504).
*Пімен* — П. Панчанка.
*Носаўская рэдакцыя далёка ад нас...*— Рэдакцыя газеты «Красноармейская правда», рэдактарам якой быў Носаў.
*Кандрат* — К. Крапіва.

**11**

Друкуецца па фотакопіі.
Арыгінал — у Рагачоўскім музеі народнай славы.

**12**

Друкуецца па фотакопіі.
*Федчанка* Ларыса Мікалаеўна (н. 1925) — заслужаная артыстка БССР.
*Караленка* Іван — вучань М. І. Федчанкі, бацькі Л. М. Федчанка.
*Цёця Яня* — Яніна Аляксандраўна, сястра маці Л. М. Федчанка.

**13**

Друкуецца па фотакопіі.

## 14

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР.

*Грыша* — Рыгор Ціханавіч, брат М. Лынькова.

*Аня* — Анна Ціханаўна, сястра М. Лынькова.

*Поля* — Пелагея Ціханаўна, сястра М. Лынькова.

*Хана* — Хана Абрамаўна, жонка М. Лынькова.

*Марык* — сын М. Лынькова.

## 15

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў сямейным архіве Х. Шынклера.

*Шынклер* Хвядос Сяргеевіч (1903—1942) — беларускі савецкі пісьменнік.

*Вольскі* Віталь (Зэйдэль-Вольскі Віталій Фрыдрыхавіч; н. 1901) — беларускі савецкі пісьменнік.

*Майр* Янка (Фёдараў Іван Міхайлавіч; 1883—1971) — беларускі савецкі пісьменнік.

## 16

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР.

## 17

Друкуецца па арыгінале.

*Эдзі Агняцвет* (Каган Эдзі Сямёнаўна; н. 1916) — беларуская савецкая паэтэса.

## 18

Друкуецца па арыгінале.

*«За свабодную Беларусь»* — франтавая газета. Адказным рэдактарам быў І. Гурскі. У склад рэдакцыі ўваходзілі: П. Глебка, П. Панчанка, А. Кучар і журналісты Пінхасік і Рабіновіч.

*Выпустили всего один номерок газеты...*— «За Савецкую Беларусь», рэдактарам якой быў М. Лынькоў.

*Максім* — М. Танк.

*...После славянского митинга...*— Другі ўсеславянскі мітынг адбыўся ў Маскве 4—5 красавіка 1942 г.

*Фейгінзон* — журналіст.

## 19

Друкуецца па арыгінале.

*Получил вашу газету... и «дубинку».*— Газета «За свабодную Беларусь» і сатырычны часопіс «Партызанская дубінка», якія рэдагаваў І. Гурскі.

*Александроўская* Ларыса Пампееўна (1904—1980) — беларуская спявачка, народная артыстка СССР.

*Мурамцаў* Ілья Аляксеевіч (1901—1968) — заслужаны артыст БССР.

*Млодэк* Рыта (Рэвека Веньямінаўна; 1906—1969) — беларуская савецкая спявачка, народная артыстка БССР.

*Аляксеева* Ларыса Філалогаўна (н. 1907) — оперная спявачка, народная артыстка БССР.

*Пятрок* — П. Глебка.

*Пімен* — П. Панчанка.

## 20

Друкуецца па арыгінале.

*Пімен* — П. Панчанка.

*...вспоминаем «калининцев».*— Газета «За свабодную Беларусь», якую рэдагаваў І. Гурскі, выходзіла на Калінінскім фронце.

## 21

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў сямейным архіве Х. Шынклера.

Упершыню ў кн.: Шынклер Х. Апошні рэйс.— Мн., 1984.

Дата пісьма ўстаноўлена па зместу.

*Рыгор* — брат М. Лынькова, загінуў на фронце.

## 22

Друкуецца па арыгінале.

Пісьмо адрасавана І. Гурскаму, рэдактару газеты «За свабодную Беларусь», і П. Глебку, яе супрацоўніку.

*Модэль* Міхась (Мендэль Моўшавіч; 1904—1980) — беларускі савецкі тэатральны крытык.

*Пімен* — П. Панчанка.

## 23

Друкуецца па арыгінале.

*Якуб* — Я. Колас.

*Кандрат* — К. Крапіва.

*Кузьма* — К. Чорны.

*Пятрусь* — П. Броўка.

*Максім* — М. Танк.

*Пімен* — П. Панчанка.

*Стах* — А. Стаховіч.

*Барысёнак* — В. В. Барысенка.

## 24

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

Дата пісьма ўстаноўлена па зместу.

*Нортман* Сцяпан — беларускі журналіст.

*Юрка* — сын Я. Коласа.

*Кандрат* — К. Крапіва.

*Пятрусь* — П. Броўка.

*Цікоцкі* Яўген Карлавіч (1893—1970) — беларускі савецкі кампазітар.

*Ларыса Пампееўна* — Л. П. Александроўская.
*Аршарун* — супрацоўнік выдавецтва.

25

Друкуецца па арыгінале.
*Мікалай Іванавіч* — бацька Л. М. Федчанка.
*Ядвіга Аляксандраўна* — маці Л. М. Федчанка.

26

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў сямейным архіве Х. Шынклера.
Упершыню — кн.: Шынклер Х. Апошні рэйс.

27

Друкуецца па арыгінале.
Дата ўстаноўлена па зместу і ў адпаведнасці з пісьмом І. Д. Гурскаму ад 20/VI 1942 г.
*Пятрук* — П. Глебка.
*Ілья* — І. Гурскі.
*Айзік* — Кучар Алесь (Айзік Евелевіч; н. 1910) — беларускі савецкі крытык і драматург.
*Кандратка* — К. Крапіва.
*Янка* — Я. Купала.

28

Друкуецца па арыгінале.
*...выпуск газеты...*— «За свабодную Беларусь».
*Кандрат* — К. Крапіва.
*...закончыў чарговы варыянт п'есы.*— «Проба агнём».
*Пятрусь* — П. Броўка.
*...пацее над лібрэта оперы.*— «Міхась Падгорны».
*Максім* — М. Танк.
*...пацее над паэмай.*— «Янук Сяліба».
*Вася* — В. В. Барысенка.
*...Вольскі, заканчвае п'есу.*— «Машэка».
*Кузьма Чорны працуе над раманам.*— «Пошукі будучыні».
*Янка* — Я. Купала.
*Мікола* — М. Ц. Лынькоў.
*Марык* — сын М. Лынькова.

29

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.
Дата пісьма ўстаноўлена па зместу.
*Янка* — Я. Купала.
*Гарай* Канстанцін Васільевіч (н. 1904) — беларускі савецкі вучоны, акадэмік, у той час прэзідэнт АН БССР.
*Кандрат* — К. Крапіва.
*Пятрусь* — П. Броўка.

*Мазалькоў* Яўген Сямёнавіч (1909—1969) — рускі савецкі перакладчык, крытык і літаратуразнаўца.

30

Друкуецца па арыгінале.

*Гарбуноў* Цімох Сазонавіч (1904—1969) — у той час сакратар ЦК КП(б)Б, рэдактар часоп. «Славяне».

31

Друкуецца па фотакопіі.

*Далматоўскі Яўгеній* (Яўген Аронавіч; н. 1915) — рускі савецкі паэт.

*Мікалай Іванавіч* — бацька Л. М. Федчанка.

*Ядвіга Аляксандраўна* — маці Л. М. Федчанка.

32

Друкуецца па арыгінале.

*Барашка* Ілары (Іларыён Мацвеевіч; 1905—1968) — беларускі савецкі пісьменнік.

33

Друкуецца па фотакопіі.

*Юрка* — дваюрадны брат Л. М. Федчанка.

34

Друкуецца па арыгінале.

*Садоўскі* Яфім Ільіч (н. 1908) — беларускі савецкі празаік.

*Рудзько* Юрый Герасімавіч (1913—1948) — беларусі савецкі пісьменнік.

*Крысько* Цімох Васільевіч — Вітка Васіль (н. 1911) — беларускі савецкі паэт.

*Аркаша* — А. Куляшоў.

35

Друкуецца па арыгінале.

Дата пісьма ўстаноўлена па зместу.

*Янка* — Я. Купала.

*Кандрат* — К. Крапіва.

*Уладзіслава Францаўна* — жонка Я. Купалы.

36

Друкуецца па фотакопіі.

Дата пісьма ўстаноўлена па зместу і ў адпаведнасці з іншымі пісьмамі аўтара, напісанымі ў гэты час да адрасата.

### 37

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

*Пятрусь* — П. Броўка.

*Крупеня* Іван Ануфрыевіч (1908—1952) — у той час намеснік старшыні СНК БССР і намеснік начальніка Беларускага Штаба партызанскага руху.

### 38

Друкуецца па арыгінале.

*...пленум правялі.*— 7 і 8 жніўня 1942 г. у Маскве адбыўся пленум Праўлення ССП БССР, прысвечаны творчасці беларускіх пісьменнікаў у гады вайны.

*Ларчанка* Міхаіл Рыгоравіч (1907—1981) — беларускі савецкі літаратуразнаўца і крытык.

*Пятро* — П. Глебка.

*Пімен* — П. Панчанка.

*...не досыць акуратна атрымліваю тваю газету.*— «За свабодную Беларусь».

### 39

Друкуецца па фотакопіі.

*Бацька Мінай* — Шмыроў Мінай Піліпавіч (1891—1964) — адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху на Беларусі, Герой Савецкага Саюза.

*Куляшоў* Аркадзь Аляксандравіч (1914—1978) — народны паэт БССР.

### 40

Друкуецца па арыгінале.

Датуецца па штэмпелю паштоўкі.

### 41

Друкуецца па арыгінале.

*Цімох Сазонавіч* — Ц. С. Гарбуноў.

### 42

Друкуецца па арыгінале.

### 43

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

*...для ўдзелу ў другім мітынгу...*— Другі беларускі антыфашысцкі мітынг адбыўся ў Маскве 27 верасня 1942 г.

### 44

Друкуецца па арыгінале.

*Піменка* — П. Панчанка.
*Пятрусь* — П. Глебка.

45

Друкуецца па арыгінале.

*Вітаўтаў* — да Айчыннай вайны — дырэктар Агенцтва па ахове аўтарскіх праў пры ССП БССР.

*Кацовіч* Лазар Абрамавіч (1903—1953) — беларускі савецкі празаік.

46

Друкуецца па арыгінале.

*Кавалёў* Дзмітрый Міхайлавіч (1915—1977) — рускі савецкі паэт і перакладчык.

*Машара* Міхась (Міхаіл Антонавіч; 1902—1976) — беларускі савецкі пісьменнік.

*Астрэйка* Анатоль (Акім Пятровіч; 1911—1978) — беларускі савецкі паэт.

*Клімковіч* Міхась (Міхаіл Мікалаевіч; 1899—1954) — беларускі савецкі пісьменнік.

*Пестрак* Піліп Сямёнавіч (1903—1978) — беларускі савецкі пісьменнік.

47

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

Упершыню — «Полымя», 1982, № 11.

*Уралава* Еўдакія Ільінічна (н. 1902) — у той час народны камісар асветы БССР.

*Казлоў* Васіль Іванавіч (1903—1967) — партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху на Беларусі ў Айчынную вайну. У той час першы сакратар Мінскага абкома і гаркома КП(б)Б. Пазней — Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР.

*Іван Напрэевіч* — І. А. Крупеня.
*Уладзіслава Францаўна* — У. Ф. Луцэвіч.
*Сазоныч* — Ц. С. Гарбуноў.

48

Друкуецца па арыгінале.

49

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

*...вітаю Вас са слаўнай гадавінай...* — 60-годдзе з дня нараджэння Я. Коласа.

*Любан* Ісак Ісакавіч (1906—1956) — беларускі савецкі кампазітар.

*Кандрат* — К. Крапіва.

### 50

Друкуецца па арыгінале.

*Кандрат* — К. Крапіва.

*...юбілей Коласа (3/XI 42).*— 60-годдзе з дня нараджэння Я. Коласа.

### 51

Друкуецца па арыгінале.

*Прусліна Ася* — настаўніца.

*Пятрук* — П. Глебка.

*Клімковічыха*— Марыя Іосіфаўна Клімковіч —жонка М. Клімковіча.

*Гурскі-мовазнаўца* — Гурскі Канстанцін Іванавіч (1907—1943) — беларускі савецкі мовазнаўца.

### 52

Друкуецца па арыгінале.

*Панамарэнка* Панцеляймон Кандратавіч (1902—1984) — у той час першы сакратар ЦК КП(б)Б, начальнік Цэнтральнага Штаба партызанскага руху пры Стаўцы Вярхоўнага Галоўнакамандавання.

*Кандрат* — К. Крапіва.

*Якуб* — Я. Колас.

### 53

Друкуецца па арыгінале.

*Адам Багдановіч* — Багдановіч Адам Ягоравіч (1862—1940) — беларускі энтограф і фалькларыст, бацька Максіма Багдановіча.

### 54

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

*...як прайшоў юбілей...*— 60-годдзе з дня нараджэння Я. Коласа.

*Наталевіч* Нічыпар Якаўлевіч (1900—1964) — дзяржаўны дзеяч БССР, у той час Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР.

*Кандрат* — К. Крапіва.

*Пятрусь і Пятро* — П. Броўка і П. Глебка.

*Ільья* — І. Гурскі.

*Цімох Сазонавіч* — Ц. С. Гарбуноў.

### 55

Друкуецца па арыгінале.

*Пятрусь* — П. Броўка.

*Пятро* — П. Глебка.

*Ільья* — І. Гурскі.

*Пінхасік* — журналіст.

*Рабіновіч* — журналіст.
*Барыс* — сын К. Крапівы, загінуў на фронце.
*Алена Канстанцінаўна* — жонка К. Крапівы.
*...тысячу рублёў...*— У старым грашовым вылічэнні.

56

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.
*Іван Напрэіч* — І. А. Крупеня.
*Ілья* — І. Гурскі.
*Пятро, Нонік* — П. Глебка.
*Пімен* — П. Панчанка.
*Аркаша* — А. Куляшоў.
*Дабрынін* Міхаіл Кузьміч (1889—1955) — рускі і беларускі савецкі літаратуразнаўца.
*Кандрат* — К. Крапіва.
*Кузьмец* — К. Чорны.

57

Друкуецца па арыгінале.

58

Друкуецца па арыгінале.

59

Друкуецца па арыгінале.
*Кірэенка* Канстанцін Ціханавіч (н. 1918) — беларускі савецкі паэт.
*Лешчынер* — знаёмы М. Лынькова.

60

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.
*Кузьма* — К. Чорны.
*Уладзіслава Францаўна* — У. Ф. Луцэвіч.
*Кандрат* — К. Крапіва.
*Нонік* — П. Глебка.
*Пятрусь* — П. Броўка.
*...жыве ў «Эўропе».*— У жартаўлівым сэнсе ўжыта назва гасцініцы «Еўропа».
*Чагін* Пётр Іванавіч (1898—1967) — у той час дырэктар Дзяржаўнага выдавецтва мастацкай літаратуры (ГИХЛ).
*Гарадзецкі* Сяргей Мітрафанавіч (1884—1967) — рускі савецкі паэт і перакладчык.

61

Друкуецца па арыгінале.
*Атраховіч* Елена Канстанцінаўна — жонка К. Крапівы.
*Кандрат* — К. Крапіва.

*Ігар* — сын Е. К. Атраховіч.
*Людачка* — дачка Е. К. Атраховіч.

62

Друкуецца па арыгінале.
*Цвірка* Пятрас (1909—1947) — літоўскі савецкі пісьменнік.
*Венцлава* Антанас (1906—1971) — літоўскі савецкі пісьменнік і грамадскі дзеяч.
*Корсакас* Костас Пранавіч (н. 1909) — літоўскі савецкі літаратуразнаўца, паэт, грамадскі дзеяч, народны пісьменнік Літоўскай ССР.

63

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.
*Уладзіслава Францаўна* — У. Ф. Луцэвіч.

64

Друкуецца па фотакопіі.

65

Друкуецца па фотакопіі.

66

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.
Упершыню — «Полымя», 1982, № 11.
*Пятрусь Браўкец* — П. Броўка.
*Панцеляймон Кандратавіч* — П. К. Панамарэнка.

67

Друкуецца па арыгінале.
*Кандрат* — К. Крапіва.
*Жаўрук* Алесь (Сінічкін Аляксандр Дзмітравіч; 1910—1942) — беларускі савецкі паэт.

68

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.
*Кандрат* — К. Крапіва.
*Кузьма* — К. Чорны.
*Нонік* — П. Глебка.
*Пятрусь* — П. Броўка.
*Петрусі* — П. Броўка і П. Глебка.

69

Друкуецца па арыгінале.
*Возможно... осенью откроется Белорусский государственный университет...* — Часова перапыненыя заняткі аднавіліся 1 каст-

рычніка 1943 г. на ст. Сходня (пад Масквой). 12 верасня 1944 г. БДУ пачаў працаваць у Мінску.

70

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР.

*Кандрат* — К. Крапіва.

71

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

*Уладзіслава Францаўна* — У. Ф. Луцэвіч.

*Кандрат* — К. Крапіва.

72

Друкуецца па арыгінале.

73

Друкуецца па арыгінале.

74

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

Упершыню — «Полымя», 1982, № 11.

*Кузьма* — К. Чорны.

*Кандрат* — К. Крапіва.

*Петрусі* — П. Броўка і П. Глебка.

*Фадзееў* Аляксандр Аляксандравіч (1901—1956) — рускі савецкі пісьменнік. У той час быў сакратаром Праўлення СП СССР.

75

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

*Кандрат* — К. Крапіва.

*Кузьма* — К. Чорны.

*Петрусі* — П. Броўка і П. Глебка.

*Максім* — М. Танк.

*Аркаша* — А. Куляшоў.

*Уладзіслава Францаўна* — У. Ф. Луцэвіч.

76

Друкуецца па арыгінале.

*Сямынін* Пётр Андрэевіч (н. 1909) — рускі савецкі паэт і перакладчык.

*Крайчанка* Усевалад Ігнатавіч (1915—1961) — беларускі савецкі пісьменнік.

*Шарахоўскі* Янка (Іван Захаравіч; 1908—1973) — беларускі савецкі пісьменнік і літаратуразнаўца.

*Якімовіч* Алесь (Аляксандр Іванавіч; 1904—1979) — беларускі савецкі пісьменнік.

*Грубіян* Мацей Міхайлавіч (1909—1972) — яўрэйскі савецкі паэт.

**77**

Друкуецца па арыгінале.

**78**

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

Дата пісьма ўстаноўлена ў адпаведнасці з пісьмамі Я. Коласа да М. Лынькова ад 20/VII 1943 г.; 10/VIII 1943 г.; 18/IX 1943 г.

*Прыляжаеў* Мікалай Аляксандравіч (1872—1944) — беларускі савецкі хімік-арганік, акадэмік АН БССР.

*Вятохін* Іван Андрэевіч (1884—1959) — беларускі савецкі фізіёлаг.

*Кузьма* — К. Чорны.

*Іван Напрэіч* — І. А. Крупеня.

*Цімох Сазонавіч* — Ц. С. Гарбуноў.

**79**

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

*Даніла* — сын Я. Коласа.

*Пятрусь* — П. Броўка.

*...выставілі мы Вашу кандыдатуру ў саюзныя акадэмікі.*— Я. Колас не балаціраваўся.

**80**

Друкуецца па арыгінале.

**81**

Друкуецца па арыгінале.

**82**

Друкуецца па арыгінале.

**83**

Друкуецца па арыгінале.

**84**

Друкуецца па арыгінале.

85

Друкуецца па арыгінале.
*Цімох Сазонавіч* — Ц. С. Гарбуноў.
*Максім* — М. Танк.
*Кандрат* — К. Крапіва.

86

Друкуецца па арыгінале.

87

Друкуецца па арыгінале.

88

Друкуецца па арыгінале.

89

Друкуецца па арыгінале.
*Напісаў з Крапівой сцэнарый.*— Не быў выкарыстаны.
...*Крапівінскі плакат.*— Сатырычная газета-плакат «Раздавім фашысцкую гадзіну», якую рэдагаваў К. Крапіва.

90

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР.

91

Друкуецца па арыгінале.

92

Друкуецца па арыгінале.
*Аркаша* — А. Куляшоў.

93

Друкуецца па арыгінале.
*Юфіт* Мацільда Іосіфаўна (н. 1909) — руская савецкая пісьменніца.
*Максім* — М. Танк.
*Аркадзі* — А. Куляшоў.
*Сёма* — Кірсанаў Сямён Ісакавіч (1906—1972) — рускі савецкі паэт.
*Івашачкін* Макар Васільевіч — генерал-лейтэнант, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны.
*Уткін* Іосіф Паўлавіч (1903—1944) — рускі савецкі паэт.
...*неистового Павла*...— Антакольскі Павел Рыгоравіч (1896—1983) — рускі савецкі паэт.

*Павел* — муж М. І. Юфіт. Нілін Павел Піліпавіч (1908—1981) — рускі савецкі пісьменнік.

94

Друкуецца па арыгінале.

*Федчанка* Ядвіга Аляксандраўна (1894—1964) — заслужаная настаўніца БССР.

*Канавальчык* — настаўніца.

*Мікалай Іванавіч* — муж Я. А. Федчанка.

*Ляля-бібліятэкарка* — Ларыса Мікалаеўна — дачка Я. А. Федчанка.

95

Друкуецца па арыгінале.

96

Друкуецца па арыгінале.

*Рыльскі* Максім Тадэевіч (1895—1964) — украінскі савецкі паэт, вучоны, грамадскі дзеяч, акадэмік АН УССР, акадэмік АН СССР.

97

Друкуецца па арыгінале.

98

Друкуецца па арыгінале.

99

Друкуецца па арыгінале.

*Павел* — П. П. Нілін, муж М. І. Юфіт.

*Вінаградская* — знаёмая М. Лынькова.

*Аркадзь* — А. Куляшоў.

*Соня* — С. Вінаградская.

*Сеня* — Трэгуб Сямён Адольфавіч (1907—1975) — рускі савецкі крытык.

*Васіль Макаравіч* — работнік выдавецтва.

*Максім і Аркадзь* — М. Танк і А. Куляшоў.

100

Друкуецца па арыгінале.

*Гінзбург* Рыгор Львовіч (н. 1908) — інжынер-эканаміст, вучань М. Лынькова.

101

Друкуецца па арыгінале.

## 102

Друкуецца па арыгінале.
*Міхаіл Паўлавіч* — сын М. І. Юфіт.
*Нілін* Павел Піліпавіч — муж М. І. Юфіт.
*Максім* — М. Танк.
*Аркаша* — А. Куляшоў.

## 103

Друкуецца па машынапісу з уласнаручным подпісам аўтара і рукапіснай прыпіскай.
*Лынькова* Вольга Іванаўна — жонка Мікалая Ціханавіча Лынькова, брата М. Лынькова.
*Коля* — М. Ц. Лынькоў.

## 104

Друкуецца па арыгінале.
Дата пісьма ўстаноўлена па зместу.

## 105

Друкуецца па арыгінале.
*Соф'я Захараўна* — жонка М. Лынькова.

## 106

Друкуецца па арыгінале.
Лынькова-Куспіц Соф'я Захараўна (н. 1917) — жонка М. Лынькова. Працавала настаўніцай, навуковым супрацоўнікам у Інстытуце гісторыі Акадэміі навук БССР.
*Маруся* — Баранава Марыя Парфір'еўна, сяброўка С. З. Лыньковай-Куспіц.
*Максім* — Лужанін Максім (Каратай Аляксандр Амвросьевіч; н. 1909) — беларускі савецкі паэт.
*Кандрат* — К. Крапіва.
*Глебус* — П. Глебка.
*Канстанцін Міхайлавіч* — Я. Колас.
*Яўгенія* — Пфляумбаум Яўгенія Эдгардаўна — жонка М. Лужаніна.
*Максімы* — М. Танк і М. Лужанін.

## 107

Друкуецца па арыгінале.
*Пімен* — П. Панчанка.
*Максім* — М. Лужанін.
*Жэня* — жонка М. Лужаніна.
*Пракоф'еў* Аляксандр Андрэевіч (1900—1971) — рускі савецкі паэт.

## 108

Друкуецца па арыгінале.
*Максім* — М. Лужанін.

*Вера* — Маскаленка Вера Паўлаўна, сяброўка С. З. Лынько-вай-Куспіц.
*Маруся* — М. П. Баранава.
*Жэня* — жонка М. Лужаніна.
*Максімы* — М. Танк і М. Лужанін.
*Пімен* — П. Панчанка.
*Кандрат* — К. Крапіва.

**109**

Друкуецца па арыгінале.
*Кандрат* — К. Крапіва.
*Максім* — М. Лужанін.
*Лена* — жонка К. Крапівы.
*Люда* — дачка К. Крапівы.
*Ніна* — жонка П. Глебкі.
*Оля* — хатняя работніца.
*Вера* — В. П. Маскаленка.
*Маруся* — М. П. Баранава.

**110**

Друкуецца па арыгінале.
*Канстанцін Міхайлавіч* — Я. Колас.

**111**

Друкуецца па арыгінале.
*Максім* — М. Лужанін.
*Канстанцін Міхайлавіч* — Я. Колас.
*Міхась* — сын Я. Коласа.
*Кандрат* — К. Крапіва.
*Пімен* — П. Панчанка.
*Даніла* — сын Я. Коласа.
*Вера* — В. П. Маскаленка.
*Маруся* — Марыя Захараўна, сястра С. З. Лыньковай-Куспіц.
*Ларыса* — дваюрадная сястра С. З. Лыньковай-Куспіц.

**112**

Друкуецца па арыгінале.
*Канстанцін Міхайлавіч* — Я. Колас.

**113**

Друкуецца па арыгінале.

*Мікуліч* Барыс Міхайлавіч (1912—1954) — беларускі савецкі пісьменнік.

*Никто не против Вашего возвращения на родину.*— Б. М. Мікуліч у той час жыў у Краснаярскім краі.

**114**

Друкуецца па арыгінале.

## 115

Друкуецца па арыгінале.

*Багдановіч* Максім Адамавіч (1891—1917) — беларускі паэт, перакладчык, літаратуразнаўца, празаік.

## 116

Друкуецца па арыгінале.

*Мікуліч* Марыя Міхайлаўна — сястра Б. М. Мікуліча.

## 117

Друкуецца па арыгінале.

## 118

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

*Грыгоніс* Генрых Юр'евіч (1889—1955) — беларускі савецкі акцёр, народны артыст БССР.

## 119

Друкуецца па арыгінале.

*Кавалёў* Павел Нічыпаравіч (н. 1912) — беларускі савецкі пісьменнік.

*Левін* — у той час дырэктар Літфонда ССП БССР.

*Гусараў* Мікалай Іванавіч (н. 1905) — у той час сакратар ЦК КП(б)Б.

*Ігнацьеў* Міхаіл Купрэевіч (н. 1904) — партыйны работнік, у Вялікую Айчынную вайну кіраўнік партызанскага руху.

*Іаўчук* Міхаіл Трыфанавіч (н. 1908) — савецкі філосаф, член-карэспандэнт АН СССР. У той час сакратар ЦК КПБ.

*Масэнка* Тарэнь Германавіч (1903—1970) — украінскі савецкі паэт і перакладчык.

*Эльман* Андрэй Пятровіч (н. 1903) — партыйны работнік, персанальны пенсіянер.

*Тайлай* Валянцін Паўлавіч (1914—1947) — беларускі савецкі паэт.

## 120

Друкуецца па арыгінале, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Я. Коласа.

*Даніла* — сын Я. Коласа.

*Кандрат* — К. Крапіва.

*Васілёнак* Сяргей Іванавіч (1902—1982) — у той час дацэнт Маскоўскага універсітэта імя М. В. Ламаносава.

*Жэбрак* Антон Раманавіч (1901—1965) — беларускі савецкі батанік, генетык, селекцыянер, акадэмік АН БССР.

*Панцеляймон Кандрацьевіч* — П. К. Панамарэнка.

*Пятрусь* — П. Броўка.

121

Друкуецца па арыгінале.

122

Друкуецца па арыгінале.

*Васілевіч* Алена Сямёнаўна (н. 1922) — беларуская савецкая пісьменніца.

*...Ваш рукапіс.*— Аповесць А. Васілевіч «Шляхі-дарогі».

123

Друкуецца па арыгінале.

*...корпею над своим романом...*— «Векапомныя дні».

*...книжицу прошлогоднего издания.*— Лынькоў М. Апавяданні.— Мн., 1947.

124

Друкуецца па арыгінале.

125

Друкуецца па арыгінале.

*Аб кампазіцыйнай рыхласці аповесці...*— Аповесць А. Васілевіч «Шляхі-дарогі».

126

Друкуецца па арыгінале.

127

Друкуецца па арыгінале.

128

Друкуецца па арыгінале.

*Надо гнать роман.*— «Векапомныя дні».

129

Друкуецца па арыгінале.

*Півушкова* Зоя Уладзіміраўна (1896—1978) — настаўніца.

*Міхаіл Іванавіч* — муж З. У. Півушковай.

*Соф'я* — С. З. Лынькова-Куспіц.

*Мар'я Пятроўна* — маці С. З. Лыньковай-Куспіц.

*Маруся* — сястра С. З. Лыньковай-Куспіц.

*Надзюша* — прыёмная дачка М. Лынькова.

*Вова і Барыс* — пляменнікі З. У. Півушковай.

130

Друкуецца па арыгінале.

*Соф'я* — С. З. Лынькова-Куспіц.
*Ольга* — жонка Мікалая, брата М. Лынькова.

### 131

Друкуецца па арыгінале.
*Зорына* Вера Міхайлаўна (н. 1907) — у той час загадчыца Бабруйскай гарадской бібліятэкі імя А. С. Пушкіна.

### 132

Друкуецца па арыгінале.
*Соф'я Захараўна* — жонка М. Лынькова.
*Вольга* — жонка Мікалая, брата М. Лынькова.

### 133

Друкуецца па арыгінале.
*...отдаться моему роману...*— «Векапомныя дні».

### 134

Друкуецца па арыгінале.
*К дальнейшей работе над романом...*— «Векапомныя дні».
*Соф'я Захараўна* — жонка М. Лынькова.
*Саша* — А. А. Пракоф'еў.

### 135

Друкуецца па машынапісу. Дата і подпіс напісаны аўтарам чарнілам.
*Канстанцін Міхайлавіч* — Я. Колас.

### 136

Друкуецца па арыгінале.

### 137

Друкуецца па арыгінале.
*...предполагаю закончить первую книгу романа...*— «Векапомныя дні».

### 138

Друкуецца па арыгінале.
*Оля* — жонка Мікалая, брата М. Лынькова.
*...по случаю моего награждения.*— М. Лынькоў быў узнагароджаны ордэнам Леніна за заслугі ў развіцці савецкай літаратуры.
*Работаю я теперь над большим романом...*— «Векапомныя дні».
*Соф'я* — жонка М. Лынькова.
*Поля* — сястра М. Лынькова.
*Вера* — дачка Полі.

**139**

Друкуецца па арыгінале.

*...спасибо за теплое слово о моем романе...*— «Векапомныя дні».

*Соф'я Захараўна* — жонка М. Лынькова.

**140**

Друкуецца па арыгінале.

*Мікалай Іванавіч* — муж Я. А. Федчанка.

*Ларыса* — дачка Я. А. Федчанка.

*...работаю над большим романом...* — «Векапомныя дні».

*Аляксандр Гаўрылавіч* — бацька Я. А. Федчанка.

**141**

Друкуецца па арыгінале.

*...конца роману еще не видно...*— Раман «Векапомныя дні».

**142**

Друкуецца па арыгінале.

*О переводе.*— Я. С. Мазалькоў перакладаў раман «Векапомныя дні».

*...положение с романом.*— «Векапомныя дні».

**143**

Друкуецца па арыгінале.

*Оля* — жонка Мікалая Лынькова.

**144**

Друкуецца па арыгінале.

*Канстанцін Міхайлавіч* — Я. Колас.

*Тычына* Паўло Рыгоравіч (1891—1967) — украінскі савецкі паэт.

**145**

Друкуецца па арыгінале.

*Надзюша* — прыёмная дачка М. Лынькова.

*Бабушка — Марыя Пятроўна* — маці С. З. Лыньковай-Куспіц.

**146**

Друкуецца па арыгінале.

*...пока... не закончу первую книгу.*— Раман «Векапомныя дні».

*Яўгені Сямёнавіч* — Я. С. Мазалькоў.

*Суркоў* Аляксей Аляксандравіч (1899—1983) — рускі савецкі паэт.

147

Друкуецца па арыгінале.

*Карчагін* Аляксандр Апанасавіч — у той час выкладчык БДУ.

148

Друкуецца па фотакопіі.

Арыгінал — у адрасата.

*Корсакас* Костас Пранавіч (н. 1909) — літоўскі савецкі літаратуразнаўца, паэт, грамадскі дзеяч, народны пісьменнік Літоўскай ССР.

*...тружусь над своим романом.*— «Векапомныя дні».

149

Друкуецца па арыгінале.

*...поедем автобусами в Михайловское...*— Адзначалі 150-годдзе з дня нараджэння А. С. Пушкіна.

*Кандрат* — К. Крапіва.

150

Друкуецца па арыгінале.

У арыгінале аўтар памылкова паставіў дату: 3/X 1949, замест: 3/IX 1949.

*Людей у нас небогато.*— У Доме творчасці пісьменнікаў у Каралішчавічах.

*Павел Сямёнавіч* — П. С. Кабзарэўскі.

*Варэннік* — рабочы.

*Павел Нікіфаравіч* — П. Н. Кавалёў.

151

Друкуецца па арыгінале.

*Каця* — хатняя работніца.

152

Друкуецца па фотакопіі.

Арыгінал — у адрасата.

*...гнал роман.*— «Векапомныя дні».

153

Друкуецца па арыгінале.

*...гнал роман...*— «Векапомныя дні».

*...твоей книгой в издательстве...*— Відаць, размова ідзе пра кнігу: Мазалькоў Я. Янка Купала: Жыццё і творчасць/Пер. з рус. мовы.— Мн., 1951. На рускай мове кніга выйшла ў 1949 г.— М.

*Калерыя Іванаўна* — жонка Я. С. Мазалькова.

Па іншых звестках (Асабовая справа М. Лынькова.— Архіў АН БССР) — з 1 кастрычніка 1928 г.

## 1928

*15—18 лютага*

Прысутнічаў на Усебеларускай канферэнцыі «Маладняка», абраны членам Цэнтральнага Бюро і дэлегатам на Усесаюзны з'езд ВАПП.

*«Сав. Бел.», 15, 17—19 лют.*

*30 красавіка — 8 мая*

Прысутнічаў на І Усесаюзным з'ездзе пралетарскіх пісьменнікаў як дэлегат з правам дарадчага голасу.

*«Маладняк», № 5, с. 105—107.*

У літаратурным дадатку да газ. «Савецкая Беларусь» друкуюцца апавяданні М. Лынькова «Воўчы лог» (№ 8), «Кларнет» (№ 13), «Беня-балагол» (№ 15).

*Верасень*

У часоп. «Маладняк», № 9— «Радо».

*Кастрычнік*

Выйшаў з друку ў выданні ЦБ «Маладняка» першы зборнік М. Лынькова «Апавяданні».

*Лістапад*

У часоп. «Маладняк», № 11— «Андрэй Лятун».

У другой кнізе альманаха «Уздым» — апавяданне «Журавель мой, журавель...»

## 1929

*Сакавік*

У часоп. «Маладняк», № 3 пачынае друкавацца аповесць «Апошні зверыядавец» (працяг у № 4—6).

*8—15 мая*

Прысутнічаў на IX Усебеларускім з'ездзе Саветаў, абраны кандыдатам у члены ЦВК.

*«Сав. Бел.», 9, 14 мая;*
*«Звязда», 16 мая.*

*Май*

Першы палёт на самалёце. М. Лынькоў апісаў яго

ў замалёўцы «На самалёце» (уражанні), надрукаванай у газ. «Камуніст», № 54.

*Снежань*

Выйшаў зборнік апавяданняў М. Лынькова «Гой».

## 1930—1932

Узначальваў БелАПП.

*Асабовая справа М. Лынькова.— Архіў АН БССР.*

## 1930

*Май*

Выйшла з друку кніга апавяданняў М. Лынькова «Андрэй Лятун».

*26 ліпеня*

Газ. «Камуніст» у апошні раз выйшла за подпісам «Адказны рэдактар Лынькоў».

*Ліпень*

Выйшла з друку аповесць «Апошні зверыядавец».

*Ліпень — жнівень*

Прызначан загадчыкам выдавецкага аддзела Беларускага дзяржаўнага выдавецтва (на гэтай пасадзе да 1 мая 1932 г.). З гэтага часу жыве ў Мінску. Згодна асабовай справы М. Лынькова (Архіў АН БССР), ён працаваў у выдавецтве з 1 студзеня 1930 г.

*3 кастрычніка*

Увайшоў у створанае Беларускае літаратурнае аб'яднанне Чырвонай Арміі і Флоту (БелЛАЧАФ).

*«Звязда», 6 кастр.*

## 1931

*3—9 студзеня*

Разам з А. Александровічам прымаў удзел у Тыдні Савецкай Беларусі ў Маскве. У час Тыдня ў Маскве праходзілі літаратурныя вечары, дыспуты з удзелам беларускіх пісьменнікаў.

*«Звязда», 3—11 студз.; «Лит. газета», 4, 9, 14 студз.; «Полымя», № 1; «Рабочий», 3, № 1.*

*12—16 мая*

На II пашыраным пленуме праўлення БелАПП абраны другім сакратаром праўлення.

*«Звязда», 14—18 мая; «Маладняк», № 6—7.*

*13 мая*

На станцыі Негарэлае ўдзельнічаў у сустрэчы прадстаўнікоў грамадскасці Мінска з М. Горкім, які вяртаўся з Італіі.

*«Звязда», 14, 15 мая; «Чырвоная змена», 14, 15 мая; Артыкул «Максім Горкі». Машынапіс, датаваны 1968 г.— Архіў М. Лынькова.*

*23 жніўня*

Удзельнічаў у аб'яднаным сходзе беларускіх пісьменніцкіх арганізацый сумесна з Усесаюзным з'ездам польскіх пралетарскіх пісьменнікаў і рабочымі масамі Мінска. Ад імя прэзідыума сходу ў ліку іншых падпісаў пратэст супраць рэпрэсій у Польшчы, Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне.

*«Літ. газета», 25, 28 жн.; «Звязда», 17—19 жн.; «Сав. Бел.», 16, 22 жн.*

*25 лістапада — 1 снежня*

Прысутнічаў на першай канферэнцыі Мінскай АПП. Выступаў з артыкулам «Аб творчых задачах» МінАПП.

*«Звязда», 2 лістап.; «Сав. Бел.», 26, 27, 28 лістап.; «Літ. газета», 3 снеж.*

Выйшла другое выданне аповесці «Апошні зверыядавец».

Выйшаў першы зборнік М. Лынькова «Выбраныя творы», у які ўвайшлі апавяданні і аповесць «Апошні зверыядавец».

На яўрэйскай мове выдадзен зборнік «Апавяданні».— Мн.: Дзяржвыдат БССР.

## 1932

*8—22 лютага*

Удзельнічаў у творчай дыскусіі МінАПП аб станоўчым героі, вобразе бальшавіка ў мастацкіх творах. Зрабіў уступны даклад.

*«Чырвоная змена», 10, 25 лют.; «Сав. Бел.», 22 лют.*

*19 сакавіка*

Выступіў з дакладам на І канферэнцыі Віцебскай АПП.

*«Чырвоная змена», 24 сак.;*
*«Маладняк», № 4, с. 123.*

*15—17 красавіка*

Выступаў ад імя БелАППа на І Акруговай літаратурнай канферэнцыі пагранаховы і войск АДПУ БССР.

*25 красавіка*

У Доме пісьменніка адкрыў творчую дыскусію ў БелАППе, прысвечаную пытанням крытыкі.

*«Беларусь калгасная», № 4.*

*9 мая*

У Доме пісьменніка выступіў з дакладам на сходзе, прысвечаным абмеркаванню пастановы ЦК ВКП(б) «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый».

*«Сав. Бел.», 12 мая.*

*26 мая*

У газ. «Звязда» — артыкул М. Лынькова, П. Галавача, Х. Дунца «На новым этапе» ў сувязі з пастановай ЦК ВКП(б) «Аб перабудове пісьменніцкіх арганізацый».

*1 чэрвеня*

На сходзе літаратурных арганізацый БССР прызначан адказным сакратаром Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР (на гэтай пасадзе да 1 чэрвеня; па іншых звестках — да 1 сакавіка 1940 г.).

*«Звязда», 6 чэрв.;*
*«Беларусь калгасная», № 5;*
*Асабовая справа М. Лынькова.—*
*Архіў АН БССР.*

*11 чэрвеня*

У газ. «Звязда» — апавяданне «Саўка-агіцірнік».

*Ліпень*

У часоп. «Чырвоная Беларусь», № 14 — апавяданне «Квартырмайстар Бадай».

*Ліпень — жнівень*

Жыў у лагеры авіяэскадрыллі. Лётаў на самалёце. Напісаў нарысы: «На баявым развароце» («Нарыс аб N-скай авіяэскадрыллі імя Ф. Э. Дзяржынскага»; часоп. «Напагатове»), «Над зямлёй» («Звязда», № 178)

і «Крыху паветранай рамантыкі» («Чырвоная Беларусь», № 19).

*Жнівень*

У часоп. «Беларусь калгасная» — «Салавей-разбойнік».

*Да 18 жніўня*

Увайшоў у склад Усесаюзнага аргкамітэта Саюза савецкіх пісьменнікаў СССР.

*«Правда», 18 жн.;*
*«Лит. газета», 23 жн.*

*30 жніўня*

Выязджаў у лагер 2-й Беларускай дывізіі, дзе выступаў з чытаннем сваіх твораў разам з А. Вольным, П. Глебкам і С. Шушкевічам.

*«ЛіМ», 10 верас.*

*10 верасня*

Выступаў на ўрачыстым вечары, прысвечаным 50-годдзю з дня нараджэння Я. Купалы.

*«Звязда», 13 верас.*

*11 верасня*

Быў у Я. Купалы з дэлегацыяй Саюза савецкіх пісьменнікаў Беларусі, якая вітала паэта з юбілеем.

*«Звязда», 14 верас.*

*9 кастрычніка*

У складзе дэлегацыі беларускіх пісьменнікаў выехаў на адкрыццё Днепрагэса. Дэлегацыя прыняла ўдзел у сустрэчы ўкраінскіх, рускіх і беларускіх пісьменнікаў з паэтамі-будаўнікамі Днепрагэса.

*«Літ. газета», 31 кастр.*

*12 кастрычніка*

Прысутнічаў на сустрэчы беларускіх пісьменнікаў з украінскімі (на нечарговым урачыстым пленуме аргкамітэта ССП Украіны, Харкаў). Пленум быў прысвечаны 50-годдзю Я. Купалы і пытанням творчых сувязей паміж літаратурнымі арганізацыямі Украіны і Беларусі.

*«Літ. газета», 31 кастр.*

*12—13 кастрычніка*

Беларускія пісьменнікі пабывалі ў літаратурных арганізацыях Украіны, наведалі Харкаўскі трактарны і

Краматорскі машынабудаўнічы заводы, Літаратурны інстытут імя Т. Шаўчэнкі.

*«Літ. газета», 31 кастр.*

*26 кастрычніка*

У газ. «Савецкая Беларусь» выступіў з нарысам «Агні вялікай станцыі», прысвечаным адкрыццю Днепрагэса.

*19 лістапада*

У «ЛіМе» пад ініцыяламі М. Л. перадавы артыкул «Пленум найвялікшых перамог» (аб I пленуме Усесаюзнага аргкамітэта Саюза савецкіх пісьменнікаў СССР).

*15 снежня*

На ўрачыстым вечары, прысвечаным 50-годдзю з дня нараджэння Я. Коласа, выступіў з прывітаннем.

*«Звязда», 11, 15, 18, 23 снеж.;*
*«ЛіМ», 23 снеж.*

У 1932 г. выйшла другое выданне зб. апавяданняў «Андрэй Лятун».

## 1933

*Студзень*

У часоп. «Заклік», № 1 — апавяданне «Талісман».

*Сакавік*

Часоп. «Полымя рэвалюцыі» з № 2—3 пачаў друкаваць раман М. Лынькова «На чырвоных лядах» (працяг і заключэнне першай кнігі — у № 4—10).

*Чэрвень*

Прызначан адказным рэдактарам часоп. «Полымя рэвалюцыі».

*«Полымя рэвалюцыі», № 6.*

Па іншых крыніцах — 1 сакавіка 1934 г. (Лынькоў М. Семінарый), 1 сакавіка 1933 г. (Асабовая справа М. Лынькова.— Архіў АН БССР). Рэдактарам часопіса М. Лынькоў быў да лістапада 1940 г.

*29 ліпеня*

Выступаў на заключным пасяджэнні вытворчай нарады па пытаннях паэзіі ў Аргкамітэце ССП БССР.

*«ЛіМ», 13 жн.*

*31 ліпеня*

Выступіў з дакладам на агульным сходзе пісьменнікаў Мінска, прысвечаным падрыхтоўцы да з'езда ССП БССР.

*«ЛіМ», 13 жн.*

*Жнівень*

З дэлегацыяй беларускіх пісьменнікаў выязджаў на будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала.

*«Звязда», 24 жн.*

*24 верасня*

У Доме пісьменніка выступіў на вечары, прысвечаным адкрыццю Беламорска-Балтыйскага канала.

*«Звязда», 28 верас.*

*29 кастрычніка — 3 лістапада*

Удзельнічаў у рабоце Першага пленума Аргкамітэта Саюза савецкіх пісьменнікаў СССР. Абраны членам прэзідыума ССП СССР.

*«Лит. газета», 29 кастр.; 5, 11 лістап.; «Звязда», 16 лістап.*

*Лістапад*

У часоп. «Полымя рэвалюцыі», № 11 — апавяданне «Баян».

*Снежань*

«Полымя рэвалюцыі», № 12 — апавяданне «Сінія галіфэ».

У 1933 г. выйшлі з друку кнігі: 3-е выданне «Андрэй Лятун» (апавяданні), «Саўка-агіцірнік» (апавяданні); трэцяе выданне аповесці «Апошні зверыядавец».

## 1934

У 1934—1935 гг. М. Лынькоў выкладаў беларускую і рускую літаратуру ў закрытай школе КПЗБ. Сярод слухачоў школы былі В. З. Харужая і С. В. Прытыцкі.

*«ЛіМ», 1975, 23 мая; Успаміны М. Лынькова пра Прытыцкага ў кн.: Жизнь, отданная народу. Мн.: Беларусь, 1978, с. 178.*

*15 студзеня*

Выступаў на вечары, прысвечаным 25-годдзю літаратурнай дзейнасці З. Бядулі.

*«ЛіМ», 31 студз.*

*20 студзеня*

У газ. «Літаратура і мастацтва» змешчаны дарожныя нататкі М. Лынькова «На вялікай хвалі» (аб паездцы на Беламорска-Балтыйскі канал).

*23—26 красавіка*

На II пашыраным пленуме Аргкамітэта ССП БССР з дакладамі, прысвечанымі разгляду першай часткі рамана М. Лынькова «На чырвоных лядах», выступілі Я. Колас і М. Піятуховіч.

*«ЛіМ», 26 крас.; 6 мая.*

*8 мая*

Прыняў удзел у радыёпераклічцы Мінска, Віцебска, Гомеля, прысвечанай падрыхтоўцы да I з'езда пісьменнікаў БССР.

*«ЛіМ», 12 мая.*

*8 мая*

Быў прыняты ў Саюз савецкіх пісьменнікаў БССР.

*«ЛіМ», 12 мая.*

*Чэрвень*

Выйшла з друку кніга М. Лынькова «Выбраныя творы».

*«Летапіс друку БССР», № 6.*

*8—14 чэрвеня*

Прымаў удзел у рабоце I Усебеларускага з'езда пісьменнікаў.

*«Звязда», 9, 10, 14, 15 чэрв.; «ЛіМ», 12, 18 чэрв.*

*2 жніўня*

Выступаў на II пленуме ССП БССР.

*«ЛіМ», 7 жн.*

*17 жніўня — 1 верасня*

У складзе дэлегацыі ССП БССР прысутнічаў на I Усесаюзным з'ездзе савецкіх пісьменнікаў.

*Первый Всесоюзный съезд советских писателей/Стеногр. отчет.—М., 1935; «Известия», № 234.*

*23 жніўня*

Выступаў на вячэрнім пасяджэнні I з'езда савецкіх пісьменнікаў. Даклад надрукаваны ў «Звяздзе» ад 11 верасня, у «Правде» ад 25 жніўня.

*«Звязда», 26 жн.*

У час знаходжання ў Маскве разам з дэлегацыяй беларускіх пісьменнікаў на дачы ў М. Горкага.

*Аўтабіяграфія.— У кн.: Пяцьдзесят чатыры дарогі, с. 365.*

*15 верасня*

Прысутнічаў на сустрэчы дэлегатаў I Усесаюзнага з'езда савецкіх пісьменнікаў з членамі Бюро ЦК КП(б)Б.

*«Звязда», 17 верас.; «ЛіМ», 12 кастр., «Лит. газета», 20 кастр.*

*16 верасня*

Выступаў з дакладам у клубе імя У. І. Леніна ў Гомелі на сходзе партыйнага і камсамольскага актыву. М. Лынькоў прыехаў у Гомель у складзе брыгады ССП БССР.

17 верасня адбылося яшчэ некалькі сустрэч, у якіх прымалі ўдзел дэлегаты I з'езда пісьменнікаў СССР.

*«ЛіМ», 24 верас.*

*19 верасня*

Разам з Я. Коласам, М. Галодным, П. Галавачом, А. Александровічам выступаў на сходзе партыйнага, прафсаюзнага і камсамольскага актыву г. Мінска са справаздачай аб рабоце I Усесаюзнага з'езда савецкіх пісьменнікаў.

*«Звязда», 21 верас.*

*4 кастрычніка*

У Доме партактыву выступаў на сустрэчы работніц-ударніц з беларускімі пісьменнікамі, арганізаванай Мінскім гаркомам КП(б)Б і часоп. «Работніца і калгасніца Беларусі». Выступалі таксама М. Чарот, П. Глебка, А. Александровіч.

*«Работніца і калгасніца Беларусі», № 19, с. 2.*

*26 кастрычніка*

У Доме пісьменніка выступаў на сустрэчы пісьменнікаў са знатнымі людзьмі калгасаў Мінскага раёна. На сустрэчы прысутнічалі А. Александровіч, К. Крапіва, Я. Купала, Я. Колас, М. Зарэцкі, М. Чарот.

*«Звязда», 28 кастр.; «ЛіМ», 31 кастр.*

В 1934 г. выйшла асобным выданнем першая част-

ка рамана М. Лынькова «На чырвоных лядах», а таксама кніга «На вялікай хвалі» (апавяданні).

У «Антологии белорусской литературы» (М.: ОГИЗ, 1934) змешчана на рускай мове апавяданне М. Лынькова «Боян». Прыведзены таксама кароткія звесткі аб пісьменніку і спіс яго твораў.

У Мінску на польскай мове выдадзены аповесць «Апошні зверыядавец» і зборнік апавяданняў «Андрэй Лятун».

## 1935

*15 лютага*

На вечары, прысвечаным праблемам сучаснай беларускай навелы, М. Лынькоў, К. Чорны, В. Каваль, Я. Скрыган, С. Знаёмы і іншыя чыталі свае творы.

*«ЛіМ», 23 лют.*

*21 лютага*

У газ. «Звязда» змешчан артыкул «На лыжы ў паветры».

*26 лютага*

М. Лынькоў быў у складзе групы пісьменнікаў, якая вітала III з'езд рабселькораў БССР.

*«ЛіМ», 28 лют.*

*28 лютага*

У складзе беларускай дэлегацыі выязджаў у Маскву на II пленум праўлення ССП СССР. Пленум праходзіў з 3 па 7 сакавіка.

*«ЛіМ», 27 лют.*

*Да 20 красавіка*

У Смаленску ў абласным дзяржаўным выдавецтве на рускай мове выйшаў зборнік «Проза Советской Белоруссии». У ім надрукавана апавяданне М. Лынькова «Баян».

*28 мая*

Ад імя маладога пакалення беларускіх пісьменнікаў вітаў Я. Коласа на вечары, прысвечаным 30-годдзю творчай дзейнасці народнага паэта БССР.

*«Звязда», 29 мая.*

*Верасень*

«Полымя рэвалюцыі», № 9 — аповесць М. Лынь-

кова «Пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышаў».

*23 кастрычніка*

Выступіў з прывітаннем на вечары, прысвечаным 25-годдзю творчай дзейнасці З. Бядулі.

*«ЛіМ», 24 кастр.*

*7 лістапада*

У «ЛіМе» надрукаван урывак з аповесці «Міколка-паравоз» пад назвай «Як Міколка з царом пазнаёміўся».

*Снежань*

Выйшаў з друку зборнік апавяданняў М. Лынькова «Баян».

*«Летапіс друку БССР», 1935, № 12.*

На рускай мове выдадзена кніга апавяданняў М. Лынькова «На большой волне» (М.: Гослитиздат).

## 1935—1936

Пад рэдакцыяй М. Лынькова выходзіць раман М. Горкага «Маці» ў перакладзе на беларускую мову. Разам з Я. Коласам і З. Бядулем рэдагаваў таксама асобныя тамы Збору твораў М. Горкага на беларускай мове.

## 1936

*10—16 лютага*

Прысутнічаў на III пленуме праўлення ССП СССР. 12 лютага выступаў з прамовай.

*«ЛіМ», 14 лют.; «Правда», 11—17 лют.*

*Да 24 лютага*

У складзе дэлегацыі беларускіх пісьменнікаў прымаў удзел у святкаванні 15-годдзя Савецкай Грузіі ў Тбілісі.

*«Лит. газета», 24 лют.*

*31 сакавіка*

Прысутнічаў на сустрэчы беларускіх пісьменнікаў са школьнікамі калгаса імя К. Я. Варашылава Жлобінскага раёна, якія прыехалі на экскурсію. Прысут-

нічалі таксама М. Клімковіч, Я. Купала, М. Чарот, А. Александровіч, З. Бядуля, В. Каваль, А. Якімовіч, М. Хведаровіч і інш.

*«ЛіМ», 7 крас.*

*20 красавіка*

Узначаліў секцыю прозы ў Саюзе савецкіх пісьменнікаў БССР.

*«ЛіМ», 21 крас.*

*20 чэрвеня*

Выязджаў у Маскву ў складзе дэлегацыі БССР на пахаванне М. Горкага.

*«ЛіМ», 27 чэрв.; «Правда», 20 чэрв.*

*Верасень*

Прысутнічаў на манеўрах Беларускай ваеннай акругі ў складзе групы беларускіх пісьменнікаў (Я. Колас, А. Александровіч, П. Броўка, П. Глебка, І. Харык, а таксама А. Суркоў і В. Гусеў).

*«Звязда», 10 верас.*

*28 верасня*

М. Лынькоў і Я. Колас прысутнічалі на адкрыцці Мінскага Палаца піянераў.

*«Звязда», 29 верас.*

*15 кастрычніка*

Выбран членам-карэспандэнтам Акадэміі навук БССР.

*Аўтабіяграфія.— У кн.: Пяцьдзесят чатыры дарогі, с. 365; Асабовая справа М. Лынькова.— Архіў АН БССР.*

**1937**

*Да 10 лютага*

Выязджаў у Віцебск для выступленняў з дакладам пра А. С. Пушкіна, прысвечаным 100-годдзю з дня смерці паэта.

*«Рабочий», 10 лют.*

*25—29 сакавіка*

Прысутнічаў на сходзе пісьменнікаў БССР, прысвечаным абмеркаванню работы праўлення і задачам

ССП БССР у сувязі з падрыхтоўкай да 20-й гадавіны Вялікага Кастрычніка. Выступаў у спрэчках.

*«ЛіМ», 3 крас.*

*5 мая*

У «Правде» змешчан артыкул М. Лынькова і П. Галавача «По «Правде» учимся и растем».

*19 чэрвеня*

Абраны на XVI з'ездзе КП (б) Б кандыдатам у члены ЦК КП (б) Б.

*«Звязда», 20 чэрв.*

*Чэрвень*

У часоп. «Полымя рэвалюцыі», № 6 змешчана апавяданне М. Горкага «Маленькая» ў перакладзе М. Лынькова.

*Ліпень*

Абраны ў журы абвешчанага ЦК ЛКСМБ конкурсу на лепшы твор для дзяцей да XX гадавіны Вялікага Кастрычніка.

*«Чырвоная змена», 6 ліп.*

*15 ліпеня*

У «Литературной газете» нататка М. Лынькова і П. Галавача «Привет мужественным и смелым» (аб удзельніках пералёту Масква — Паўночны полюс — ЗША).

*17 кастрычніка*

У «ЛіМе» надрукаван урывак «Зварот на радзіму» з рамана «Сенька Сокал». Другі ўрывак «На даху вагона» быў надрукаваны ў «ЛіМе» 6—7 лістапада. Раман не быў надрукаваны поўнасцю, рукапіс не захаваўся.

*26 кастрычніка*

У «Литературной газете» артыкул Я. Купалы, Я. Коласа, М. Лынькова «Одной жизнью с великим советским народом».

*24 снежня*

З дэлегацыяй беларускіх пісьменнікаў прыехаў у Тбілісі для ўдзелу ў пленуме праўлення ССП СССР, прысвечаным 750-годдзю паэмы Ш. Руставелі «Віцязь у тыгравай скуры». Беларускія пісьменнікі наведалі

Батумі, Горы і іншыя гарады Грузіі. М. Лынькоў выступіў на пленуме.

*«Полымя рэвалюцыі», 1938, № 1; «Сав. Бел.», 22 снеж.; «ЛіМ», 1938, 5 студз.*

У 1937 г. выйшлі з друку казка-аповесць для дзяцей малодшага ўзросту «Пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышаў», аповесць для дзяцей «Міколка-паравоз», апавяданне для дзяцей «Янка-парашутыст», зборнік «Баян», які ўключае апавяданні і аповесць «Апошні зверыядавец». У «Зборніку беларускай літаратуры», выдадзеным як хрэстаматыя для школ, змешчана аповесць «Міколка-паравоз».

## 1938

*27 студзеня*

На вечары, прысвечаным 750-годдзю паэмы Ш. Руставелі «Віцязь у тыгравай скуры», выступілі ўдзельнікі юбілейнага пленума ССП СССР Я. Колас і М. Лынькоў.

*«Сов. Бел.», 29 студз.*

*27 сакавіка*

У «ЛіМе» надрукаван артыкул М. Лынькова пра М. Горкага «Аляксей Максімавіч».

*28 сакавіка*

Выступіў на ўрачыстым пасяджэнні ГК КП (б) Б, гарсавета, АН БССР, ССП БССР, прысвечаным 70-годдзю з дня нараджэння М. Горкага.

*«Полымя рэвалюцыі», № 3.*

*14 красавіка*

Выступіў у Доме пісьменніка на вечары памяці У. Маякоўскага.

*«ЛіМ», 16 крас.; «Полымя рэвалюцыі», № 4.*

*10—19 чэрвеня*

На XVIII з'ездзе КП(б)Б. Выступаў з прамовай.

*15 чэрвеня*

Выступіў з прамовай на сустрэчы з выбаршчыкамі.

*«ЛіМ», 16 чэрв.*

*Да 28 жніўня*

На сходзе актыву Саюза савецкіх пісьменнікаў

БССР М. Лынькоў ва ўступным слове расказаў аб дзейнасці ССП БССР.

*«ЛіМ», 28 жн.*

*1 верасня*

Абраны старшынёй Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР. (На гэтай пасадзе да 1 лістапада 1948 г. )

*Асабовая справа М. Лынькова.— Архіў АН БССР.*

*5 кастрычніка*

Прымаў удзел у абмеркаванні паэмы А. Куляшова «У зялёнай дуброве» на пасяджэнні праўлення ССП БССР.

*«ЛіМ», 11 кастр.*

*15—17 лістапада*

У Смаленску на нарадзе паэтаў Беларускай асобай ваеннай акругі (БАВА).

*«ЛіМ», 23 лістап.*

*Снежань*

Прыняў удзел у абмеркаванні п'есы Э. Самуйлёнка «Пагібель воўка» ў Саюзе савецкіх пісьменнікаў БССР.

*«Лит. газета», 10 снеж.*

*Снежань*

У часоп. «Полымя рэвалюцыі» — апавяданне «Пра маладосць».

У 1938 г. выйшла з друку кніга «Выбраныя апавяданні».

## 1939

*Студзень*

У часоп. «Полымя рэвалюцыі», № 1 — апавяданне «Няўдача Ота фон Гаўэра».

31 студзеня ў «Правде» — артыкул «Год работы» (да прыезду пісьменнікаў Беларусі ў Маскву).

*1 лютага*

Узнагароджан ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

*«Правда», 1 лют.*

*5 сакавіка*

У складзе дэлегацыі беларускіх пісьменнікаў вы-

ехаў у Кіеў для ўдзелу ва ўрачыстасцях у сувязі са 125-годдзем з дня нараджэння Т. Р. Шаўчэнкі.

6 сакавіка прымаў удзел у мітынгу на адкрыцці помніка.

*«Правда», 7 сак.; «Звязда», 5, 8 сак.*

*10 сакавіка*

Выступіў у Доме пісьменніка ў Мінску на мітынгу, прысвечаным адкрыццю XVIII з'езда ВКП (б).

*«Звязда», 12 сак.*

*5 красавіка*

Я. Купала, Я. Колас, М. Лынькоў, Э. Агняцвет сустрэліся на літаратурным вечары са студэнтамі Мінскага педагагічнага інстытута, чыталі свае творы. М. Лынькоў у прамове гаварыў аб творчасці маладых і пачынаючых аўтараў.

*«Чырвоная змена», 8 крас.*

*14 красавіка*

На партыйным сходзе ў ССП БССР выступіў з дакладам «Тварыць у гонар і славу камунізма».

*«ЛіМ», 23/IV.*

*4—8 мая*

У Кіеве прысутнічаў у складзе дэлегацыі беларускіх пісьменнікаў на пленуме праўлення ССП СССР, прысвечаным 125-годдзю з дня нараджэння Т.Р. Шаўчэнкі.

*«Правда», 8 мая; «Звязда», 4, 10 мая; «Лит. газета», 5 мая.*

*18 чэрвеня*

Выступаў з успамінамі на агульнагарадскім вечары памяці М. Горкага.

*«ЛіМ», 23 чэрв.*

*Жнівень*

Пад рэдакцыяй Я. Коласа і М. Лынькова ў выдавецтве АН БССР выйшла кніга «У вянок Т. Р. Шаўчэнка». Уступны артыкул «Паэт сусветнага імені» напісаў М. Лынькоў.

*17 верасня*

Пачаўся вызваленчы паход Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь, у якім прыняў удзел М. Лынькоў.

*Аўтабіяграфія.— У кн.: Пяцьдзесят чатыры дарогі, с. 365.*

*1 кастрычніка*

Выступіў на сходзе інтэлігенцыі г. Беластока.

*«Звязда», 2 кастр.*

*3 кастрычніка*

Выступіў у Доме пісьменніка на вечары, прысвечаным вызваленню Заходняй Беларусі.

*«Сов. Бел.», 4 кастр.*

*14 кастрычніка*

Адкрыў вечар, прысвечаны 125-годдзю [redacted] дня нараджэння М. Ю. Лермантава.

*«Звязда», 15 кастр.*

*23 кастрычніка*

У «Звяздзе» — апавяданне «Пра хлопчыка Яську».

*15 лістапада*

Прысутнічаў на сустрэчы групы пісьменнікаў Заходняй Беларусі з калектывам супрацоўнікаў рэдакцыі газ. «Звязда».

*«Звязда», 16 лістап.*

*30 лістапада*

У «Звяздзе» — апавяданне «Марыльчын шлях».

## 1940

*Студзень*

У часоп. «Полымя рэвалюцыі» — апавяданні «Сустрэчы» і «Капля малака».

*Люты*

У часоп. «Полымя рэвалюцыі» — апавяданні «Ядвісін дуб» і «Тры злоты».

*Да 22 лютага*

На пасяджэнні секцыі прозы абмяркоўваліся новыя апавяданні М. Лынькова (даклад М. Клімковіча).

*«Чырвоная змена», 22 лют.*

*25 красавіка*

Прымаў удзел у рабоце Сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

*«Сов. Бел.», 26 крас.*

*Чэрвень*

У часоп. «Полымя рэвалюцыі» — апавяданні «Тонкая сітуацыя», «Восеньскай ноччу».

*5—15 чэрвеня*

Прымаў удзел у дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве.

*«Звязда», 18 чэрв.; «ЛіМ», 23 чэрв.*

У час дэкады пісьменнікі прысутнічалі на літаратурных вечарах. 8 чэрвеня такі вечар адбыўся ў летніх лагерах Ваенна-палітычнай акадэміі. М. Лынькоў выступіў з прамовай.

*«Чырвоная змена», 10 чэрв.*

*13 чэрвеня*

Удзельнічаў у рабоце нарады па пытаннях літаратуры ў праўленні ССП СССР.

*«Сов. Бел.», 15 чэрв.*

*16 чэрвеня*

Прысутнічаў на пасяджэнні камісіі па драматургіі тэатра і кіно ў ССП СССР.

*«Лит. газета», 18 чэрв.*

*18 чэрвеня*

Выступіў у Парку культуры і адпачынку імя М. Горкага ў Дзень Савецкай Беларусі ў Маскве.

*«Сав. Бел.», 20 чэрв.;*
*«Звязда», 20 чэрв.*

*Да 20 чэрвеня*

Выступіў на пасяджэнні прэзідыума ССП СССР у Маскве, прысвечаным беларускай літаратуры.

*«Лит. газета», 20 чэрв.*

*8 жніўня*

Выступаў на сустрэчы ў рэдакцыі газ. «Звязда» з удзельнікамі курсаў маладых пісьменнікаў.

*«Звязда», 9 жн.*

*Верасень*

Выйшла кніга апавяданняў «Сустрэчы».

*24 верасня*

Выступіў на агульным сходзе пісьменнікаў у Бе-

ластоку, прысвечаным творчым вынікам першага года жыцця на вызваленай зямлі.

*«ЛіМ», 28 верас.;*
*«Звязда», 26 верас.*

*25 верасня*

Прысутнічаў на літаратурным вечары, прысвечаным гадавіне вызвалення Заходняй Беларусі.

*«ЛіМ», 28 верас.*

*Пачатак кастрычніка*

Узначаліў камісію па правядзенню 85-годдзя з дня смерці А. Міцкевіча.

*«Звязда», 4 кастр.*

*29 кастрычніка*

У Навагрудку прысутнічаў на першым пасяджэнні камісіі па правядзенню 85-годдзя з дня смерці А. Міцкевіча.

*«Звязда», 30 кастр.*

*31 кастрычніка*

Выступіў на абмеркаванні паэмы А. Куляшова «Хлопцы апошняй вайны» на партыйным сходзе ў ССП БССР.

*«ЛіМ», 2 лістап.*

*4 лістапада*

Разам з Я. Купалам наведаў музей А. Міцкевіча ў Навагрудку.

*«ЛіМ», 23 лістап.*

*16 лістапада*

Прысутнічаў на ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным 30-годдзю з дня смерці Л. М. Талстога.

*«Звязда», 17 лістап.*

*21 лістапада*

Выступаў на абмеркаванні рамана М. Паслядовіча «Паўстанне».

*«Звязда», 22 лістап.*

*23 лістапада*

Уступным словам адкрыў творчы вечар М. Танка ў мінскім Доме палітасветы.

*«Сов. Бел.», 24 лістап.*

*Да 26 лістапада*

Для ўдзелу ў мерапрыемствах, прысвечаных 85-год-

дзю з дня смерці А. Міцкевіча, выехаў у Навагрудак з дэлегацыяй пісьменнікаў.

*«Звязда», 26 лістап.;*
*«ЛіМ», 30 лістап.*

*27 лістапада*

У Навагрудку выступаў на сустрэчы пісьменнікаў з вучнямі школ горада.

*«ЛіМ», 30 лістап.*

*27 лістапада*

Прымаў удзел у сустрэчы пісьменнікаў з навучэнцамі педвучылішча, і рабочымі шклозавода «Нёман».

*«Звязда», 29 лістап.*

*5 снежня*

Уступным словам адкрыў у Мінску вечар, прысвечаны 85-годдзю з дня смерці А. Міцкевіча.

*«Звязда», 7 снеж.*

*26 снежня*

Выступіў у Маскве на вечары, прысвечаным 35-годдзю творчасці Я. Купалы.

*«Полымя рэвалюцыі», 1941, № 1;*
*«Сов. Бел.», 27 снеж.*

У 1940 г. аповесць «Пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышаў» выйшла другім выданнем. Асобным выданнем выйшла апавяданне «Ядвісін дуб», а таксама кніга апавяданняў «Сустрэчы».

## 1941

*14 студзеня*

Выступіў на партыйным сходзе, прысвечаным абмеркаванню рашэнняў III Пленума ЦК КП (б) Б і пастановы ЦК КП (б) Б «Аб літаратурнай крытыцы і бібліяграфіі».

*«ЛіМ», 18 студз.*

*15 сакавіка*

Выступіў на нарадзе па пытаннях дзіцячай літаратуры, скліканай ЦК ЛКСМБ.

*«Лит. газета», 6 крас.; «Сов. Бел.», 18 сак.*

*28 сакавіка*

Прымаў удзел у рабоце Сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

*«Звязда», 29 сак.*

*Да 14 мая*

Выступіў на фабрыцы «Кастрычнік», чытаў апавяданні са зборніка «Сустрэчы».

*«Чырвоная змена», 14 мая.*

*27 мая*

Выступіў на адкрытым сходзе партарганізацыі ССП БССР, прысвечаным абмеркаванню работы з маладымі пісьменнікамі.

*«ЛіМ», 31 мая.*

*Да чэрвеня*

Выйшла з друку кніга «Выбраныя апавяданні».

*5 чэрвеня*

На пасяджэнні секцыі празаікаў прыняў удзел у абмеркаванні аповесці М. Паслядовіча «Магістральны канал».

*«ЛіМ», 7 чэрв.*

*12 чэрвеня*

Разам з Я. Купалам, П. Броўкам выехаў у Рыгу па запрашэнню Саюза савецкіх пісьменнікаў Латвійскай ССР.

*«Чырвоная змена», 23 чэрв.; «Звязда», 13 чэрв.*

*13 чэрвеня*

Выступіў у Латвійскім дзяржаўным універсітэце на інтэрнацыянальным вечары з дакладам аб беларускай літаратуры.

*«Звязда», 13 чэрв.; «Сов. Бел.», 11 чэрв.*

*14—15 чэрвеня*

Разам з Я. Купалам і П. Броўкам прысутнічаў на I з'ездзе пісьменнікаў Латвійскай ССР.

*«Звязда», 13 чэрв.; «Лит. газета», 15 чэрв.*

*21 чэрвеня*

Разам з Я. Купалам і П. Броўкам прыехаў у Вільнюс. Прысутнічалі на вечары літоўска-беларускай дружбы.

22 чэрвеня раніцай М. Лынькоў даведаўся аб пачатку вайны. Вярнуўся ў Мінск. Па позве ваенкамата накіраваны ў рэдакцыю армейскай газеты.

*«ЛіМ», 1975, 23 мая.*

З першых дзён вайны працаваў у газеце Заходняга фронту «Красноармейская правда», з ліпеня — рэдактар газ. «За Советскую Белоруссию» (да 1 лістапада 1942 г.).

*Пісьмо В. Ф. Клешчанку ад 27/VIII 53 г.; Асабовая справа М. Лынькова.— Архіў АН БССР.*

З пачатку вайны ў газетах «Савецкая Беларусь» і «За свабодную Беларусь», газеце-плакаце «Раздавім фашысцкую гадзіну» друкуюцца артыкулы і апавяданні М. Лынькова.

## 1942

*Студзень*

«...Новы год сустракаў у франтавым шпіталі».

*З пісьма да Л. М. Федчанка ад 4.II.1942 г.*

*Да 19 студзеня*

У Маскве прысутнічаў на сустрэчы беларускіх празаікаў і паэтаў з пісьменнікамі сталіцы. Выступаў з чытаннем новых твораў.

*«Литература и искусство», 19 студз.*

*26—27 студзеня*

Прымаў удзел у пасяджэнні прэзідыума праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў СССР.

*«Литература и искусство», 3 лют.*

*1 красавіка*

«Правда» змясціла апавяданне «Васількі».

*Верасень*

Сям'я Лынькова — жонка і сын і сям'я брата Рыгора расстраляны фашыстамі ў Старадарожскім раёне.

*«Беларусь», 1978, № 7; Пісьмо да І. Д. Казекі ад 9.II.74 г.*

*7—8 жніўня*

У Маскве на пленуме праўлення ССП БССР, прысвечаным творчасці беларускіх пісьменнікаў у гады

вайны, выступіў з дакладам «Беларускія пісьменнікі ў Вялікай Айчыннай вайне».

*«Литература и искусство», 8, 15 жн.*

*19 жніўня*

У М. Лынькова быў у гасцях славуты партызанскі камандзір М. Ф. Шмыроў (Бацька Мінай). М. Лынькоў чытаў яму «Баладу аб чатырох заложніках» А. Куляшова, надрукаваную 2 ліпеня 1942 г. у «Известиях».

*З пісьма да Л. М. Федчанка ад 20 жніўня 1952 г.*

*Да 2 верасня*

Выступіў у Маскве, у зялёным тэатры парка «Сакольнікі» на вечары беларускай літаратуры.

*«Сав. Бел.», 2 верас.; «Литература и искусство», 5 верас.*

*27 верасня*

Прысутнічаў на другім беларускім антыфашысцкім мітынгу.

*З пісьма да Я. Садоўскага ад 10/X 42 г.*

*1 лістапада*

Адклікан з рэдакцыі франтавой газеты ў распараджэнне ЦК ВКП (б) у Маскву.

*Аўтабіяграфія.— Асабовая справа М. Лынькова. Архіў АН БССР.*

*Да 28 лістапада*

Выйшаў зборнік «За Савецкую Беларусь» (М.: ГИХЛ, 1942). Уступны артыкул «Літаратура нянавісці і гневу» напісаны М. Лыньковым.

*«Вечерняя Москва», 28 лістап.*

У 1942 г. М. Лынькоў пачаў збіраць матэрыялы аб партызанскім руху на Беларусі для новага твора.

*«Маладосць», 1959, № 12.*

## 1943

*Да 13 студзеня*

Выступіў з дакладам «Пісьменнікі Беларусі ў Айчыннай вайне» ў Цэнтральным Доме работнікаў мастацтваў на літаратурным вечары, арганізаваным ССП БССР.

*«Сов. Бел.», 18 студз.*

*Да 16 студзеня*

Прымаў удзел у сходзе прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі ў Маскве.

*«Сов. Бел.», 16 студз.*

*Да 13 лютага*

Выступіў у праўленні ССП БССР на абмеркаванні новых твораў М. Танка, А. Бялевіча, Ц. Крысько (В. Вітка).

*«Сов. Бел.», 13 лют.*

*Да 1 мая*

Разам з К. Крапівой, П. Глебкам, А. Куляшовым і М. Танкам быў на прыёме ў сакратара ЦК КП (б) Б П. К. Панамарэнкі.

*«Сов. Бел.», 1 мая.*

*8 мая*

У газ. «Советская Белоруссия» надрукаван артыкул «Константин Заслонов».

*Да 19 мая*

Выйшаў на рускай мове зборнік апавяданняў «Васильки».

*«Сов. Бел.», 19 мая.*

*23 чэрвеня*

Выступіў на абмеркаванні новай паэмы М. Танка «Янук Сяліба» на творчым вечары паэтаў у маскоўскім клубе пісьменнікаў.

*«Литература и искусство», 26 чэрв.;*
*«Сов. Бел.», 30 чэрв.*

*1 ліпеня*

Выступіў на вечары, прысвечаным гадавіне з дня смерці Янкі Купалы, які адбыўся ў Канцэртнай зале імя Чайкоўскага (Масква), з дакладам «Вялікі паэт-грамадзянін».

*«Сов. Бел.», 3 ліп.*

*16 верасня*

Узнагароджан ордэнам «Чырвонай Зоркі».

*«Сов. Бел.», 18 верас.*

*Да 22 снежня*

Выступіў на сустрэчы грамадскасці г. Арэхава-Зуева з беларускімі партызанамі і работнікамі літаратуры і мастацтва БССР.

*«Сов. Бел.», 23 снеж.*

## 1944

*Да 22 студзеня*

У маскоўскім клубе савецкіх пісьменнікаў выступіў з дакладам на літаратурным вечары, прысвечаным 25-годдзю БССР.

*«Литература и искусство», 22 студз.*

*5—7, 9 лютага*

Удзельнічаў у рабоце праўлення ССП СССР (Масква), выступаў у спрэчках па дакладу М. Ціханава «Савецкая літаратура ў дні Айчыннай вайны».

*«Литература и искусство», 12 лют.*

*21—26 сакавіка*

Разам з Я. Коласам прымаў удзел у рабоце VI Сесіі Вярхоўнага Савета БССР у Гомелі.

*«Сов. Бел.», 26 сак.; 15 крас.*

*10 мая*

Быў прызначаны кіраўніком групы літаратуры і мовы ў АН БССР. Пасля пераезду ў Мінск установ Акадэміі навук БССР з гэтай групы ўтварыўся Інстытут мовы, літаратуры і мастацтва, дырэктарам якога да 16 лютага 1946 г. быў М. Лынькоў.

*З загада № 42 АН БССР.— Асабовая справа М. Лынькова. Архіў АН БССР.*

*Ліпень, пачатак*

Пабываў у канцлагеры «Трасцянец» як член камісіі па расследаванню злачынстваў нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Мінску.

*«Звязда», 16 верас.*

*20 ліпеня*

Зрабіў даклад на сходзе-сустрэчы беларускіх пісьменнікаў з работнікамі мастацтваў «Аб рабоце народа» «Беларуская паэзія перыяду Вялікай Айчыннай вайны».

*«Литература и искусство», 22 ліп.*

*3 верасня*

На жалобным мітынгу пры пахаванні савецкіх грамадзян, спаленых немцамі каля в. Трасцянец, выступіў з прамовай ад імя інтэлігенцыі рэспублікі.

*«Звязда», 6 верас.*

*20 верасня*

«Звязда» апублікавала Паведамленне Надзвычайнай Дзяржаўнай камісіі па ўстанаўленню і расследаванню злачынстваў нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Мінску.

*Кастрычнік*

Прымаў удзел у паездцы ў раён баёў.

*«Полымя», 1945, № 6.*

*5 лістапада*

Узнагароджан медалём «Партызану Айчыннай вайны» I ступені за актыўны ўдзел у арганізацыі партызанскага руху ў Беларусі.

*Загад БШПР № 289 ад 5. XI 1944 г.;*
*«ЛіМ», 1945, 10 крас.*

*24 лістапада*

Выступіў на пахаванні К. Чорнага.

*«Звязда», 25 лістап.*

*29 лістапада*

Пад назвай «На пераправе» газ. «Звязда» друкуе ўрывак, які пазней увайшоў у раман «Векапомныя дні».

У 1944 г. выходзіць з друку кніга апавяданняў «Астап». Асобным выданнем выходзіць нарыс «Герой Савецкага Саюза Канстанцін Заслонаў». На рускай мове выдадзены «Рассказы» (1942—1943).— М.: Госполитиздат.

## 1945

*14— 15 студзеня*

У Беларускім Дзяржаўным тэатры імя Якуба Коласа адкрыў урачыстае пасяджэнне, прысвечанае 150-годдзю з дня нараджэння А. С. Грыбаедава.

*«Звязда», 16 студз.*

*10 красавіка*

У «ЛіМе» выступіў з артыкулам «Верная зброя народа» («Беларуская паэзія перыяду Вялікай Айчыннай вайны»).

Выйшаў з друку першы пасляваенны нумар часоп. «Полымя». М. Лынькоў — у складзе рэдкалегіі.

*«ЛіМ», 20 мая.*

З Мінска праз Маскву вылецеў у Сан-Францыска, дзе прымаў удзел у канферэнцыі ААН.

*«З падарожжа ў Амерыку».— «Беларусь», 1945, № 9.*

31 мая прысутнічаў на пасяджэнні II камісіі ААН.

*«Звязда», 2 чэрв.*

*19 чэрвеня*

У «Звяздзе» — артыкул «Аб культурных сувязях».

*27 чэрвеня*

Прысутнічаў на апошнім пленарным пасяджэнні канферэнцыі.

*28 чэрвеня — 5 ліпеня*

Вяртаецца з паездкі ў ЗША.

*Ліпень*

Напісаны нататкі «З падарожжа ў Амерыку». Друкуюцца ў часоп. «Беларусь», № 9 і ў «ЛіМе», 22 ліп.

*Ліпень — верасень*

У «Полымі» надрукаваны дарожныя нататкі 1944 г. «Шляхамі вайны».

*16 верасня*

У «Звяздзе» друкуецца артыкул «Векапомныя дні», прысвечаны вызваленню Заходняй Беларусі.

*Кастрычнік*

Прыняў удзел (разам з М. Танкам і М. Лужаніным) у рабоце пленума ССП Літвы.

*«Беларусь», № 11—12, с. 95.*

*Кастрычнік*

Ажаніўся з Соф'яй Захараўнай Куспіц.

*З пісьма да М. І. Юфіт ад 3. XI 45 г.*

*27 снежня*

Выступіў на пашыраным пленуме Саюза пісьменнікаў БССР з дакладам «Беларуская савецкая літаратура ў дні вайны і яе задачы ў перыяд аднаўлення народнай гаспадаркі».

*«Звязда», 28 снеж.*

## 1946

*Да 10 студзеня*

Узнагароджан медалём «За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне».

*«ЛіМ», 10 студз.*

*18 лютага*

Прызначан загадчыкам сектара літаратуры Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва [1].

*23 красавіка*

Выступаў з лекцыяй аб беларускай літаратуры на курсах лектараў.

*Да 27 мая*

Выступаў на нарадзе ў Міністэрстве кінематаграфіі БССР, прысвечанай планаванню тэматыкі сцэнарыяў на пяць гадоў.

*«ЛіМ», 27 мая.*

*14 чэрвеня*

Прысутнічаў на вечары памяці М. Горкага ў бібліятэцы Дома ўрада.

*18 чэрвеня*

Уступным словам адкрыў вечар памяці М. Горкага ў Доме афіцэраў.

*«ЛіМ», 22 чэрв.*

*28 чэрвеня*

Выступаў з дакладам на купалаўскай гадавіне ў драмтэатры.

*30 чэрвеня*

Ездзіў у Вязынку з пісьменнікамі Л. Лявонавым, М. Клімковічам, В. Таўлаем на адкрыццё мемарыяльнай дошкі на доме, дзе жыў Я. Купала.

*23—25 жніўня*

На гарадской партканферэнцыі абран членам гаркома КП (б) Б.

---

[1] Далей звесткі з біяграфіі М. Лынькова пераважна падаюцца па яго дзённікавых запісах, якія захоўваюцца ў архіве сям'і пісьменніка. Іншыя крыніцы ўказваюцца асобна.

*2 лістапада*

Уступным словам адкрыў юбілейны вечар, прысвечаны 40-годдзю літаратурнай і грамадскай дзейнасці Я. Коласа.

*6 лістапада*

Выступаў з прывітаннем на ўрачыстым вечары Якуба Коласа ў Доме афіцэраў.

*19 лістапада*

На творчай секцыі празаікаў прыняў удзел у абмеркаванні апавяданняў А. Кулакоўскага.

*25 лістапада*

Удзельнічаў у абмеркаванні праектаў Дома-музея Янкі Купалы.

*2 снежня*

На Бюро Савета Міністраў БССР. Абмяркоўвалася пытанне аб 5-годдзі са дня смерці З. Бядулі і аб 125-годдзі з дня нараджэння М. А. Някрасава.

*14 снежня*

На вечары, прысвечаным 125-годдзю з дня нараджэння М. А. Някрасава, выступаў з дакладам.

## 1947

*12—14 сакавіка*

Удзельнічаў у рабоце I Сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

*24 сакавіка*

Выступаў на пасяджэнні праўлення ССП БССР, прысвечаным падрыхтоўцы да 30-годдзя Вялікага Кастрычніка

*«ЛіМ», 29 сак.*

*25 сакавіка*

Прымаў удзел у рэдагаванні беларускага тэксту Канстытуцыі СССР.

*Да 5 красавіка*

Выступіў на партыйным сходзе ў ССП БССР.

*«ЛіМ», 5 крас.*

*7 чэрвеня*

Адкрыў вечар, прысвечаны 30-годдзю з дня смерці М. Багдановіча.

*«Полымя», № 6.*

*12—13 чэрвеня*

На агульнарэспубліканскім сходзе пісьменнікаў. Выступіў з дакладам «Ідэі патрыятызму ў беларускай дарэвалюцыйнай і савецкай літаратуры».

*«ЛіМ», 14 чэрв.*

*15 чэрвеня*

Выступаў з лекцыяй на семінары прапагандыстаў і лектараў абкомаў КП (б) Б.

*19 чэрвеня*

На партыйным сходзе ў ССП БССР выступіў з дакладам «XIV пленум ЦК КП (б) Б».

*9—11 ліпеня*

Удзельнічаў у рабоце Сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

*15 жніўня — 15 верасня*

З К. Крапівой працаваў над сцэнарыем кінафільма аб Заслонаве. Вывучаў матэрыялы Музея Вялікай Айчыннай вайны.

*24 верасня*

Сустрэча з Б. Гарбатавым. Прысутнічалі П. Броўка, П. Панчанка, М. Танк, П. Глебка.

*25 верасня*

На пасяджэнні прэзідыума Акадэміі навук БССР выступаў са справаздачай па аднатомніку «Гісторыя беларускай літаратуры».

*1 кастрычніка*

На Вучоным савеце Інстытута літаратуры прымаў удзел у абмеркаванні справаздач сектароў. Абмяркоўвалася таксама пытанне аб падручніку па літаратуры.

*30 кастрычніка*

На прэзідыуме АН БССР выступаў з інфармацыяй аб ходзе работы над аднатомнікам «Гісторыя беларускай літаратуры».

*16 лістапада*

На пленарным пасяджэнні сесіі Акадэміі навук

БССР выступаў з дакладам «Беларуская літаратура за 30 год».

*23 лістапада*

У «Звяздзе» выступіў з юбілейным артыкулам «Жадаю радасці, творчых удач», прысвечаным К. Крапіве.

*29 лістапада*

Выступаў на Пленуме ЦК КП(б)Б.

У 1947 г. выйшлі кнігі «Выбраныя апавяданні», «Міколка-паравоз», «Пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышаў».

## 1948

*На працягу года*

Праца над першай кнігай рамана «Векапомныя дні».

*З пісьма да Я. Мазалькова ад 23/X 1948 г.*

*12 студзеня*

На пасяджэнні праўлення ССП БССР вызвален ад абавязкаў старшыні праўлення.

*26 студзеня*

Выступаў з лекцыяй аб беларускай літаратуры на міжабласной нарадзе сакратароў і прапагандыстаў.

*14 лютага*

Выступаў на сумесным пасяджэнні сакратарыята ССП БССР і Вучонага савета Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР.

*«ЛіМ», 21 лют.*

*23 лютага*

Разам з групай беларускіх пісьменнікаў сустракаў на вакзале А. Фадзеева. Вечарам — у Якуба Коласа.

*27 лютага*

Удзельнічаў у рабоце Пленума ЦК КП(б)Б.

*30 лютага — 1 сакавіка*

Прымаў удзел у рабоце 8-й Мінскай гарадской партканферэнцыі.

*15—17 сакавіка*

Удзельнічаў у рабоце Сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

*2 красавіка*

Прысутнічаў разам з Я. Коласам, П. Глебкам, М. Танкам, П. Броўкам, П. Панчанкам на літаратурным вечары ўдзельнікаў абласнога злёту маладых настаўнікаў.

*Да 3 красавіка*

Увайшоў у створаную Саветам Міністраў БССР рэспубліканскую камісію па падрыхтоўцы да 100-годдзя з дня смерці В. Р. Бялінскага.

*«ЛіМ», 3 крас.*

*3 красавіка*

Разам з Я. Коласам, М. Танкам, П. Панчанкам, П. Глебкам прысутнічаў на літаратурным вечары ў Партыйнай школе.

*6 красавіка*

На пасяджэнні секцый прозы, паэзіі і драматургіі прыняў удзел у абмеркаванні новых твораў.

*«ЛіМ», 17 крас.*

*9 красавіка*

Уступным словам адкрыў літаратурны вечар «За трывалы мір, за росквіт Радзімы» ў Доме афіцэраў. Прысутнічалі: Я. Колас, П. Броўка, П. Глебка, П. Панчанка, М. Танк, А. Куляшоў, К. Крапіва.

*19 чэрвеня*

Адкрыў літаратурны вечар, прысвечаны 65-годдзю з дня нараджэння Я. Маўра.

*«Звязда», 21 мая; «ЛіМ», 22 мая.*

*20 чэрвеня*

Прысутнічаў на адкрыцці Літаратурнага музея Янкі Купалы ў Вязынцы.

*Лістапад*

У часоп. «Полымя» з № 11 пачынае друкавацца першая кніга рамана «Векапомныя дні».

*30 снежня*

Узнагароджан ордэнам Леніна.

*«Звязда», 1949, 1 студз.*

У 1948 г. выйшлі кнігі «Апавяданні», «Васількі», брашура «Беларуская савецкая літаратура за 30 год» (на рус. мове). Пад рэдакцыяй М. Лынькова, К. Крапі-

вы, А. Куляшова і П. Броўкі выдадзен аднатомнік Я. Коласа «Вершы і паэмы».

## 1949

*1 студзеня*

Прымаў удзел у рабоце Сесіі Вярхоўнага Савета БССР, прысвечанай 30-годдзю рэспублікі.

*12 студзеня*

Выступаў на пасяджэнні юбілейнай сесіі АН БССР з дакладам «Беларуская літаратура за 30 год».

*Сакавік*

Выйшла з друку першае выданне падручніка для 8-га класа «Беларуская літаратура» пад рэдакцыяй М. Ц. Лынькова і В. В. Барысенкі.

*12—14 красавіка*

Прымаў удзел у рабоце Сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

*6 чэрвеня*

Разам з К. Крапівой вылецеў у Маскву для ўдзелу ў святкаванні 150-годдзя з дня нараджэння А. С. Пушкіна.

*7 чэрвеня*

Прысутнічаў на ўрачыстым вечары, прысвечаным юбілею А. С. Пушкіна, у Калонным зале Дома Саюзаў.

*8 чэрвеня*

З дэлегацыяй савецкіх пісьменнікаў выехаў у Ленінград.

*11 чэрвеня*

М. Лынькоў у Пскове. Агляд горада, мясцовага музея. Вечарам на ўрачыстым пасяджэнні і спектаклі «Аляксандр Пушкін».

*«Псковская правда», 12 чэрв.*

*12 чэрвеня*

Выехаў з дэлегацыяй праз Остраў у Міхайлаўскае. Прысутнічаў пры ўскладанні вянкоў на магілу А. С. Пушкіна, на ўрачыстым мітынгу ў Міхайлаўскім.

*«Псковская правда», 14 чэрв.*

*13 чэрвеня*

У Ленінградзе. Быў на экскурсіі ў Эрмітажы. Наведаў месца дуэлі А. С. Пушкіна.

*16 чэрвеня*

Вярнуўся ў Мінск.

*20—24 чэрвеня*

На II з'ездзе пісьменнікаў БССР выступаў з прамовай.

*23 чэрвеня*

Прысутнічаў на адкрыцці помніка Янку Купалу, на вечары, прысвечаным народнаму паэту.

*25 чэрвеня*

З групай удзельнікаў з'езда наведаў Вязынку.

*Ліпень — жнівень*

У Каралішчавічах. Праца над раманам «Векапомныя дні».

*25—27 жніўня*

У Маскве, на канферэнцыі прыхільнікаў міру.

*«ЛіМ», 3 верас.; «Звязда», 30 жн.*

*20 кастрычніка*

Вылецеў у Пінск. Вечарам выступаў на сходзе ў в. Купяцічы.

*«Знамя Победы», 23 кастр.*

*21 кастрычніка*

Выступаў з дакладам аб 10-й гадавіне ўз'яднання Беларусі перад інтэлігенцыяй Пінска.

*22 кастрычніка*

Выступаў у в. Масевічы, вечарам — у в. Малатковічы.

*23 кастрычніка*

Выступаў з дакладам аб літаратуры ў Настаўніцкім інстытуце ў Пінску.

*24 кастрычніка*

Вярнуўся ў Мінск.

*2 снежня*

Прызначан выконваючым абавязкі дырэктара Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР.

*10 снежня*

Юбілейны вечар, прысвечаны 50-годдзю з дня нараджэння М. Лынькова, у Беларускім Дзяржаўным тэатры оперы і балета. Даклад У. Агіевіча. На вечары выступіў юбіляр.

*«ЛіМ», 17 снеж.*

## 1950

*19 студзеня*

Прыняў удзел у абмеркаванні праблем нарыса і апавядання на пасяджэнні праўлення ССП БССР.

*«Полымя», 1950, № 1.*

*Да 25 лютага*

На пасяджэнні праўлення ССП БССР прыняў удзел у абмеркаванні прозы 1949 г.

*«ЛіМ», 25 лют.*

*7 сакавіка*

На прэзідыуме АН БССР выступаў па пытанню аб падрыхтоўцы выдання Збору твораў Янкі Купалы.

*2—22 красавіка*

На сесіі Аддзялення грамадскіх навук АН БССР выступаў з дакладам «Вобраз У. І. Леніна ў савецкай паэзіі».

*25 красавіка*

З тым жа дакладам выступіў на партыйным сходзе ў ССП БССР.

*Да 30 красавіка*

Выступаў на пасяджэнні прэзідыума праўлення ССП БССР, прысвечаным абмеркаванню п'есы В. Віткі «Янка Купала».

*«ЛіМ», 30 крас.*

*Май*

Закончыў працу над першай кнігай рамана «Векапомныя дні». Рыхтаваў рукапіс да здачы ў выдавецтва.

*З пісьма да Я. Мазалькова ад 11. VII 1950 г.*

*10 мая*

Адкрыў вечар, прысвечаны 50-годдзю з дня смерці Ф. Багушэвіча.

*21 мая — 4 чэрвеня*

У Каралішчавічах. Праца над другой кнігай рамана «Векапомныя дні».

*31 мая*

На пасяджэнні прэзідыума ССП БССР выступіў на абмеркаванні п'есы К. Крапівы «Пяюць жаваранкі».

*«ЛіМ», 3 чэрв.*

*18—20 ліпеня*

У складзе дэлегацыі ад Беларусі выехаў на святкаванне 10-годдзя Эстонскай ССР у Талін.

*20 ліпеня*

Прысутнічаў у Таліне на юбілейным пасяджэнні Вярхоўнага Савета рэспублікі.

*11 снежня*

Прысутнічаў на ўрачыстым пасяджэнні ў Вялікай зале кансерваторыі, прысвечаным 150-годдзю апублікавання «Слова аб палку Ігаравым» (Масква).

## 1951

*17 студзеня*

Выступаў з дакладам аб У. І. Леніне ў лётнай часці.

*Пісьмо да Я. Коласа ад 16/I 51 г.*

*20 студзеня*

У Беразіно выступаў у Бярэзінскай сярэдняй школе перад вучнямі старэйшых класаў, а таксама ў раённым Доме культуры з дакладам «Вобраз У. І. Леніна ў беларускай савецкай паэзіі».

*21 студзеня*

У Пагосце выступіў з дакладам «Грамадскае земляробства — крыніца моцы калгаса».

*27 студзеня*

У Маскве на пахаванні акадэміка АН СССР С. І. Вавілава.

*Люты*

Вылучан кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР.

*8—16 лютага*

Выязджаў у Пінск для сустрэч з выбаршчыкамі.

У «Полымі», № 3—6 друкуюцца заключныя раздзелы першай кнігі рамана «Векапомныя дні».

*19 сакавіка*

З П. Глебкам выехаў у Гродзенскую вобласць для чытання дакладаў аб арганізацыйна-гаспадарчым умацаванні калгасаў.

*20 сакавіка*

Выступаў у Гродзенскім педагагічным інстытуце.

*21 сакавіка*

Наведаў Гісторыка-археалагічны музей. Вечарам выступаў у педвучылішчы.

*22 сакавіка*

Пабываў на Скідальскім цукровым заводзе, выступіў на курсах старшынь і сакратароў сельсаветаў, вечарам — у клубе цукровага завода.

*23 сакавіка*

Выступаў на сходзе па аб'яднанню 4 калгасаў — «Піянер», «30 год БССР», імя Якуба Коласа, імя У. Маякоўскага. Новая назва аб'яднанага калгаса — «Перамога». Сход адбыўся ў в. Стральцы.

*26 сакавіка*

Вярнуўся ў Мінск.

*29 сакавіка*

У Беларускім Дзяржаўным тэатры імя Янкі Купалы з К. Крапівой, М. Танкам, П. Глебкам, П. Броўкам, П. Кавалёвым і П. Прыходзькам прысутнічаў на сустрэчы з настаўнікамі Мінскай вобласці.

*«ЛіМ», 31 сак.*

*3—5 красавіка*

Прымаў удзел у рабоце Сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

*7—8 красавіка*

На абласной партыйнай канферэнцыі абран членам абкома КП(б)Б.

*25 красавіка*

На партыйным сходзе ў ССП БССР выступаў з дакладам аб VI Пленуме ЦК КП(б)Б.

*9 мая*

Здаў у выдавецтва першую кнігу «Векапомных дзён».

*9 чэрвеня*

Выступіў у рэспубліканскай Партшколе на літаратурным вечары, прысвечаным барацьбе савецкага народа за мір.

*«ЛіМ», 9 чэрв.*

*Да 9 чэрвеня*

Выступіў на пасяджэнні прэзідыума ССП БССР, прысвечаным абмеркаванню работы часоп. «Полымя».

*«ЛіМ», 9 чэрв.*

*20—21 чэрвеня*

Прымаў удзел у рабоце сесіі Аддзялення грамадскіх навук АН СССР.

*6 ліпеня*

Адкрыў урачысты вечар, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння Я. Лучыны.

*«ЛіМ», 14 ліп.*

*Ліпень — снежань*

У № 7—12 часоп. «Полымя» друкуецца другая кніга рамана «Векапомныя дні».

*20 жніўня*

Выступіў на партыйным сходзе ССП БССР.

*«ЛіМ», 25 жн.*

*5—6 верасня*

На рэспубліканскай канферэнцыі прыхільнікаў міру абраны ў склад рэспубліканскага Камітэта абароны міру.

*«Сов. Бел.», 7 верас.*

*10 верасня*

Выступіў з прамовай на агульным сходзе пісьменнікаў, прысвечаным збору подпісаў пад зваротам Сусветнага Савета Міру пры заключэнні Пакта міру паміж пяццю вялікімі дзяржавамі.

*«ЛіМ», 15 верас.*

*14 кастрычніка — 14 лістапада*

У паездцы па Польшчы. Пабываў у Варшаве, Быдгошчы, Торуні, Гданьску, Гдыні, Шчэціне, Кракаве. Сустрэўся з польскімі пісьменнікамі, пазнаёміўся з маршалам К. К. Ракасоўскім.

*6 лістапада*

Узнагароджан медалём «За працоўную доблесць».

*23 лістапада*

Адкрыў літаратурны вечар, прысвечаны 25-годдзю творчай дзейнасці П. Броўкі.

Першая кніга рамана «Векапомныя дні» выйшла асобным выданнем.

*«ЛіМ», 24 лістап.*

## 1952

*2 студзеня*

Прызначан загадчыкам сектара савецкай літаратуры Інстытута літаратуры і мастацтва АН БССР.

*3 сакавіка*

На сесіі Аддзялення грамадскіх навук АН БССР, прысвечанай 100-годдзю з дня смерці М. В. Гогаля, выступіў з дакладам.

*4 сакавіка*

Выступіў з дакладам на агульнагарадскім вечары, прысвечаным 100-годдзю з дня смерці М. В. Гогаля.

*«ЛіМ», 8 сак.*

*25—27 сакавіка*

Прымаў удзел у рабоце Сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

*27 сакавіка*

У сувязі з Тыднем дзіцячай кнігі выступаў з прамовай перад настаўнікамі ў Палацы піянераў.

*4 красавіка*

Прысутнічаў на абмеркаванні рамана «Векапомныя дні» ў БДУ імя У. І. Леніна.

*14 красавіка*

Выступіў на абмеркаванні «Векапомных дзён» у Мінскім педагагічным інстытуце імя А. М. Горкага.

*15 красавіка*

Прысутнічаў на абмеркаванні рамана «Векапомныя дні» ў Беларускім інстытуце народнай гаспадаркі імя В. У. Куйбышава.

*24 красавіка*

З М. Лужаніным, П. Кавалёвым і А. Вялюгіным вылецеў у Пінск. Вечарам выступаў у Пінскім педагагічным інстытуце. Чытаў урыўкі з «Векапомных дзён».

*26—27 красавіка*

На нарадзе маладых пісьменнікаў Гродзенскай вобласці, выступаў з дакладам «Аб задачах маладых пісьменнікаў».

*«ЛіМ», 30 крас.*

*28 красавіка*

Вярнуўся ў Мінск.

*4—6 мая*

З М. Танкам, А. Куляшовым, М. Лужаніным, Я. Коласам выязджаў у Мядзель. Вечарам выступаў у Доме культуры.

5 мая ўся група наведала Купу, Кабыльнік. Выступаў з дакладам аб Статуце сельгасарцелі. Вечарам — у бацькоў М. Танка.

*28 мая — 6 чэрвеня*

У магілёўскім Цэнтральным партархіве вывучаў матэрыялы партыйнага падполля ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

*31 мая*

Быў на агульнагарадскім сходзе ў Магілёўскім абласным драматычным тэатры, прысвечаным Міжнароднаму дню абароны дзяцей.

*7 ліпеня*

Прысутнічаў на ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным 70-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы.

*«ЛіМ», 12 ліп.*

*14 кастрычніка*

Прысутнічаў на першым пасяджэнні VII Сесіі Генеральнай Асамблеі ААН.

*27 кастрычніка*

Выступіў як прадстаўнік БССР у V Камітэце ААН ў агульнай дыскусіі па пытаннях бюджэтнага каштарысу ААН на 1953 г.

*Машынапіс, датаваны 27/X 1952 г.— Архіў М. Лынькова.*

*7 лістапада*

Выступіў на пасяджэнні V Камітэта ААН пры абмеркаванні раздзела шостага бюджэтнага каштарысу ААН на 1963 г.

*Машынапіс, датаваны 7/XI 1952 г.— Архіў М. Лынькова.*

*10 лістапада*

Выступіў пры абмеркаванні пытання аб прызнанні Эканамічным і Сацыяльным саветам іспанскай мовы ў якасці рабочай мовы.

*Машынапіс, датаваны 10/XI 1952 г.— Архіў М. Лынькова.*

*13 лістапада*

Выступіў у V Камітэце ААН пры абмеркаванні шкалы ўзносаў.

*Машынапіс, датаваны 17/XI 1952 г.— Архіў М. Лынькова.*

*Снежань*

Вярнуўся на радзіму.

У 1952 г. выйшла кніга апавяданняў «Выбраныя творы» і брашура «Якуб Колас» (да 70-годдзя з дня нараджэння).

## 1953

*Студзень*

У першым нумары часоп. «Маладосць» за 1953 г. надрукаваны нататкі М. Лынькова аб паездцы ў Нью-Йорк — «Па вуліцах горада жоўтага д'ябла».

*8 студзеня*

Абран правадзейным членам Акадэміі навук БССР.

*«ЛіМ», 10 студз.*

*30 студзеня*

Прызначан загадчыкам сектара дакастрычніцкай літаратуры Інстытута літаратуры і мастацтва АН БССР.

*20 сакавіка*

На літаратурным вечары ў Доме культуры аўтапрамбуда выступіў з дакладам.

*25 сакавіка*

На Вучоным савеце Інстытута літаратуры і мастацтва АН БССР выступіў з дакладам аб мерах павышэння навуковай кваліфікацыі работнікаў.

*28 сакавіка*

Быў на ранішніку ў 10-й сярэдняй школе, прысвечаным Тыдню дзіцячай кнігі. Расказваў аб сустрэчах з М. Горкім, чытаў урыўкі з «Векапомных дзён».

*4 красавіка*

Уступным словам адкрыў літаратурны вечар, прысвечаны 85-годдзю з дня нараджэння М. Горкага (у Беларускім Дзяржаўным тэатры імя Янкі Купалы).

*15 чэрвеня*

Прызначаны старшым навуковым супрацоўнікам сектара дакастрычніцкай літаратуры Інстытута літаратуры і мастацтва АН БССР.

*Асабовая справа М. Лынькова.— Архіў АН БССР.*

*28—30 ліпеня*

У гасцях у М. Лынькова на Нарачы быў Я. Колас.

*18—19 жніўня*

Прымаў удзел у рабоце Сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

*8 верасня*

Вылецеў з Масквы ў Нью-Йорк — праз Прагу, потым поездам да Парыжа, да Шэрбурга, з 11 па 15 верасня на параходзе «Куін Элізабет», 15 верасня ў Нью-Йорку прысутнічаў на адкрыцці VIII Сесіі ААН.

*19 кастрычніка*

Выступіў як прадстаўнік дэлегацыі БССР на пасяджэнні IV Камітэта пры абмеркаванні даклада Камітэта па інфармацыі аб несамакіравальных тэрыторыях.

*Машынапіс, датаваны 19/X 1953 г.— Архіў М. Лынькова.*

*28 кастрычніка*

Выступаў як прадстаўнік БССР у IV Камітэце ААН па пытанню: «Спыненне перадачы інфармацыі, прадугледжанай артыкулам 73-м Статута: «Нідэрландскія ўладанні на Антыльскіх астравах і Сурынам».

*Машынапіс, датаваны 28. X 1953 г.— Архіў М. Лынькова.*

*5 лістапада*

Выступаў на пасяджэнні IV Камітэта па пытанню аб фактарах.

*Машынапіс, датаваны 5/XI 1953 г.— Архіў М. Лынькова.*

*9 лістапада*

Выступаў на пасяджэнні IV Камітэта па пытанню аб Паўднёва-Заходняй Афрыцы.

*Машынапіс, датаваны 9/XI 1953 г.— Архіў М. Лынькова.*

*12 лістапада*

Выступаў на пасяджэнні IV Камітэта ААН па пытанню аб парадку галасавання па рэзалюцыі аб Паўднёва-Заходняй Афрыцы.

*Машынапіс, датаваны 12/XI 1953 г.— Архіў М. Лынькова.*

*1 снежня*

Выступаў у IV Камітэце ААН па дакладу Савета па апецы.

*Машынапіс, датаваны 1/XII 1953 г.— Архіў М. Лынькова.*

*4 снежня*

Пакінуў Нью-Йорк. Вярнуўся ў Мінск 13 снежня.

У 1953 г. выйшла кніга «Міколка-паравоз». На рус. мове — «Незабываемые дни» (кн. 1.).

## 1954

«На працягу года працаваў над другой кнігай рамана «Векапомныя дні».

*Пісьмо да М. П. Рака ад 21 мая 1954 г.*

*10—13 лютага*

Прымаў удзел у рабоце XXI з'езда КПБ.

*15 красавіка*

На вечары ў 12-й сярэдняй школе г. Мінска расказваў аб Амерыцы.

*17 мая*

На сесіі Акадэміі навук БССР, прысвечанай 300-годдзю ўз'яднання Украіны з Расіяй, выступіў з дакладам.

*2—4 чэрвеня*

Прымаў удзел у рабоце Сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

*6 верасня*

Прымаў удзел у рабоце чытацкай канферэнцыі па раману «Векапомныя дні» ў Дзяржынску.

*21 верасня*

Прыбыў у Нью-Йорк.

*22 верасня*

Прысутнічаў на пленарным пасяджэнні IX Сесіі Генеральнай Асамблеі ААН.

*5 лістапада*

Выступаў на ўрачыстым сходзе супрацоўнікаў пастаяннага прадстаўніцтва СССР пры ААН з дакладам, прысвечаным 37-й гадавіне Вялікага Кастрычніка.

*26 лістапада*

Выступаў у IV Камітэце ААН па дакладу Савета па апецы.

*Машынапіс, датаваны 26/XI 1954 г.— Архіў М. Лынькова.*

*30 лістапада*

Выступаў па матывах галасавання рэзалюцыі А (с. 4) Л. 366 па пытанню аб граніцы паміж падапечнай тэрыторыяй Самалі пад італьянскім кіраўніцтвам і Эфіопіяй.

*Машынапіс, датаваны 30/XI 1954 г.— Архіў М. Лынькова.*

*14 кастрычніка*

Выступаў на пасяджэнні IV Камітэта ААН па пытанню аб Паўднёва-Заходняй Афрыцы.

*Машынапіс, датаваны 14/X 1954 г.— Архіў М. Лынькова.*

*28 кастрычніка*

Выступаў у IV Камітэце ААН па пытанню аб інфармацыі аб несамакіравальных тэрыторыях.

*Машынапіс, датаваны 28/X 1954 г.— Архіў М. Лынькова.*

*7 снежня*

Выступаў ■ дакладам аб савецкай літаратуры перад супрацоўнікамі пастаяннага прадстаўніцтва СССР пры ААН.

*28 снежня*

Вярнуўся ў Мінск.

## 1954

На працягу года працаваў над другой кнігай рамана «Векапомныя дні».

*Пісьмо да Я. Коласа ад 12. IV 55 г.*

*21 студзеня*

Адкрыў перадвыбарны сход прадстаўнікоў працоўных Ленінскай выбарчай акругі.

*24 студзеня*

На агульным сходзе Аддзялення грамадскіх навук выступаў з дакладам: «Вынікі навукова-даследчай работы за 1954 год».

*25 студзеня*

На кінастудыі «Беларусьфільм» прымаў удзел у абмеркаванні кінасцэнарыя па аповесці «Міколка-паравоз».

*28 студзеня*

На радыё запісана выступленне М. Лынькова аб яго творчых планах.

*Пачатак лютага*

Выступаў на сходзе пісьменнікаў Мінска, прысвечаным выпікам II Усесаюзнага з'езда пісьменнікаў.

*«ЛіМ», 5 лют.*

*4—8 лютага*

Выязджаў для сустрэч з выбаршчыкамі ў Пінскі раён.

*11—25 лютага*

Прымаў удзел у дэкадзе беларускага мастацтва і літаратуры ў Маскве.

*11 лютага*

Выступаў на мітынгу ў час сустрэчы на Беларускім вакзале. Вечарам прысутнічаў на ўрачыстым адкрыцці дэкады.

*14 лютага*

Выступіў з дакладам у ССП СССР пры абмеркаванні беларускай прозы.

*25 лютага*

Узнагароджан другім ордэнам Леніна.

*«Звязда», 26 лют.*

*5 сакавіка*

Прымаў удзел у абмеркаванні сцэнарыя фільма «Міколка-паравоз» у Міністэрстве культуры БССР.

*23 сакавіка*

Расказваў аб Амерыцы ў ССП БССР.

*28—30 сакавіка*

Прымаў удзел у рабоце Сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

*Да 9 красавіка*

Выступаў у Доме афіцэраў на канферэнцыі чытачоў па раману «Векапомныя дні».

*«ЛіМ», 9 крас.*

*15 красавіка*

Прымаў удзел у чытацкай канферэнцыі па раману «Векапомныя дні» ў вайсковай часці.

*9—13 мая*

Разам з К. Крапівой, М. Танкам, І. Шамякіным, І. Гурскім прымае ўдзел у рабоце канферэнцыі прыхільнікаў міру ў Маскве.

*25 чэрвеня*

Уступным словам адкрыў вечар, прысвечаны 50-годдзю з дня нараджэння П. Броўкі.

*«Полымя», № 7.*

*10—14 жніўня*

На дачы ў М. Лынькова гасціў Я. Колас.

*20 верасня*

Прыбыў у Нью-Йорк.

*21 верасня*

Прымаў удзел у рабоце пленарнага пасяджэння X Сесіі ААН. Сустрэўся з польскім пісьменнікам Ежы Путраментам.

*3 лістапада*

Выступаў на дзевятым пасяджэнні Спецыяльнага палітычнага Камітэта X Сесіі ААН па пытанню аб палітыцы расавай сегрэгацыі ў Паўднёва-Афрыканскім саюзе.

*Стэнаграфічная справаздача.— Архіў М. Лынькова.*

*29 і 30 лістапада*

Выступаў на пасяджэнні Спецыяльнага палітычнага Камітэта X Сесіі ААН па матывах галасавання.

*Архіў М. Лынькова.*

*6 снежня*

Выступаў па пытанню аб прыёме новых членаў у ААН.

*Стэнаграфічная справаздача.— Архіў М. Лынькова.*

*9 снежня*

Пакінуў Нью-Йорк.

*19 снежня*

Прыбыў у Мінск.

У 1955 г. выйшла аповесць «Міколка-паравоз».

## 1956

*30—31 студзеня*

Прымаў удзел у рабоце Сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

*28 лютага*

Выступаў на абароне дысертацыі М. П. Луферава.

*20 сакавіка*

Уступным словам адкрыў вечар, прысвечаны 60-годдзю К. Крапівы.

*«ЛіМ», 24 сак.*

*2 красавіка*

Выступіў на сходзе пісьменнікаў, прысвечаным вынікам XX з'езда КПСС.

*«ЛіМ», 7 крас.*

*8 красавіка*

Прысутнічаў на адкрыцці Тэатра юнага гледача.

*20 красавіка*

У Слуцку выступіў з расказам аб паездках у Амерыку.

*5 мая*

Быў у Р. З. Заслонавай.

*9—10 мая*

У Малатковіцкім раёне выступаў у в. Охава, Мер-

чыцы, Кротава, у Малатковічах на сходзе раённага актыву з дакладам аб сучаснай Амерыцы.

*26 мая*

Разам з П. Глебкам, А. Куляшовым, І. Гурскім, К. Кірэенкам, А. Якімовічам быў у Я. Коласа на сустрэчы з журналістамі з краін народнай дэмакратыі.

*27—28 ліпеня*

Прымаў удзел у рабоце Сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

*12 жніўня*

На Нарачы.

*13 жніўня*

У сувязі са смерцю Я. Коласа выехаў у Мінск.

*15 жніўня*

Выступаў на грамадзянскай паніхідзе на пахаванні Я. Коласа.

*27 жніўня*

Адкрыў вечар, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння І. Франка.

*«ЛіМ», 1 верас.*

*Да 8 верасня*

Уключан у склад камісіі па літаратурнай спадчыне Я. Коласа.

*«ЛіМ», 8 верас.*

*Кастрычнік*

Закончыў работу над рукапісам другой кнігі рамана «Векапомныя дні».

*З пісьма да М. П. Рака ад 25 кастр.*

*Лістапад — снежань*

З дэлегацыяй БССР у складзе Р. Кісялёва, А. Малышава, Б. Кудраўцава, С. Броннікава ездзіў у Індыю на IX канферэнцыю ЮНЕСКА.

*7—10 лістапада*

Аглядаў Дэлі, наведаў выстаўку індыйскай прамысловасці і культуры, выстаўку, прысвечаную 2500-годдзю будызму, выстаўку індыйскага танца і музыкі.

*12—16 лістапада*

Прысутнічаў на пасяджэннях камісіі па праграме ЮНЕСКА.

*15 лістапада*

Выступаў па праграме і бюджэце ЮНЕСКА на 1957—1968 гг.

*Машынапіс, датаваны 15 лістапада 1956 г.— Архіў М. Лынькова.*

*16 лістапада*

Выступаў у Камісіі па праграме па пытанню: II. 9: Разгляд часткі II Праекта праграмы і бюджэту на 1957—1958 гг., уключаючы асноўныя праекты.

*Машынапіс, датаваны 16/XI 1956 г.— Архіў М. Лынькова.*

*17 лістапада*

Выязджаў у Агру. Наведаў маўзалей Тадж-Махал. 18-га прыехаў у Джайпур, наведаў Нацыянальны музей, Палац магараджы, абсерваторыю, аглядаў горад. Паездка на сланах у загарадны Палац магараджы.

*21 лістапада*

Выступаў у Камісіі па праграме па пытанню: «Сацыяльныя навукі і пытанні правоў чалавека і меншасцей».

*Машынапіс, датаваны 21/XI 1956 г.— Архіў М. Лынькова.*

*26 лістапада*

Выступаў пры абмеркаванні раздзела «Сацыяльныя навукі» ў Камісіі па праграме.

*30 лістапада*

Выступаў пры абмеркаванні раздзела «Прыродазнаўчыя навукі» ў праекце праграмы і бюджэта ЮНЕСКА.

*Машынапіс, датаваны 30/XI 1956 г.— Архіў М. Лынькова.*

*30 лістапада*

Выступаў пры амеркаванні асноўнага праекта аб даследаванні засушлівых раёнаў у Камісіі па праграме.

*Машынапіс, датаваны 30/XI 1956 г.— Архіў М. Лынькова.*

*30 лістапада*

Выступаў у падтрымку чэхаславацкай рэзалюцыі аб святкаванні 300-годдзя з дня апублікавання «Вялікай дыдактыкі Яна Амоса Коменскага».

*Машынапіс, датаваны 30/XI 1956 г.— Архіў М. Лынькова.*

*4 снежня*

Прысутнічаў на студэнцкім вечары ва універсітэце.

*9 снежня*

Алахабад.

15 снежня вярнуўся ў Дэлі.

*17—19 снежня*

У Бамбеі.

*19—23 снежня*

Праз Бахрэйнскія астравы, Абадан (Ірак), Стамбул, Рым, Жэневу, Лондан, Прагу, Варшаву, Вільнюс самалётам ляцеў у Мінск.

У 1956 г. выйшлі «Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры» пад рэд. М. Лынькова, П. Броўкі, В. Барысенкі.

## 1957

*26 студзеня*

У «ЛіМе» надрукаван пачатак дарожных нататак «Пад сонцам Індыі».

*13—16 мая*

Прымаў удзел у рабоце пленума ССП СССР.

*28—30 мая*

Удзельнічаў у рабоце Сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

*28 чэрвеня*

У госці да Лынькова на Нарач прыязджалі А. Малышка, У. Навічэнка, І. Чэндзей, Л. Забашта.

*Да 17 жніўня*

Выступіў у клубе пісьменнікаў ССП БССР на вечары ўспамінаў, прысвечаным першай гадавіне з дня смерці Якуба Коласа.

*«ЛіМ», 17 жн.*

*16 кастрычніка*

Выступаў з дакладам «40 год беларускай літаратуры». Вечарам выступаў у Гродзенскім педагагічным інстытуце. Чытаў апавяданне «Дзед Аўсей і Палашка».

*«Гродненская правда», 19 кастр.*

*22—24 кастрычніка*

Прымаў удзел у рабоце Сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

*16 лістапада*

Уступным словам адкрыў вечар, прысвечаны 75-годдзю з дня нараджэння Якуба Коласа.

*«ЛіМ», 20 лістап.*

*17 лістапада*

Прысутнічаў на адкрыцці мемарыяльнай дошкі ў гонар Якуба Коласа ў Каралішчавічах.

*18 лістапада*

Прысутнічаў пры закладцы помніка Якубу Коласу ў Мінску.

У 1957 г. выйшаў зборнік апавяданняў «Агні Танганьікі». На рус. мове выйшлі «Повести».

## 1958

*26 студзеня*

Выступіў на нарадзе пачынаючых пісьменнікаў у Доме афіцэраў з расказам аб сваім творчым шляху.

*28—29 студзеня*

Прымаў удзел у рабоце Сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

*Да 6 лютага*

Выступаў перад выбаршчыкамі ў клубе ССП БССР, дзяліўся ўражаннямі аб паездцы ў Індыю.

*«Лит. газета», 6 лют.*

*11—13 лютага*

Прымаў удзел у рабоце пленума ССП СССР.

*17 сакавіка*

Выступаў перад работнікамі Белдзяржвыдата, расказваў аб Індыі.

*28 сакавіка*

Выступаў па тэлебачанню з успамінамі аб М. Горкім.

*30 сакавіка*

Выступаў у абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна з успамінамі аб М. Горкім.

*26—27 чэрвеня*

Прымаў удзел у рабоце Сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

*Ліпень*

У кінатэатрах Мінска пачаў дэманстравацца кінафільм «Міколка-паравоз» (рэжысёр Л. Голуб).

*«Сов. Бел.», 21 ліп.*

*9—11 лістапада*

У Магілёве на выязной сесіі Аддзялення грамадскіх навук АН БССР сумесна з Інстытутам гісторыі партыі пры ЦК КПБ выступаў з дакладам. На сесіі былі таксама К. Крапіва, П. Глебка, П. Броўка.

*14—16 лістапада*

Сутракаўся з выбаршчыкамі ў в. Охава, у педвучылішчы г. Пінска.

*20 лістапада*

Выступаў у Барысаве перад чытачамі гарадской бібліятэкі (разам з рэжысёрам Л. Голубам і Вовам Гуськовым — выканаўцам ролі Міколкі).

*21 снежня*

З Л. Голубам і Вовам Гуськовым у Барысаве на сустрэчы з дзецьмі ў кінатэатры «Радзіма», чытаў урыўкі з «Векапомных дзён».

*30 снежня*

Выступаў у Маскве ў Політэхнічным музеі на вечары «40 год БССР».

У 1958 г. выйшаў раман «Векапомныя дні» ў 4-х т.

## 1959

*Студзень*

Удзельнічаў ва ўрачыстасцях, прысвечаных 40-годдзю БССР.

*16—17 студзеня*

Прымаў удзел у рабоце Сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

*19 студзеня*

Гутарыў з юнкорамі газеты «Чырвоная змена».

*20—21 студзеня*

Удзельнічаў у рабоце юбілейнай сесіі АН БССР.

*12—13 лютага*

Прымаў удзел у рабоце IV з'езда пісьменнікаў БССР.

*15 лютага*

Уступным словам адкрыў літаратурны вечар у Доме афіцэраў.

*23—27 лютага*

Паездка ў Пінск для сустрэч з выбаршчыкамі.

*28 сакавіка*

На пасяджэнні рэдкалегіі па выданню Збору твораў Янкі Купалы. Прысутнічалі В. Барысенка, К. Крапіва, П. Броўка, Э. Гурэвіч, М. Мушынскі, І. Гарэцкі, В. Івашын.

*7—8 красавіка*

Удзельнічаў у рабоце Сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

*12—25 мая*

Прымаў удзел у рабоце III Усесаюзнага з'езда СП СССР.

*14 ліпеня*

З М. Танкам выступаў на турысцкай базе. Чытаў апавяданне «Дзед Аўсей і Палашка», расказваў аб Індыі. Сярод турыстаў была Ірына Глінская, якая некалі працавала селькорам газ. «Камуніст».

*17 ліпеня*

З М. Танкам і М. Садковічам правялі гутарку з турыстамі з 2-га Барысаўскага дзіцячага дома.

*27 жніўня*

Выступіў у Мядзелі на канферэнцыі па «Векапомных днях».

*2—29 кастрычніка*

У Кіславодску ў санаторыі.

*19—20 лістапада*

Удзельнічаў у рабоце Сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

*21 лістапада*

На літаратурным вечары ў маладых рабочых будтрэста № 4.

*23 лістапада*

На пасяджэнні рэдкалегіі часоп. «Маладосць» сустракаўся са школьнікамі.

*30 лістапада*

Выступаў на адкрытым партыйным сходзе ў ССП БССР, прысвечаным рабоце з маладымі пісьменнікамі, гаварыў аб творчасці І. Пташнікава.

У «Полымі», № 9 — аўтабіяграфічныя нататкі «З родных крыніц».

*9 снежня*

Узнагароджан другім ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

*«Звязда», 10 снеж.*

*11 снежня*

Урачысты вечар у Беларускім Дзяржаўным тэатры імя Янкі Купалы, прысвечаны юбілею М. Лынькова.

*29 снежня*

Ездзіў у г. Чэрвень на сустрэчу з вучнямі СШ № 1.

## 1960

*4 студзеня*

Удзельнічае ў рабоце камісіі па правядзенню юбілея А. П. Чэхава.

*27 студзеня*

Выступаў з дакладам аб А. П. Чэхаве ў АН БССР.

*29 студзеня*

Выступаў з дакладам на агульнагарадскім вечары, прысвечаным 100-годдзю з дня нараджэння А. П. Чэхава.

*22—23 лютага*

Прымаў удзел у рабоце пленума ССП БССР.

*27 лютага*

Быў на пахаванні У. Ф. Луцэвіч.

*11—15 красавіка*

Прымаў удзел у рабоце пленума ССП БССР.

*19 красавіка*

На сесіі Аддзялення грамадскіх навук АН БССР выступіў з дакладам «Ленін і літаратура».

*27—28 ліпеня*

Прымаў удзел у рабоце Сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

*19 лістапада*

Выступаў на навуковай сесіі ў АН БССР з дакладам, прысвечаным 50-годдзю з дня смерці Л. М. Талстога.

*20 лістапада*

Выступаў з дакладам аб творчасці Л. М. Талстога на вечары ў Доме афіцэраў.

*28—29 снежня*

Прымаў удзел у рабоце Сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

## 1961

*16—17 студзеня*

Удзельнічаў у рабоце сесіі АН БССР, прысвечанай 100-годдзю з дня нараджэння акадэміка Я. Ф. Карскага.

*16 студзеня*

Прымаў удзел у рабоце нарады пісьменнікаў у рэдакцыі газ. «Советская Белоруссия».

*25—26 студзеня*

Удзельнічаў у рабоце пленума ССП БССР, прысвечанага ўдзелу пісьменнікаў у рабоце кіно, радыё, тэлебачання.

*«ЛіМ», 27 студз.*

*17 лютага*

У ССП БССР выступаў на вечары з дакладам «Літаратура, народжаная Кастрычнікам».

*27 сакавіка*

Выступаў у Беларускім Дзяржаўным тэатры оперы і балета на вечары пытанняў і адказаў на тэму: «Норавы буржуазнай культуры».

*5 красавіка*

Выступаў на радыёзаводзе ў інструментальным цэху.

*6 мая*

На вечары, прысвечаным 100-годдзю з дня нара-

джэння Рабіндраната Тагора, выступаў з дакладам «Вялікі сын індыйскага народа — Рабіндранат Тагор».

*«ЛіМ», 9 мая.*

*8 мая*

Прымаў удзел у вечары, прысвечаным 75-годдзю з дня нараджэння З. Бядулі.

*13 мая*

Сустракаўся з маладымі пісьменнікамі на семінары ў Караліпічавічах.

*«ЛіМ», 16 мая.*

*15 мая*

Ездзіў у калгас імя Леніна (в. Касмовічы Нясвіжскага раёна).

*16 мая*

Адкрыў вечар, прысвечаны 50-годдзю з дня нараджэння В. Віткі.

*«ЛіМ», 19 мая.*

*24 чэрвеня*

Днём разам з М. Танкам сустрэўся з камсамольцамі турысцкага лагера Мінскага камвольнага камбіната. Вечарам — сустрэча з вучнямі Параф'янаўскай школы Докшыцкага раёна.

*5 жніўня*

З М. Танкам выступаў у Кабыльніку з расказам аб Амерыцы і Індыі.

*12 жніўня*

У Мінску на аэрадроме прымаў удзел у сустрэчы дэлегацыі пісьменнікаў — удзельнікаў дэкады рускай літаратуры ў БССР. У складзе дэлегацыі: Л. Собалеў, П. Нілін, М. Святлоў, А. Сафронаў, М. Грыбачоў, М. Рыленкаў, Я. Мазалькоў, Л. Ленч, Ю. Друніна і інш. Прысутнічаў на літаратурным вечары ў Палацы прафсаюзаў.

*«ЛіМ», 15 жн.*

*18 жніўня*

На дачы ў М. Лынькова праездам з Браслава была група ўдзельнікаў дэкады — М. Святлоў, А. Пракоф'еў, М. Браўн, А. Чапураў.

*3 верасня*

На вечары, прысвечаным 60-годдзю з дня нараджэння В. Вольскага.

## 1962

*21 красавіка*

У газетах надрукаван Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР аб прысваенні М. Лынькову звання народнага пісьменніка БССР.

*2 ліпеня*

Прымаў удзел у захаванні урны з прахам Янкі Купалы.

*4 ліпеня*

Адкрыў сесію Акадэміі навук БССР, прысвечаную 80-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы.

*5 ліпеня*

Выступаў з прамовай на закладцы помніка Янку Купалу ў Мінску.

*«ЛіМ», 6 ліп.*

*5 ліпеня*

Прысутнічаў на юбілейным вечары, прысвечаным 80-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы, у Беларускім Дзяржаўным тэатры імя Янкі Купалы.

*22 ліпеня*

Разам з М. Танкам прымаў удзел у VI злёце юных турыстаў.

*17 жніўня*

Сустракаўся з удзельнікамі Міжрэспубліканскага злёту камсамольцаў і школьнікаў (Літва). Былі таксама М. Танк і А. Куляшоў.

*Кастрычнік*

Выйшла з друку кніга «За акіянам».

*12 лістапада*

На сесіі Акадэміі навук БССР, прысвечанай 80-годдзю з дня нараджэння Якуба Коласа, выступіў з дакладам «Якуб Колас — народны паэт БССР». Вечарам прысутнічаў на ўрачыстым пасяджэнні ў Беларускім Дзяржаўным тэатры оперы і балета.

*«ЛіМ», 16 лістап.*

*19—20 лістапада*

Прымаў удзел у рабоце Сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

20 Зак. 1190

*27 снежня*

Выступаў з дакладам, прысвечаным 40-годдзю часоп. «Полымя», на вечары ў Доме афіцэраў.

*«ЛіМ», 28 снеж.*

## 1963

*9 студзеня*

Выступаў на грамадзянскай паніхідзе пры пахаванні А. Александровіча.

*30 студзеня*

Выступаў на агульным сходзе Акадэміі навук БССР.

*3 лютага*

Вылучан кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР па Лёзненскай выбарчай акрузе.

*19 лютага*

Сустрэча з вучнямі Лёзненскай сярэдняй школы.

*24 лютага*

Выступаў у Цэнтральным кніжным магазіне на сустрэчы з пакупнікамі пісьменнікаў — кандыдатаў у дэпутаты.

*28—29 сакавіка*

Удзельнічаў у рабоце Сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

*16 ліпеня*

Прымаў удзел у рабоце сесіі Акадэміі навук БССР.

*10—11 снежня*

У Барысаве сустракаўся з вучнямі школы-інтэрната.

## 1964

*7 сакавіка*

На сесіі Аддзялення грамадскіх навук, прысвечанай 150-годдзю з дня нараджэння Т. Р. Шаўчэнкі, выступаў з дакладам.

*9 сакавіка*

Выступаў з дакладам на юбілейным вечары Т. Р. Шаўчэнкі ў Беларускім Дзяржаўным тэатры імя Янкі Купалы.

*30 чэрвеня*

Выступаў з дакладам «Подзвіг народа» на ўрачыстым сходзе ў Акадэміі навук, прысвечаным 20-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

*1 ліпеня*

Выступаў з успамінамі аб вызваленні Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў перад супрацоўнікамі Інстытута літаратуры і мовы.

*25 ліпеня*

«Вечар савецка-польскай дружбы ў санаторыі «Нарач» (па праграме Дзён польскай культуры ў Беларусі ў сувязі з 20-годдзем заснавання Польскай Народнай Рэспублікі). М. Лынькоў адкрыў вечар. Даклад Я. Семяжона. Выступалі Я. Брыль, П. Прыходзька, Е. Лось, А. Зарыцкі».

*«Да новых перамог», 30 ліп.*

*22—23 снежня*

Прымаў удзел у рабоце Сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

## 1965

*25—29 студзеня*

Удзельнічаў у рабоце пленума праўлення ССП СССР.

*21—22 кастрычніка*

Прымаў удзел у рабоце Сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

*2 снежня 1965 — 7 студзеня 1966 гг.*

Хварэў, ляжаў у бальніцы.

## 1966

*5 сакавіка*

У Беларускім Дзяржаўным тэатры імя Янкі Купалы прысутнічаў на юбілейным вечары, прысвечаным 70-годдзю з дня нараджэння К. Крапівы.

*10 сакавіка*

Выступаў з прамовай на літаратурным вечары на філалагічным факультэце БДУ імя У. І. Леніна.

*«ЛіМ», 15 сак.*

*12—14 мая*

Прымаў удзел у рабоце V з'езда пісьменнікаў БССР.

*25 жніўня*

Выступаў у Мядзелі на настаўніцкай канферэнцыі. Прысутнічаў М. Танк.

*25 лістапада*

Прымаў удзел у рабоце пленума ССП БССР.

У 1966 г. выходзіць кніга «Апавяданні».

## 1967

*1 лютага*

Вызвален ад абавязкаў старшага навуковага супрацоўніка Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР па ўласнаму жаданню.

*Асабовая справа М. Лынькова.— Архіў АН БССР.*

*24—29 лютага*

Прымаў удзел у рабоце гадавой сесіі Акадэміі навук БССР.

*1 сакавіка*

У Радашковічах выступаў перад выбаршчыкамі.

*3 сакавіка*

Выступаў перад студэнтамі Маладзечанскага ўліко-ва-планавага тэхнікума, сустракаўся з выбаршчыкамі ў в. Дуброва.

*20—21 красавіка*

Як адзін са старэйшых дэпутатаў адкрыў I Сесію Вярхоўнага Савета БССР сёмага склікання.

*21—27 мая*

Удзельнічаў у рабоце IV з'езда пісьменнікаў СССР.

*26 чэрвеня*

На злёце старшынь саветаў піянерскіх дружын школ Мядзельскага раёна гутарыў з піянерамі.

*28 кастрычніка*

Узнагароджан трэцім ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

*«Звязда», 29 кастр.*

У 1967 г. выйшаў першы том Збору твораў у 4-х т., астатнія — на працягу 1968 г.

## 1968

*22 студзеня*

На Сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

*28 лютага*

На студыі Беларускага тэлебачання запісвалася выступленне з успамінамі пра М. Горкага.

*15 мая — 10 лістапада*

На Нарачы.

*19—20 чэрвеня*

Прымаў удзел у рабоце Сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

*17—18 снежня*

Прымаў удзел у рабоце Сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

*19 снежня*

Выступаў з дакладам «Аб асноўных этапах развіцця беларускай савецкай літаратуры за 50 год» на юбілейным пасяджэнні Акадэміі навук БССР, прысвечаным 50-годдзю БССР і КПБ.

*28 снежня*

Прысутнічаў на ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным 50-годдзю БССР і КПБ.

*31 снежня*

Прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР імя Якуба Коласа за раман «Векапомныя дні».

У 1968 г. выдадзена кніга «Летапіс эпохі».

## 1969

*13—14 сакавіка*

Удзельнічаў у рабоце агульнага сходу Акадэміі навук БССР.

*14 сакавіка*

Прымаў удзел у пахаванні акадэміка В. Ф. Купрэвіча.

*25 сакавіка*

Прымаў удзел у пасяджэнні камісіі па народнай асвеце Вярхоўнага Савета БССР.

*14 мая*

Удзельнічаў у рабоце сесіі Акадэміі навук БССР.

*16 мая — 11 чэрвеня*

На Нарачы.

*12—13 чэрвеня*

Прымаў удзел у рабоце сесіі Акадэміі навук БССР.

*25 жніўня*

У Савеце Міністраў БССР Ц. Я. Кісялёў уручыў М. Ц. Лынькову дыплом лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР.

*11 кастрычніка*

На пахаванні Ц. С. Гарбунова.

*28 кастрычніка*

Прысутнічаў на пасяджэнні рэдкалегіі часоп. «Маладосць».

*6 снежня*

Юбілейны вечар, прысвечаны 70-годдзю з дня нараджэння М. Лынькова.

*9 снежня*

Узнагароджан трэцім ордэнам Леніна.

*«Звязда», 10 снеж.*

У 1969 г. «Векапомныя дні» былі надрукаваны ў серыі «Беларускі раман».

## 1970

*18—19 сакавіка*

Прымаў удзел у рабоце сходу Аддзялення грамадскіх навук АН БССР і Агульнага сходу Акадэміі навук.

*26 сакавіка*

Удзельнічаў у рабоце аб'яднанага пленума творчых Саюзаў БССР, прысвечанага 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна.

*16 красавіка*

Прымаў удзел у рабоце сесіі Акадэміі навук БССР,

прысвечанай 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна.

*20 красавіка*

Уступным словам адкрыў вечар, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна, у ССП БССР.

*18 снежня*

Прысутнічаў на вечары памяці П. Глебкі.

*25 снежня*

Прысутнічаў на Вучоным савеце Інстытута літаратуры і на пасяджэнні прэзідыума ССП БССР.

## 1971

*29 студзеня*

Адкрыў юбілейны вечар І. Шамякіна.

*8 лютага*

Выступаў на юбілейным вечары І. Мележа ад праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР.

*25 лютага — 30 красавіка*

Хварэў. З 30 сакавіка па 30 красавіка — у бальніцы.

*16 мая*

Ездзіў у Пасекаву горку — месца пахавання расстраляных фашыстамі мірных жыхароў.

*15 чэрвеня*

На пахаванні С. В. Прытыцкага.

*16 чэрвеня*

Сустракаўся з членамі Лагойскай выбарчай камісіі.

*20 кастрычніка*

Прымаў удзел у рабоце пасяджэння юбілейнай камісіі па 150-гадоваму юбілею Ф. М. Дастаеўскага. М. Лынькоў — старшыня камісіі.

*5 лістапада*

Адкрыў вечар у ССП БССР, прысвечаны 54-й гадавіне Вялікага Кастрычніка.

*11 лістапада*

Адкрыў вечар, прысвечаны 150-годдзю з дня нара-

джэння Ф. М. Дастаеўскага (актавая зала БДУ імя У. І. Леніна).

*7 снежня*

Прысутнічаў на вечары, прысвечаным 80-годдзю з дня нараджэння М. Багдановіча, у Беларускім Дзяржаўным тэатры імя Янкі Купалы.

*9 снежня*

Прысутнічаў на вечары, прысвечаным 150-годдзю з дня нараджэння М. А. Някрасава (Беларускі Дзяржаўны тэатр імя Янкі Купалы).

*10 снежня*

Прымаў удзел у рабоце прэзідыума ССП БССР.

## 1972

*5 студзеня*

Прысутнічаў на абароне доктарскай дысертацыі П. К. Дзюбайлы ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР.

*10 студзеня*

Удзельнічаў у рабоце пасяджэння камісіі па народнай асвеце Вярхоўнага Савета БССР.

*16 лютага*

Прымаў удзел у рабоце пленума Саюза пісьменнікаў БССР.

*24—25 лютага*

Удзельнічаў у рабоце гадавога сходу Акадэміі навук БССР.

*10—15 сакавіка*

На кінастудыі «Беларусьфільм» запісаны ўспаміны пра Я. Купалу.

*25 сакавіка*

Адкрыў Усесаюзны тыдзень дзіцячай і юнацкай кнігі ў Беларускім Дзяржаўным тэатры оперы і балета.

*18 чэрвеня*

У гасцях у М. Лынькова былі П. М. Машэраў, А. Т. Кузьмін, А. Н. Аксёнаў, І. Е. Палякоў, пісьменнікі.

*22—23 чэрвеня*

Прымаў удзел у рабоце Сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

*1—2 лістапада*

На сесіі Акадэміі навук БССР, прысвечанай 90-годдзю з дня нараджэння Якуба Коласа, выступаў з дакладам.

*9 лістапада*

Выступаў на адкрыцці помніка Якубу Коласу ў Мінску. Вечарам прысутнічаў на ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным 90-годдзю з дня нараджэння Якуба Коласа.

*29 лістапада*

Запісаў на радыёстудыі выступленне да 50-годдзя часоп. «Полымя».

*7 снежня*

Прымаў удзел у рабоце сесіі Аддзялення грамадскіх навук АН БССР, прысвечанай 50-годдзю СССР.

*15 снежня*

Прысутнічаў на ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным 50-годдзю СССР (Палац спорту).

*19 снежня*

Адкрыў юбілейны вечар у Беларускім Дзяржаўным тэатры імя Янкі Купалы, прысвечаны 50-годдзю часоп. «Полымя».

## 1973

*25—26 студзеня*

Удзельнічаў у рабоце сесіі Акадэміі навук БССР.

*1 лютага*

Запісаў на Беларускім тэлебачанні выступленне з успамінамі аб С. В. Прытыцкім.

## 1974

*26—27 лютага*

Прымаў удзел у рабоце гадавога сходу Акадэміі навук БССР.

*14 сакавіка*

Выступаў з прамовай на сустрэчы з удзельнікамі дэкады літоўскай літаратуры і мастацтва ў Беларусі.

*5 красавіка*

Перавёў 50 тыс. руб. на карысць дзяржавы ў фонд дапамогі дзецям-сіротам.

*23 мая*

У газ. «Літаратура і мастацтва» інтэрв'ю з М. Лыньковым пад назвай «Цягу да творчасці абудзіў Вялікі Кастрычнік».

*28 жніўня*

Выступаў на вечары, прысвечаным 40-й гадавіне I з'езда пісьменнікаў СССР.

*29 лістапада*

Узнагароджан ордэнам Кастрычніцкай Рэвалюцыі.

*«Звязда», 30 лістап.*

*4 лістапада 1974—1 лютага 1975 гг.*

У бальніцы.

## 1975

*28 студзеня*

У бальніцы У. Е. Лабанок уручыў М. Лынькову ордэн Кастрычніцкай Рэвалюцыі.

*«ЛІМ», 31 студз.*

*5 мая*

Вылучан кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР па Мінскай сельскай выбарчай акрузе.

*24 ліпеня*

Прысутнічаў на Сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

*26 ліпеня*

Выехаў на Нарач. (Апошні запіс у дзённіку М. Лынькова.)

*21 верасня*

На 76-м годзе жыцця М. Ц. Лынькоў памёр.

*23 верасня*

Пахаванне М. Ц. Лынькова. На жалобным мітынгу выступалі першы намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР У. Ф. Міцкевіч, народны пісьменнік БССР, віцэ-

прэзідэнт АН БССР К. К. Крапіва, машыніст цеплавоза Мінскага лакаматыўнага дэпо С. І. Жукаў, старшыня праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР народны паэт Беларусі М. Танк, студэнтка БДУ імя У. І. Леніна Т. Купрэвіч. На могілках словы развітання сказаў член-карэспандэнт АН БССР, дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР пісьменнік І. Я. Навуменка.

## ПАКАЗАЛЬНІК АДРАСАТАЎ

# ПЕРАЛІК ІЛЮСТРАЦЫЙ

# ЗМЕСТ

1943

1948



1949



1950

1951



1952



1953

1954



1955



1956

1957



1958



1959

1963



1964



1965



1966



1967



1968

1969



1970



1971



1972

1973



1974



1975

**Папраўкі ў выданні:**

У т. 1 на с. 20 шосты радок зверху трэба чытаць: Міхась Ціханавіч памёр 21 верасня 1975 г. Пай-

У т. 2 подпіс пад другой ілюстрацыяй паміж с. 192 і 193 трэба чытаць:

М. Лынькоў ля кастра на возеры Нарач. *28 красавіка 1969 г.*

У т. 7 на с. 625 у 35-м радку замест Літвы трэба чытаць Латвіі.


МИХАСЬ ЛЫНЬКОВ

Собрание сочинений в восьми томах

ТОМ 8

Издательство «Наука и техника»

На белорусском языке

Загадчык рэдакцыі Г. Ф. Юрчанка. Рэдактар Н. М. Тарасевіч. Мастак В. В. Сіманенка. Мастацкі рэдактар Л. І. Усачоў. Тэхнічны рэдактар Т. В. Лецьен. Карэктар Т. А. Зайцава.

ІБ № 1939

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР. Здадзена ў набор 18.02.85. Падпісана ў друк 12.08.85. АТ 07591. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 32,76+ +0,52 укл., накід на мел. паперы. Ум. фарб.-адб. 36,64. Ул.-выд. арк. 30,5. Тыраж 13 940 экз. Зак. № 1190. Цана 2 р. 40 к.

Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук БССР і Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, вул. Чырвоная, 23.

**Лынькоў М.**

Л 88 Збор твораў: У 8-мі т. Т. 8. Пісьмы, 1935—1975. Летапіс жыцця і творчасці.— Мн.: Навука і тэхніка, 1985.— 622 с., 3 л. іл.

У пер.: 2 р. 40 к.

У восьмы том уваходзяць пісьмы 1935—1975 гг., летапіс жыцця і творчасці М. Лынькова, паказчык адрасатаў.

Разлічан на шырокае кола чытачоў.

Л $\frac{4702120200-090}{М\ 316-85}$ падпіснае 125—85

ББК 84Бел7

Бел 2